# Змест

**ПЕРАКЛАДЫ**



**КРЫТЫКА. ПУБЛІЦЫСТЫКА. ЭСЭ.**



# ВЕРАСЕНЬ ПАЭЗІЯ

святлана богуш
кацярына глухоўская
усевалад чорны юлія цяльпук
алесь емяльянаў-шыловіч
святлана куль васіль дэбіш
алесь разанаў



# Святлана Богуш

паэтка, перакладчык. Вершы друкаваліся ў часопісе «Паміж», пераклады са славацкай мовы — у часопісах «ARCHE», «Прайдзісвет». Пераклала на беларускую мову раман славацкага пісьменніка Р. Слобады «Розум» (2012). Нарадзілася ў 1987 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# З чырвонага радка

***

Развязаць вузельчыкі былога,
Адпусціць Харонаў човен прэч,
Запыніцца на мяжы парога,
Каб паспець адкінуць далеч з плеч.

Адцвітанне памяці няўдзячнай
Майго сэрца хай не закране.
Ўсё міне. І ціхіх слоў нязначнасць
Абарвецца у адвечным сне...

Я прыйду на захад пакланіцца —
Там, дзе сонца хіліцца маё —
Развітацца... Боскаму скарыцца...
То не смерць — то Вечнае Жыццё.

***

Стану на раздарожжы,
на скрыжаванні ўсіх вятроў,
дзе горкі смак злюцелай адзіноты
знішчае ўсе кляйноты
й пячаткі шчасця
на збалелых сэрцах...
Зірну праз вочы на душу
Стваральніка лёсу
і зразумею:
не менш, чым я,
Ён прагне й не знаходзіць тут любові...

***

Сонца ёсць,
нат калі яго доўга не бачна.
І неба — побач
заўсёды,
паўсюль.

Яно шмат лепшае за зямлю
апірышча для стомленых ног,
бо ў ім — у жывой душы —
жыве Ўсемагутны Бог...

***

Я не люблю салютаў:
я не люблю, калі страляюць
і плююць у Неба...

***

Шлях, выбіты крокамі лепшых,
найсветлых ды найсвятых
вядзе і прыводзіць заўжды
на месца, дзе камень стары,
а там — запавет вечнай волі:
«Не здрадзіць Крывіі ніколі!»

***

На палімпсесце
тваёй памяці і сэрца
я напішу сваё імя
і нашае каханне
нязмыўным, незабыўным
колерам святла.
Я акрыяю пад тваім крылом,
я ахаваю ад усіх хістанняў
наш цёплы і прытульны дом,
дабраславенне
даўняга спаткання.

***

Без цябе дзервянее сэрца.
Мне цяпер павяртацца зноў
да шляхоў усіх крозаў-сноў,
каб наноў атуляцца сэнсам...
Каб вышукваць адбіткі твае
ў пацямнелых вачох нябёсаў...

Ўсё адно: я дзякую лёсу
за найчысты, найкрашшы свет.
Развінаюцца крылы болю —
хоць палётам душу напатолю...

***

Лістотай жоўтай
асыпаюцца
твае лісты старыя
у сметнік.
Агонь сагрэе іх
няхай.
А я пісаць нанова распачну
свой шлях —
з вялікай літары й чырвонага
на белым аркушы
радка...

***

няма нічога звыш,
проста эра майго «назаўжды»
змянілася эраю «болей ніколі»,
а вечнае расставанне памерла,
і гэта фінальны круг...
і няўрымслівы боль
проста выйшаў з сваіх берагоў
і змывае ўсе перашкоды на ўласным шляху.
проста «быць з табой»
шчэ не значыла перамагчы адзіноту,
і вечныя вера, надзея
і здраджаная любоў
моўчкі туляцца на краі сэрца,
і нічога звыш
не існуе.

***

Я буду пасля
паслядоўна ісці да мэты,
спакваля
выпраўляць твае хібы...
Я буду ласкавай ды хітрай,
я буду нібыта зямля
багатай ды небам спавітай
я буду пасля...

Анягож мне аддаць свае крылы,
сарваўшы, пусціць пялёсткі
па ветры?..
Павер, ты — сіла
паслядоўна ісці да мэты...

***

Лета. Люта.
Залева бязлітасна змые праменне
святла й цеплыні з твайго твару...
У зморшчынках хмараў
блукае яшчэ пяшчота...
Ды што ты?..
Узнёсласць твайго палёту
я перапыніць не ўмею...
І кволых надзеяў цяплынь
лепш пакінь пры сабе —
гэты леташні снег
не патрэбны сяголетнім летам...

***

Як пясок з-пад пальцаў,
ты сышоў з майго сэрца.
Адбіткі твае на вадзе
цяпер пакрывае роўнядзь...
І крылы твае
я змяніла даўно
на драпежныя кіпці арлоў...

Рахункі бо сплочаны,
пазыкі ўсе вернуты.
Маўклівыя шалі
усё падзялілі між намі
пароўну...
Па розных Сусветах,
па розных Скрыжалях
жыць...

***

Я нітку лёсу скручваю ў клубок былога.
Усё жыццё — вялікі шлях да Бога.



# Кацярына Глухоўская

паэтка, празаік. Навучэнка 11 класа Ліцэя БДУ. Друкавалася ў «Дзеяслове» і «Верасні». Нарадзілася ў 1995 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# У чаканні Бога...

## Журавы

Па беразе, па беразе, ды па заінелым беразе.
Па беразе, па беразе хадзілі журавы.
І з берагоў па верасе — па верасе, па верасе —
І з берагоў па верасе шукалі паплавы.
Мы бегалі — мы бегалі, мы плакалі-мы плакалі,
Мы падалі — мы падалі — калені да касцей.
А сонейка рудзенькае сабачкам з намі звягала,
Праз туманы да берага кацілася хутчэй.
Трава была чароўная, трава была атрутная,
Трава была балотная — была разрыў-трава.
Стаялі мы самлелыя, а журавы — пакутныя.
І сталі мы спакойныя — а журавоў няма.

*2011 г.*

## Пакіну

Пакіну спеў. Пакіну кола.
Пакіну полымя травы.
І ночы зорныя наўкола,
І кошык месяца крывы.
Пакіну ўкрыжаваны ранак,
Каб вочы лекаваў блакіт.
І сонца ў галасах заранак.
Малітвы ранішніх ракіт.
Пакіну шлях. Пакіну росы.
Пакіну пыл і ветру суш.
Рамонкаў і валошак стосы.
Цукровы снег зімовых сцюж.
Пакіну шал грымот грамнічных.
Пакіну вечар, цішыню,
Святло няяркае грамнічак,
І ўсё, што не абараню,
Табе пакіну сярод знічак.

*2010 г.*

## Русалка

Ты, русалка, не спявай, не спявай —
Кліча вецер у загублены край.
Не гайдайся ты на ніцай вярбе,
Не чаруй на грабянцы у журбе,
Не гукай нас да сцюдзёнай вады,
А сама выходзь на бераг сюды.
Не губляй сваёй адзінай слязы
У лілеі ды чаротаў хмызы.
Але маці прыгадай, прыгадай —
Успаміны залюляй, загайдай.
Але сёстрам загукай, загукай,
Што дзяўчынаю выходзіш у гай.
Позірк ты, русалка, больш не адводзь:
Непабачанага хопіць шматкроць.
Непрабачанага ў Бога няма —
Непрабачанае робіш сама.
Ты, русалка, не спявай, не спявай:
Кліча вецер у закінуты край,
Дзе цябе чакае нехта жывы.
Паміж кветак ды атрутнай травы.

*2011 г.*

## Зоркі

Гэта зоркі блукаюць у Тваіх валасах,
Весяляцца, смяюцца, нешта шэпчуць няспынна,
І мне хочацца верыць, што ўсё так, як павінна:
Ты на небе, а зоркі — у Тваіх валасах.
Будзе вецер спяваць па бутэльках і целах —
Што адных, што другіх безнадзейна спусцелых.
Што Ты меў на зямлі? Што Ты меў, што я мела?
А цяпер — сотні зорак у Тваіх валасах.
Распускаў маладзік вербаў доўгія косы.
Першы снег на траве, першы снег на вачах —
Гэта зоркі, калядныя зоркі — не слёзы.
Тыя зоркі, што ёсць у Тваіх валасах.

*2012 г.*

***

У засені палічак і карцін
Пад крыламі кахання і Шагала
Святло было, ды сонца не хапала,
І моцы не ставала, каб сысці.
Паветра ёсць, а вецер не для нас —
Ён б'ецца з вітражом у рукапашнай.
Цяпер — далёкі, вечна — недасяжны.
І рана, каб сказаць: «У добры час».
На пальцах і душы мазоль смыліць
Ад неперагартанага маўчання.
Мы дрэвамі аднойчы, мабыць, станем:
Кара не скура — болей не баліць.
А з засені палічак і карцін
Пад крыламі кахання ды Шагала
Я не сышла, але ў табе растала.
Таму ты зноў — прабач — зусім адзін.

*2011 г.*

***

Я чула, што шэпчуць травы,
Пра што маўчаць камяні.
Што дадзена нам па праву,
Напэўна, нельга змяніць.
І рукі кранаілі рукі
Сярод духмянай травы.
І мятліцай на вылукі,
І мятай ля галавы.
Нікому не распавесці:
Ні сонца, ні дождж, ні зямля
Ні краскі, ні вецер не змесцяць —
Таго, што тут маю я.
Я чула, што шэпчуць травы
У промнях святых тваіх.
А, зрэшты, якое права
Я мела, каб слухаць іх?

*2011 г.*

## Чысціня

Кранаеш зоркі, мілае дзіцё,
Ды люба усміхаешся іх звону.
Глыбей за ўсіх ты ведаеш жыццё,
Таму што сам ствараў яго законы...
Мой горад у бязмежжы ліхтароў
Ледзь пазяхае шоргатам машынным.
Святая ціша задуменных слоў —
І абдымае вечар небам сінім.
Маўчым, і толькі вецер ў валасах,
Мы па траве знясілена ступаем:
Ты ведаеш, тут першая раса,
Што па паветры поўня разлівае...

*2009 г.*

***

Прысвяткі, Раство. Чакаем Бога.
Елкі пах і цеплыня ў душы.
Зорка ў небе першая дрыжыць,
Косы распускае з асцярогай.
Тонкім пальчыкам анёл-дзіця
Ўсё малюе маразы па шыбах.
Печаныя яблыкі і рыба,
На стале гарачая куцця...
Пухкі снег, святая завіруха:
Вецер учыняе небатрус.
Зноў па-беларуску нейкі блюз
Котка напяваць пачне ля вуха...
Разам родным верыцца у цуды:
Сябра зноў змагаецца са сном,
Каб усё ж заўважыць: за акном
Па сумётах Бог ідзе разуты.

*2010 г.*

## Дэкаданс

Курган на дол — удых на выдых
Зямель, праменнямі абмытых,
Дзе паміж сонечнага жыта
Дождж узыходзіць васільком...
Глядзіць даверліва, адкрыта
З-пад белых крылаў перабітых
Абрабаванасцю нязбытнай,
Душы блакітным матыльком,
Як сэрцам згублена, забіта,
Праз твары спітых, твары збітых,
Сыходзіць у туман нябыту
Радзіма раненым буслом.

*2009 г.*

## Хто зведае?

Знянацку будзе бездань. І маўчанне.
Хаўруснік-свет у шэрым паліто
Заведзена, штодня са спачывальні
Хваробны шлях знаходзіць у нішто.
Знямелая па-за вясной лістота
Хлусліва саступае маразам —
Здавён у нас зарок чумы. І цноты.
Хто ведае, што будзе яшчэ там.
Зялёнае святло на скрыжаванні
Хай застанецца тым, хто не ідзе.
За нас — сірэны на галасаванні,
Хоць мы хадзілі толькі па вадзе.
З нагоды гэтай я, як паспяваю,
Хачу сказаць: Бог зноўку верыць нам.
Завошта ж яблык Сонца паспявае,
Хвалюючца змей, Ева і Адам?

*2011 г.*

## Шар

І нічога не страшна — і нічога не страшна,
Калі ў цёплых далонях ёсць прыдуманы шар.

Калі ў цёплых далонях, калі ў цёплых далонях,
Калі ў цёплых далонях — ледзь жывая душа.
І нічога не страшна. І нічога не бачна
Па-за бела-празрыстымі гранямі шкла.
І малюе па пары — і малюе па пары
Пальцам сонца, а думкамі — промні святла.
Па прыступках, як птушка. Па прыступках, прыступках
Ножкі тупаюць хутка, і збіваецца дых.
І нічога не страшна — думкі ў грубку, сны ў руку,
Калі шар некранутых летуценняў на іх...
Хтосьці плача пад столяй — хтосьці дыхае ветрам,
Хтосьці ліча апалае лісце ўзахлёб.
І не хочацца бегчы, і не хочацца верыць,
Што ў грудзях застые непрацёртае шкло...
Толькі б шар не разбіўся. А па пальцах азноб.

*2011 г.*

***

Хлусня? А што гэта такое?
Аблокі заблукалі ў дрэвах.
І ў перакуленым пакоі
Расфарбаваныя шпалеры...
Верш, напісаны ідыётам,
Крывёй на сценах у пад'ездзе...
І па-над лесвічным пралётам
Паходня-лямпачка не свеціць...

*2010 г.*

## Сад

Схіліліся, як постаці Эдэма,
Бялюткія пяшчотныя сады.
Да ветрыкам аблашчанай вады
Схіліліся, як постаці Эдэма —
І перад імі замаўкаеш ты,
А сэрца б'ецца, сэрца плача нема:
Схіліліся, як постаці Эдэма,
Бялюткія пяшчотныя сады.

***

А хочаш — заставайся назаўсёды!
Як цёплы пыл, як мяккі хлеб, як свет.
Так, можа быць, задумана прыродай,
Як светлы незавершаны санет.

Сыходзь у Рай — я не пускаю ў пекла.
Калі сыходзіш, то сыходзь у Рай.
Але прашу: пакуль душа аслепла,
Пакінь яе сярод птушыных зграй.

Я буду слухаць шоргат крыл і верыць,
Што побач ты, што ты анёлам стаў.
І буду цалаваць чужое пер'е,
Нібыта ты мяне не пакідаў.

О, дзякуй слепаце з такой нагоды!
А хочаш — заставайся назаўсёды.



# Усевалад Чорны

паэт.Студэнт факультэта радыёфізікі і кампу'ютарных тэхналагій БДУ. Нарадзіўся ў 1992 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Глядзі на вецер...

## Шлях уздоўж

Скрыжаванні дарогаў
Упіраюцца ў неба,
У высокае неба,
У далёкія зоры;
Яны раяць нам не
Есці крамнага хлеба,
Яны раяць сысці
З хмарачосаў у горы.

Адчуванне прасторы,
Адчуванне бязмежжа
Мкне ў месячны пыл,
Пхне сцяжынай раптоўнай;
Міма цягнуцца пушчы,
Замкаў змрочныя вежы,
Шабляў зыркія лёзы,
І вандроўнік нястомны.

Ён дастане з кішэні
Старасвецкую люльку.
Галавешкай прыпаліць
І працягне табе.
Ты падзякуеш шчыра,
Ля агню у прытулку
Ты прамовіш яму:
— Ў Вас пазнаў я сябе.

## Сабакі

Мокры, аблезлы сабака —
Мы туліліся адно да аднога,
Як туліцца брат да брата,
Каб сагрэць сваім целам другога.

Мы сядзелі і ўдалеч глядзелі,
Скуль імкнуліся драныя хмары,
А з іх кроплі каменнем ляцелі
І спаўзалі па нашых тварах.

А вакол толькі брук ды грукат —
Грукат звонкі вады з нябёс,
Грукат сэрца майго суседа,
Побач з ім мой сабачы лёс...

## Самота

Гэтыя дзікія, спешныя дні,
Людзі, мільёны людзей;
Горад віруе: сустрэчы, агні,
Цьмяная безліч падзей.

Раптам — нікога, нічога наўкол,
Ты, як мярцвяк у труне,
Лялька зламаная, смецця вядро;
Час не кранае цябе...

Хвалі гадзінаў, хвілін і секунд,
Бачны нібыта праз шкло.
Што я раблю, тое прахам ідзе;
Мо гэта лёсу сіло?..

Хоць бы  паўслова з эмэйла твайго,
Стыне маўчання мяжа.
Я ўсё чакаю анёла свайго...
Тога, што здыме з крыжа.

## Глядзі на вецер...

Глядзі на вецер,
Чакай удачы,
Ідзі наперад,
Да тых, хто плача,

Хто енчыць ціха,
Шукае нешта,
Блукае ў цемры,
Не мае месца.

Сьвяці ім зоркай
Ды грэй ім душы,
Натхняй учынкам,
Ляці праз вушы!..

Глядзі на вечар,
Чакай задачы,
Ідзі у бездань,
Ты ўсё убачыш:

Як сонца долу
Спадае хутка,
І ззяе ў небе
Анёл бялютка;

Як выбух фарбаў
Збівае з мэты,
Як людзі ў вырай
Ляцяць з планеты...

*2012 г.*



# Юлія Цяльпук

паэтка. Друкавлася ў часопісе «Дзеяслоў». Скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Працуе ў праграме навінаў «Аб’ектыў» на спадарожнікавым канале «Белсат» у Варшаве. Нарадзілася ў 1982 годзе ў польскім горадзе Легніца. Жыве ў Варшаве.

# Тэрмін годнасці

***

усе тыя ісціны — празрыстыя —
што мы з табой ад бруду чысцілі
і ратавалі ад ідэй
не могуць і хвіліны выстаяць
у эвалюцыі людзей

ужо не месяцца ў далонь
— дапасавацца?
— не хапала!
дзе попел ёсць
там быў агонь
дзе сонца свеціць
ноч сцямняла

## Тэрмін годнасці

як малюнкі
у кніжках хаваецца
застыгла
адно на ўсіх дзеянне
тут ні вецер не вее
ні марозіць зіма
а яны ўсё адно — у дамах
ля надзьмуханых штучнай надзеяй
батарэяў

тэрмін годнасці — выйшаў
на сродках хімічных
трымаецца — тэрмін вартасці
і трывае
на тэрміне пятым
у хістаннях сваіх празаічнае
на падставы застацца
багатае

у мяне небывалае свята
скрозь тыпова бетонныя плошчы
прозвішчамі названыя спрошчанымі
я ў родную некалі крочу
рэчаіснасць адцення зямлістага
дзёрну восеньскага гусціва
па слядох ад парадных вусеняў
у балота маўклівых вуснаў
у фасфарычна п'яныя ночы

хай здаецца знямоглым
сонца —
па ўласнай дарозе коціцца
распушчае святло
разварушвае цень
пра прыродны парадак клапоціцца
не кранае законаў людзей

...спадарынь
з нацёртымі прагаю ззяць
мазалямі
што выходзяць

з тэрміну годнасці
як на ходнік з метро — запаволена
нібы нехта гукнуў — азіраюцца
на часова шчаслівых
ды ахвярна няшчасных
падзяляюцца

на галоўнай плошчы — пустэльня
хваліцца тэрмінам вартасці
васьмікутнае пліткі
закладзенай
гэтак шчыльна — як у рэшце двароў
дзе ўпарта нішто не змяняецца
толькі цені ўцеклых гадоў
ля пад'ездаў сядзяць
да катоў усміхаюцца

***

ты ўва мне адпачываеш
я
адчуваю што я маю
паверхню
і не маю доння
што дрэвы сок перапаўняе
і сонцапёкам працінае
іх лісце
і мае далоні

выпраставаныя ў бясконцасць
рудой чыгункі валасы
ты кажаш
«паміж намі роўнасць»
а паміж намі
свет бяскроўны
і ўжо мінулыя
часы

***

ці маўчаць
ці марудзяць
з малецтва...
людзі
на целе маім
здзяйсняюць тэракты
ім нічога за гэта не будзе
я адчую калецтва
па факце
рэагуючы вокам
на будзік

## Напрыканцы

*бясконцыя справы і*
*я*
*недарэчнаю з'яваю*
*згасаю ў тваёй біяграфіі...*

што адаб'ецца
на нашых нацягнутых тварах
у ямінах густа
нахмураных цяжкіх ілбоў
схаваецца
да рубцоў
заляжалая раніца
і хранічная
(што не пазбавіцца)
да адно-аднаго
нелюбоў

напрыканцы
заўсёды прыгадваеш высілкі
якімі даваўся пачатак
бралася сярэдзіна
і адбываўся аргазм
на тле ўсяго папярэдняга
што мела поспех у нас

...праз нікім неакрэслены час
з беларускім шчанючым гонарам
па этапе быццам —
па горадзе
струмянямі поту цяклі
людзі
скалечаныя агідаю
з целамі
у колер зямлі

сонца няшчаднае звонкае
вільгаць цягнула з вачэй

а мы гаманілі «яшчэ!»
сціскаючы мокрыя месцы
форма
асобна ад зместу
плялася ў рудыя хлябы
з натоўпу ўпрэлага цеста

напрыканцы...
спрабуй не прыгадваць высілкі
якімі даваўся пачатак
з якіх
нараджаўся аргазм
і гінула
ўсё папярэдняе
што мела поспех у нас
.
***
трохкутнік
кола
і квадрат
яшчэ прыступкі вінтавыя

і хударлявы целасклад
вада сагрэе
і памые

хранічны ціск
уздыме кава

схавае пудра ад людзей
цямныя гузы
пад вачамі

абцягнуць джынсы
ног рэльеф
да кратавіны
паміж імі
самотны дотык
знемагчымяць

глыбокай цемрай
ноч нацягнецца

з кілішкам
моцнага віна
штодзённасць
на фатэль паваліцца
і застанецца
да відна

## Часу паясы

*світанак*
*звыкла для пачатку*
*нетрадыцыйна для канца*
*і неабходна*
*для парадку...*

сабакі
з састарэлай міскі
п'юць малако
чакана скіслае
у шматпакутнасці часоў
пад небам
велічна навіслым
над кожным з часу паясоў

карэнне
выцягнула з грунту
і перагнала ў рэдкі сок
ваду
пакінула пясок

у сутарэннях
слова дом
вясна гадуе маладое
і неспакойнае галлё
дзіця
пакуль яшчэ малое
здаецца дому каралём

старая
сонца сустракае
усмешка дэманструе рот
бяззубы
і жыццё шугае
абвіслы ў коленкі жывот

ляцяць каты
хутчэй аблокаў
адзін у поле
іншы — ў лес
за неіснуючай істотай

квітнее
бэз

рака
не мае успамінаў
бо не вяртаецца назад...
гады мінулі —
вырас сад
а той камень
што ў ім пакінулі
абвіў зялёным павуціннем
напаўздзічэлы вінаград
.



# Алесь Емяльянаў-Шыловіч

паэт, перакладчык, бард. Навучаецца на біялагічным факультэце БДУ. Фіналіст конкурсаў беларускага ПЭН-цэнтра, прымеркаваных да 100-годдзя Ларысы Геніюш (дыплом І ступені), 100-годдзя Ч. Мілаша (дыплом ІІ ступені), конкурса «Экслібрыс» Саюза беларускіх пісьменнікаў. Друкаваўся ў часопісах «Дзеяслоў», «Верасень», «Маладосць», тыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Крычаве. Жыве ў Мінску.

# Вясёлы анёл

## Горад

### I

У горадзе, названым у гонар
ці то міфалагічнай рэчкі,
ці то чароўнае рыбы,
што ў ёй вадзілася,
ці то ў гонар асілка,
што замест зерня малоў камяні;
дык вось, менавіта ў гэтым горадзе
ліхтары летняй ноччу
мядовае разліваюць святло,
вецер палошча
ядвабна-чорную сукенку Свіслачы,
а я, нібы камень,
выпушчаны аднойчы з Тваёй Рукі
і змолаты
на менескавых млынах

### II

Ты перамог, бо засмактаў у вір людскі
душу збалелую маю,
і ведаю, што мне не падасі рукі.
З табой жыву, хутчэй, па звычцы,
і не люблю.

### III

У Менск вярнуцца
цьмяным летнім ранкам,
а ён цябе сустрэне,
як заўжды —
гішпанамоўнапралетарскім
радком Туньёна
пра неўралагічныя дажджы,
і ты сябе адчуеш эмігрантам
па добрай волі,
бо ты свой тут і чужы.

### IV

— Паэце, навошта так бессаромна брэшаш? —
Таму, чаго не любяць — не прысвячаюць вершаў.

## Усход сонца над Волмаю

Сонца сок грэйпфрутавы цэдзіць
У малочны кактэйль тумана.
Час згубіўся на ўсходзе недзе,
Бо заснуў у сумёце п'яны,

І спазніўся, бядак, на працу,
Бо выдатна сустрэў Каляды.
Во ў бясчассі б такім застацца,
На зямлю белым снегам падаць.

## Падарожжа

*Н. Ф.*

і паменшаны ў дваццаць пяць тысяч разоў,
я на гомельскай мапе шукаю цябе.
нада мной замест неба і пацерак-зор
толькі шэрая столь, лямпы млосная бель

я па рэйках расстання праз горад іду,
і на чоўне чакання плыву цераз Сож.
мы з табою звязаныя рыфмамі душ,
ты палеская птушка, паўднёвы мой сон.

## Паэтцы

### I

Калі Госпад зляпіў цябе з воску і з гліны,
Я, відаць, напалову са стэарыну.

### II

Прыязджай да мяне на мора —
Пра паэзію пагаворым,

І, пакінуўшы ў хвалях сорам,
Мы адзін аднаго ўзморым —
Ні на што, ні на што не зважай —
Прыязджай, прыязджай.

**III**

Па грудзях, нібы дробны вясновы дожджык,
мяккіх вуснаў дзявочых ледзь чутны дотык;
і сягоння ўсё проста й нібыта можна,
дык чаму пакідаеш мой шал на потым?!

На эскізе твайго маладога цела
языком, нібы ластыкам, спраўнасць ліній
убіраць бы, і смочак-брусніц няспелых
асалоду і горыч піць безупынна.

## Дзяўчына

Дзяўчына
неістотна якога ўзросту
ты не ведаеш
што значыць быць жанчынай
не мае розніцы
як цябе завуць
Ірэнай ці Марыянай
і дзе ты жывеш
у Празе
Варшаве
ці ў Менску
мушу кахаць
і ненавідзець цябе
да скону
твае рукі
ласкавыя і ўмелыя,
якія робяць з мяне Адама
маленькія грудкі
ювелірнае працы
смочкі

падобныя да дзвюх чарніцаў
якія я вельмі любіў пасмоктваць
улонне
са смакам граната
прыцягальна доўгія ногі
напэўна ў мінулым жыцці
ты была русалкаю
і зацягнула мяне ў сваё возера
і не пускала
пакуль я не выслізнуў з тваіх абдоймаў
і не ўхапіўся за галінку блакітнай ракіты

я ведаю
ты прыйдзеш сёння апоўначы
каб зноў зацягнуць мяне ў
багну шалу і жарсці
а я кахаю цябе й ненавіджу
кахаю й ненавіджу
Дзяўчыну
якая ніколі не стане жанчынай

## Раство

...і апоўначы ў вокнах тваіх не патухне святло
дзесь на ўсходзе сталіцы, на сёмым паверсе
трое ў белых адзеннях збяруцца ў цябе за сталом,
як сказана ў адной з распаўсюджаных версій

звяжуць рукі за спінаю, і, невядома чаму,
на пытанне імя ты адкажаш: марыся
дадасі, што іосіф сышоў роўна як год таму —
не паверыў, што сын ад святога з'явіўся;

і цябе забяруць на малочна-чырвоным аўто,
бо такую адну пакідаць небяспечна...
па-ранейшаму ў вокнах тваіх не патухне святло
й будзе лялька ў калысцы спяваць: «Святы вечар...»

## Εύρηκά![1]

сярод фарысейства, вар'яцтва і тлуму,
сляпы ад паўночных часовых агнёў,
працягваю думаць, і думаць, і думаць
адно пра цябе, мой вясёлы Анёл;

пра тое, што знікнуць і людзі, і дзверы,
а вечар раптоўна запросіць на чай,
без лішніх размоў і высокіх матэрый
твой пальчык на вуснах папросіць маўчаць,

бо вочы ў вачох знойдуць лепш разуменне —
п'ем сонца заход, як з Фалерны віно.
... у цемры знікаю ссамочаным ценем, —
ізноў паміж намі бяздонная ноч.

1 Εύρηκά (грэч.) – знайшоў



# Святлана Куль

паэтка, гісторык. Аўтар паэтычнага зборніка «Вершы. Байкі. Паэмы» (2012). Працуе ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы і Падлясшскай палітэхнічнай акадэміі. Нарадзілася ў 1959 годзе ў Гародні. Жыве ў Гародні.

# Вясёлка

## Чырвоны

У жменях спрацаваных да здранцвення
Ён моўчкі мяў камяк чырвонай гліны,
Ужо зашмат трымалі сёння жмені:
Звяроў і птушак розных, і раслінаў.
Сур'ёзная спынілася работа,
Настала так жаданае адхланне.
Апошнюю нягеглую істоту
Ён стомлена зляпіў на развітанне.
Чырвоная скамячаная гліна
Крывёю запякалася і мясам,
Хацела звацца дзедзічам і сынам,
Валодаць мовай, памяццю і часам.
Знясіленым быком у Альтаміры
Яна раўла ад творчага бяссілля,
Крывёй паіла стодаў і куміраў,
Узносіла мячэці і хрысцільні,
У безлічы барвовых рэвалюцый
Карала вінаватых і нявінных,
Каб роўнай быць, урэшце дацягнуцца
Да велічы рукі, што мяла гліну.
І з гэтым пажаданнем утрапёным
Зыходзіла ў нябыт, у прах, у глебу —
Аскепак гліны, чорнай і палёнай,
Што на Зямлі хацеў быць роўным Небу.

*10.08.12.*

## Памяранцавы

Дзяцінства прыкацілася здалёка
Вясёлым бестурботным падшыванцам
З налепкай — чорным ромбікам «Maroco» -
На купленым у краме памяранцу.
Ялінка,
вечар,

карагоды- танцы,
куранты,
студзень,
абяцанне цуда,
што ў Новы год даслалі мараканцы,
і песенька пра маму і вярблюда.
Любімы шалік,
смешны фільм пра Чарлі,
які глядзелі неяк на вагарах,
цыгарка ў фортку,
вінаграды ў Арлі,
Ван Гог,
каханне,
Фолкнер і гітара.
Наваградскіх каменняў тэракота,
Аранскі, гёзы,
летнія раскопкі,
шпаргалка: пра Марока нешта ўпотай
спісана ад пачатку і да кропкі.
Зімовы швэдар,
куртачка для сына.
Бел-чырван-белы.
Кошт падману.
І воля мае колер апельсіна,
Што коціцца з суседняга майдана.

## Жоўты

На скрыпцы граў яўрэйскі хлопчык Ося,
Быў сціплы, ды ў суседку неяк летам
Ён закахаўся,
ёй складаў санеты,
Хоць і не быў амантам і паэтам.
Ім апасля сустрэцца давялося
На вуліцы ў мароз у мінскім гета.
Была сустрэча радаснай і горкай,
Яны ўзгадалі скрыпачку і лета,
Ягоныя дзіцячыя санеты.

Ужо мужчына, а яна — кабета.
Два сэрцы пад адзінай жоўтай зоркай —
Яўрэйскія Рамэа і Джульета.
Калі у жоўтым дыме ад матору
Пад шоргат чорных катаўскіх калёсаў
Ужо праз тыдзень і яго, і Дору,
Як двух сужонкаў — разам шчасце-гора,
У душагубцы везлі цераз горад,
Агульным іх шасціканцовым лёсам
У чорным небе жоўтым ззялі зоры.

*12.08.12*

## Зялёны

Калісьці над засмечанай планетай,
Забруджанай, дашчэнту скатаванай
Нябесным гневам, боскім ураганам,
З глыбінь касмічных зоркаю-каметай
Пральецца дождж,
Пральецца нечакана
Слязьмі звяроў,
Смалою дрэў палёных,
Крывёю птушак, лускаю рыбінай,
Ён пройдзе па планеце, бы лавіна,
Вялізнай свежай хваляю зялёнай —
Па аўгіевых стайнях і адрынах,
Па сметніках, па гнойніцах і псотах,
Па просеках, чарнобыльскіх балотах,
Змяце масты, прычалы і плаціны.

Смарагдавы, амаль непераможны,
З зямнога твару змые аўтастрады,
Версаль, Уфіцы, Калізей і Праду,
Альгамбру, Кіжы, Сфінкса і Каложу,
Палацы, замкі, храмы, каланады,
Сафокла, Гоцы, Коласа і Гейне,
П'яцолу, Баха, Ленана, Шапэна,
Зялёнаю раз'юшанаю пенай
Ён знішчыць Фрэйда, Канта і Энштэйна,

Канфуцыя, Скарыну, Дыягена,
І хваляю апошняю шалёнай
Накрые вахабітаў і зялёных
Да самага далёкага калена.

Парсекі завіваючы віткамі,
Каля Венеры недзе, на арбіце
Прарохкае зялёненькі збавіцель:
«Цяпер планета чыстая такая!»

*13.08.12*

## Блакітны

Не спяшайся, прысядзь на мінутку,
Пачакае прызначаны шлях,
Я прынесла табе незабудкі,
Што на золку збірала ў палях.

Свет вялізны! Дарогі-сцяжыны
Узнясуць за круты небасхіл
Маладога саколіка-сына
Ад матулі, ад родных магіл.

Маеш розум, сумленне і крылы,
Будуць светлымі ночы і дні,
Можа недзе ля Ганга ці Ніла
У блакітную далеч зірні.

Што жыццё табе наканавала?
Можа цяжкую долю ля гор?
Ды і там, ля каменняў Урала
Углядзіся ў глыбіні азёр,

У блакіт незапэцканы, чысты,
Нібы рэкі радзімы тваёй,
Нібы слёзы крыніцы празрыстай,
Нібы цёплы туман над зямлёй,

Дзе бацькоўская хата прытуліць,
Дзе антонаўка спее ў садах,
Дзе блакітныя вочы матулі
У далёкі ўглядаюцца шлях.

Час ляціць ці павольна, ці хутка,
Многа ў свеце дзівос і спакус.
Хай жа гонар дадуць незабудкі
Не забыцца, што ты — беларус!

*14.08.12*

## Сіні

У спякотнай, далёкай, забытай багамі пустыні,
Пасярод чарапкоў, тварам лежачы ў гліне ганчарнай,
З кобрай-сокалам царскі вянец лазурытава-сіні
Не паспела ўскласці царыца вялікай Амарны.

Сашкрабалі, збівалі, пяском забівалі імёны,
Разбіралі палацы, руінамі клалі святыні,
Каб ніколі ніхто не ўзгадаў у вяках Эхнатона,
І царыцу яго, і вянец лазурытава-сіні.

Безліч часу прайшло, і курган раскапалі чужыя,
У закінутым горадзе ў чорнай скамячанай гліне
Адшукалі царыцу з дзявочаю выгнутай шыяй,
І вянец адшукалі яе лазурытава-сіні.

Нібы сонца ў зеніце...

*17.08.12*

## Пурпурны

Яна была — ну проста шык,
А ён — бамбіза і мужык,
Цялё вясковае ў баталіях амурных,
Жанчына-вамп, жанчына-сон —
Да смерці закахаўся ён

У белы твар і два пялёсткі губ пурпурных.
Любіла віскі і кальян,
Казала штось пра мезальянс,
Што ён бамбіза і што дурань бескультурны.
А ён — Мужык! Не boy, не гей!
Глядзеў з труны дзядуля Фрэйд,
Нахабна шчэрыўся і посціў нецэнзурна.
Пачаў ён безліч розных спраў —
З яе Мадонну маляваў,
Пасля з мармуру рэзаў бюст яе фактурны,
Зрабіў у космасе прарыў:
Ёй завушніцы падарыў,
Забраўшы неяк два пярсцёнкі ад Сатурна.
Кальяна віўся тонкі дым...
Што ёй рабіць з бамбізам тым?
Ён не такі, не куртуазны, не гламурны!
Не ведае прыгожых слоў.
Мо, нарадзіць яму сыноў,
Або дачушку — два пялёсткі губ пурпурных?..
*19.08.12*

## Магістрал

Расцерці ў макотры гарліва і добра
Маленькі каменьчык чырвонай цынобры,
Дадаць у яечны жаўток,
А потым расцерці з увагай і спрытам
Маленькі блакітны крышталь лазурыта
І вохру — усё ў парашок.
З жаўтком замясіць, падсыпаючы трошку,
Ляўкасам зацерці дубовую дошку,
Каб роўненька фарбы ляглі.
З малітвай, з павагай, з душою ўзнёслай
Спачатку накрэсліць арнамент дзівосны
І ліштвай пазначыць палі,
А потым малюнак паводле канона,
Алтарны абраз ці святую ікону:
Так продкі рабілі спрадвек.

Дубовая дошка пакрыта ляўкасам,
Ляжыць і чакае належнага часу,
Каб Бога зрабіў Чалавек.

*19.08.12*



# Васіль Дэбіш

паэт. Аўтар кніг паэзіі: «Белыя птахі» (1993), «Лісты да Марыі» (1996), «Праз дождж» (2012). Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Шамятоўка на Гродзеншчыне. Жыве ў Берасці.

# Полымя свечкі

## Крыж

Іду па дарозе.
За вёскай крыж стаіць, стары, драўляны:
крылы абвіслі, патрэсканая галава,
белым ручніком перавязаныя грудзі.
Дакрануўся.
Пахіліўся мой крыж
і зваліўся зусім.
Падняў я яго,
на шурпатыя плечы ўмасціў і панёс...
Ідуць насустрач дзецюкі, з мяне смяюцца:
— Што гэта, дзядзька, ты на плечы ўзваліў
і куды шлях трымаеш?»
Усміхнуўся я горка і адказаў:
— Гэта песню сваю я нясу на клады,
куды і мяне панясуць аднойчы.
Але не будзе мне цяжка
пад стромкімі соснамі:
са мною будзе яна, мая ціхая песня —
патрэсканая, белым ручніком перавязаная,
мая Беларусь — раскрыжаваная, самотная.

## Свечка

Світае.
Паволі дагарае свечка мая.
Мігціць трывожным святлом.
Узіраюся ў цьмяна-дрыготкія вочы свечкі.
Бачу: дзіцяняткам бягу па квяцістай палянцы.
Весела спявае ў блакітным небе жаўрук,
Радасна ўзыходзіць нада мною маладое сонца...
Бачу: шпарка крочу юнаком па зялёнай някошанай траве.
Ярка палае сонца,
Звонка шуміць густая трава.
Ад дзявочых гарачых пацалункаў перасохлі вусны...
Бачу: блукаю састараны ў нетрах начной імглы.

Чаму апусцелі нівы?
Куды сіратліва ляцяць гракі?
Няма адказу.
Дагарае свечка...

## Вішня

Засохла вішня...

Яшчэ нядаўна ведаў вішню белай,
у квецені, прыгожай, маладой.
Тут мы адпачывалі, тут кахалі
пад ласкаваю засенню лістоты.
Тут ластаўкі ў прыцемках ружовых
нам вершыкі пяшчотна шчабяталі.
Праменняў сонечных усмешка ззяла.
І ўсмешка слоў.
А пахі расцякаліся вакол
салодкім цестам, воблакам мядовым,
і — пчоламі галінкі набухалі.
Цяпер тут гэтак ціха і бязлюдна, —
І чорны цень кладзецца нерухома
на дол халодны...

## Крумкач

Сядзіць на плоце шэры крумкач,
пасміхаецца з мяне:
— Дзе быў, што бачыў, што чуў?
— Нідзе не быў, нічога не бачыў і не чуў.
— І што цябе трымае на гэтым лапіку зямлі?
— Бацькоўская хата,
якая стаіць на тым месцы,
дзе была хата майго дзеда і прадзеда;
агарод за старым плотам,
які мяне корміць з году ў год;
клады за вёскай,
бацькі;
суседзі, з якімі даўно звыкся...

— Звыкся з няволяй? — пасміхаецца крумкач.
— На, бяры мае крылы, ляці...
Падняў я з зямлі камень
і шпурнуў у яго бок.
Паляцеў крумкач...
Тугу пакінуў.

## Сляпы

Параднёны з цемраддзю,
чакаю сонца.
«Святла!» — цягну да неба рукі.
«Святла!» — трымаю рукі над крыніцай.
Гукаю і шукаю тое,
што пальцамі не ўмею прачытаць.

## Старасць

Раптам, пасярэдзіне ночы,
разбудзіла мяне сваім шорхатам-піскам
мыш-палёўка.
Не дае заснуць.
Вось і зноўку прыйшла яна,
ускараскалася на канапу
і пазірае нахабна мне ў вочы.
Але яна ўжо не выклікае ў мяне
ранейшага страху і агіды.
Я хоць і не палюбіў яе,
але даўно звыкся з ёю.
Я слухаю-адчуваю,
як недзе глыбока ўва мне
жыве яна — дзверы ў нябыт.

## Крыніца

У раку маіх рук уваходзіць лета,
млявае, як вечаровы пацалунак сонца.
Ці не таму змялела рака,
што, аблашчаная цяплом,
спыніла свой рух да мора,

перастала змагацца з плынню часу
і заснула?..
Ці не таму мае вусны прагна шукаюць крыніцу,
каб наталіць смагу жыцця?..
Б'ецца, звініць, пяе крыніца,
а над ёю — завірухаю сонца шуміць.

## Як памірала вёска

Спачатку не стала ў вёсцы кароў —
ціха вымерлі, нібы яшчары паліяліта.

Затым пчолаў не стала — абярнуліся ў трутняў.
Потым знік смех дзіцячы, прапалі і звонкія песні.

Напаследак і п'яныя лаянкі сціхлі, і брэх сабак.

У маёй вёсцы старыя ўсе паўміралі,
а потым пачалі паміраць маладыя.

## Бусел

Адзінокі бусел на лузе:
высокі, худы, нязграбны.
Распусціў белыя крылы,
стаіць пануры —
без буслíхі, без буслянят.

Чорная хмара плыве над краем...

## Услед

Жагнаюся богу паганскаму.
Заву яго...
Узіраюся ў неба:
поўня жанчынай у чаканні немаўляці
над Бугам узнялася.
Так кожную ноч.
Век за векам.

Бягу за ёй услед,
у халоднае чэрава ночы,
услед за жанчынаю-поўняй
паганскай крыві...

## Рэанімацыя

І бачыў я пачварную карціну:
Зямлю, пакрытую атрутным дымам,
Агонь Пампеі, разбурэнне Рыма.
І Троі велічнай маўклівыя руіны.

Ды дзіва: дзе палын быў і асцё,
Атожылкі жывыя прарасталі
І радасна пад ветрам трапяталі.
Зямля вітала новае жыццё.

Ачнуўся я — свяціла ў небе сонца.
Вясна раскашавала за сцяной.
І сын мой нахіліўся нада мной...
І зразумеў я, што жыццё — бясконцасць.

## Верш

Усё не тое, усё не тое.
Хачу агню — а толькі дым.
І верш напісаны душою,
Ды не хапае нешта ў ім.

Ізюмінкі ў ім не хапае,
Палёту думкі, вышыні...
Рву і ў агонь яго кідаю,
Верш, што ні льецца, ні звініць.

***

Душа праз абалонку цела —
Прайшла, памкнула ў вышыню,
Да неба, зорачак, агню.
Душа праз абалонку цела,

Нібыта птушка, паляцела.
А мне здавалася: я сню...
Душа да зорнага агню
Чароўнай птушкай паляцела.

## Хатка паляўнічага

Мяшок нерухомых зайцоў на стале.
Скамечанай скурай ліюцца апоны.
І чучала воўчае — высахла ледзь.
Зязюльчыны пёркі і пер'е вароны.

За прыпечкам стрэльба, на печы хатуль.
На покуце ў рамцы цямнеюць святыя.
І вочы, халодныя вочы, — паўсюль,
Адкрытыя вочы звяроў і сляпыя.

## Студня

Лякала нас бяздоннасцю нутра.
Ды вабіла маўклівай прахалодай,
Пазвоньваннем імклівага вядра
І вусцішнай таемнасцю заўсёды.

Дзесь там, на недасяжнай глыбіні,
Куды не далятаў бляск промняў яркіх,
Жыў дзед стары — кудлаты вадзянік —
З дачкой сваёю — гожаю русалкай.

Ніхто не бачыў іх. Але яны
Сябе ўдавалі смехам, злосці поўным,
Апоўначы наведваліся ў сны,
Змушалі пра сябе штодзённа помніць.

І каб задобрыць іх, кідалі хлеб
У студню мы і розныя прысмакі.
І голас пераходзіў наш на шэпт.
Цішэлі смельчакі і задавакі.

Зірнеш туды — і холад ахіне.
А з люстрадзі — аблічча, бы ў тапельца.
Адважышся, бывала, і гукнеш —
Па студні рэха доўга птушкай б'ецца,

Бы трапіла ў сіло і аніяк
З яго палону вырвацца не можа.
І хочацца крычаць. І цягне так
Туды, на дно, дзе смерці змрок абложны.

## Ніткі

***

Ляжу на спіне...
Ноч страсае з неба
пераспелыя зоркі

***

Адыходзіць чалавек —
рэха ўласных
крокаў

***

Сею зерне
поўнай жменяй —
вырастаюць камяні

**

Дажджы размываюць дарогі
Гады — душы.
Застаецца адчуванне віны.

***

Выпаў снег
пабялела поле, двор...
І душа

***

Выйшаў раніцай маленькім хлапчуком з дому...
Вярнуўся — ужо пяцьдзясят.
Ніяк не магу ўспомніць,
дзе праблукаў столькі часу!?

****

Птушка
кроплі расы на дрэве
прагна п'е
Сонца

***

Доўгая ноч.
Чорны павук тчэ павуціну
думак

***

Праз галінкі дрэў
свеціцца неба —
белая птушка.

***

Іду ў восень.
Шэры прыцемак —
сівеюць мае валасы.

***

Рудым сабакам
разлёгся пасярэдзіне дарогі камень —
не пускае мяне.

***

Важна расселіся на
голых галінках дрэў гракі —
партэтура восені.

***

Туман
кранаю рукою —
мацаю вякі.



# Алесь Разанаў

паэт, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1990). Аўтар кніг паэзіі: «Адраджэньне» (1970), «Каардынаты быцця» (1976), «Шлях—360» (1981), «Вастрыё стралы» (1988), «У горадзе уладарыць Рагвалод» (1992), «Паляванне ў райскай даліне» (1995), «Рэчаіснасць» (1998), «Гліна. Камень. Жалеза» (2000), «Гановерскія пункціры» (2002) і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Сялец на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

# Поўня ўглядаецца ў ліхтары

*

Лес адгукаецца:
людзі
ўсяляюцца ў галасы.

*

Гуляе -
губляе
завея свет.

*

Раптам на пару:
ў двары
дождж рупіцца
з гаспадыняй.

*

Хто ён?.. —
Ушчэп
расплюшчвае вочы.

*

І следу няма:
зіма
займае ямы і ўзгоркі.

*

«Пабудзь без мяне!..» —
Старая
старому зычыць
дабра.

*

Парожняя?!.
Разглядае
на беразе ракаўку
сіваграк.

*

У лядах Каляды:
на пні

кладуцца аладкі
і каравai.

*

Мінаюся звонку:
зноўку
цвіце язмін.

*

Датуль і адсюль:
абселі
сюітаю ластаўкі
правады.

*

Лета ў транскрыптах:
ліловы
так скрыпень,
а так асот.

*

Што ёй мой след?!.
Абступіла
вогнішча леташняе
крапіва.

*

Крывавяцца -
перахіляюцца
аблокі за небакрай.

*

Абскубвае -
ушчувае -
купіну конь:
скупая?!.

*

Трымайся!.. —
Вісяць
над крыгай дэсантніцамі
сняжынкі.

*

І злева, і справа —
цемра
правальваецца ў ліхтары.

*

Кагось выглядаюць?!.
Перарастаюць
прасла дзядоўнік і лебяда.

*

Гной раскідаецца:
поле
у духу ўздымаецца
ўвышыню.

*

Якія вялікія!..
Хвоі
уводзяць у дні вякі.

*

Набралася лодка
ракі:
«І што?!.» —
цікавяцца гусі.

*

Аблюдзіўся:
у самоту
вяртаецца з горада
гаспадар.

*

Мерае вецер імкненні:
аер
напяўся над Пінай.

*

Валізкі вялізазныя:
вызваляе
бліскаўка з хмараў
гром.

*

Зялёныя вішні:
ў радню
з пярэдадня выйшлі.

*

Вартыя ўвагі?!. —
Поўня
ўглядаецца ў ліхтары.

*

Зіма перакульваецца:
у наўколлі
крэсліць каракулі грак —
аракул.

*

Праводжу вачмі:
са свістам
імчыцца матацykліст.

*

Слова з гаворкі:
якой?!.-
Вавёрка
збягае на дол з сасны.

*

Тут і сюды:
рака
нітуецца з навальніцай.

*

Людзі наўгад:
іду
услед за цыганкай.

*

З фатою?!. —
Фантан
фатаграфуецца з маладою.

*

З ключамі на поясе —
кліча
мяцеліца ў іншасвет.

*

З»ядноўваюся з ялінаю:
на галіны
кладзецца снег.

*

Чарвівы трымаю
чырвонагаловік —
мае
дакор: чаму?!.

*

Слізка:
вузлы
развязвае скрозь
адліга.

*

Чакае затока:
вокам
чапля чапае
глыб.

*

З мэтай?!.
Па мэту?!,
Да ліхтара
ляцяць матылі завеі.

*

Заружавелі:
увішна
вецер перабірае ружанцы
вішняў.

*

Частуецца —
з-за дзвярэй
не зводзіць сабака вачэй
з гаспадыні:
смачна?!.

*

Адліга:
дамоў
іду адтуль і адгэтуль.

*

Штосьці не гэтак?!.
Самохаць
дзень перайначваецца
у чарнавік.

*

Зіма:
адбудоўваецца сама
капліца.

*

Кудою дадому?
Высоты
услалі сцежкі
лістотай.

*

Спеліцца цемра:
цяпельца
ваюе ва ўсе бакі.

*

Што той бок,
што гэты —
шэрань
выбеліла падбел.

*

Высокая —
асака
сочыць за ветрам:
косіць?!.

*

Ёкае сэрца ў ракі:
па лёдзе
кіруецца некуды
сакавік.

*

Зазелянела азімінаю:
гракі
знаёмяцца з нівай
нанова.

*

Нешта схавалі?!.
Хвалі
зганяюць на бераг
шум.

*

З адтулінай:
дулю
дзялю з асой.

*

Прадвесне:
да песні
шукае словы чарот.



# ВЕРАСЕНЬ
# ПРОЗА

надзея філон андрэй дзічэнка
юлія бажок раман абрамчук
аляксандра сымановіч стас ільін
лявон валасюк



# Надзея Філон

паэтка. Аўтар паэтычнай кнігі «Кроплі святла». Студэнтка 5 курса філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны. Друкавалася ў часопісе «Верасень». Нарадзілася ў 1988 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

# Падарунак

Вечар... Звычайны снежаньскі вечар, якіх кожны год бывае трыццаць адзін, не больш і не менш. І ўсе яны вылучаюцца сваёй асаблівасцю, непаўторнасцю, незвычайнасцю. Кожны з іх нясе з сабой таямніцу, новую старонку вечнасці, якая занатоўваецца штодзённымі чалавечымі справамі, словамі, думкамі, адразу на чыставую. Нельга адгарнуць старонку і выправіць памылкі. Можна толькі на наступнай паспрабаваць змяніць нахіл літар, ці быць уважлівей, каб потым не шкадаваць аб напісаным.

У гэты вечар было як ніколі цудоўнае надвор'е. Бялюткія сняжынкі ласкава абдымаліся з паветрам. Здавалася, што яны кружацца пад нячутную чалавеку музыку. Так і сапраўды было. Празрыстыя крышталікі апускаліся на зямлю пад сімфонію нябёсаў, а таксама шчаслівых усмешак і шчырых чалавечых пачуццяў.

Напэўна, самае шматлюднае месца ў горадзе — гэта чыгуначны вакзал. Тысячы чалавек прыязджаюць і ад'язджаюць з розных кропак нашай планеты. Гэта і свае, і іншаземцы. Адны вяртаюцца ў родны горад на святы, другія збіраюцца наведаць сваякоў, каханых ці проста знаёмых. Ёсць і такія, хто едзе проста вандраваць, не ведаючы куды, без мэты, з думкамі, што там на сэрцы стане светла і ўтульна, што нарэшце знойдзе доўгачаканае шчасце. Толькі ці знойдзе? Бо чалавек куды б ён ні паехаў, заўсёды абавязкова бярэ з сабою сябе, свае думкі і пачуцці, якія, часам, і ўдзень, і уначы не даюць спакою, трывожаць : «Навошта я так зрабіў? Навошта?». Але вярнуць ужо нічога немагчыма. Можна толькі зрабіць інакш, і толькі так супакоіць сумленне. Ад сябе нікуды не схаваешся.

Вялізарныя дубовыя дзверы вакзальнага будынка, якія спалучалі свет шумнага горада і мітуслівы бясконцы свет дарогі, бачылі нямала за сваё цяжкае, але параўнальна нядоўгае жыццё. Толькі за гэты вечар іх адчынілі і зачынілі тысячы разоў. Нехта неахайна піхнуў нагою, трымаючы ў руках цяжкія торбы, а нехта асцярожна прытрымаў, дапамагаючы прайсці іншым. Праз іх праходзілі дарослыя і дзеці, бедныя і багатыя, шчаслівыя і з разбітымі сэрцамі, любімыя, і тыя, хто любіць, тыя, хто імкнецца кудысьці без мэты, і тыя, хто чакае цуда ў гэты сцюдзёны, але прыгожы зімовы перадсвяточны вечар.

Да апошніх адносіўся малады чалавек, які пад біццё гарадскога гадзінніка ўпэўнена адчыніў дверы. Ён прапусціў перад сабой сталую, але яшчэ прыгожую жанчыну з вялікай валізай і маленькай дзяўчынкай. Малая моцна трымалася за руку бабулі, баючыся згубіцца сярод такога мноства незнаёмых людзей. Максім Ілімскі адразу накіраваўся на перон, дзе было ўжо некалькі чалавек.

Учора размаўляў з бацькамі, якія жадалі, каб сын прыехаў, але што зробіш, калі не атрымліваецца. Таму і перадалі праз праваднiка цягніка падарунак. У Максіма зараз на працы было шмат заказаў, якія трэба тэрмінова выканаць, бо людзі чакалі. Ён паабяцаў, што прыедзе пасля святаў, калі больш менш будзе вольны і зможа ўзяць адпачынак. Ды і не жадаў псаваць сабе пачуццё адзіноты ў кароткія зімовыя дні. Ужо тры гады ён сустракаў свята Божага Нараджэння адзін на адзін з сабой. Не цікавілі яго ні шумныя вечарыны з сябрамі, ні нават гутаркі ў бацькоўскім доме.

Тры гады... Як хутка ляціць час! Здавалася, што гэта толькі доўгі і жудасны сон. Вось зараз зноў пачуюцца лёгкія крокі і срэбны голас пакліча да стала. А ён падыдзе, абдыме каханую, моцна прытуліць да сабе, ласкава ўсміхнецца, пагладзіць яе ўжо заўважна пакруглеўшы стан. Хутка іх павінна было стаць трое. Заставалася пачакаць яшчэ некалькі месяцаў і Максім бы ўзяў на рукі іх маленькую дзяўчынку, іх чаканае дзіцятка.

Але адно імгненне перакрэсліла ўсё жыццё. У памяці зноў усплыла тая раніца, калі яны маладыя, шчаслівыя, закаханыя ішлі па вуліцы. Максім на працу, Наталька — у госці да сяброўкі. Узяўшыся за рукі, яны былі больш падобныя на дзяцей, чым на тых, хто хутка стане бацькамі. Снег у той дзень павольна кружыўся ў паветры і, апускаючыся на зямлю, пакрываў бруд шумнага горада. Падышоўшы да скрыжавання, дзе разыходзіліся іх шляхі, Максім пацалаваў жонку. Унутры яго нешта перавярнулася, калі Наталька прытулілася да яго. Каханая падалася яму такой маленькай і безабароннай.

— Беражы сябе, родная! — нечакана вырвалася ў яго і ўжо спакайней дабавіў. — Беражы вас Бог!

Шчаслівая маладая жанчына ў адказ працягнула яму маленькую паштовачку ў выглядзе сэрца, дзе яе роўным прыгожым почыркам было напісана ўсяго некалькі слоў: «Кахаю цябе!» І, падарыўшы мужу шчырую ўсмешку, прашаптала: «Памятай, я заўсёды буду любіць цябе. Нават, калі нешта здарыцца. Заўсёды.»

Максім пайшоў на прыпынак, але праз некалькі крокаў азірнуўся. Наталька стаяла на тым самым месцы і глядзела яму ўслед. Заўважыўшы погляд любімых вачэй, ён адправіў паветраны пацалунак, на які праз імгненне атрымаў адказ у выглядзе ўсмешкі. Гэта было найлепшым сведчаннем таго, што пачуццё дастаўлена па адрасе.

Працоўны дзень прайшоў хутка. І не толькі таму, што быў скарочаны ў напярэдадні свята, а яшчэ і таму, што светлыя думкі цешылі сэрца Максіма. Па дарозе дадому хлопец думаў аб тым вечары, які яны правядуць разам з каханай. Ён набыў у краме яе любімыя белыя ружы і ўжо загадзя радаваўся. Сёння гадавіна іх шлюбу. Такім цудоўным быў той дзень, калі яны абвянчаліся ў царкве. Як і сёння падаў снег. А якой прыгажуняй была

Наталька! Бялюткая вясельная сукенка, адзетая на гонкі дзявочы стан, белыя ружы... Як гэта пасавала да прыроднай чысціні! Напоўнены ўспамінамі ён у той вечар адчыняў дзверы ўтульнай трохпакаёўкі. Запаліў святло ў калідоры і здзівіўся, што так ціха і цёмна.

— Добры вечар, каханая! — звонка прагучаў яго голас і адбіўся аб пустыя сцены. Можа, жонка стамілася і легла адпачыць? Максім абышоў усю кватэру і ўпэўніўся, што жонкі ў хаце няма. Напэўна, затрымалася ў сяброўкі. Няхай паразмаўляюць. Не буду тэлефанаваць, каб не перашкаджаць. Я ж сёння з працы вярнуўся на тры гадзіны раней, чым звычайна. З такімі думкамі Максім вырашыў зрабіць сам вячэру. Прыгатаваў ежу, накрыў стол, паставіў ружы ў вазу, каля талерак запаліў яе любімыя свечкі. Кухня выглядала па-святочнаму і вельмі ўтульна. Але дзе Наталька? Душу сціснула нейкае нядобрае прадчуванне. Максім пацягнуўся да тэлефона, які ў гэты момант зазваніў. Сэрца забілася больш неспакойна і ўзрушана: нумар невядомы.

— Максім Віктаравіч? — пачуў ён незнаёмы мужчынскі голас, які, не чакаючы адказу, працягваў. — Вы з'яўляецеся мужам Ілімскай Наталлі Антонаўны? Вашу жонку з паўгадзіны таму збіла машына. На жаль, дактары канстатавалі імгненную смерць. Вы можаце пад'ехаць?

— Так, — адказаў Максім прыглушаным, быццам не сваім голасам. — Куды? І, атрымаўшы каардынаты, паклаў тэлефон на паліцу. Але потым зноў схапіў і набраў нумар Натальці. Не, гэта немагчыма. Гэта памылка. Зараз яна сама ўсё раскажа. Але адказу не было... Усё роўна гэта немагчыма! Вось ён з'ездзіць, высветліць абставіны, і ўсё стане на свае месцы.

Але гэта была не памылка. Гэта была праўда. Як у паўсне прайшлі тыя дні. Максім прыехаў, пачуў падрабязную гісторыю аб трагічным здарэнні, патэлефанаваў бацькам, забраў ужо назаўсёды застылае і нерухомае цела жонкі. Якая яна была прыгожая ў дзень пахавання! У бялюткай вясельнай сукенцы, з белымі ружамі ў руках і шчаслівай усмешкай на вуснах Наталька была падобна на спячую. Здавалася, прачнецца зараз. Але замест ложка — труна, абвітая белай бліскучай тканінай. І не ўстане яна, не паднімецца, не скажа: «Люблю»... За тыя дні ніводнай слязы не ўпала з яго вачэй. Не мог паверыць, што тое скрыжаванне развяло іх шляхі назаўсёды.

Пахаваўшы жонку, Ілімскі праз колькі дзён выйшаў на працу. На першы погляд, нічога не здарылася. Але больш не было чутна срэбнага голасу і лёгкіх крокаў у стаўшай такой непамерна вялікай трохпакаёвай кватэры, у якой пасяліліся адзінота і сум...

Максім устрапянуўся і нібы скінуў з сябе цяжкія думкі. Гэта было. Было. Было тры гады таму... А зараз трэба жыць. Жыць? Наталька была для яго ўсім у жыцці, яго сэнсам. З яе смерцю ён страціў веру ў сябе, веру ў

жыццё, веру ў Бога. І сёння, упершыню за гэты час, Максім абдумаў сваё бессэнсоўнае жыццё, убачыў яго недарэчнасць. А ці была б задаволена каханая, што ён так сябе паводзіць? Што перастаў цікавіцца наваколлем, што стаў іншым, абыякавым да ўсяго і да ўсіх? Ён успомніў апошнія словы жонкі: «Памятай, я заўсёды буду любіць цябе. Нават, калі нешта здарыцца. Заўсёды.» Нібы засланка ўпала з вачэй. Ён жа не вінаваты, што так атрымалася. А значыць, з гэтага моманту трэба жыць па-іншаму, зноў чакаць, любіць, верыць у цуды. Ілімскі паглядзеў на гадзіннік. Да прыхода цягніка заставалася яшчэ некалькі гадзін, але ён яшчэ хацеў заехаць на могілкі. Памаладзеўшы гадоў на дзесяць, бы юнак, хутка апрануўся і ўжо праз колькі часу быў там. Гэта ўжо стала традыцыяй — праводзіць вечар перад Днём Божага Нараджэння з каханай. Але сёння ў Максіма быў іншы настрой. Ён ціха падышоў да прыгожага помніка, што ўяўляў сабой маладую жанчыну з дзіцём на руках. Крыху пастаяў моўчкі. Потым паставіў у вазу белыя ружы: «Віншую цябе, каханая!». Расчысціў снег. У задуменні прысеў на лаўку. Цікава, як бы зараз выглядала іх малая, якой было б крыху менш за тры гады? Як бы ўсё ж такі яе звалі? Напэўна, Верачка. Бо яны верылі, што ўсё будзе добра. Можа, слаба верылі... А можа? Не, як ёсць, так павінна было быць. Бог ніколі не робіць памылак. Ніколі. Нават, калі чалавек не разумее нечага адразу, час усё расставіць на свае месцы.

Максім яшчэ крыху пастаяў і пайшоў да машыны. Сеў за руль і паехаў на вакзал. Трэба было забраць падарунак ад бацькоў. І вось ён на вакзале. Стаіць у задуменні, пракручвае ў галаве сённяшні дзень. Прыгожы, інтэлігентны, апрануты ў касцюм, паверх якога добра ляжала чорная скураная куртка. З-пад яе быў бачны белы каўнер кашулі і цёмна-сіні гальштук, які добра пасаваў да вачэй. На твары адбівалася чаканне... Нешта рана ён прыйшоў сюды. І таму зараз назіраў, як прыгожа ў святле ліхтара кружацца маленькія белыя зорачкі. Раз-пораз на хлопца кідалі недвухсэнсоўныя позіркі прыгожыя дзяўчыны. Адна, нават, прапанавала пазнаёміцца, на што пачула ветлівую, але цвёрдую адмову. З пакрыўджаным тварыкам пайшла шукаць таго, хто будзе не такі непрыступны.

Неўзабаве пачуўся голас дыспетчара і ўжо праз некалькі хвілін хуткі цягнік прыбыў на трэцюю платформу. Максім пачаў шукаць позіркам сёмы вагон. Вось ён. Побач прыпыніўся. Зручна, што не трэба нікуды ісці. Пачакаўшы, пакуль выйдуць пасажыры, ён падышоў да праваднікa. Той, ўдакладніўшы імя і прозвішча, аддаў важкую сумку інтэлігентнаму маладому чалавеку. Падзякаваўшы, Ілімскі павольна пайшоў. Сумка прыемна адцягвала руку. Бацькі з такой любоўю складвалі падарунак. Сын ведаў гэта і шкадаваў, што не атрымалася паехаць на святы. Але свой адпачынак, як заўсёды правядзе толькі з бацькамі. З такімі думкамі ён крочыў у бок падземнага перахода.

Раптам пачуўся дзіцячы радасны крык «Тата!», і маленькія ручкі абхапілі яго за ногі. Максім ад нечаканасці выпусціў сумку на снег. Гэта памылка. Дзяўчынка проста пераблытала яго са сваім бацькам. Ён прысеў і зазірнуў дзіцяці ў вочы. Малая абняла яго за шыю і моцна прыціснулася: —Тата, татачка... Малады чалавек зусім разгубіўся. Азірнуўшыся, ён убачыў маладую жанчыну, якая ледзь не бегла. На твары быў адбітак трывогі.

— Малады чалавек, даруйце, калі ласка! Даруйце.. Верачка, пойдзем, дачушка, гэта ж не твой тата! — хутка вымавіла незнаёмка і паспрабавала ўзяць дзяўчынку на рукі.

Верачка... Максіма нібы ўнутры нешта абпаліла. Менавіта так яны з Наталькай хацелі назваць сваю дачку... Верачка. Малая яшчэ больш прыціснулася да яго і праз слёзы вымавіла:

— Мама, давай зноў забярэм тату да сябе? Можна, ён зноў будзе жыць з намі? Можна, мама?

Жанчыне было няёмка. Ілімскі бачыў, што яна разгублена падбірае словы. Але яму шкода было аддаваць гэтае дзяўчо, якое так шчыра яго абдымала, каб зноў не раніць маленькую душу.

— Давайце, можа, пазнаёмімся? — прапанаваў ён і тым самым парушыў цішыню, што вісела ў паветры.. — Максім. А вас як завуць?

— Багдана, — ціха вымавіла жанчына.

— Багдана, — паўтарыў малады чалавек. І дадаў. — Незвычайнае імя, рэдкае, прыгожае. Дадзеная Богам...

Хлопец прапанаваў прайсці да машыны. За гэты час ён даведаўся, што месяцы чатыры таму муж Багданы трагічна загінуў на працы, і яна вырашыла вярнуцца ў горад свайго юнацтва. Тут у яе былі сябры, абяцалі дапамагчы ўладкавацца на працу і знайсці кватэру.

— Вось так бывае, — нібы падвяла вынік жанчына.

Максім слухаў яе вельмі ўважліва, час ад часу пазіраў на яе прыгожы твар, блакітныя вочы. І чым больш глядзеў, тым больш яму было шкада чалавека з падобным на яго ўласны лёсам. Тут, нечакана для сябе, ён вымавіў:

— Слухайце, а паехалі да мяне. Жыву адзін у трохпакаёвай кватэры. Пераначуеце, а заўтра адвязу вас да сяброў. Куды вы на ноч гледзячы з дзіцём паедзеце?

— Нейк нязручна, Максім. Мы ж зусім незнаёмыя...— адказала Багдана, але адмаўляцца не стала. Малады чалавек выклікаў давер. Ды і Верачку шкада было, стамілася малая. — Дзякуй вам.

Даехалі хутка. Максім прыпыніў машыну. Ціха выйшаў і азірнуўся навокал. На вуліцы нібы з белай воўны падаў снег. Ён адчыніў Багдане дзверы і ўзяў Верачку на рукі, дапамог выйсці жанчыне.

— Праходзьце, калі ласка! — Максім адчыніў дзверы і запаліў святло. — Адчувайце сябе як дома.

Распрануўшыся, малая ўбегла ў залу і расчаравана выгукнула:

— А што ёлкі няма? Тата, заўтра ж свята!

Ёлка ўжо тры гады ляжала ў шафе — не было патрэбы яе даставаць. Але зараз наступіў самы падыходзячы момант, і Максім, павагаўшыся з імгненне, адчыніў шафу і паставіў на падлогу скрыню.

— Вось, Верачка, ёлка. А тут — цацкі. Дапамажы маці ўпрыгожыць. А я пайду прыгатую вячэру, — з гэтымі словамі ён выйшаў з пакоя.

На кухні, крыху сабраўшыся з думкамі, Максім распланаваў, што будзе рабіць і ўзяўся за працу. За сценкай чуўся дзіцячы смех і шчэбет. Кватэра зноў напоўнілася жыццём. Тыя, хто знаходзіліся ў пакоі, з кожнай хвілінай станавіліся яму больш блізкімі і роднымі. Недзе праз паўгадзіны кухня была прыбрана па-святочнаму, і Ілімскі ціха ўвайшоў у залу. Дзяўчынка, убачыўшы яго, радасна закрычала:

— Тата, паглядзі, мы з матуляй ёлку паставілі! Яна такая прыгожая! — і малая пацягнула Максіма за руку.

«Тата» — гэтае слова кожны раз балючым агнём абпальвала яго сэрца, пакідаючы крывавыя раны. «Тата»... Як растлумачыць дзіцяці, што яна памыляецца? Што сказаць? У глыбіні душы Ілімскі ўжо паспеў палюбіць шчырую маленькую дзяўчынку і не хацеў расставацца ні з ёй, ні з яе маці. Але што адказаць? Нібы прачытаўшы яго думкі, на дапамогу прыйшла Багдана:

— Дачушка, хадзі сюды. Я хачу табе нешта сказаць, — і яна прыцягнула да сябе Веру. — Разумееш, дзядзька Максім не твой тата. Мы проста да яго ў госці прыехалі. А твой тата загінуў, — голас жанчыны ўздрыгнуў, як нацягнутая струна, і замоўк.

Верачка сур'ёзна паглядзела на маці, потым павярнулася да Максіма і сказала:

— Не мой тата? Мой, мой тата! — падбегла да мужчыны, абняла маленькімі ручкамі, моцна прытулілася. — Мой тата! Люблю татачку! — і, зазірнуўшы яму ў вочы, нечакана спытала: — А ты мяне любіш?

Максім шчыра абняў Верачку. Вялікая хваля бацькоўскай пяшчоты накацілася на яго.

— Люблю, маё маленькае шчасце! — а ў думках прашаптаў. — Мая дачушка.

Тут дзяўчынка паглядзела Максіму ў вочы і нечакана вымавіла:

— А маму любіш?.

Ілімскі паглядзеў на Багдану. Іх вочы на імгненне сустрэліся, і маладая жанчына апусціла галаву. Што рабіць? Ці будзе гэта праўдай? Ці не рана

казаць «люблю» той, якую амаль не ведаеш? Ці зможа Багдана заняць тое месца ў сэрцы, што раней належыла Натальцы? За гэтую хвіліну безліч думак свідравалі галаву Максіма і балюча аддаваліся ў сэрцы. Маленькая дзяўчынка, якую ён трымаў на руках, перавярнула ўсё жыццё.

— Любіш?

Тут Ілімскі паслухаўся ўнутранага голасу і ціха прамовіў:

— Люблю, Верачка, люблю.

Ён падышоў да жанчыны і ўзяў яе за руку. Тая схамянулася і разгублена сказала:

— Жартуеш?

— Не, не жартую. Сур'ёзна... Сапраўды... Люблю... — прыпыняючыся ледзь не на кожным слове сказаў Максім і ўжо шэптам дадаў. — Дадзеная Богам.

На хвіліну ў кватэры ўсталявалася такая цішыня, што, здавалася, чутна было нават біццё іх сэрцаў. Але Верачцы гэта не спадабалася і яна закрычала:

— Тата, мама, я хачу есці!

Малады чалавек усміхнуўся.

— Так, хадземце есці, там усё даўно нас чакае.

Вячэра зацягнулася і павольна перайшла ў шчырую гутарку за сталом. Малая, утульна ўладкаваўшыся на каленях новага таты, соладка спала. За гэты час Ілімскі паведаміў Багдане сумную гісторыю свайго жыцця. Яны дзівіліся падабенству іх лёсаў. Ціхую размову перарваў гадзіннік — прабіў поўнач, чым абвясціў аб наступленні новага дня. Максім аднёс Верачку ў ложак. Багдана з замілаваннем глядзела на іх. Не верылася жанчыне, што вось такі падарунак будзе пасланы ёй Небам у перадсвяточны вечар.

— І табе добрай ночы, Багдана, — ласкава вымавіў малады чалавек. А я пайду ў машыну, прынясу торбы.

Максім выйшаў на вуліцу. Снег мякка падаў на зямлю і зіхацеў у святле ліхтароў.. Прырода святкавала Дзень Нараджэння Хрыста. Усё было прыбрана снегам і нават уначы было чыстым і прыгожым, таемным... На шчоках маладога чалавека з'явіліся маленькія кропелькі расталых сняжынак.. У яго галаве мільгацелі разнастайныя думкі. Так цудоўна прайшоў гэты перадкалядны вечар. Максім нават не мог падумаць, што Бог, аднойчы забраўшы самае дарагое ў жыцці, можа падарыць новае шчасце...



# Андрэй Дзічэнка

**празаік, журналіст. Скончыў гістарычны факультэт БДПУ імя Максіма Танка. Нарадзіўся ў 1988 годзе ў Калінінградзе. Жыве ў Вілейцы.**

# Камітэт па расстрэле паэтаў

Выніковае заключэнне камісіі:

«21 снежня 20..

У аддзел па культуры і прапагандзе паступілі вершы Філіпава Дзмітрыя Ігаравіча ў колькасці 4 (чатыры) штукі. Напісаныя чатырохстопным ямбам, творы ўяўлялі сабой пралетарскую афарбоўку нашага буржуазнага грамадства, сэнс якіх зводзіўся да крытыкі і грубіянскага скажэння рэчаіснасці. Дзмітры Ігаравіч (у далейшым Паэт) падчас допыту супрацоўнікамі камітэта распавёў, што пісаў гэтыя радкі ў цвярозым розуме і з чыстымі намерамі. Як вынік, пасля першаснага азнаямлення з творчасцю грамадзяніна Паэта, асобныя яго творы былі накіраваны на разгляд адмысловай камісіі. Камісія ў складзе спадара Елатомцава Е.А. і спадарыні Фурцман Е.Б. прызнала дадзеныя тэксты паэтычнымі творамі і, улічваючы наяўнасць свядомасці аўтара, адхіліла варыянт карнай псіхіятрыі ў дачыненні да грамадзяніна Паэта. Таму адэкватнай рэакцыяй на нараджэнне падобнага «прадукта мастацтва» стаў прысуд да расстрэлу грамадзяніна Паэта ў казённым сутарэнні дома №24 па вуліцы Слабадской супрацоўнікамі камітэта.

Паэтычныя творы перадаць у адмысловы архіў. Заключэнне апублікаваць у цэнтральных органах друку.

Старшыня камісіі, спадар Ерафееў В.М.»

— Расстралялі гэтага хлопца ўжо? — спытаў чалавек у чорнай скуранцы ў дзяўчыны, якая сядзела за суседнім сталом, якраз насупраць яго. Дзяўчына, пагружаная ў свае думкі, штосьці пісала на лісце паперы і, падняўшы вочы, адказала:

— А? Што? Каго? — чалавек паказаў ёй жоўклы лісцік, у загалоўку якога было прозвішча асуджанага. — Філіпаў? Якая там дата стаіць?

— Пратакол ад 21 снежня, — прамовіў чалавек і, адкрыўшы шуфляду, паклаў спісаны чорнымі чарнiламі ліст паперы ў стос усякіх іншых вытворчых дакументаў.

— Выкананне ў тэрмін да трох дзён, Міхась, — манатонна прамовіла дзяўчына і адначасова пачала зноў нешта пісаць. Гладкая скура яе твару мякка пакрылася сінім свячэннем уключанага манітора. — А якая ў нас дата сёння?

— 25 снежня, — задуменна сказаў Міхась, папярэдне зірнуўшы на гадзіннік. Затым ён устаў і прыняўся складаць сшыткі, якія ляжалі на стале, у чорную скураную валізку.

Валізка з белай ручкай з'яўлялася галоўным атрыбутам прадстаўніка камісіі па адмысловых справах культуры і мастацтва, ад чаго мужчыны і

жанчыны з павагай ківалі галавой, калі на абшарах пустэльнага сібірскага горада сустракалі супрацоўніка ганаровай дзяржаўнай службы.

Міхась развітаўся са сваім калегам. Тая ж, цалкам паглынутая працоўнымі дакументамі, машынальна кіўнула яму галавой, і Міхась напышліва пляснуў дзвярыма, выходзячы ў прастору цёмнага калідора. Сцены калідора калісьці даўно былі выфарбаваныя белай фарбай, месцамі патрэсканай і жоўклай.

Ён ішоў міма агітацыйных стэндаў, размешчаных на адлегласці некалькіх метраў адзін ад аднаго. Каляровыя карціны і шумныя лозунгі выглядалі на іх кідка і ўносілі збянтэжанасць у маркотную панараму з дзясяткаў дзвярэй.

Міхась выйшаў на ціхую вуліцу і падышоў да прыпаркаванага аўтамабіля. Адкрыўшы ключом дзверы, ён дзелавіта паклаў партфель на заднюю сядушку, а сам сеў за руль. Неўзабаве ён накіраваўся дамоў, распавядаць жонцы і дзецям пра тое, што хутка наступіць Новы год, а працы вельмі шмат...

***

Мужчына зайшоў у памяшканне і сеў за круглы стол. Побач з ім уселіся на свае месцы яшчэ некалькі чалавек у чорных пінжаках. Чалавек пстрыкнуў ручкай і, папярэдне распісаўшы яе ў нататніку, каліграфічным почыркам вывеў на белым лісце паперы:

Выніковае заключэнне камісіі:

«25 лютага 2021»

— Час пазначаць ці можна не звяртаць увагі? — спытаў ён у прысутных, трасучы бліскучымі, быццам прамасленымі, скуламі. Кадык яго тузаўся ці то ад злосці, ці то ад замілавання зробленай працай.

— Не варта, — адказаў налыса паголены мужчына і ў дадатак да сваіх словаў пакруціў галавой.

Побач з ім сядзела дзяўчына, яна перабірала пажухлыя і спісаныя чорнай асадкай абрыўкі сшыткавых лістоў. Глыбока ўздыхнуўшы, яна перадала спісаныя лісточкі даме старэйшага ўзросту, якая сядзела побач. Тая, атрымаўшы доўгачаканыя паэтычныя творы, элегантна дастала з пазалочанага чахла акуляры і прабеглася вачамі па рыфмаваных радках.

— Ну гэта ж парнаграфія, а не вершы! — эмацыйна прамовіла жанчына і, скамечыўшы паперкі, дэманстратыўна шпурнула іх пад стол. Здавалася, што ад злосці, якая ўскіпела ў ёй, з маршчыністага твару пасыпалася пудра.

На ёй круг рэцэнзентаў замыкаўся, і чацвёра яго ўдзельнікаў пераглянуліся паміж сабой, а затым іх погляды скіраваліся на маладога чалавека, які

сядзеў у куце на крэсле. Рукі яго былі скаваныя кайданкамі так, што хлопец не мог зрабіць лішняга руху. Вочы яго бегалі ў розныя бакі. Ад хвалявання хлопец часта аблізваў патрэсканыя вусны і насілу зглынаў сліну, якая ніяк не надавала вільготнасці перасохламу горлу.

— Такімі нават дупу падціраць, прабачце, сорамна... — прамовіў лысы і засмяяўся. Астатнія напружана маўчалі. Няёмкую паўзу перапыніла дзяўчына. Падняўшыся і паўстаўшы перад прысутнымі ва ўсёй сваёй красе, яна элегантна падышла да маладога чалавека і стукнула яго кулаком па твары. Галава яго, нібы паветраны шарык, тузанулася направа. Пакуль дзяўчына пацірала кулак, хлопец праглынуў згустак крыві і, падняўшы галаву, паглядзеў ёй прама ў вочы. Твар яго асвяціўся крывавай усмешкай.

— Не бачу нагод для ўсмешак, юнак! — пасля гэтых слоў, дзяўчына села назад за стол і, зрабіўшы выгляд, што нікога акрамя членаў камісіі тут няма, прамовіла:

— Што будзем рабіць з гэтым лайном?

Лысы, які відавочна сімпатызаваў маладой удзельніцы зачыненых працэсаў, выказаўся першым:

— Наша камісія створана не проста так. Годных аўтараў вялікіх твораў мы ўзнагароджваем ганаровым расстрэлам у склепе. Ну а гэта, гэта проста абраза нашага вялікага грамадзянскага грамадства, нашай вялікай думкі асуджанай волі...

Лысага перапыніў сваёй гаворкай удзельнік камісіі, які вёў пратакол:

— Увогуле, я запісваю, што Іванова Сяргея Сцяпанавіча мы пазбаўляем грамадзянства, а таксама права пражывання ў дзяржаве, — зрабіўшы некалькі простых запісаў і паставіўшы кропку ў пратаколе, усе чацвёра пачулі жаласны ўсхліп прыкаванага маладога чалавека.

— Гэта ж якое нахабства трэба мець, каб несці на разгляд камісіі такое... — абурана прамовіла пажылая жанчына. Яна ўстала і, накінуўшы на сябе чорнае скуранное паліто, якое хавала яе грузную постаць, засунула крэсла.

— Часы такія пайшлі, самі разумееце. Ды і прысудзілі мы многіх па заслугах. А гэта... — дзяўчына кіўнула на юнака, які плакаў. — Гэта наогул вырадженцы.

Неўзабаве ўсе чатыры чалавекі пакінулі камісійнае паседжанне. Замест іх зайшоў добра складзены салдат і, з пагардай паглядзеўшы на Іванова, вызваліў яго ад кайданкоў. Іваноў жа нечакана падхапіўся і, сціснуўшы рукі ў кулакі, прыняўся выць, нібы пакрыўджаны старэйшымі дзетсадавец. Салдат моўчкі стукнуў яго прыкладам вінтоўкі ў грудзі. Іваноў з грукатам зваліўся, пакідаючы на падлозе яркія кроплі крыві.

— Вяроўку і мыла. Ну, ці лёзы...Карацей, забярэш на КПП. Там дасведчаныя, — напаследак салдат штурхнуў берцам у бок апальнага паэта. Перш чым сысці з памяшкання, салдат паглядзеў на партрэт Патрыярха і перахрысціўся.

Салдат зачыніў дзверы. Іваноў працягваў ляжаць, напэўна, так да канца і не ўсвядоміўшы сваёй ганебнай долі.

«12 студзеня 2021. Шэсць гадоў як мяне саслалі ў Бійск...»

Кірыла пісаў у сваім дзённіку кожны дзень, як прыехаў у гэты сібірскі горад разам са сваёй каханай. Была раніца. Каханая дзве гадзіны як працавала на заводзе, а Кірыла працягваў пісаць.

«Змушанае маё знаходжанне ў гэтай творчай клаацы павінна падысці да свайго фіналу».

Паставіўшы апошняе шматкроп'е, ён загарнуў сшытак і запаліў. Стрэсваючы попел у бляшаны слоік з-пад кавы, Кірыла разважаў пра тое, якія творы ён панясе на разгляд строгай камісіі і што яму лепш потым зрабіць: павесіцца ці парэзаць сабе вены ў лесе. Ці проста замерзнуць.

— Гэта Алтай, мілы. Тут па начах -52° бывае, — казала яму Сняжанна, калі яны ўпершыню заехалі ў запляснелую хрушчоўку і сядзелі побач з ледзь-ледзь цёплай батарэяй.

Калісьці Бійск быў навукаградам, і ў сценах сакрэтных лабараторый вядучыя розумы даўно забытай краіны праектавалі ракеты ў падарунак далёкаму і страшнаму ворагу. Потым апынулася, што краіна поўная ворагамі ўнутранымі, а не знешнімі, і Бійск зрабілі горадам для людзей, што словамі сваімі маглі данесці ноты пратэсту ў аморфныя масы.

Да канца тэрміна заставалася некалькі дзён. Калі ён нічога не падасць, то яго могуць спісаць як «непатрэбны чалавечы матэрыял» з ганебным штампам «западозраны ў паэтычных справах».

Быць поўным ізгоем ён не жадаў, а свае паэтычныя творы прадставіць на суд рыцараў грамадскасці не асмельваўся.

— Не хадзі туды.... Давай уцячэм... — казала Сняжанна, калі, лежачы ў ложку, яны глядзелі ў столь і слухалі, як вецер лютаваў за акном, перасоўваючы штосекундна тоны снегу па гарыстай мясцовасці неабсяжнай Сібіры. Але ім не схавацца ад пільных камер і ўсюдыісных спадарожнікаў. Кожны ў полі зроку сістэмы.

Кірыла быццам адчуваў сваё прызначэнне. Таму ён сабраў спісаныя лісты ў касую лінейку і акуратна склаў іх у канверт.

Праз некалькі гадзін Сняжанна прыедзе на абед. Магчыма, што да гэтага часу Кірылы ўжо не будзе ў жывых.

Ён зняў з паліцы запыленую тоўстую кнігу і разгарнуў. Паміж дзвюх старонак было схаванае тонкае лязо. У прамянях скупога ранішняга сон-

ца яно блішчала і вабіла. Кірыла акуратна ўзяў лязо і выдрапаў імя каханай на стале. Затым ён разрэзаў далонь і пальцам вывеў крывавае сэрцайка. Рука крывяніла, а Кірыла дзьмуў на малюнак. Кроў на паверхні амаль высахла.

Спехам забінтаваўшы руку, Кірыла надзеў на галаву шапку, а затым накінуў паліто. Да найбліжэйшага аддзела па культуры і прапагандзе было метраў 200. Кірыла часта хадзіў хуткім крокам міма гэтага будынка з чырвонымі дзвярамі і сустракаў позіркі такіх жа ссыльных. Усе хадзілі міма, і ніхто не заходзіў унутр. Дзякуючы ніцым поглядам ён лёгка вызначаў, дзе свае, а дзе шаноўныя службоўцы і адважныя салдаты.

Ідучы па вуліцы, ён жмурыўся, калі марозны вецер дзьмуў яму ў твар. Міма яго мільгалі мінакі, але яны быццам не заўважалі тое, што адбывалася, і імкнуліся як мага хутчэй схавацца ад холаду, які пранімаў да самых костак.

Кірыла прамінуў вялікі шчыт з адзіным белым надпісам на чырвоным фоне «Патрыярх зробіць цябе шчаслівым», завярнуў за панэльную пяціпавярхоўку і спыніўся.

Прама перад ім знаходзіліся масіўныя дзверы. Вакол зусім не было людзей, хіба што з вокнаў за яго дзеяннямі магло назіраць дзіця, якое прапускала школу.

Паэт адчыніў дзверы і зайшоў унутр. Ён прайшоў па лесвіцы на другі паверх і сутыкнуўся з дзяжурным салдатам. Той глядзеў па тэлевізары балет, калі Кірыла прамовіў звыклае «Добры дзень».

— Табе чаго тут трэба? — гультаявата прамовіў салдат і, узяўшы ў левую руку загорнуты ў цэлафан пульт, зменшыў гук. Правай рукой ён размешваў цукар у бляшаным кубку з кіпенем.

— Рыфмы свае жадаю здаць... — адказаў Кірыла. Дзесьці ў іншым канцы калідора чуліся крокі.

— Зразумела... — салдат узяў у рукі аўтамат і ўстаў. Кірыла падумаў, што, магчыма, штосьці змянілася, і яго расстраляюць прама на месцы. — Заплюшчы вочы і не рухайся!

Кірыла аберуч сціснуў торбу з запаветнымі спісанымі лістамі і зажмурыўся.

Удар быў чаканы і раптоўны адначасова. У адзін момант у яго свядомасці быццам падарваліся адразу некалькі тэрмаядзерных зарадаў. Зваліўшыся на падлогу, ён інстыктыўна прыціснуў партфель да сябе, быццам гэта было ягонае адзінае ацалелае дзіця.

Стукнуўшы, салдат паглядзеў на паліраваны прыклад, потым на непрытомнага паэта. Плюнуўшы на яго паліто і штурхнуўшы футравую шапку, якая пакацілася, ён паклаў аўтамат на стол і націснуў на чырвоную кнопку,

хітра ўмантаваную ў сцяну. Неўзабаве аднекуль з доўгага калідора паказаліся два хлопцы ў камуфляжы. У аднаго з іх быў моцна падбіты твар, а другі выглядаў апухлым, быццам не так даўно спажыў шмат спіртазмяшчальнай прадукцыі.

— Чакаем вашых загадаў, сяржант! — прамовіў адзін з іх. Абодва салдаты ўсталі па стойцы «смірна».

— Нясіце цела ў размеркавальнік для гэтых... — сяржант пачасаў патыліцу і пазяхнуў. — Паэтаў, бля...

Маўклівы радавы кіўнуў галавой і, узяўшы непрытомнага Кірылу пад рукі, яны пайшлі кудысьці ўдалячынь па калідоры.

Апрытомнеў Кірыла праз некалькі гадзін. Дрыжучы ад холаду і моцна сціскаючы зубы ад пранізлівага болю ў патыліцы, ён паспрабаваў падняцца. Яго ванітавала.

Кірыла валяўся на металічным скрыпучым ложку, які складаўся з дзвюх жалезных бэлек і перацягнутай паміж імі ржавай металічнай сеткі. На падлозе перад ім сядзеў нягалены мужчына з паніклым поглядам. Мужчына быў захутаны ў коўдру і моўчкі глядзеў у падлогу, зусім не зважаючы на свайго новага суседа. Кірыла не памятаў, як яго сюды прынеслі. Але яму здалося, што гэты чалавек тут сядзеў задоўга да яго.

Абярнуўшыся, Кірыла ўбачыў ракавіну, закратаванае вакно і партрэт Патрыярха над ім. Ён падышоў да ракавіны і прабляваўся. Затым ён павярнуў ручку, і з крана пацякла мутная ледзяная вада. Ён памыў твар і, гледзячы ў акно, чакаў, калі ў вандраванне па ржавых трубах адправіцца мутная вадкасць. Мужчына ў гэты момант хацеў нешта сказаць, але хрыпла закашляўся. Дастаўшы аднекуль з нетраў сваёй коўдры дзіцячае пластмасавае вядзерца, ён сплюнуў слізь і макроцце. Верагодна, мужчына хварэў на сухоты.

— Ты сачы, ..., за парадкам толькі! — хрыпла і зласліва сказаў ён, на што Кірыла ў адказ кіўнуў галавой. Памыўшыся, ён лёг назад на цвёрды ложак і ўтаропіўся ў столь, упрыгожаную чорнай цвіллю па кутах і бруднымі падцёкамі па ўсёй яе паверхні. Ён заплюшчыў вочы і паспрабаваў уявіць, што зараз робіць Сняжанна.

— Распавядзі мне пра Віцебск... Што там было? — пытала яна, седзячы аголеная перад ім. А стан яе адлюстроўваўся ў пыльным люстэрку. У святле Месяца яна здавалася яму дасканалай і ідэальнай.

— А што Віцебск. Горад такі. Беларуская поўнач. Шмат панэльных дамоў і вылізаных пляцаў. З людзьмі... — калі яна пытала штосьці пра яго мінулае, ён заўсёды губляўся і не ведаў, што сказаць».

Яго ўспаміны перапыніў скрэжат масіўных дзвярэй, адлітых з металу, якія пачалі адкрывацца.

У праёме з'явіўся салдат і, паказаўшы пальцам на Кірылу, махнуў зазыўным жэстам.

Кірыла ўстаў і, калі абмінуў салдата, атрымаў прыкладам па спіне. Рэзка рвануўшы наперад і ледзь не зваліўшыся, ён абярнуўся і злосна паглядзеў на рожу салдата, якая ўхмылялася. Зачыніўшы дзверы, салдат дапытліва паглядзеў на Кірылу.

— Чо стаў! Наперад ідзі! Судзіць цябе будуць! — салдат ужо жадаў харкнуць у твар Кірылу, але той павярнуўся і хуткім крокам пайшоў па калідоры.

Сплюнуўшы на падлогу, салдат дадаў:

— Давай без фокусаў, інакш завалю! У дзверы ідзі! — пракрычаў ён яму ўслед.

Кірыла ішоў да адзіных зялёных драўляных дзвярэй, за якімі яго чакаў кабінет прысяжных і іх прысуд адносна напісаных вершаў.

Ён адчыніў дзверы і ўбачыў перад сабой чацвярых.

Мужчыну, цалкам лысага, з высокім складкаватым ілбом. Ён быў адзеты ў чорны пінжак і строга глядзеў на Кірылу. Побач з ім сядзела жанчына. Яна плакала і выцірала насоўкай слёзы з ружовых шчок. За ёй сядзелі два маладыя супрацоўнікі камісіі. Верагодна, браты-двайняты. Абодва з кароткімі стрыжкамі і ў чорных плашчах. Са злымі позіркамі.

Як толькі Кірыла зайшоў, усе чацвёра ўсталі і пакланіліся яму.

— Мы вырашылі не закоўваць вас у кайданкі... — прамовіў мужчына і паказаў рукой на крэсла. Кірыла збянтэжана павітаўся кіўком галавы і сеў на крэсла. За ім апынулася школьная дошка, а крыху вышэй — усюдыісны партрэт Патрыярха. Паглядзеўшы на партрэт, а потым на Кірылу, жанчына перахрысцілася і заплакала яшчэ мацней.

— Ну што ж вы так, Тамара Васільеўна! — сказаў мужчына і абняў раскіслую даму. Адзін з братоў штосьці маляваў у нататніку, другі пагардліва глядзеў на Кірылу.

— Вы... — прамовіла скрозь усхліп дама. — Вы цудоўны! — сказала яна і закрыла твар далонямі.

Блізнюк, які маляваў, глыбока ўздыхнуў і ўстаў. Ён паглядзеў на Кірылу, потым у свой нататнік і на фоне плачу пачаў сваю прамову:

— Паважаны Кірыл Алегавіч Нікадзімаў, мы разгледзелі вашы паэтычныя творы і прызналі іх творамі мастацтва вышэйшай катэгорыі. Акрамя гэтага мы гатовыя вам паведаміць, што ўпершыню за гісторыю нашага слаўнага места вашым паэтычным творам была прысвоена вышэйшая катэгорыя. Паводле нашага заканадаўства, вы прыгаворваецеся да вышэйшай меры пакарання, прычым публічнай, праз павешанне. Ваша пакаранне смерцю будзе запісана памятнай датай у Бійскім летапісе і адбудзецца праз паўгадзіны на галоўным пляцы нашага горада... — скончыўшы, бліз-

нюк закрыў нататнік. Пакуль ён чытаў прысуд паэту, жанчына пацішэла, а лысы супрацоўнік камітэта пацiраў скроні, абдумваючы нешта сваё.

Пасля афіцыйнага абвяшчэння прысуду ў пакой увайшлі ўжо знаёмыя салдаты. Адзін з іх ізноў стукнуў Кірылу па галаве прыкладам. Гэтым разам сімвалічна. Паэт нават не знепрытомнеў, а проста ўпаў на падлогу. Салдаты падхапілі яго пад рукі і панеслі па калідоры.

Як толькі Кірыла апынуўся на свежым марозным паветры, ён глыбока ўздыхнуў і тут жа апынуўся ў аўтазаку, металічная падлога якога была заляпана крывавымі плямамі. У самой металічнай скрынцы стаяў душны смурод. Ад яго ванітавала.

Пакуль Кірыла ехаў на пляц «9 студзеня», скрозь металічныя сценкі аўтазака ён чуў, як з усіх мегафонаў вяшчаюць пра яго будучае пакаранне смерцю. Жыць засталося каля пятнаццаці хвілін. У гэтыя імгненні ён думаў пра Сняжану і ўспамінаў Віцебск. Яшчэ некалькі дзён назад ён уяўляў, як яны разам вернуцца туды і, магчыма, будуць шчаслівыя. Але ён вырашыў абраць іншы шлях. Выканаць прадвызначаны самім Патрыярхам абавязак.

Яго выгрузілі з аўтазака ў п'яны натоўп, які пустымі позіркамі праводзілі паэта на эшафот. Шыбеніца была ўсталяваная ў тэрміновым парадку. Як толькі Кірыла падняўся па рыпучых драўляных прыступках, па натоўпу прайшоў хваляўнічы шэпт. Кожны з гэтай чалавечай цемры глядзеў на яго, а потым шаптаў на вуха таварышу: гэта ж сапраўды ён!

Кірылу быў да лямпачкі натоўп гэтых сілком сагнаных з заводаў разявак. Вачамі ён шукаў сваю Сняжанну. Яна напэўна была дзесьці тут і, стаіўшыся, маўчала.

Побач з ім на эшафоце стаяў паліцыянт — дужы мужчына ў шэрым мундзіры. Грудзі яго ўпрыгожвалі шматлікія ордэны. Пакуль Кірылу рыхтавалі да расправы, паліцыянт казаў у мегафон выкрывальную прамову ў адрас паэта, які рэалізаваў сябе. За імі з адной нагі на другую пераступаў святар. Яму было сумна на ўсім гэтым дзеянні, таму ён проста чакаў, калі ўсё скончыцца, каб можна было прыступіць да сваёй працы.

Паліцыянт заканчваў сваю пранізлівую прамову. Напрыканцы ён казаў штосьці пра Патрыярха, паэзію і гонар. Кірылу было без розніцы. Натоўп жа па большай частцы назіраў за кожным рухам Кірылы і зусім ігнараваў прамовы дзяржаўнага служкі.

Калі яму на шыю надзелі пятлю, а паліцыянт дазволіў смяротніку прамовіць апошняе слова, Кірыла толькі сутаргава кідаў погляд па тварах людзей, якія чакалі расправы над ім.

Раптам, за секунду да смерці, ён поглядам сустрэўся з блакітнымі вачамі Сняжанны. Яна была напалоханая і разгубленая, а твар яе быў

закрыты хусткай. Толькі вочы. Трывожныя, як навальнічныя хмары ў непагадзь.

Кірыла ўсміхнуўся, і падлога пад ім правалілася. Апошняе, што ён пачуў — гучныя апладысменты натоўпу. Смяротны холад абдаў ад ног да галавы. І неўзабаве наступіла цемра.



# Юлія Бажок

паэтка. Закончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Друкавалася ў тыднёвіку «Наша слова», часопісе «Верасень». Нарадзілася ў 1988 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Рэлігія Страху

## 1

*Страх скаваў мяне, звязаў рукі, захапіў у палон — знішчыў фактычна. Бачыш, я не магу рухацца! Я знямеў. Я паралізаваны...*

*Патанаючы ў абдымках страху, які глядзіць на мяне так пажадна, так замілавана, так кранальна, я не магу не аддацца гэтай праяве, не магу з ёю не лічыцца, не магу ў яе не закахацца.*

*Гэтая хвароба, гэтая зараза авалодала мною цалкам: маім целам, маёй душой, маім сэрцам... Цяпер я не ўладар сабе. Цяпер я не гаспадар сябе. Я разгублены... Я згублены. Я — загублены!*

*Ёсць найвышэйшая сіла, што кіруе ўсімі маімі дзеяннямі, ператвараючы іх у бяздзеянне. Сіла гэтая і ёсць мая новая рэлігія, і імя ёй — Страх. Вось мой бог, і я яму не служка, але раб.*

* * *

Неяк дазволіўшы сабе задужа сур'ёзна задумацца над сваім жыццём, сваімі ўчынкамі ў ім (дарэчы, гэта была фатальная памылка), я яскрава і яўна адчула цень страху, што стаў маім надзейным спадарожнікам: у любой дзеі, у любой задуме — паўсюдна.

Нерашучасць, абачлівасць, няўпэўненасць народжаны страхам. Краты, замкі, ланцугі — спарадзіў страх. Міфалогія, рэлігія, псіхалогія — плён працы страху. Пан Страх — міфатворца, заканадаўца ды прафесар тэалогіі. Улада ягоная настолькі неабмежаваная і неабсяжная, што знаходзіцца няшмат тых, хто спрабуе з ім змагацца, і шчэ меней тых, хто яго адольвае.

Не збіраючыся паглыбляцца ў такія галіны навуковай веды як нейрапсіхалогія, псіхааналіз ці нешта да таго падобнае, паспрабую зрабіць лёгкія псеўдаэсэістычныя замалёўкі маёй хваробы...

* * *

Чамусьці з маленства яскравей за ўсё астатняе прыгадваюцца розныя жахі: злавесныя сны, боль страты дзеда, вусціш цемры, як кусалі сабакі, як, упаўшы, раздзірала да крыві руку ці нагу (адпаведна з тым і боль). Ніколі не забуду, як малой гулялася з сяброўкай у падвальным памяшканні ейнай прыватнай хаты. Дзяўчо, каб павесяліцца, выключыла дзесь святло і пабегла знаёмым бяспечным шляхам вонкі, я ж

запомніла толькі адну лесвіцу-сходы, што была не так далёка ад месца майго тагачаснага знаходжання, туды я і кінулася, пакуль памятала кірунак. Узняўшыся на прыступак сем-восем, я зразумела (хутчэй прыгадала), што парэнчаў няма, лесвіца вузкаватая, а адлегласць да сцен немалая. Мяне ахапіў не проста страх, гэта было нешта жывое і магутнае, нешта ўзбуджальна неверагоднае, жахлівае і прыгожае ў сабе — адначасна. Відаць, ужо з таго часу салодкі прысмак страху не дазваляе мне на яго забыцца.

Падчас спробы аналізу гэтага пачуцця ў галаву прыходзіць паралель з вядомай са школы тэорыяй тварэння разнастайных рэлігійных веравандняў, кшталту: нашыя продкі баяліся маланкі, таму прыдумалі Перуна; не ведалі, чаму дзесьці зямля родзіць, а дзесьці не, таму прыносілі ёй ахвяры і д. п. Магчыма, так усё і было, але прычына тут не нейкі там страх ці няведаць, але пачуццё жывёльнае, першаснае. Пачуццё архаічнае, старажытна спрадвечнае.

У дзяцінстве ў мяне было шмат разнастайных тэорый пра таямніцу жыцця, смерці і паслясмерці. Больш за ўсё прыводзіла ў трапяткое ўзрушэнне пытанне — куды? Куды пасля? Як там? У пошуку адказу я праводзіла нямала часу, гэты вышук і склаў мой дзіцячы рэлігійны досвед. Досвед, набыты дзякуючы хваробе на страх і няведаць. Бывала, Там — мне ўяўлялася як суцэльна белая Пустэча, дзе можна растаць, не адчуўшы гэтага, і нават не разумець, што ты ёсць. Гэтая тэорыя прыводзіла ў жахлівае захапленне. Не меншы сполах выклікалі ідэі лялечнага доміка, планеты-люстра ці падабенства да свету Гарганцюа ці Гулівера. Хрысціянскі Бог мне ўяўляўся такім жа казачным, але палохаў менш. І, сапраўды, Вялікі Ілуватар жахае, напрыклад, нашмат мацней.

* * *

Дзесь гадоў з пяці-шасці, калі ў мяне было дужа шмат пытанняў адносна навакольнай рэчаіснасці, а адказы дарослых не задавальнялі, я ўявіла, што недзе ёсць мудры стары, які ўсё ведае і зможа мне ўсё-ўсё патлумачыць. Прычым патлумачыць правільна, так, як і я сама адчуваю гэты свет. Я ведала, што ў пэўны час гэты стары сустрэнецца мне на маім жыццёвым шляху і тады я перастану баяцца невядомага, праз валоданне нейкімі магутнымі таемнымі ведамі я стану ўпэўненай, стану смелай...

І хаця дзяцінства даўно мінула, а шчырая наіўнасць знікла разам з вобразам Гэндальфа Белага, я ўсё ж адчуваю, што недзе ў гэтым свеце ёсць нехта ці нешта, што можа падказаць мне шлях, — і я не буду больш баяцца. І гэта не герой твораў Толкіена. Можа, гэта я сама?

* * *

Малой я да ўсіх ставілася прыязна і адкрыта, з даверлівай усмешкай і інтарэсам. І адзін укус сабакі, ці жахлівы сон, не могуць так змяніць. Тут яшчэ нешта. Тут шмат чаго яшчэ. Цэлая гісторыя абрастання страхамі. І тыя цудоўныя непасрэднасць, цэласнасць і бясстрашша аказваюцца забітымі і запалоханымі пагрозамі «забірання незнаёмцамі», «пакарання за непаслушэнства»... Паціху разуменне здаровай засцярогі ад агню ці вострага ляза пачынае падмяняцца хваравітым, развітым да фобіі жахам перад незнаёмым чалавекам, вышынёй, цемрай... Калі ж адбываецца такі глабальны пераход на іншы лад адчування? Праз пачуццё таго, што навокал мала праўды? Той праўды, якую перажываў у дзіцячых марах і ў той далёкай забытай рэчаіснасці: калі захацець, і мора можна пераплысці; можна авалодаць сотнямі моваў (і катовай, і птушынай у тым ліку); можна сябраваць з усімі запар, бо ўсе цікавыя; можна стаць хлопцам з часам (і гэта натуральна!); можна гуляцца з якімі заўгодна жывёламі, бо ўсе яны файныя і бяспечныя... Але мама сказала, што хлопчыкам я стаць не змагу; а тое, пра што брэша суседская лайка, я так і не змагла зразумець, як ні высільвалася; а на маё наіўнае пытанне: «Дзяўчынка, дзяўчынка, а ці можна з табой пазнаёміцца?» — тая зласліва адказала: «Я не дзяўчына. Я хлопчык!»; а працягнутая да мілага сабачкі далонька з намерам пагладзіць нечакана аказваецца скусанай да косткі... Але ж большасць сутыкаецца з падобным, але не кожны паддаецца адчаю і аддае сябе ва ўладу страху. Так, на свеце шмат бязбожнікаў.

Мне ж, зрэшты, страх падаецца даволі ўзбуджальна-эратычным, чымсьці сэксуальна-таямнічым. Апантанасць ім блізкая нават да залежнасці. Бо ці не тыя пачуцці, якія ўзнаўляеш падчас яго перажывання, можна знайсці ў жарсцях. І ці можна пасля разумення яго сілы з ім развітацца?! Гэта як надзейнае «Супер-8» у кішэні!

## 2

*Страх гуляецца з табою, ён табе ўсміхаецца, з цябе смяецца. Глядзі, ты зноў, як станіна, белы. Ты здранцвелы. Ты скамянелы...*

*Табе шчэрыцца страх, агаліўшы жамчуговыя іклы, выхваляецца да болю ў вачох белым выскалам, разявае рот натаемны даверліва з языком цёплым, трутнаслінным, салодкім да спазмы, да задухі, да млосці. Гэта ты ў люстэрка глядзішся!*

*Палюбіцца з сабою не можаш ці не хочаш альбо не жадаеш, сліны з вужынай пашчы пускаеш. І ні дух, ні твая абалонка, ні крыві намяшаная*

*гронка за табой у люстэрка пільнуюць. Тое ты праз стуленыя павекі, праз хлусліва прыкрытыя вейкі, праз вачніцаў счарнелыя дзіркі за сабою ў снах назіраеш. І жахаешся Тым, каго бачыш. І праз тое, Яго больш жахаеш.*

*Таму страх, найвышэйшая сіла, што цябе, бы ягня, захапіла.*

*Тое вера твая — твой Страх!*

* * *

Ачышчэнне. Вызваленне. Знаёмства з сабою і сваімі страхамі адбываецца тады, калі гэтага сапраўды прагнеш. Ды нават і не прагнеш, а імкнешся, рухаешся наперад, адразу напрасткі. Калі шалёна набліжаешся да мэты, тым самым яе напраўду набліжаючы. І вось ты адмыкаеш брамку. Пачынаеш успрымаць сэнсы. Бяспынна чытаеш адказы

Але шлях той няпросты: ён напоўнены перашкодамі, ён зацярушаны, ён пакрыты смугою. І гэты туман — ты сам. І тады люстэркавы адбітак трызненняў становіцца тонкім лёдам аблудным і ствараецца процьма расколінаў пад подыхам страху. І цяпло тады не грэе, але апякае. Вада не спатольвае смагі, але патыхае гнілінай. А калодзеж з жыццёваю сілай перасохлы і засыпаны жвірам.

Вакол цьмяна, марозна, пустэльна. Толькі вецер аднекуль прыносіць выццё зграі здзічэла-няўмольнай.

* * *

І ты клічаш ваўкоў падсвядома спачатку. Сам яшчэ не зразумеўшы, што ўсёю душою, нутром анямелым прагнеш гэтай дзікунскай сустрэчы. Бо памяць пра страх зноў авалодала целам, ты цяпер апантана шукаеш таго грузкага плену-палону, калі вушы напоўнены звонам, а язык прыляплёны да нёба, і мурашкі гуляюць па спіне, рукі-ногі табе не належаць, а свядомасцю нешта кіруе чужое. Гэта тое, чаго ты чакаеш. Гэта нешта інакшае, штосьці, што розніцца з простым штодзённым жыццём без эмоцый. І вось выклік твой стаў ужо шэптам, ціха хеўру сюды зазываеш. Усё гучнее, гучнее твой покліч: «Ну і дзе вы? Чаму не ідзеце?». Потым сцішся, правер, ці ўчулі? Бо, мажліва, што гэта для смеху, нібы жарт-насланнё, адбылося. Але ветру той жарт не даступны. Ды ён ветліва подых воўчы прыносіць і да вуха зглушэлага ўвішна кідае: «Яны ўжо блізка».

Тут ужо ты зусім бескантрольны, табе падаецца немагчымай магчымасць дыхання. Ты не можаш быць існым. Бо так не бывае! Не, няма іх. Гэта трызненне, выдумка, глупства. Ты не клікаў воўчы хаўрус. Але хто гэта з горла твайго так вярэдліва выкрыкнуў-гукнуў і да прысмаку солі ў роце дзіка роў, атупела ды з шалам. Потым сцішана ўслухваўся ў звонкі,

непазбежны драпежніцкі прыгук. Але то — цішыня і самота. І вось зноў у судлівым адчаі, бо цяпер табе ўсё відавочна: не мінуеш таго ты спаткання. І не выжыць ніяк без сустрэчы з тымі жарсна чаканымі пашчамі. І штомоцы напружыўшы звязкі, ты заклённа крычыш аб з'яданні. Бо ўжо хопіць у пячорах хавацца, ці блукаць па змярцвелых пустэльнях, і ў дубравы-лясы выпраўляцца! Больш падманваць, маніць і штукарыць ты сабе дазваляць не дазволіш...

У трывожным чаканні сутычкі тваё цела знайшло ратаванне. Так, тут выйсце адно — раздзіранне. На асобныя часціны раз'яднанне. І ўсё ж ты не знікнеш бясследна, тваё сэрца прадведае гэта. Нібы змушанасць пераўвасаблення, ці магчымасць да перастварэння, ты бясспынна чакаў з нараджэння. Ці не выпадак тое шчаслівы, растварыцца ў іншых дашчэнту, што складуць непадзельную сілу, і тым самым стаць часткаю сілы. Непарушнай, суцэльнай, адзінай. Каб з'яднацца з ваўчынай зграяй, трэба ведаць патрэбныя словы, бо інакш рытуал не пачнецца і драпежнік у бок пакіруе:

*«Поўсць на валосссе,*
*шкура на скуру,*
*узнёткі на ступы,*
*цяглы на галёнкі,*
*сцягніцы на сцёгны,*
*галы на крумянкі,*
*лапы на рукі,*
*кіпцюры на пазногці,*
*дрыбы на рэбры,*
*шкілет на хрыбетнік,*
*вантробы на страўнік,*
*чаровы на кішкі,*
*пугі на жылы,*
*юшка на кроў,*
*чубы на чупрыну,*
*зенкі на зрэнкі,*
*іклы на зубы,*
*грызлы на вусны,*
*гартань на дыхніцу,*
*карак на шыю,*
*грудзіна на грудзі,*
*ды*
*сэрца на сэрца!»*



# Раман Абрамчук

празаік, паэт. Закончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і аспірантуру пры ім. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску

# Радыё-хіт

Прадзюсар даўно хацеў здзівіць Слухача новым хітом. Шукаў тэму. Апошнім часам яго захаплялі храпы зуброў, якія ён убачыў у Белавежскай пушчы, калі адпачываў там з сям'ёй. І ўжо тады, шпацыруючы ўздоўж вальераў, Прадзюсар падумаў, што няблага было б зрабіць песню на экалагічную тэму — досыць ужо гэтых «Я так ждала, любовь прошла». Але цяпер ён сядзеў у гарадскім офісе, і гэта быў звычайны будні дзень, за вакном — пахмурна. «Не, зубры... Якой халеры.. Нікога не цяпне», — падумаў ён. Калі ў офіс наведаўся Паэт, які зрэдзь часу папісваў тэксцікі пад заказ, Прадзюсар выклаў на стол задатак і папрасіў тэкст, каб абавязкова рыфмавалася «сэксапільная» і «ванільная»... Паэт чухаў патыліцу — яму вельмі хацелася выплеснуць на паперу свае ўражанні ад мора, якое лашчыла яму ногі ўсяго яшчэ пару тыдняў таму падчас адпачынку. Ён яскрава запомніў: калі сонца падымалася над морам на пэўную вышыню — водная роўнядзь пачынала пускаць блікі: марскія кроплі і плёскі пранізваліся яркімі промнямі, мора і сонца пачыналі гуляцца адно з адным. Адбівала так, што вочы не маглі вытрываць бляску гэтых тысячаў сонечных зайчыкаў... Але раптам Паэт збаяўся, што Прадзюсар не аддасць другую палову ганарара, і хутчэй выгнаў зайчыкаў са сваёй галавы. За працу — сказаў ён сабе. Увечары быў гатовы новы набор чатырохрадкоўяў з прыпевам: «Ты вся такая сексапильная/ Дари мне радости ванильные». Прадзюсар, убачыўшы тэкст, стомлена ўздыхнуў у знак згоды, і перадаў песню знаёмаму Кампазітару. Кампазітар зразумеў па першых словах, што за «плясалка» гэта павінна быць. Але ў яго галаве даўно гучала мелодыя вечаровага горада. Ён так і марыў пераплавіць аранжавае святло ліхтароў, шум самотнага тралейбуса і няспешныя крокі па бруку — у ціхую, пранікнёную музыку. Але... нават калі гэта і склеіцца неяк з тэкстам, — падумаў Кампазітар, — усё адно Слухач чакае іншага. І Кампазітар хуценька скляпаў модны «дэнс» з характэрнымі сэкс-уздыхамі, адпаведна зместу песні. Прадзюсар, пачуўшы, яшчэ раз стомлена ўздыхнуў і панёс новаспечаны «трэк» знаёмаму Радыё-рэдактару. Той, нават не праслухоўваючы, адправіў у эфір, бо даўно ведаў Прадзюсара з яго таварам. Радыё-дзіджэй, складаючы праграму, з першых нотак уцяміў, што яму падсунулі, і хацеў адразу адправіць файл у сметнік, але раптам падумаў пра надбаўку за месяц (ён збіраў грошы на паездку на адзін фестываль у Еўропе), і паставіў песню ў плэй-ліст — абы начальнік быў задаволены. Слухач ехаў у машыне ў кампаніі сваіх бізнэс-партнёраў з Нямеччыны, якіх вёз на чарговыя «запоіны» ў адну з кавярняў за горадам дзеля паспяховага заключэння дамовы. З магнітолы пачуліся

аргазменныя ўздыхі і штосьці пра «наш ванилин... любовью заедим...» Ён ледзь не званітаваў ад агіды, бо са школы выхоўваўся на піцерскім року, але хтосьці з салона выкрыкнуў: «О-ля-ля! Гут! Гут!», — і гучна зарагатаў. Слухач павярнуўся ў яго бок са скрыўленым тварам, але пасля недарэчнай паўзы расцягнуў гумовую ўсмешку і паказаў «клас» сваім нямецкім гасцям. І толькі вадзіцель — як быццам нічога не заўважаючы — беспардонна перапстрыкнуў на іншы канал. Назаўтра ён усё адно збіраўся пісаць заяву аб звальненні.



# Аляксандра Сымановіч

**празаік, паэтка. Скончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы ў 2008 годзе па спецыяльнасці «Правазнаўства». Працуе ў АУВП «Гродзенская гарадская жыллёва-камунальная гаспадарка». Нарадзілася ў 1986 годзе ў Лідзе. Жыве ў Гародні.**

# Маё сэрца

Напэўна, я рабіў шмат нядобрых рэчаў. Гэта дрэнна... Але ж мне ніколі не было сорамна за ўсе мае ўчынкі. Гэта яшчэ горш... Шмат разоў я задумваўся аб тым, які я і што я адчуваю, і ці ёсць у мяне ўвогуле сэрца. Жывучы зусім не так, як трэба мне, і не так, як патрабавала ад мяне грамадства, аналізуючы сваё існаванне ў гэтым даволі дзіўным для мяне свеце, я схіляўся да думкі, што сэрца ў мяне няма. Я не адчуваў ні болю, ні страху, ні злосці, ні любові. Я не бываў шчаслівы, але і не пакутаваў ніколі. Я проста жыў, так, як хацеў, зусім не хвалюючыся за адсутнасць у мяне якіх-небудзь прыкметаў сардэчнасці. Зусім дзіўным я лічыў тое, калі людзі скардзіліся на свае сардэчныя пакуты і страшэнны боль. Я не разумеў іх. Ды й, шчыра кажучы, і не хацеў разумець. Маё жыццё падабалася мне, маё існаванне не прыносіла мне ніякіх турбот, я быў заўсёды задавольны сабой. А сэрца... што пра яго казаць, я быў упэўнены, што яго няма.

Так я лічыў да той пары, пакуль не апынуўся на аперацыйным стале пад нажом знакамітага хірурга, які павінен быў рабіць мне аперацыю. Сардэчны прыступ застаў мяне знянацку, я не заўважыў, як хутка апынуўся ў бальніцы. Напэўна, я ўпаў у нейкае забыццё... Я мог чуць толькі якіясь аддаленыя чалавечыя галасы: «Хутка, хутка, засталіся лічаныя хвіліны!», «У аперацыйную, хутчэй!» Я не ведаю, што са мной здарылася, нейкая хвароба моцна схапіла мяне сваімі рукамі. «Скальпель... вось тут... вось так... трымайце...» — я чуў вось ужо некалькі хвілін. Я не разумеў, што адбываецца, я павінен быў быць пад дзеяннем моцнага наркозу і нічога не чуць, і тым больш нічога не адчуваць! Але... рука доктара дакранулася да майго сэрца... Я востра адчуў непрыемны дотык слізкіх пальчатак. Доктара я не бачыў. Рукі яго нешта шукалі ўнутры мяне, ён бесперапынна нешта бубніў. І я ўпершыню адчуў боль...

Я не зразумеў прыроду гэтага болю і прычыны яго ўзнікнення, але ж я адчуваў яго ясна і... ўсім сэрцам... Я не ведаў, як такое можа быць і чаму гэта здарылася са мной. Боль майго сэрца быў даволі дзіўны. Напалову ад жорсткіх надрэзаў доктара, напалову ад якіхсьці сасудаў, што адмовіліся далей працаваць, мой арганізм быў аслаблены, але ж я адчуваў, што прырода майго болю ў нечым іншым. Расчараванне, пакуты і крах няздзейсненых мараў і надзей чапляліся за маё сэрца і моцна трымаліся за яго. Бедны доктар, на жаль, не мог іх адрэзаць сваім спрытным скальпелем...

Я не хацеў гэта адчуваць. Я не хацеў цярпець тое, што гадамі было мне невядома. У мяне няма сэрца! Я так лічыў! Я быў упэўнены ў гэтым! Я старанна змагаўся з тым, што ўсё аказалася інакш. Мне хацелася крычаць і маліць доктара, каб ён укалоў мне сто ўколаў, даў мільён таблетак, каб я

праваліўся ў глыбокі сон. Але ж я не здолеў сказаць ні слова. Маё цела не слухалася мяне, я ляжаў нерухома. Я мог толькі думаць і адчуваць.

Нарэшце, я вырашыў паддацца сваім думкам і паплыць кудысьці ўдалеч, куды яны клікалі мяне за сабой...

Я ляжаў і разважаў, да чаго падобна маё сэрца... Напэўна, гэта лабірынт... Я не мог нічога ў ім знайсці. Верагодна, самае патаемнае ляжала недзе там, куды мне не было магчымасці дабрацца. Я ўсё блукаў і блукаў у гэтых цёмных калідорах, шукаў хоць нейкае выйсце, але ж пастаянна апынаўся ў тупіку. Здавалася, гэты шлях — бясконцы, і ўсё роўна няма ніякага выйсця. Маё асабістае сэрца мяне жа і блытала, лабірынт не сканчаўся, і цемра навечна паглынала мяне...

А можа быць, маё сэрца — гэта кубак... Кубак, які заўжды напалову пусты, які я ўсё старанна спрабую нечым запоўніць, але ж ён толькі пагаршаецца ад розных субстанцыяў, што я ў яго заліваю. Часам я лью ўсяго так шмат, што ўсё выліваецца праз верх і залівае ўсіх побач, а я ўжо не бачу нічога, бо ўсё заліта нечым незразумелым. Я спусташаю кубак і застаюся ні з чым...

Магчыма, маё сэрца — гэта полымя... Яму ўсё адно, хто перад ім і якія ў яго імкненні. Полымя спальвае ўсіх і ўсё, што бачыць. І застаецца толькі попел... Яно спальвае мары і надзеі, жаль і пакуты, злосць і радасць. Яно такое яркае, што асляпляе вочы, і я іду кудысьці, не ведаю куды, магчыма, па якойсьці выпаленай зямлі да якіхсьці спаленых пачуццяў. Усё, што я бачу — толькі полымя, а ў ім нешта згарае, а што... я ўжо не магу разглядзець...

Здалося мне, маё сэрца падобна да палаца... Стаіць вось такі прыгожы палац і, напэўна, камусьці вельмі падабаецца, а колькі таямніц ён сцеражэ! Палац даволі стары, але ж прасторны. Штосьці ў ім ужо даўно заржавела і пакрылася пылам, штосьці зламалася і ўжо ніколі не будзе працаваць, штосьці згніло ды смярдзіць, штосьці забыта ў якіхсьці пакоях, куды ніхто ніколі не заходзіць. Адное ведаю дакладна — у палацы няма святла. Электрычнасць адсутнічае, свечкі не запальваюцца ад сырасці, якая вось ужо шмат стагоддзяў атакуе мой цудоўны палац. Поўны змрок і непрагляднасць. Цёмна, як ноччу, без ніякага прасвету. Хтосьці заходзіць туды, але, прабыўшы нядоўгі час і ўбачыўшы, што ніякага святла няма і чакаць прыемнасцей не прыйдзецца, сумна накіроўваецца назад. Вось так і заўсёды... Дзверы адчынены, народ ходзіць туды-сюды, але ж ніхто тут не затрымліваецца, бо, напэўна, ведаюць, што палац, нягледзячы на ўсю сваю прыгажосць, нежылы. Усё ўжо даўно памерла ў ім і перастала змагацца з часам і пакутамі. Але ж я ведаю больш за іншых. Я ведаю, што ў палацы ёсць патаемныя пакоі, куды ніхто і ніколі не заходзіў, пакоі, зачыненыя на мільён замкоў, ключы ад якіх я навечна згубіў. Ніхто не зойдзе ў гэты пакой, бо я яму не дазволю. І... ніхто і не выйдзе адтуль... Я памятаю, як у адным з іх я зачыніў Каханне... У пакоі без вакон, у цёмным і страшным, але ж там усё

роўна засталося святло, само Каханне асвячала сабе шлях. Я не памятаю, дзе гэты пакой і, тым больш, дзе ад яго ключ. Навошто мне гэта? Ніхто там вось ужо колькі часу не жыве, люстэркі разбіты, дах прадзіравіўся — палац чакае свайго апошняга часу...

Часам мне здавалася, што маё сэрца — гэта лес... Лес цёмны і беспрасветны. Ніхто нічога не можа ў ім разгледзець, у тым ліку і я. Што за дрэвы там растуць? Хто яго ведае! Нешта расце, нешта развіваецца, нешта ламаецца і гіне, а потым вырастае нешта новае, і ўсё пачынаецца зноўку. У лес ніхто не заходзіць — страшацца. Ён маўклівы і непрыветлівы, хавае ў сабе нейкія жахі ды турботы. Вось так стаіць дзесьці на ўскраіне жыцця, і ніхто яго не заўважае, ці робіць выгляд, што не заўважае, каб лягчэй было абыходзіць бокам і не хвалявацца. Доктарскі скальпель бліснуў, як сонейка над лесам, рэзка пасвятлела, і я заўважыў паляны, нават кветкі, а яшчэ птушак і жывёл, яны аб нечым гаварылі на сваёй мове, аб нечым, напэўна, спрачаліся, дрэва радасці заківала мне сваім лісцем, і я здзівіўся, што лес аказаўся жывым! Чаму ж я раней гэтага не заўважаў? Чаго я чакаў?

Не, хутчэй маё сэрца — гэта кніга... У гэтай кнізе шмат старонак. Я сам іх пішу. Што прыдумаю, тое і запішу. Няма ў ёй ні сюжэта, ні лагічнага выкладання матэрыялу, усё неяк сумна і нецікава. Старонкі ўжо старыя і падраныя, часам залітыя нечым. Непрыгожыя плямы, якія немагчыма звесці, красуюцца на калісьці былых беласнежнымі старонках, і ўжо немагчыма прачытаць, што там было напісана — можа, нейкая частка гісторыі кахання, можа, апісанне нейкіх прыгод, можа, некалькі старонак аб вялікім сяброўстве. Нічога не разабраць. Змест кнігі недзе згубіўся, таму пра што яна, не ведаю нават я, бо ніколі яе не перачытваю. У якім стане знаходзіцца — у такім і пыліцца на паліцы. Ну й няхай! Часам зусім няма жадання запісваць нешта туды, хочацца паставіць тлустую кропку і напісаць «Канец». Але ж штосьці не дае зрабіць гэтага, і я пішу зноў... Што пішу — сам не ведаю, таленту ж няма...

Здаецца мне часам, што сэрца маё падобна да тарнада... Кружыць і кружыць з неверагоднай хуткасцю ў якімсьці рэгіёне, збірае ўсё што трэба і не трэба, а потым выкідвае дзесьці, бо нічога не спатрэбілася і зноў імчыцца шалёна кудысьці, не ведаючы куды... Тарнада страшыць людзей, усе хаваюцца ад яго, і яно, сам на сам з сабою жыве і вядзе ўсё той жа самы лад жыцця, не зразумелы нікому...

Так я ляжаў і разважаў, усё працягваючы чуць галасы і адчуваць боль. Усё жыццё я жыў з думкай, што ў мяне няма сэрдца, а зараз я нешта адчуваў! Пачуцці! Як дзіўна! Прынамсі, адмаўляць той факт, што ўнутры нешта варушылася, было нельга. Я марыў і на штосьці спадзяваўся. Магчыма, хацеў, каб доктар быў здольны тварыць цуды сваім скальпелем. Я марыў аб тым, як вярнуся да жыцця, як усё будзе інакш, як я іншым позіркам

пагляджу на сябе і свае ўчынкі, як я пачну ўсё з чыстага ліста, як адкрыю сваё сэрца для іншых і буду запаўняць яго ўсё новымі і новымі пачуццямі. Я ўжо намаляваў сабе мільёны цудоўных малюнкаў, на якіх я зусім іншы, добры, сардэчны, я ўжо нават прадбачыў, як я ўсё буду адчуваць інакш, як з кожным днём штосьці новае і новае будзе варушыцца ў маёй душы, прачынацца, тварыць нешта, да чаго я толькі цягнуўся сваімі нясмелымі марамі. Мне здавалася, што я не паміраю, а, наадварот, нараджаюся на гэтым аперацыйным стале, што ўсё змяняецца да лепшага... Нечакана я адчуў нясцерпны боль і ўбачыў святло... Дзіўна, але ў ім я не бачыў ні доктара, ні яго памочнікаў, я наогул нічога не бачыў, акрамя гэтага святла. Здавалася, боль будзе бясконцым. Я чуў галасы. Зараз я ведаў, я адчуваў, што маё сэрца існуе, яно жывое і жадае расказаць пра сябе! Але я так і не вырашыў, да чаго ж яно больш падобна, можа, яно не падобна ні да чаго і не падобна да іншых сэрцаў, яно зусім незвычайнае і асаблівае, я так і не зразумеў, што там у ім, што там... што там...

— Што там? Што там, доктар? — пачуліся зноў галасы.

— Ды нічога... — ціха адказаў доктар, — надта позна... я зрабіў усё, што мог... нічога асаблівага... звычайнае сэрца, але ж, на жаль, не здолелі захаваць...

«Нічога асаблівага... Звычайнае сэрца...» — апошняе, што я запомніў у гэтым жыцці...

# Крылы

Аліна цудам засталася жывой. Яе машына была разбіта ўшчэнт. Як яна здолела вылецець і не загінуць у гэтай катастрофе, яна дагэтуль не можа зразумець. Дактары былі здзіўлены не менш за Аліну. У яе не было пашкоджана ніводнага органа, нічога не было зламана, не было ніводнага сіняка і драпіны. Усё, амаль усё было ў норме, акрамя... яе памяці...

Аліна памятала толькі тое, што яна Аліна і што трапіла ў страшную аўтакатастрофу, якая магла скончыцца для яе горш. А так дзяўчына толькі атрымала паперу з дыягназам «Амнезія» і накіравалася дамоў пасля выпіскі, паабяцаўшы дактарам, што абавязкова будзе прыходзіць да іх на штотыднёвае абследванне.

Гледзячы на паперу з запісаным адрасам, Аліна стаяла перад кватэрай нумар чатырнаццаць і ўсё ніяк не магла паверыць, што гэта яе дом. Папера, якую яна трымала ў руцэ, моўчкі адмаўляла ўсе сумненні. Апасля нядоўгага перабору ключоў з вялікай звязкі, дзяўчына адчыніла дзверы і апынулася ў кватэры, якая здалася ёй даволі знаёмай, але ж ніякіх дэталяў свайго дома ўспомніць яна не магла. Нічога не заставалася, як пачынаць

жыць зноў, у новай кватэры з новымі людзьмі, з новымі пачуццямі, з новымі марамі і памкненнямі. Колькі гэта павінна было працягвацца — яна не ведала. У бальніцы ёй сказалі, што амнезія — гэта вынік стрэсу, які яна перажыла, абаронная рэакцыя арганізма, хутка гэта павінна прайсці і памяць вернецца. Аліна жадала, каб гэта «хутка» настала як мага раней, бо лічыць сябе чужаніцай у сваёй жа кватэры ёй не надта падабалася.

Дзяўчына пахадзіла з пакоя ў пакой, не знайшла нічога, што вярнула б ёй памяць. Усё было звычайна ды проста. Адзіны толькі факт прыцягнуў яе ўвагу: у сметніцы для папер ляжалі абрыўкі разарванай фотакарткі. Аліна вырашала паспрабаваць скласці яе зноў у надзеі ўспомніць хоць каго-небудзь з гэтага здымка, а, можа, і штосьці больш. Справа аказалася не надта складанай, праз хвілін пяць фотакартка была сабрана ў адзінае цэлае і старанна заклеена скотчам. Выгляд у адроджанага фота быў не надта прывабны — пераклееныя твары Аліны і нейкага маладога хлопца з надарванымі ўсмешкамі і вачыма. Але разглядзець агульныя рысы было магчыма. Дзяўчына ўважліва паглядзела на сваю выяву і прызнала той факт, што на гэтым здымку яна даволі прыгожая і шчаслівая, усміхаецца быццам бы шчыра і без падману. Малады хлопец трохі схіліўся да яе і таксама ўсміхаўся, але больш гонарна і скептычна. Аліна доўга глядзела на два твары... Доўга спрабавала хоць што-небудзь успомніць, хаця б якія-небудзь падрабязнасці пра яе і гэтага хлопца. Яна марыла, каб дзесьці ў душы нешта варухнулася, зноўку з'явіліся пачуцці, але нутро ўпарта маўчала. Нічога. Ніводнага пачуцця, ніводнай зачэпкі. Аліна была ў адчаі. Аб чым бы яна не хацела падумаць, нічога не мела дачынення да рэчаіснасці, у якой не было нічога, акрамя яе «амнезіі». Дзяўчына яшчэ раз паглядзела на фотакартку і нечакана адчула востры боль у спіне, быццам хтосьці вельмі павольна рэзаў яе нажом. Адкінула здымак убок, боль трохі сціх, што вельмі здзівіла яе. Але, памятаючы пра сваю хваробу, яна палічыла, што гэта нармальна, і, магчыма, з'яўляецца нейкімі скрытымі праявамі яе не зусім здаровага стану.

Аліна лягла на канапу і выцягнула ногі. Мары панеслі яе кудысьці ўвышыню... Яе мозг па-ранейшаму адмаўляўся нешта ўспамінаць, і дзяўчына сама намалявала сабе тое, што было недаступна. Яна пачала марыць аб тым, якім яно было, яе жыццё, да гэтай катастрофы... У яе быў цудоўны дом на беразе мора... Ах, не, дома ў яе не было, тут марыць было недазволена. Аліна жыла ў кватэры, дзе стаяла яе старая канапа, яна была ў рэчаіснасці і спрачацца з ёй, на жаль, было немагчыма. Ну і добра, няма дома, дык няма. Аліна жыла ў кватэры. Гэта было непазбежна. Сёння яна атрымала ключ і сваімі рукамі адчыніла дзверы, і зараз ляжала, гледзячы на белую столь у гэтай жа самай кватэры. Яна марыла далей... У сваім доме (ах, кватэры!) жыла яна з прыгожым і добрым мужам... і была вельмі-

вельмі шчаслівая... Дзяўчына паглядзела на фотаздымак і ўпэўніла сябе, што хлопец цалкам падыходзіць на ролю яе каханага. Нечакана яна зноў адчула боль у спіне, і бясконцая плынь матраў спынілася. Не было жадання прыдумваць нешта далей. Аліна паглядзела на столь, потым на падлогу, але не знайшла для сябе нічога прывабнага. Не ведаючы, што рабіць далей, моцна заплюшчыла вочы...

Нечакана ў дзверы пазванілі. «О, цікава, хто гэта?» — трохі ажывілася Аліна і пайшла хутчэй адчыняць.

На парозе стаяў мужчына, значна старэйшы за дзяўчыну, які радасна ўсміхаўся ёй.

— Алінка, родненькая, ну, нарэшце ты дома! Як жа я сумаваў па табе!!! — мужчына моцна абняў яе і пацалаваў у шчаку.

Аліна напружыла ўсю сваю памяць, але не здолела ўспомніць нічога — ні імя гэтага мужчыны, ні кім ён ёй прыходзіўся, ні як мог трапіць сюды. У галаве было цёмна ды пуста. І, відавочна, яе стары знаёмы ператварыўся для яе ў абсалютнага незнаёмца. Але ж штосьці ў ім здалося дзяўчыне даволі знаёмым і родным (можа, гэта яе бацька?!), і калі ён абдымаў яе, яна адчула прыемную цеплыню і душэўны спакой. Усё гэта засталося на ўзроўні адчуванняў, а ў рэчаіснасці нічога не заставалася, як нясмела спытаць:

— А вы, уласна, хто?...

— О-о-о-о... Мне казалі, што ты нічога не памятаеш, але ж запамятаваць нават мяне — гэта ўжо занадта! — мужчына па-добраму ўсміхнуўся. — Аліна, я твой самы старэйшы і самы надзейны сябра. Напэўна, ніхто не разумее і не любіць цябе так, як я. Я — Максім, Макс, ну? Не пазнаеш?

Аліна паматляла галавой. Як ёй хацелася закрычаць: «Так! Макс, родны, як я рада цябе бачыць!», але ж словы не складваліся ў сказы... Яна змагла толькі прабубніць:

— Ну, заходзь, Макс...

Нечаканы сябра, сапраўды, аказаўся цудоўным. Ён пакінуў Аліну ў пакоі, а сам хуценька схадзіў на кухню, зрабіў чаю, прынёс нейкія смакосці, накрыў маленькі журнальны столік і паставіў усё перад дзяўчынай. Ад такіх адносінаў ёй стала радасна і на хвіліну яна, нават, адчула, што нічога не змянілася, што яна па-ранейшаму жыве ціхім мірным жыццём, а вось зараз да яе завітаў стары сябра, якога яна так чакала... Нейкія мары зноўку пачалі варушыцца ў галаве...

— Ну, вось, зараз можна і паразмаўляць. Як ты? Што памятаеш?

— Нічога... зусім нічога, акрамя таго, што я — Аліна...

— О, ну гэта зусім дрэнна... А сваю сям'ю, сваё ўласнае жыццё, свае захапленні памятаеш?

— Не, на жаль, не. Я нават цябе не памятаю, але спадзяюся, што ты дапаможаш мне хоць нешта ўспомніць. Калі ласка!

— Я раскажу табе ўсё, што пажадаеш, і адкажу на ўсе пытанні, але ж перад тым... скажы мне, што ты адчуваеш, унутры, у сваім сэрцы?

— Нічога. Абсалютна нічога!

— Ні кахання да каго-небудзь, ні радасці, ні болю — нічога?!

— Не... зусім пуста...

— Тады пытай!

— Хто гэта на фотаздымку? — Аліна працягнула Максу склеены здымак.

— О, ты вырашыла склеіць разбітую чашку? Не вельмі добрая ідэя, я лічу.

— А што не так? Чаму здымак разарваны? Чаму ў сметніцы?

— Гэта гісторыя твайго жыцця і тваіх нягодаў, што і прывяло цябе да страшнай катастрофы. Ты столькі пакутавала, Аліна. Можа, не трэба варушыць былое? Можа, гэта знак адкульсьці звыш, можа, табе спецыяльна даравана гэта магчымасць нічога не памятаць, каб ты, нарэшце, была шчаслівая?

— Я хачу ведаць!

— Памяць, як востры нож, раніць часам у самае сэрца.

— Але ж без мінулага я не магу будаваць сучаснае!

— Я табе кажу пра іншае. Пра тое, што трэба выбіраць найбольшае дабро для сябе, а ў цябе зараз ёсць выбар, зрабі яго правільна, Аліна. Ніхто, напэўна, не адносіцца да цябе з такой цеплынёй і адданасцю, як я, але ж я папярэджваю цябе, каб толькі не стала горш!

— Калі ты мой сябра, зрабі так, як я таго хачу. Я жадаю ведаць, як бы цяжка гэта не было. Інакш я буду не я! (Пры гэтых словах Макс радасна рассмяяўся.) Так што, расказвай, Макс! — Аліна паспрабавала па-сяброўску ўсміхнуцца, але атрымалася не вельмі натуральна.

— Ну, добра... З чаго ж пачаць... Ты была жывой Алінай, маёй любімай Алінай, усе гады, з самага твайго нараджэння. Я ведаў сям'ю тваіх бацькоў і часта заходзіў да вас у госці. Калі ты крыху падрасла, мы вельмі здружыліся, ты зусім не была падобна да звычайнага дзіцяці, ты была разумнай не па гадах і разумела жыццё лепей любога дарослага. Я размаўляў з табой нароўні, ты прымала ўсё. Я так палюбіў цябе, Аліна, як сваё ўласнае дзіця, якіх у мяне ніколі не было, і ты стала для мяне ўсім. Я ўсё жыццё прысвяціў табе і ўсё рабіў дзеля твайго шчасця, а ты была заўсёды ўдзячнай. Ты была такой вясёлай і адкрытай, з чыстай душой і светлым нутром. Колькі ў цябе было сяброў, якія любілі цябе, колькі знаёмых, што даражылі табой. Ты была аптымісткай, душой любой кампаніі і промнем святла ў кожным цёмным жыцці! Пры ўсіх тваіх грамадзянскіх абавязках і абмежаваннях ты заставалася вольнай духам, ты заўсёды была вольнай, як птушка, лятала на крылах, і вецер шчасця нёс цябе да сонца. Ты была прыгожай, шчаслі-

вай, паспяховай — марай любога мужчыны. І я жадаў, каб ты заставалася шчаслівай, каб сустрэла вартага і надзейнага мужчыну, які б кахаў цябе ўсім сэрцам, так, як я, які б клапаціўся пра цябе і аддаваў табе ўсяго сябе без астатку, з якім бы ты была адзіным цэлым, навекі, у каханні і шчасці. Але ж... але ж...

— Што? — нецярпліва спытала Аліна.

— Але ж ты сустрэла яго... — Макс паказаў на фотакартку. — Аліка. І тваё жыццё змянілася назаўжды...

— Што здарылася?

— Ты проста перастала быць той Алінай, якую ўсе ведалі і любілі. Ты стала халоднай і самотнай, як снежная каралева, зачынілася недзе ў сабе і нікому не паказвалася...

— Чаму так стала, Макс?

— Напэўна, ты была прывязана да яго надта моцна. Я не ведаю, кахала ты яго, ці не, не мне пра гэта казаць. Але ж ты была з ім і не жадала яго адпускаць па нейкіх невядомых мне прычынах. Вашы імёны пачыналіся з трох аднолькавых літар, і ты вырашыла, што гэта нейкі знак звыш і гэта твой лёс, неразумна, канешне, але ўсё ж такі... Вы не былі афіцыйна ў шлюбе, але жылі разам тры гады. Напачатку ўсё было больш-менш добра, і ніхто нічога не заўважаў. Потым я пачаў заўважаць у табе пэўныя змены. Ты стала менш усміхацца і жартаваць, мець менш зносінаў са сваімі сябрамі, стала больш абыякавай і стрыманай. Я адчуў, як ты аддаляешся ад мяне кудысьці далёка, і я не ў стане гэтага спыніць. Мы сталі бачыцца ўсё радзей, зусім перасталі размаўляць на асабістыя тэмы, часам зусім не знаходзілі агульнай мовы. Ты перастала быць той Алінай, якую я абагаўляў. Я ведаў цябе лепш за ўсіх, перада мной ты не магла быць няшчырай і выконваць нейкія ролі, ты была сабой, новай Алінай, якой стала пасля сустрэчы з Алікам. Я не ведаю, чаму так здарылася. Змены ў табе пазней пачалі заўважаць і іншыя, ты ўжо не магла іх хаваць. Твой аптымізм навекі загінуў дзесьці ў глыбіні тваёй душы, твая ўсмешка стала прытворнай і ненатуральнай. Ты стала зусім-зусім іншым чалавекам, які, прызнаюся шчыра, быў усім, хто ведаў былую Аліну, недаспадобы. Алік меў нейкі невытлумачальны і незвычайны ўплыў на цябе. Ты ведала, што ідзеш супраць сваёй прыроды, што ты іншая, але працягвала рабіць тое, чаго жадаў ён. Навокал усе казалі, што гэта вар'яцкае каханне, шалёнае захапленне, якое заслала табе вочы. Я адзіны быў не згодны. Я не бачыў у табе страшэннага запалу, не бачыў бляску ў вачах, як ва ўсіх закаханых людзей, не бачыў згубленага розуму (ты заставалася такой жа разумнай, разважлівай і вытрыманай), таму ніяк не мог паверыць, як ты можаш па-вар'яцку любіць і ў гэты жа час заставацца халоднай, як айсберг. Я быў упэўнены, што ты была цудоўнай актрысай, ці вельмі адданым чалавекам, што пайшоў на пэў-

ныя ахвяры дзеля нейкіх мэтаў. Але ж адначасова я і не мог зразумець, як ты магла быць побач з ім і падпарадкоўвацца яму, калі твая душа была іншай. Я вырашыў, што ў табе болей няма душы, што Алік забраў яе сабе, недзе схаваў і нікому не аддае. Канешне, па-свойму ён любіў цябе, але ж яго любоў была іншай прыроды. У глыбіні душы ён ведаў, што не здолее цябе падпарадкаваць сабе, таму пастаянна шукаў зачэпкі, каб цябе прынізіць, зняважыць. Чамусьці ты ўсё гэта трывала. Я да гэтага моманту не магу зразумець, чаму! Я мільён разоў пытаў цябе пра гэта, ты мільён разоў маўчала і не адказвала на мае пытанні. А зараз ты зусім нічога не памятаеш, таму я, напэўна, ніколі не знайду адказ. Факт заставаўся фактам — ты пакінула ўсё і ўсіх дзеля яго аднаго і, што самае дзіўнае, сама не магла растлумачыць, чаму гэта зрабіла. Усе вакол цябе спачатку прымалі гэта спакойна, як тваё вялікае захапленне, але паступова пачалі разумець, што болей не патрэбны табе, што ты аддаліла іх усіх на вялізарную адлегласць, і ім да цябе не дакрануцца. Твае сябры пачалі пакідаць цябе, адзін за адным, забываць цябе з болем у сэрцы, губляць цябе назаўжды. Яны разумелі, што болей цябе не ўбачаць, і тая былая Аліна памерла. Ты зусім не жадала іх вярнуць і з лёгкасцю адпускала. Наступіў той момант, калі ў цябе нікога не засталося, акрамя Аліка і мяне, канешне. Твае бацькі памерлі, калі ты была яшчэ малым падлеткам, я не пакідаў цябе ніколі і не мог зрабіць гэтага і тады. Я быў з табой да канца, у сваім сэрцы, у сваёй душы. Ты не жадала бачыць мяне, нават, знаць мяне. Алік ненавідзеў мяне і не дазваляў нам сустракацца і гаварыць. Ты слухала яго, я быў табе не патрэбен. Свайго апошняга сябра ты закінула далёка, не звяртаючы ўвагу на тое, што ён выгадаваў цябе, як бацькі, любіў цябе і клапаціўся пра цябе, што ён ніколі не здраджваў табе і заўсёды быў адданы. Я моцны, і вытрываў гэта годна. Я верыў у цябе да апошняга, нават тады, калі ты засталася зусім адна сам на сам з Алікам, калі ты нікуды не хадзіла без яго, калі ты ні з кім нічога не святкавала, калі ты сварылася са мной і скардзілася на мяне, калі ты нават сваіх нябожчыкаў бацькоў успамінала нядобрым словам, калі ты забыла сваю сям'ю, сваіх сяброў, калі ты зусім перастала ўсміхацца, і твар твой быў заўжды каменны, калі ты была без настрою, калі ты была халодная і безэмацыйная, калі ты ператварылася ў мумію без пачуццяў і светлых успамінаў, калі ты стала нежывой... Я пакутаваў. Я не мог пакорліва назіраць, як мая вясёлая Алінка ператварылася ў Аліну Віктараўну з вялікай літары, ганаровую і жорсткую, да якой было не дацягнуцца. Я марыў вярнуць цябе назад, каб аднойчы ты прачнулася той былой Алінай і ўсё стала, як раней. Але ж ты ўсё больш аддалялася і ўсё часцей казала, як ты кахаеш Аліка і якая ты шчаслівая з ім побач. Нельга сказаць, верыў хто, ці не, бо нікога з табой не засталося, але ж, на мой погляд, гэта было даволі своеасаблівае шчасце. Штосьці цягнула цябе да Аліка, альбо,

наадварот, штосьці не магло цябе ад яго адарваць. Я ўсё жыццё лічыў, што чалавек свеціцца ад шчасця і жадае расказаць пра яго і падзяліцца ім з іншымі, а не ператвараецца ў ледзяную абыякавую істоту, якая ні з кім не жадае мець зносінаў, акрамя крыніцы свайго «шчасця». Мой мозг адмаўляўся нешта разумець. Усё, што ў мяне засталося, гэта надзея. Я спадзяваўся зноўку ўбачыць тую летуценную птушку, што ўзвівалася ў неба на крылах сваёй дабрыні і пяшчоты, тую вольную Аліну (няхай і замужнюю), але ж духам вольную, душа якой была светлай і чыстай і імкнулася да вялікіх мараў. Я казаў табе пра гэта не раз, ты заставалася такой жа і не жадала нічога слухаць і змяняць, бо ты была, па тваіх словах, «шчаслівай». Можа, ты падманвала сама сябе ці імкнулася ўпэўніць у нечым, не мне казаць... Я не ведаю, колькі часу гэта б працягвалася, калі б аднойчы ты (не буду паглыбляцца ў падрабязнасці) не выявіла, што Алік здрадзіў табе і вашаму каханню, і вашаму жыццю, і вашаму хвалёнаму шчасцю... Ён казаў пра цябе страшныя рэчы каму папала, якія не мелі нічога агульнага з рэчаіснасцю, ён жартаваў над тваімі пачуццямі, ён не верыў табе, ён абвінавачваў цябе ў тым, чым ты ніколі не была, ён выставіў цябе ў самым горшым свеце, кажучы, што ты навек памерла для яго і няма шляху назад, ён пахаваў цябе ў сваім сэрцы... Не, ён не здраджваў табе фізічна, але ж здрада жыла ў яго душы. Тады прачнулася былая, мая Аліна! Ты болей не магла гэта трываць, але ж і пакінуць яго, зноў жа, чамусьці не магла (шчыра, я не разумею цябе, Аліна!). Ён працягваў падладжваць цябе пад сябе, але ж цяпер ты супраціўлялася, ты выставіла крывавыя клыкі, рашуча рушыла наперад, не даючы магчымасці сябе прынізіць. Пачаліся бясконцыя канфлікты. Сямейнае шчасце крышылася, як кавалак хлеба, узаемаразуменне знікла, а замест яго прыйшлі раздражняльнасць і зласлівасць. Ты зноў зачынілася ў сабе, але ж на гэты раз ты была той былой Алінай, жывой, сапраўднай, якая толькі ненадоўга прытаілася. Ты не магла вырашыць, што табе рабіць. Алік кляўся табе ў вечным і шчырым каханні, ты хацела верыць яму, але ж не верыла. І зноў тое ж нешта незразумелае цягнула цябе назад. Як толькі ты хацела парваць ланцугі — ён зноў цягнуў цябе да сябе. Я не магу гэтага растлумачыць, і ты не магла. Можа, ён валодаў нейкай магіяй, твая душа была несвабоднай, ён трымаў яе ў палоне, і ты мучылася кожны дзень свайго існавання, сама не разумеючы, што робіцца. Менавіта з-за гэтага знікла твая ўсмешка і сэрца ператварылася ў лёд, менавіта таму. Дагэтуль ты лятала, твая душа жадала прастору і чыстага паветра, а цяпер ты жыла так, як ад цябе патрабавалі, зачыненая за кратамі, у палоне ўласнага сумлення. Ты не хацела пакрыўдзіць Аліка, ты заўсёды яго шкадавала, я не ведаю, чаму. Бляск у тваіх вачах так і не з'явіўся, і я не думаю, што гэта было каханне, але табе лепш бачна. Уласна, я лічу, што ў яго быў дар пераканання і гіпнатычнага ўздзеяння, не толькі на цябе,

а на ўсе светлыя душы, якія не супраціўляліся толькі таму, што былі мацнейшыя за яго і шкадавалі, каб ён не загінуў ад такога націску. Алік працягваў цябе прыніжаць, апускаць тваю самаацэнку, пастаянна гэта падкрэсліваць і ставіць цябе нароўні з плінтусам, абрабляючы ўсё так, што гэта ты сама так лічыш і да гэтага дадумалася. Ты працягвала трываць, але ўжо не верыла ніводнаму слову. Ён, адчуваючы, што губляе цябе, што ты выходзіш з-пад ягонага кантролю, прэсаваў усё мацней, жадаючы паставіць цябе на калені, што, у выніку, перапоўніла чашу трывання і перамагло нават тую літасць да яго, што тармазіла цябе ўвесь гэты час. А потым... нешта здарылася, нейкая размова, якая моцна надламіла цябе. Я да гэтай пары не ведаю, што ён сказаў табе і куды знік. Я ведаю толькі тое, што ты прызналася яму, што зноў стала сабой і хочаш лётаць, што ён больш не мае ніякай улады над тваёй душой. Ты разарвала вашу фотакартку і выкінула ў сметніцу (а зараз, не разумею на што, склеіла зноўку). А ён... нешта сказаў табе, ці зрабіў, і ты крыху змянілася, нешта трэснула ўнутры, канешне, нішто не праходзіць бясследна... Падчас апошняй нашай размовы па тэлефоне ты казала, што табе трэба хутка з'ехаць, каб нікога не бачыць. Стан у цябе быў найгоршы, ты з цяжкасцю магла казаць словы, нервы былі на мяжы, вось-вось і ты б сарвалася... Я маліў цябе нічога не рабіць і нікуды не ехаць, дачакацца мяне і пагаварыць, але ты не паслухала... У такім стане ты села за руль і, што не дзіўна, скончылася гэта трагічна... Сама бачыш... Вось, мабыць, кароценька і ўсё, што мне трэба было сказаць...

На працягу ўсяго апавядання Аліна адчувала, як яе боль у спіне нарастае са страшнай сілай. Зараз, калі Максім скончыў, трываць ужо было немагчыма. Здавалася, што спіна разрэзана на дзве паловы, і кроў льецца з нейкіх нябачных ран. Ад гэтага болю цямнела ў вачах і кружылася галава, сэрца стукала ўсё хутчэй і хутчэй, і паветра не хапала, каб дыхаць. Аліна пачала задыхацца, боль вострымі іголкамі ўвайшоў дакладна ў сэрца дзяўчыны. Яна прашаптала:

— Прабач, але ж я не ў стане нешта гаварыць. Напэўна, гэта мая хвароба. Я зусім дрэнна сябе адчуваю і гэты боль... нясцерпны боль у спіне... я не магу яго трываць... У мяне, прынамсі, павінна была балець галава пасля аварыі, але ж не спіна... Ды што ж гэта?

— Табе баліць спіна?

— Так, невыносна баліць!

— Гэта і не дзіўна...

— Чаму?

— Таму..., — Макс пакруціў у руцэ склеены здымак, — што ён зламаў твае крылы...




# Стас Ільін

празаік. У 2002 годзе паступіў у Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. Летам 2007 года з'ехаў у ЗША. Працуе ў кампаніі «SWIFT» кіроўцам-дальнабойшчыкам. Нарадзіўся ў 1985 годзе ў Гародні. Жыве ў Амерыцы.

# SWIFT *

*SWIFT — *паэтычнае*: хуткі, быстры;
*заалагічнае*: стрыж;
*тэкстыльнае*: барабан, матавіла, шпулька;
swift to anger — запальчывы.

Субота, 7 студзеня, першыя занатоўкі ў маім новым агульным сшытку.

У цвёрдай чорнай вокладцы ён выглядае, як кніга. Мусіць, таму і купіў. Мары пра выданне сваёй кнігі не пакідаюць маёй галавы. Але гэта першы сшытак, куплены ў ЗША не для запісаў, а для вучобы.

Цэнтр Філадэльфіі. Аўтавакзал папулярнай сярод беднага насельніцтва кампаніі «Хорт» (Greyhound). Праўда, мне больш падабаецца мой уласны просты пераклад — «Шэры Ганчак». У іх на лагатыпе ён сапраўды шэры. Я ўжо сядзеў у аўтобусе, працягваў прыдумваць розныя варыяны расшыфроўкі абрэвіятуры СВІФТ і цешыўся сваёй новай кнігай-сшыткам. На адвароце прачытаў назву кампаніі-вытворцы — Маркінс (Markings), якая знаходзіцца ў горадзе Нэшвілл, штат Тэннессі. Туды і ехаў. Штат, дзе вырабляюць віскі з кукурузы Джэк Дэніэлс, дзе мядзведзі капаюцца ў сметнікавых баках, як у нас каты, дзе ўсе любяць музыку кантры, дзе працуе школа дальнабойшчыкаў. Вось гэтаму нялёгкаму рамяству я ехаў вучыцца.

Я ехаў на радзіму Элвіса Прэслі, у горад Мэмфіс, ад якога мяне аддзялялі 25 гадзін дарогі, любоў з якой у мяне прадаўжаецца шмат гадоў. Спачатку гэта былі цёплыя сяброўскія адносіны, калі я пачаў усё далей і на даўжэйшы час выязджаць з дому: спярша на вучобу, пасля на заробкі, — і калі я заставаўся зусім адзін, заўсёды была побач дарога.

Дарога далікатна і незаўважна цягнула мяне далей і далей ад дому, а калі далей ужо не было куды, раўнівая ўладарка вырашыла звязаць мяне з такой прафесіяй, дзе яна стане адзінай сяброўкай, вернай жонкай і клапатлівай маці ў адной асобе... Яе закаханыя вочы яснелі за пыльным акном «Шэрага Ганчака», які імчаўся кар'ерам у паўднёвым напрамку па дзевяноста пятай магістралі...

СВІФТ — адна з самых буйных карпарацый у ЗША ў сферы грузаперавозак.

Мае свае тэрміналы амаль у кожным штаце, і ёй увесь час патрэбны кіроўцы далёкіх рэйсаў. Стваралася кампанія сям'ёй Мойес яшчэ ў суровыя саракавыя гады мінулага стагоддзя, быў у іх тады адзін грузавік на аднаго чалавека. Цяпер у іх больш як шаснаццаць тысяч грузавікоў, ну, а містэр Мойес, хутчэй за ўсё, уваходзіць у якое-небудзь тайнае масонскае

таварыства і кіруе лёсамі мільёнаў людзей. Замест таго, каб наймаць вопытных шафёраў, плаціць ім адразу шалёныя грошы і, у выніку, усё роўна прывучаць да сваіх, строга рэгламентаваных, нормаў і ўмоваў працы, акцыянеры кампаніі вырашылі адчыніць уласную школу, дзе вучаць людзей працаваць дальнабойшчыкамі, з адзінай умовай, што адпрацуюць на іх, як мінімум, два гады. У такім выпадку навучанне будзе бясплатным, ну, а кампаніі не трэба распускаць пачаткоўца вялікай зарплатай...

Школа знаходзілася ў дваццаці мілях ад Мемфіса, у гарадку Міллінгтон. На аўтавакзале мяне сустрэў падобны да Джымі Хендрыкса афраамерыканец, апрануты, як швейцар дарагога гатэля. У руках трымаў таблічку з надпісам СВІФТ. У мікрааўтобусе ўжо сядзела некалькі «вучняў», яны бурна дыскутавалі пра будучую прафесію. Нас прывезлі ў гатэль, выдалі ключы, і кожны пайшоў шукаць свой пакой. У маім пакоі пасяліліся два чарнаскурыя хлопцы майго ўзросту і адзін амерыканец неверагодных памераў. Важыў ён кілаграмаў сто сорак, спаў са спецыяльнай машынай у роце, якая кантралявала яго дыханне, увесь абстаўлены вентылятарамі і бутэлькамі з вадой... У сорак пяць гадоў ён паступіў у медычны каледж, правучыўся там чатыры гады, папрацаваў паўгода ў шпіталі, зразумеў, што гэта не яго прызванне, і вырашыў вучыцца на дальнабойшчыка. Ён быў музыкантам, іграў у мясцовай рок-групе, у вольны час пісаў песні. Да ўсеагульнага здзіўлення, гэты вялізны мужчына валодаў юным, тонкім, прыемным і меладычным голасам.

Пакуль сюды дабіраўся, уяўляў самыя горшыя варыянты, якімі будуць мае суседзі па пакоі, атрымалася ж усё добра, я хутка пазнаёміўся з усімі і чакаў пачатку заняткаў.

Прачнуліся мы ў 4:30 раніцы. У пяць гадзін белы доўгі аўтобус, такі ж, як у амерыканскіх фільмах турэмнай тэматыкі, запакаваў нас каля ўваходу ў гатэль і павёз на медкамісію. На працягу ўсяго дня мы запаўнялі анкеты, праходзілі дактароў і зноў запаўнялі паперы. Чарнаскурых было, прыкладна, палова класа. Знаёміліся на перакурах, спачатку ўсе трымаліся групамі з суседзяў па пакоі, але да канца дня адбылася поўная інтэграцыя, напружанне знікла. Не ўмею размаўляць па-англійску без акцэнту. Таму прыходзіцца тлумачыць кожнаму пра сваю маленькую Радзіму ў цэнтры Еўропы і адказваць на адно і тое ж пытанне:

—Ці падабаецца табе тут?

Другі дзень сустрэў мяне шырокай і яснай усмешкай цёплага сонца, але ўжо вастрыў за спіной сталь паляўнічага нажа. Нішто не абяцала бяды. Спакойна сядзелі ў класе, слухалі падрабязны сумны даклад, як правільна запаўняць нашы дарожныя кнігі. Даклад манатонна, сонна плыў з вуснаў

інструктара Джымі ў нашыя вушы. Джымі адкатаўся па Амерыцы 25 гадоў і вырашыў яшчэ гадоў дзесяць перад пенсіяй папрацаваць інструктарам, каб перадаць свой бясцэнны вопыт маладому пакаленню. У яго быў пакрыўджаны, як у дзіцяці, выраз твару, у час размовы ён зводзіў густыя бровы, такія калматыя, яны ажно звісалі з шырокага ілба, ажно закрывалі маленькія, глыбока пасаджаныя вочы. Відаць было, што пачаў выкладаць нядаўна, таму хваляваўся. З-за хвалявання напісаў на дошцы простае слова DUTY праз і — DUITY. Усе прамаўчалі з ветлівасці.

Якраз у сярэдзіне дня востры нож урэзаўся ў маю сутуленую спіну. Менеджэр Дона пастукала ў дзверы і папрасіла мяне выйсці на хвілінку. Аказалася, я здаў не ўсе патрэбныя тэсты ў ДАІ майго штата, у чым поўнасцю вінавата была менеджар Тамала, якая афармляла мяне ў школу. І калі паведамілі, што мне прыйдзецца ехаць зноў 25 гадзін у Філадэльфію, каб здаць там адзін няшчасны тэст, і пасля вяртацца зноў 25 гадзін назад, мой бедны твар імгненна скапіраваў міміку інструктара Джымі. Ды акрамя дзіцячай крыўды, мяне распірала ад дзікай і немалой злосці. Самым крыўдным было тое, што я ні ў чым не вінаваты. У парыве злосці я патэлефанаваў Тамале, а яна сказала, што не памятае, як я здаваў тэсты, ёй вельмі шкада, але прыйдзецца мне ехаць туды-сюды. Мая будучая адзіная сяброўка і верная жонка дарога не хацела мяне ад сябе адпускаць нават на два тыдні. Гэта ўсё яе хітрыкі! Да вечара я супакоіўся і, падумаўшы цвяроза, вырашыў раскашэліцца на авіябілеты. Падумаў, што засталося ў мяне ў Філадэльфіі крыху справаў, якія можна зрабіць за гэты тыдзень «канікулаў». Адзіным негатыўным момантам было тое, што праз тыдзень прыйдзецца знаёміцца з новым класам і засяляцца ў новы пакой, дзе, таго і чакай, збудуцца тыя жахі пра суседзяў па пакоі, якія ўяўляліся мне па дарозе ў Мемфіс.

На трэці дзень на досвітку спачувальная Дона падвезла мяне ў аэрапорт і параіла мне не даваць ні цэнта папрашайкам ля ўваходу. Па дарозе расказала адну тэлеперадачу, як жабрак з Мемфісу стаяў каля ўваходу і прасіў некалькі цэнтаў на ежу. Ён займаўся гэтым на працягу дзесяці гадоў. Як выявілася, ён зарабляў штодзень па чатырыста даляраў, меў у Мемфісе ў прэстыжным квартале даволі прыстойны асабняк, меў сям'ю і некалькі, нават па амерыканскіх мерках, дарагіх аўтамабіляў.

## Першы тыдзень

Аўторак, 17 студзеня, Мемфіс... Чатыры гадзіны шляху — і я на месцы. На гэты раз не было пафасных «швейцараў» з таблічкамі, прыйшлося браць таксі і каціць праз увесь горад у гатэль. Мне былі залічаны два дні вучобы з папярэдняга заезду, на якіх я прысутнічаў, мяне запісалі ў новы клас, № 801.

З серады пачыналіся практычныя заняткі на старым аэрадроме, які быў прыстасаваны пад паркоўку грузавікоў. Новае асяроддзе мне спачатку не спадабалася, не хацелася з імі знаёміцца, я хадзіў на перакур адзін, піў каву, курыў. Вырашыў выкарыстаць тактыку праціўніка супраць яго ж самога.

Амерыканцы здаліся, пачалі самі падыходзіць да маўклівага хлопца з дзіўным, смешным акцэнтам. Дзякуючы такой тактыцы, не задаючы пытанняў, я сабраў даволі цікавыя біяграфіі амаль усіх аднакласнікаў. Гэта быў падарунак лёсу! У адным месцы столькі заблытаных і супярэчлівых лёсаў я яшчэ не сустракаў. Пра некаторых можна было б напісаць асобную кнігу. З'ехаліся з розных куткоў Амерыкі, каб пачаць новае жыццё. Некаму было 23 гады, а некаму — 60 гадоў. Аднаму патрэбны былі грошы, каб карміць сям'ю, другому захацелася дарожнай рамантыкі, трэці прадаўжаў сямейную традыцыю. Перш, чым апісаць падзеі двух тыдняў, нібы ў пачатку п'есы, прадстаўляю дзеючых асоб, іх жыццёвыя прыгоды, якія прывялі сюды...

## Макс

Мой сусед па пакоі. Першы, каго я спаткаў з новага класа. Максу 22 гады, родам з невялікага мястэчка ў штаце Місуры. Як толькі на яго глянуў наш новы інструктар Даг, то на працягу двух тыдняў паўтараў:

—Усе бачылі фільм «Суцэльнаметалічная абалонка кубрыка»? Ваш Макс — выліты Гамер Куча, ну, той, які пасля застрэліўся. Проста — адзін да аднаго!

Беднаму Максу не падабалася такое параўнанне, усе два тыдні ён прынцыпова не галіўся, каб меней быць падобным да таго Кучы. У пачатку знаёмства ён расказаў, як доўга думаў — ехаць яму сюды ці не, баяўся, што не здасць усе патрэбныя нарматывы. Пасля, між іншым, прызнаўся, што ў іх у сям'і бацька, брат, сястра і братава жонка працуюць дальнабойшчыкамі.

— І ты яшчэ думаў пра выбар прафесіі? Гены за цябе ўсё вырашылі! — жартам сказаў я, а ён толькі прабубніў:

—Ну, так, ну, так...

У семнаццаць гадоў ён пайшоў у войска па кантракту. Служыў на Алясцы. Ад нашага ўяўлення пра войска там застаецца толькі тое, што ў шэсць гадзін раніцы трэба ўставаць на пераклічку. Вось і ўсё. На пытанне пра зарплату з сумам сказаў: «Мала, усяго паўтары тысячы ў месяц...» Спачатку ён жыў у казарме, куды можна было прыводзіць сяброўак і ладзіць вечарынкі. Пасля чатырох гадзін дня можна было пераапранацца ў цывільнае адзенне, выходзіць у горад, хадзіць у кіно, сустракацца з сябрамі, рабіць усё, што захочаш. У адзін такі дзень ён сядзеў у інтэрнэт-кафэ і, правяраючы сваю старонку на myspace.com, пазнаёміўся з дзяўчынай Лілі

родам з Мексікі. Пасля тыдня тэлефонных размоваў Лілі прыехала да яго на Аляску. Ну, і пасля шасці месяцаў спатканняў яны пажаніліся. Яшчэ раз паўтараю, што адбывалася ўсё гэта, калі чалавек служыў у войску... Як жанатаму яму даюць асобную кватэру. Што самае цікавае, яму сказалі: калі раптам па нейкай прычыне яго жонка не захоча жыць разам з ім на Алясцы, то ў якасці маральнай кампенсацыі за разлуку з жонкай дзяржава згодна яму плаціць яшчэ 1300 даляраў у месяц. Лілі ўсё ж пераязджае да яго, сямейная ідылія цягнецца каля года.

Аказваецца, у амерыканскім войску ёсць таксама нешта падобнае на нашу дзедаўшчыну. Макса пачынаюць раздражняць сяржанты, ён не можа зразумець іх дурацкія і бессэнсоўныя загады. У яго здаюць нервы, і ён едзе ў Мексіку на паўтара месяца, каб там адпачыць. Едзе без жонкі і, відаць, не аформіўшы патрэбныя для гэтага паперы. Калі вярнуўся, яго абвінавачваюць у дэзерцірстве і садзяць на месяц у турму. У турме ўсё спакойна, ніякага прыніжэння, пагрозы ці, таго горш, бойкі. Камеры на аднаго чалавека размяшчаліся там па колу, у цэнтры якога — вялікая пляцоўка, дзе стаялі крэслы, канапы і вялікі тэлевізар. На працягу дня можна было або ляжаць у камеры, або валяцца на канапе і глядзець тэлевізар, чым Макс увесь месяц і займаўся.

Пасля турмы яны з жонкай пераязджаюць у Місуры, дзе ён працуе на заводзе аператарам грузапад'ёмніка. Ды Лілі аказалася лянівай жанчынай, увесь час іх сямейнага жыцця сядзела без працы. Праз некалькі гадоў яна ўжо здавалася Максу не такой сімпатычнай, як раней. Усё часцей бывала ў дрэнным настроі, за апошнія паўгода ні разу яму нават не ўсміхнулася. Максу такая жытка надакучыла, і, відаць, паслухаўшы бацьку, ён уцёк ад жонкі вучыцца на дальнабойшчыка. Такі ўчынак не пайшоў на карысць сям'і. У гатэлі Макс зразумеў, што яго лёс — гэта аднакласніца Келі, у якую ў школе быў закаханы. Ён напісаў да Келі ліст, даведаўся, што яна чакае яго ўвесь гэты час. У апошнія дні вучобы Лілі з'язджае з кватэры Макса, ён падае на развод. Вось такая мыльная опера.

## Рандэл

Чорны, як смаляк. Мой другі сусед па пакоі. Рандэлу 25 гадоў, яго карані ўплятаюцца ў суквецце канопляў на бесклапотнай Ямайцы, што можна лёгка вызначыць па характэрных трохколерных палосках на яго чорнай вязанай шапцы. Нарадзіўся ў Віргініі, тры гады жыў у Нью-Йорку, дзе нарадзілася дачка Саманта, а цяпер жыве ў Паўночнай Караліне. Працаваў прадаўцом у краме, кур'ерам, развозчыкам піцы і газет, а цяпер вырашыў пайсці па слядах свайго дзеда і стаць дальнабойшчыкам. Увесь вольны час у гатэлі ён праводзіў за праглядам бясконцых рэаліці-шоў, якія з ранку

да ночы трансліруюцца па ўсіх каналах. Калі я гатаваў увечары на снядананак бутэрброды, ён стаяў за спіной і паказваў пальцам то на гурок, то на хлеб, то на памідор, перапытваў, як гэта па-руску называецца. Завучыўшы новае слова, ён доўга смяяўся, пасля цэлы дзень, крыўляючыся, паўтараў яго з рознымі інтанацыямі. Да вучобы адносіўся вельмі адказна, заўсёды запісваў «лекцыі» інструктара, а пасля заняткаў за сталом у гатэлі доўга і акуратна чарціў графікі ў сваёй дарожнай кнізе. Нягледзячы на колер скуры, меў толькі двух сяброў афраамерыканцаў, усе астатнія чамусьці былі або белымі амерыканцамі, або выхадцамі з Пуэрта-Рыка. Усё стала ясна, калі неяк разгарэлася дыскусія пра тое, чаму ў людзей склалася такая думка, што калі «чорны», то адразу забойца, гангстэр або наркадылер. Да майго здзіўлення Рандэл выпаліў:

— Скажу вам адно: я — чорны! І скажу шчыра — мы нармальна існаваць разам не можам. Так, чорныя не могуць жыць разам. Мы адносімся да жыцця, як да нейкіх спаборніцтваў, мы заўсёды хочам у нечым выйграць, абагнаць, абставіць і перамагчы другога. У гэтым наша праблема. Кожны хоча даказаць, што ён лепшы. І я не магу зразумець, чаму так адбываецца. Мексіканцы або бразільцы, наадварот, трымаюцца разам, яны працаголікі, яны працуюць разам. Габрэі разам робяць грошы. А мы!? Вось чаму я сябрую ў асноўным з бразільцамі або пуартарыканцамі...»

## Хасан

Родам з Самалі. Сядзеў побач са мной за партай. Высокі, выглядаў на гадоў трыццаць, яго рэальны ўзрост выдаюць стомленыя і ўвесь час чырвоныя вочы з мітуслівым і дзікаватым поглядам. Імпульсіўны і рэзкі, заўсёды нервова ўскокваў з-за стала, калі канчаўся перапынак і трэба было ісці на паркоўку. За сорак пяць гадоў жыцця яго добра пакідала па свеце. У гадоў дваццаць пяць вырваўся з Самалі на Аравійскі паўвостраў. Змяніўшы там мноства прафесій, праз нейкі час апынуўся ў Пакістане. Адтуль нейкімі цёмнымі і, хутчэй за ўсё, нелегальнымі шляхамі трапіў у Маскву. Даказваючы праўдзівасць сваёй гісторыі, спяваў на ломанай рускай мове ўрывак з рускай папсы, папулярнай у дзевяноста пятым годзе, калі ён трапіў у Расею. Захапляўся прыгажосцю расейскіх жанчын, вечаровымі прагулянкамі па Паляўнічаму Раду і Цвярской. Жыў там амаль чатыры гады, нідзе не працаваў. Увесь час шукаў магчымасці збегчы ў Еўропу, Канаду або ЗША. Нават пажыў два месяцы ў Менску. Праўда, чым там займаўся, так і не сказаў. Прайшло шмат часу, але ён памятаў некалькі простых фраз на расейскай мове. Нарэшце яму ўдалося купіць за тысячу даляраў падроблены галандскі пашпарт, па якому прыляцеў у ЗША. Тут яго, вядома ж, затрымалі спецслужбы. Ён адразу ж аб'явіў сябе бежанцам, і справядлі-

выя амерыканскія законы злітасцівіліся над бедным Хасанам, у выніку чаго ён атрымаў палітычны прытулак. Але для прафілактыкі прыйшлося пасядзець паўгода ў турме, дзе яму, так як і Максу, жылося нядрэнна, кармілі нармальна, ніхто яго там не крыўдзіў. Пасля турмы ён з усімі легальнымі дакументамі перабраўся ў штат Мінесота, дзе і жыве, мае сям'ю і пяцёра дзяцей. Да майго глыбокага здзіўлення, ён ведаў усё пра амерыканскую музыку ў стылі сеул і ўвесь час спрачаўся на гэтую тэму з кожным чарнаскурым у класе. І яны былі здзіўленыя не меней, чым я, такім глыбокім веданнем у гэтай сферы. Гэтак жа ён быў фанатам усіх відаў спорту, але найболей, вядома ж, футболу. Нашым чорным «гангстэрам» называў прозвішчы расейскіх футбалістаў, на што тыя крывіліся і казалі:

—Усё, адчапіся! Я не разумею, пра што ты гаворыш! Размаўляй па-англійску! Што? Футбол? Футбол — самая сумная гульня ў свеце! Бейсбол — нумар адзін!

## Мімз

Чорны хлопец родам з Тайланда. Сядзеў за партай каля Хасана. Праз некалькі дзён усе дружна вырашылі, што ён або метрасексуал або гей. Заўсёды міла ўсміхаўся, складаючы ў банцік свае тлустыя вусны. Ён, вядома ж, не фарбаваў вейкі, але яны былі такія доўгія і густыя, што ўсе ў класе былі ўпэўнены — ён фарбуе іх у ванне кожны дзень тайна. Апранаўся стылёва, з іголачкі. Размаўляў томна і марудна, ледзь паварочваў язык. Неяк ён прызнаўся Максу, што быў танцорам у клубе ў Чыкага, зарабляў за ноч па 300 даляраў і яшчэ 400 чаявых. Адразу паўстала пытанне: «Навошта вучыцца на дальнабойшчыка з такім заробкам?» Аказваецца, Мімз працаваў і як мадэльер моднага адзення. Гэты бізнес патрабуе вялікіх інвестыцый. Таму ён вырашыў пакатацца гадоў пяць дальнабойшчыкам, зарабіць круглую суму і заснаваць сваю мадэльную справу. Выслухаўшы гэту гісторыю ад Макса, на адным з перакураў сабраўся кансіліум, вырашылі аднагалосна, што Мімз усё-ткі гей.

## Коўдзі

Яму ўсе зайздросцілі. Ён быў мясцовы, жыў у пятнаццаці хвілінах хады ад школы і кожны вечар быў з сям'ёй дома. Тыповы амерыканец дваццаці шасці гадоў. Увесь у татуіроўках, якія біў сам правай рукой, таму гэта была адзіная частка цела, да якой татуіроўкі «па тэхнічных прычынах» не дабраліся. У вушах у яго віселі завушніцы, якія ён зрабіў сам з гільзы ад бацькавай стрэльбы. Ён працаваў электрыкам у буйнай кампаніі Мемфіса. Работа яму падабалася, зарабляў нядрэнна, але пачаўся крызіс, кампанія

збанкрутавала, трапіў пад скарачэнне, сядзеў нейкі час на дапамозе па беспрацоўю. Тэлефанаваў ва ўсе кампаніі ў гэтай сферы на адлегласці ста кіламетраў ад дому. Ніякіх вынікаў. У аб'явах пра работу патрабаваліся толькі дзве прафесіі: ахоўнікі і дальнабойшчыкі. Выбраў другое. Яшчэ ён іграў у мясцовым рок-гурце. Вечарамі заязджаў да нас у гатэль. Ад яго я даведаўся, што Мемфіс уваходзіць у пяцёрку самых крымінальных гарадоў краіны, і што нават у краму па малако Коўдзі не ходзіць без зброі. Неяк на яго з сябрам напалі чацвёра дванаццацігадовых школьнікаў, кожны з іх быў узброены. Глянуўшы на мяне, Коўдзі зразумеў, што не да канца мяне пераканаў, таму параіў паглядзець перад сном мясцовыя навіны. Прыйшлося паверыць: кожны дзень, як мінімум, адзін труп — то перастрэлка, то крадзеж, то пажыццёва асуджаны забойца ўцёк з турмы і хаваецца ў ваколіцах Мемфіса. Пасля гэтага ў мяне адпала жаданне з'ездзіць увечары ў цэнтр Мемфіса сфатаграфаваць радзіму блюза і рок-н-ролу, таму што, паводле прароцтваў Коўдзі, як толькі я саб'юся куды-небудзь з цэнтральнай вуліцы,— мне крышка.

## Рыкі

Пальмы, апельсінавыя дрэвы, сонныя кракадзілы, смешныя пеліканы і вялізнае яркае сонца... Лета ўвесь год. Райскі штат Фларыда. Побач з вядомым усяму свету Маямі прытуліўся курортны партовы горад Форт-Ладзердзейл. Каля яго берагоў швартуюцца адзін за адным вялізныя беласнежныя круізныя лайнеры. Недалёка ад порта і жыве падобны да амерыканскага рэпера Снуп Дога трыццаціпяцігадовы Рыкі, бацька шасці дзяцей. На маё здзіўленне:

—Нічога сабе! Так шмат...— ён адказаў:

—Шмат? У майго лепшага сябра дзевяць. А ёсць у мяне сябрук у Маямі, дык у таго трынаццаць. Некаторых ён нават у вочы не бачыў. Гэта сапраўды шмат...

У яго былі скручаныя тоўстыя, нібы вяроўкі, дрэды, якія тырчалі ва ўсе бакі, і акуратная казліная бародка. У сонечныя дні можна было ўбачыць здалёк, як ён ідзе па аэрадроме, шырока ўсміхаючыся, а пярэдні залаты зуб блішчыць на сонцы, быццам россыпы ў Клондайку... Скончыўшы школу, ён паехаў вучыцца ў паўночны штат Масачусетс. Павучыўся пяць гадоў у каледжы, вярнуўся назад. Па спецыяльнасці зусім не працаваў. Вырашыў стаць дальнабойшчыкам, каб забяспечыць дзецям добрую адукацыю. На тэарэтычных занятках быў лепшым вучнем у класе, а вось з практыкай у яго, як і ў мяне, спачатку былі праблемы.

Ён адкрыта гаварыў, што курыць марыхуану. Каб прайсці абавязковы для ўсіх тэст на наркотыкі, карыстаўся старым дзедаўскім прыёмам. Рыкі

даведаўся пра яго сапраўды ад свайго дзеда, які перадаў яму гэты таемны стары «абрад» як толькі Рыкі споўнілася васемнаццаць. Тут ужо нікуды не падзецца, марыхуана для афраамерыканцаў — гэта лад жыцця, і, выходзіць, нават «таемныя веды» пра яе перадаюцца з пакалення ў пакаленне. А сам прыём заключаўся ў тым, што Рыкі за два дні да тэста піў воцат. Зранку робіш глыток воцата і п'еш шмат вады, глыток — днём і глыток — увечары...

— Дык ты ж там усё сабе спаліш!? — не мог паверыць я.

— Нічога не спаліш. Усё нармальна. Дзед не спаліў, я не спаліў, і ніхто нічога не спаліць!

## Уільям

Сапраўдны амерыканскі рэднек. Кроў з малаком. Нібы з пахмелля, увесь час ружовы, няголены, з усмешкай. З тых людзей, якія, нягледзячы на любыя непрыемнасці ў жыцці, ніколі не засмучаюцца. Калі злучыць Макмерфі Кена Кізі і Гамера Сімпсана, то выйдзе Уільям. Ад Гамера ён атрымаў доўгі адрывісты смех і камічны выраз твару. Ад Макмерфі — свабодалюбства, упэўненасць у сябе і пачуццё гумару. Родам ён з Паўднёвай Караліны і гэтак жа, як Макс, прыехаў сюды працягваць сямейную традыцыю. Усё дзяцінства ён правёў у кабіне грузавіка бацькі, з якім аб'ездзіў усю Амерыку. Працаваў механікам, але надакучыла яму сядзець на адным месцы, вырашыў пайсці па слядах бацькі. Ён хадзіў па класе ў шырокім бежавым камбінезоне і клетчатай кашулі наросхрыст. У першы ж дзень пачаў прыдумваць усім мянушкі. Я ў гэты час яшчэ трымаўся асобна, таму мяне не зачапіў. Суцэльным патокам ліўся з яго саркастычны гумар, рагочучы, ён падскокваў і пераступаў з нагі на нагу, як мядзведзь у цырку. Калі мы, сонныя і стомленыя, залазілі ў аўтобус, каб нарэшце ехаць дадому, ён завальваўся і крычаў: «І гэта будучыя дальнабойшчыкі!? Дванаццаць гадзін паездзілі — і спаць?! Не, мілыя, так не пойдзе! Травіце анекдоты! Па чарзе! Пачынай — ты!»

## Пітэр

— Але не Пэн! — крычаў з галёркі Уільям, як толькі ў час пераклічкі інструктар Даг называў гэтае імя. Дзіўны чалавек. Я яго нават пабойваўся. Памятаеце стары савецкі мультфільм «Вяртанне блуднага папугая»? Пітэр — выліты папугай Кеша. Доўгі нос, кароткая, паднятая гелем, прычоска, нібы хохлік. Гэтак жа рэзка дрыгаў галавой, насіў акуляры з вялікімі лінзамі, таму і вочы здаваліся вялікімі. Неяк ішоў я на перапынак, і Пітэр побач. Раптам ён загаварыў, нібы адказваў на маё пытанне:

— А я здаў усё без адзінай памылкі...

— Ну, малайчына, мне вельмі прыемна, — без асаблівых эмоцый сказаў я.

— Гэта таму, што ў мяне шэсць месяцаў практыкі!

— Ну, мне яшчэ больш прыемна за цябе! — сказаў я і пайшоў хутчэй...

Родам ён быў з Мінесоты, працаваў шэсць месяцаў дальнабойшчыкам на другую буйную кампанію. Там ён трапіў у невялікую аварыю. Відаць, не вытрымаў патрэбную дыстанцыю і наехаў на машыну, якая стаяла спераду. Яму далі другі шанец, і працу ён не згубіў. Але праз месяц на адным з трак-стопаў яго злавілі з сямнаццацігадовай дзяўчынай у кабіне грузавіка. Яго звольнілі, і ён вырашыў уладкавацца ў СВІФТ. Практычны экзамен ён не здаў, яму сказалі:

— Прыйдзецца вучыцца нанова, нягледзячы на тое, што маеш правы.

Ніхто не разумеў яго жартаў, ён рагатаў на фоне магільнай цішыні. Жыў у пакоі з двума афраамерыканцамі, якія ўсе гэтыя два тыдні тэлефанавалі ў галоўны офіс кампаніі і прасілі перасяліць іх ад Пітэра. Іх так і не перасялілі, а яны абураліся: за ўвесь час Пітэр ні разу не схадзіў у душ і не пачысціў зубы. Меў адны штаны і кашулю, у якіх хадзіў на заняткі і спаў пад коўдрай, не распранаючыся. Уільям, не думаючы доўга, даў яму клічку ў традыцыях сярэдняй школы — «смярдзючка». Пітэр быў прадметам розных насмешак і здзекаў. Я стараўся яго проста ігнараваць, ён, у сваю чаргу, стаў трымацца асобна, перастаў жартаваць, ні з кім не размаўляў.

Нельга сказаць, што ўсе ў класе, акрамя Пітэра, былі адэкватныя і станоўчыя. Хапала людзей з дзівацтвамі. Уільям сканіраваў іх, як рэнтген, прыдумваў ім адпаведныя мянушкі.

Адзін афраамерыканец быў звар'яцелы на сэксе. Аднойчы Макс схадзіў з ім за кампанію ў краму і адразу пасля прагулкі параіў мне асцерагацца гэтага тыпа. Ды не атрымалася. На наступны дзень ён запыніў мяне ў туалеце з дурным пытаннем пра рускіх жанчын:

— А гэта праўда, што рускія жанчыны не голяць ногі, пад пахамі і ўсё астатняе? Я пачырванеў і ў грубай форме сказаў:

— Не задавай мне дурных пытанняў!— ну, а выходзячы, працадзіў праз зубы:

— Усё ў іх нармальна. І дзе ты набраўся такой брыды?

Уільям адразу назваў яго проста і выразна: — Порна.

Яму было гадоў 50. Усё жыццё жыў адзін, ні жонкі, ні дзяцей, што для чарнаскурага здаецца дзіўным. Меў калекцыю з трохсот дыскаў «фільмаў для дарослых», якімі ён хваліўся. Праз тыдзень многія пачалі яго пазбягаць, нават баяцца. Усе зразумелі, што грошы свае бедалага будзе спус-

кацць у прыдарожных стрыптыз-клубах, і што наша прафесія для яго не падыходзіць.

Была ў нас бабуля Бюргер Кінг, якая ў першы дзень прыезду ў гатэль пешкі прайшла амаль тры кіламетры, каб купіць чызбургер і яе любімае Бюргер Кінге. Вось на якія ахвяры ідуць амерыканцы дзеля яды!

Як высветлілася ў апошні дзень вучобы, сярод нас было некалькі марскіх пехацінцаў, трое ваявалі ў Іраку, адзін з іх быў снайперам.

Вучыўся з намі поўны афраамерыканец Лі, былы механік, ён ледзь варушыўся, гэтак жа марудна гаварыў і гэтак жа думаў. Уільям назваў яго «Вялікі Чарвяк». Але ён не крыўдаваў і ладзіў з Уільямам «славесныя дуэлі гумару», у якіх зрэдку перамагаў.

Першы тыдзень мы вучыліся з пяці ранку да пяці вечара. Першы дзень для мяне быў самы цяжкі. Нас пасадзілі за руль грузавіка, і трэба было за два дні засвоіць і давесці да аўтаматызму галоўны манеўр, бо калі яго не асвоіш, то няма ніякага сэнсу вучыцца далей. Але, як толькі ты яго засвоіш, усё астатняе пойдзе, як па маслу. Трэба было заехаць задам з прычэпам па прамой. Толькі і ўсяго!? Спачатку трэба было прывыкнуць, што, калі паварочваеш руль улева, прычэп ідзе ўправа. Пасля трэба выраўняць сам кузаў з прычэпам. І ў выніку — у мяне прычэп быў усюды, але не там, дзе трэба. Здавалі нервы. Даг заскочыў у кабіну са словамі:

— Давай без панікі! Успрымай усё проста! Рукі на руль у пазіцыі 3:9, глядзі ў люстэрка. Прычэп ідзе ўправа, туды круці руль, толькі ў паўабарота, бачыш, выраўняўся, зноў 3:9, цяпер пайшоў улева, і мы туды ў паўабарота, зноў выраўнялі, і зноў 3:9. Вось і ўсё. Ну, што, крэйзі рашн, не будзеш болей пінаць са злосці мой грузавік?

— Не буду...— сказаў я.

Пасля гэтага стала лягчэй. Ды я злаваў, што ў мяне адразу не выходзіла, як у другіх у класе. Макс падбадзёрваў:

— Усё будзе добра, не бойся! Ты яго асядлаеш!

Пасля вучобы ён выцягнуў мяне ў кітайскі буфет, дзе за восем даляраў можна было наесціся, колькі хочаш. І гэта дапамагло. Мы павячэралі, мілая кітайская дзяўчына прынесла нам рахунак з двума традыцыйнымі кітайскімі Пячэнькамі Лёсу, у якіх былі паперкі з прароцтвам. Я разламаў пячэнне, «папірусны звітак» раскруціўся, прачытаў такое:

*усё атрымаецца ў таго, хто чакае...*

Набраўся цярпення, і ў мяне пачало выходзіць. Мой аўтамабіль, як зачараваны, ехаў па прамой. Па-сяброўску яшчэ раз штурхануў яго нагой. У канцы наступнага дня са з'едлівай усмешкай да нас зайшоў Даг. Ён насіў каўбойскі капялюш, які ледзь трымаўся на яго лысіне. Спачатку з офіса

выходзіў яго вялікі жывот, а свісток матляўся на пупку, пасля ўжо сам Даг. У яго не было чатырох верхніх пярэдніх зубоў, і ён не саромеўся, заміраў з шырокай усмешкай на шчаціністым твары, слухаючы чарговы жарт нашага Уільяма. Паводле чутак, якія лунаю па класе, зарабляў ён шалёныя грошы. Я верыў у гэта, толькі мяркуючы па тым, што, калі амерыканец згаджаецца працаваць на холадзе штодзённа па 12 гадзін, і, пры гэтым, нават, калі яго застане тарнада, патоп, ураган, ён не мае права схавацца, у адрозненне ад нас, у кабіну або ў любое памяшканне, то на яго чэку сапраўды павінна быць шмат нулёў. Таму з такім заробкам ён мог бы рабіць сабе галівудскую ўсмешку кожны месяц. А яму было проста ўсё роўна. Гэта ўжо лад жыцця. І як бы дзіўна ні гучала, але гэты прабел у зубах быў яму нават да твару, прыдаваў яго вобразу некаторую зухаватасць. Дачакаўшыся цішыні, Даг пачаў сваю прамову.

*Эх, ды вы малайцы! Можна з вамі такое рэаліці-шоу наладзіць! Гэта была б бомба! Сёння зранку паўгадзіны я проста стаяў і назіраў. За пяць гадоў працы інструктарам я такога нагледзеўся, ды ўсё роўна кожны раз перажываю сапраўднае задавальненне: адзін сядзіць у грузавіку і махае рукамі, другі ходзіць па паркоўцы, сварыцца сам з сабой, трэці выбівае ўсіх чарцей з беднай машыны, нехта амаль плача. Паслухайце і зарубіце ў мазгах вось што — вы сюды трапілі не дальнабойшчыкамі, а каб імі стаць. Гэта прыйдзе да кожнага, як пстрычка, вы пачуеце ў галаве такі гук: «Дзын-Дзын!» Да цябе гэта прыйшло сёння, да яго прыйдзе заўтра, ды гарантую — да канца нашых двух тыдняў усе пачуюць гэтае бадзёрае «Дзын-Дзын!» Заўтра вы будзеце трэніраваць розныя заезды ў бокс і ўсялякага роду паркоўкі, іх здаюць — у кожным штаце іншыя. Некаму трэба будзе здаць усяго адну, а некаму ўсе тры. Таму прашу вас наперад — меней думайце! Або не думайце зусім! Не трэба выдумляць ніякіх страхаў, не трэба нічога планаваць, трэба проста загнаць гэты чортаў грузавік у бокс. Вот і ўсё! Ведайце, дальнабойшчыкі лянівыя ад прыроды! Усе запомнілі? Ну, тады паехалі адпачываць!*

Мне пашанцавала. У штаце Пенсільванія трэба было здаваць усяго адзін заезд задам па прамой і задам у бокс пад вуглом у 45 градусаў. Я захапіў самага дальняга сіняга каня наводшыбе і ўвесь апошні тыдзень з яго не злазіў. Амаль усе машыны ў нас былі амерыканскай фірмы Freighliner. І былі два Volvo. Розніца істотная.Volvo ішоў па прамой роўна, і руль круціць не трэба было зусім. Я падсмейваўся з Макса, што не параўнаць амерыканскі аўтапром з Еўропай. Ён усміхнуўся, ды з гонарам знаходзіў апраўданне:

— Ну, не ведаю, у майго таты амерыканец. Там і туалет, і душавая кабіна, і ракавіна ёсць. Там можна жыць. І любы ваш Volvo на трасе ён у тры секунды зробіць!

Мы вельмі стамляліся ад заняткаў. У гатэлі рабілі такія-сякія дамашнія заданні, вячэралі і кладліся спаць. Зрэдку я хадзіў з натоўпам нашых чорных «гангстэраў» у краму канцтавараў. Наша школа была, мусіць, адзіным месцам, дзе арава чарнаскурых галаварэзаў з кліпаў амерыканскіх рэпераў магла стаяць з белым ля прылаўка, шумна гаварыць і выбіраць сшыткі, лінейкі, папкі, ручкі-карэктары, алоўкі. У апошні дзень першага тыдня Даг параіў нам легчы спаць як мага пазней, бо наступны тыдзень мы пачыналі вучыцца з 5 вечара да 5 ранку. Калі выходзілі з класа, я заўважыў плакат, якога раней не было. На сінім фоне яснелі словы:

*У жыцця адзін кірунак,*
*і ён проста па курсу!*
*Другі тыдзень.*

Паводле школьных правілаў, спіртныя напіткі ў гатэлі забараняліся. І калі ў халадзільніку знаходзілі бутэльку піва, вылятаў вон адразу ўвесь пакой. Але прадбачлівы Коўдзі ўсё за ўсіх прыдумаў, і ў той вечар, калі нам трэба было не спаць да глыбокай ночы, ён прыйшоў у наш пакой з папяровым пакетам, у якім кожнаму прынёс па халоднай пляшцы піва. Са словамі: «Трэба ж пасля такога тыдня і расслабіцца»— выцягнуў з-за пазухі чатыры пластыкавыя шклянкі з лагатыпамі Кока-Кола, выліў у шклянкі ўсё з бутэлек, закрыў накрыўкамі, уставіў трубачкі, а бутэлькі занёс у машыну. Вярнуўся і гучна, каб чулі суседзі, сказаў:

— Ну, калі піва піць нельга, будзем смактаць яблычны сок!

Першы дзень другога тыдня зноў пачынаўся з тэорыі ў старога добрага Джымі. Ён паказваў нам відэаролікі правілаў бяспекі на дарозе, як знаходзіць адзіна правільныя рашэнні ў складаных і небяспечных сітуацыях і іншае... Пасля быў чарговы нудны даклад пра патрабаванні кампаніі да шафёраў. Пазней, каб разбавіць сонную атмасферу, ён прачытаў нам дзве байкі, ілюстрацыі да якіх пражэктар высвечваў на сцяне. Ну, а мараль кожнай байкі павінны былі прыдумаць мы. Крыху дзіўныя байкі. Такія можна пачуць толькі ў Амерыцы.

## Першая байка Джымі

Сядзеў неяк у гушчары дрымучага лесу ў штаце Мічыган... (Ёсць хтонебудзь з Мічыган? Няма, ну, і ладна)... на верхавіне веймутавай сасны горды арол. Сядзеў і грозна ўглядаўся ўдалеч. Раптам чуе пісклівы голас знізу, пішчаў заяц.

— Чаго табе, заяц, трэба?— важна спытаў арол.

— Можна запытаць: ты сядзіш сабе на суку і нічога не робіш, проста лупіш вочы ў неба. А я ўвесь час па лесе нашуся, як угарэлы, няма калі

нават за вухам пачасаць. Несправядліва! Я таксама хачу разваліцца на суку і біць бібікі.

— А хто табе забараняе?— сказаў арол, нават не зірнуўшы ўніз.

— Што, дык мне можна таксама? Ну, тады я палез, — адказаў заяц...

Доўга караскаўся па сасне, усе лапы абадраў. Арол вырашыў не псаваць сабе настрой такім нікчэмным відовішчам і паляцеў. Нарэшце заяц далез да самай макаўкі, уладкаваўся, ляжыць сабе, пасвістае і варушыць у рытм вялізнымі вушамі. І тут пырснула кроў на галіны магутнай сасны. А гэта па скале паднімаўся паляўнічы, убачыў на верхавіне сасны зайца і стрэліў...

Першым падняў руку Рыкі. Ён сказаў:

— Я думаю: гэты заяц — малады кіроўца, такі, як мы, арол — вопытны шафёр. І калі мы назіраем, што ў вопытнага арла ўсё выходзіць добра, зусім не значыць, што і ў нас атрымаецца лёгка. Спрыт прыходзіць з вопытам!

Першае, што мне прыйшло ў галаву, было: «Рождённый ползать, летать не может», але я вырашыў не выступаць. Джымі падагуліў усе выказванні: для кожнага новага этапу трэба быць добра падрыхтаваным.

## Другая байка Джымі

Ляцела малая птушка зімаваць на поўдзень. Доўга збіралася ў дарогу, таму вылецела позна. Ляцела яна, ляцела і замерзла, бедалага, па дарозе. Упала ў чыстае поле, ляжыць і думае: «Ну, усё, тут і смерць мая прыйшла...» А замест смерці праходзіла карова, па шчаслівай выпадковасці, ляпнула яна проста на бедную птушку, чым выратавала ёй жыццё. Ляжыць птушка ў цёплай каровінай аладцы і думае:

— Ой, як жа мне добра, мякка і цёпла! Душа спявае! А чаму б і сапраўды не запець? — і пачала шчабятаць сваю любімую песню. Ляжыць і шчабеча. А тут з рэчкі праз поле ішоў галодны кот. Рыбы не злавіў. Раптам чуе шчабятанне нашай гераіні, знайшоў бедную птушку, не пагрэбаваў і каровячай аладкай, з'еў.

Тут ужо ўстала наша бабуля Бюргер Кінг і сказала:

— Тут усё проста: калі ў цябе цэлая куча праблем, а ты вырашыла толькі адну, — не спяшайся цешыцца. Вырашы ўсе, пасля весяліся.

Нехта выкрыкнуў:

— Не адкладвай на потым тое, што можна зрабіць цяпер!

І, вядома ж, не вытрываў Уільям:

— Калі ты заляцеў на грузавіку ў кювет і з табой усё нармальна, то тэлефануй не сваёй сяброўцы, а ў СВІФТ.

Джымі ўсміхнуўся і паправіў:

— У паліцыю. Першая справа — заўсёды тэлефануем у паліцыю.

У канцы ўрока Рыкі падышоў да Джымі і папрасіў даць яму раздрукаваць гэтыя байкі. Ён захацеў прачытаць іх свайму малодшаму сыну.

З наступнага дня мы зноў былі на нашым аэрадроме. Ноччу вадзіць было дрэнна, жоўтай лініі ў люстэрку не відно, конусаў таксама. Многія раздабылі ліхтарыкі і паўстаўлялі іх у кожны конус. У першы дзень нам паказвалі, як рабіць поўную праверку грузавіка, і да экзамену трэба было вывучыць на памяць назвы васьмідзесяці дэталяў машыны, паловы значэння якіх я не ведаў нават па-руску. Многія бачылі, што я разгубіўся ва ўсіх гэтых тэрмінах, і амаль што кожны прапаноўваў мне дапамогу. Я выбраў Уільяма, як былога механіка. Ён мне падрабязна растлумачыў, нават начарціў у сшытку некаторыя чарцяжы. У выніку чаго, я вывучыў усё гэта на памяць, як верш у школе, каб упэўненым быць на ўсе сто.

За 12 гадзін вучобы ў нас былі два перапынкі па 15 мінут і адна гадзіна на абед. У час перапынкаў усе гаварылі несціхана. Самымі папулярнымі тэмамі размоваў была зброя, амерыканскі футбол і цюнінг аўтамабіляў. Па першых двух тэмах я не мог сказаць абсалютна нічога. Прыйшлося падтрымліваць размовы пра машыны. Усе паказвалі адны другім фота з тэлефонаў, апавядаючы паралельна, як яны пераўтваралі стары і дабіты бацькаў пікап, якая «гума» ў іх «маленькіх» і як прафесійна яны выразалі аркі, каб паставіць калёсы на некалькі памераў большыя. Усе мелі дазвол насіць зброю. Асабістага пісталета не было толькі ў мяне і ў Пітэра. Яны праходзілі міма, без задняй думкі задавалі мне пытанне:

— О, Стэн, і ты тут? А ў цябе, дарэчы, якая пушка?

— Няма ў мяне ніякай пушкі!

— У сэнсе? — і тут уся іх сістэма свету разбуралася проста на вачах...

— Ну, так, няма, я нават у руках яе не трымаў...— спакойна тлумачыў я. Яны не маглі зразумець, як можна не мець асабістай зброі, і звычайна ішлі далей са словамі:

— Ну, гэта проста крэйзі!

З другога тыдня да нас далучыліся некалькі чалавек з папярэдняга класа, якія не здалі свае паркоўкі, ім прыйшлося ўсё паўтараць. Калі не зробіш гэтага з другога разу, цябе адпраўляюць дамоў, а грошы за навучанне заплоціш сам. Сума даволі сур'ёзная. Была сярод іх афраамерыканка Пэгі. Ёй у час вучобы споўнілася 50 гадоў. Выскокваючы з кабіны, яна пела, танцавала і гэтым прыцягвала на сябе ўвагу. Аднойчы ў абед Хасан, як звычайна, абмяркоўваў папулярных саул-выканаўцаў. І як толькі ў размо-

ве прагучала імя Сэм Кук, з задніх радоў пачулася «A Change is gonna come» (Перамены будуць!). Спявала Пэгі. А я анямеў. Уітні Х'юстан не стаяла побач. Для ўсіх афраамерыканцаў — гэта іх гімн Свабоды, у Саюзе ў часы перабудовы такой песняй была «Пераменаў» Віктара Цоя. Толькі тут пераменаў не чакаюць, яны ўпэўнены, што перамены прыйдуць. Песня з'явілася ў 1964 годзе, і стала сімвалам усіх рухаў у абарону грамадзянскіх правоў афраамерыканцаў. Амаль кожны чарнаскуры спявак гэтую песню спяваў. Я слухаў яе ўпершыню. Мусіць, першыя ўражанні самыя моцныя, а можа, ад нечаканасці, — калі знайшоў пасля песню ў інтэрнэце, ніхто так мяне не здзівіў, як Пэгі.

Яна выканала песню да канца, у сярэдзіне «выступлення» выскачыла на парту, са сшыткам, скручаным, як мікрафон, пачала скакаць. Хасан таксама пусціўся ў скокі, і ён любіў гэту песню. Усе інструктары выйшлі з офіса. Гэта быў фурор. Пэгі ўжо размаўляла з некім, а авацыі і свіст не сціхалі.

На перапынку інструктар Кені ўварваўся ў клас і папрасіў хвіліну ўвагі. Ён увесь тросся ад злосці. На паркоўцы адбыўся абуральны выпадак, імя якому расізм. Да Кені звярнулася некалькі вучняў з абурэннем, што ў школе ёсць чалавек, які выказвае расісцкія погляды. Расістам аказаўся мужык гадоў сарака, былы вайсковец, яго расізм праяўляўся ў тым, што ў размове некалькі разоў ён паўтарыў слова «нігер». Пачуўшы гэта, афраамерыканцы, не разбіраліся, у якім кантэксце, — адразу пайшлі да Кені.

— У нашай школе няма расізму, калі ты расіст, то або гэта старанна хавай, або збірайся дамоў. Я не буду называць, хто гэта, ды калі зноў паўторыцца, я за сябе не ручаюся! — раззлаваўся Кені, але хутка астыў. Нарэшце сказаў жартам:

— Расізм — гэта зброя слабых. Усе ведаеце персанажа дзіцячай кампутарнай гульні Марыо? Мой малодшы сын у яе гуляе цэлымі днямі напралёт. Дык вось, паглядзіце на Марыо, гэта італьянскі сантэхнік, прыдуманы японцамі, які свабодна размаўляе па-англійску, а выглядае, як мексіканец! Ладна, пайшлі вучыцца!

Канчаўся другі тыдзень. Пачынаючы з серады, можна было здаваць нарматывы, калі ты ў сабе ўпэўнены. Я здаў у чацвер, увесь апошні час мы сядзелі з Максам у маім блакітным грузавіку, нічога не рабілі. Ён расказваў пра Мексіку, я пра Беларусь. У пятніцу вучоба пачыналася не ў 5, а ў 12 гадзін дня. Ніхто не выспаўся, усе ледзь валаклі свае ногі па пляцы. Гэта быў апошні дзень практыкі, які пайшоў на папяровую валакіту. Калі заходзілі ў аўтобус, ляпалі па плячы старыну Дага ў знак удзячнасці за навуку. У гатэль прыехалі ў 11 гадзін вечара. Прыехаў Коўдзі са сваёй спецыяльнай электрычнай пліткай і пачаў гатаваць у нас на кухні традыцый-

ныя амерыканскія стэйкі. На некалькі хвілін заміраў, папраўляў сваю кепку, рабіў сур'ёзны выгляд і гаварыў з правінцыйным акцэнтам: «Medium-rare onli!» (толькі сярэдняй смажкі!). І зноў браўся за патэльню. Стэйкі, яблычны сок і дарожны фальклор... Пасля абменьваліся тэлефонамі электроннай почты.

У суботу быў апошні тэарэтычны клас у Джымі. Амаль увесь час пісалі тэсты. Трэба было ўмець вызначыць па карце адлегласць паміж гарадамі, разлічваць кіламетраж, расход паліва, час у дарозе. У першы дзень вучобы ў нас было чалавек трыццаць пяць, да апошняга дня дабралася толькі дваццаць. У чатыры гадзіны прыехалі ў гатэль, дружна сабраліся, паехалі на аўтавакзал. Усхваляваныя, жартавалі нават з Пітэрам. Ехалі — хто на тыдзень адпачынку дамоў, хто ў тэрміналы свайго штата, дзе трэба было яшчэ тыдзень вучыцца, каб атрымаць правы. А толькі пасля кожны атрымае машыну. З хваляваннем чакалі гэтага моманту. Вялікай і шумнай кампаніяй мы акупіравалі вакзал. У Макса ўсе размовы былі пра Келі. Рандэл сварыўся са сваёй сяброўкай па тэлефоне, Рыкі на хаду складаў развітальны рэп, Пэгі яму падпявала. Порна цягнуў усіх у бліжэйшы стрыптыз-клуб, Хасан частаваў мяне прысмакамі, а Пітэр маўчаў. З кожнай гадзінай людзей заставалася меней. 801 клас пражыў два тыдні, цяпер знікаў у велізарнай краіне, па бяскрайніх дарогах якой будуць круціць баранкі па начах яго вучні. «Шэры ганчак» звабліва шыпеў на платформе, а гатовая накінуць на мяне сваю пятлю дарога здзекліва ўсміхалася і шаптала мне на вуха слязлівыя радкі Таццяны Аўсіенка:

*стамлёна вочы глядзяць у ноч, не спіць шафёр-дальнабойшчык...* Штурхаючыся ў чарзе, я развітваўся з імі. Адусюль чуваць было:

— Крэйзі, Беларус!— настырная дарога не супакойвалася:

*...наша жыццё — шаша, шаша даўжынёй у жыццё!*

Заходзіў у аўтобус, ззаду нехта сказаў:

— Стэн, мы абавязкова перасячэмся на якім-небудзь трак-стопе. Праз год або праз гадоў пяць, мы сустрэнемся, старына. Не такая і вялікая гэта Амерыка!



# Лявон Валасюк

паэт, празаік, мастак. Аўтар зборнікаў вершаў «Блики дня» (1999), «Краски души» (2000), «Под знаком Стрельца» (2001), «Леаніды» (2003), «Чырвоная вежа» (2004), «Познія сны» (2006), «Знакі на валуне» (2010); кніжак прозы «Сцежкі да сядзібы» (2008), «Вяртанне Берасцейскай Стралы» (2012). Лаўрэат Берасцейскай абласной Мядовай літаратурнай прэміі (2008). Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Песцянькі на Кобрыншчыне. Жыве ў Брэсце.

# Дзверы ў ноч

Я сядзеў на верандзе спінай да адчыненых дзвярэй і ў начной прахалодзе перабіраў старыя часопісы. Як раптам адчуў, быццам нехта глядзіць мне ў патыліцу.

Мне хацелася павярнуць галаву да дзвярэй, азірнуцца ў цемру. Але цела не слухалася. Яно ўсё роўна як анямела...

Я ўсё больш адчуваў млявасць. Спатрэбілася намаганне волі, каб скінуць яе і паварушыцца.

Непрабіўною сцяной стаяла загадкавая цемра. Было ціха. Толькі ў небе далёка свяціліся кропачкі зорак...

Я ўзіраўся ў ноч, і мне здавалася, што нехта нябачны гэтак жа глядзіць на мяне адтуль, з густой, глыбокай цемры. Нехта незнаёмы, незразумелы, чужы...

Вялікае, невядомае НЕШТА ўтаропілася ў мяне, быццам разглядвала з касмічнай прасторы, вывучала...

Зоркі мігцелі, свяціліся. Павольна плылі цішыня і водар мяты, што расла ля плота.

Загадкавая сіне-фіялетавая летняя ноч узіралася ў адчыненыя дзверы, за якімі сядзеў я, збянтэжаны, узбуджаны нечаканай з'явай...

Жоўты матылёк заляцеў у пакой, наблізіўся да гарачага шкла настольнай лямпы, парушыў цішу шолахам сваіх крылаў.

# На верандзе старога дома

Незвычайна свяціліся каляровыя шыбіны на верандзе старога дома, ля якога я апынуўся нечакана, заблудзіўшы ў малазнаёмым раёне горада.

У святле, што прабівалася з веранды, раптам зацвіў дзіўны сад. Чырвона-жоўтымі агеньчыкамі гарэлі ружы, гладыёлусы, макі... Фіялетавыя, блакітныя, сінія званочкі быццам вызвоньвалі вячэрнія каляровыя мелодыі... Белыя рамонкі, як першы нечаканы снег, дыхалі чысцінёй, запрашалі на свята...

Я стаяў, зачараваны відовішчам... Колернае багацце, букет незвычайных плямаў паланіў мяне, захапіў... У думках я маляваў гэты агромністы букет кветак на вялікім палатне. Як знайсці фарбы, каб перадаць гэты колер? Гэтае дыханне і святло! Гэтую незвычайную мелодыю гармоніі!

# Трывога

Цэлы-цалюткі дзень я не бачыў ЯЕ. І пад вечар авалодала мною незразумелая, невыказная трывога-туга. Рабілася неспакойна на душы ад недарэчных думак, якія настойліва, як холад за каўнер кашулі, лезлі ў галаву...

Ці то рэўнасць закрадвалася, як злодзей, ці то светлае пачуццё прарастала ў душы.

Я думаў пра ЯЕ.

Я казаў ёй, што раней, на пачатку нашага знаёмства, ЯНА была вясёлая, жыццярадасная... А цяпер?..

— Раней я мала думала пра нешта сур'ёзна, — адказала ЯНА мне. — А зараз я ўсё болей задумваюся пра тое, што адбываецца навокал мяне. Я хачу ўдзельнічаць у перабудове гэтага недасканалага асяроддзя... І мне становіцца трывожна.

# Сцяжынка ў жыце

Пасля непрацяглага прыпынку цягнік павольна пачаў набіраць хаду. Седзячы ля акна, я ўзіраўся ў знаёмыя краявіды, як бы пражываючы наноў мінулае сваё жыццё, успамінаючы светлыя дні дзяцінства...

Па гэтай чыгунцы я езджу даўно. Памятаю яшчэ, як замест цяперашніх электрацягнікоў пускалі пару і дым паравозы. Па наваколлі тады разносіўся пах недапаленага вугалю. Гэта запомнілася на ўсё астатняе жыццё...

За акном злева цямнела мора зялёнага жыта. Яго хвалі падганяліся лёгкім ветрыкам. Здавалася, плывеш па моры, якому ні канца, ні краю. Але ўдалечыні жытнёвае мора абрывалася цёмным сілуэтам дрэў і дамоў невялікай вёсачкі. І што больш за ўсё ўражвала — дык гэта старая царква, якая бялела там, у далечыні. Яна прыцягвала ўвагу да сябе рысамі някідкай і ў той жа час велічнай архітэктуры.

Цягнік паступова аддаляўся ад станцыі сярод поля. Я павярнуў галаву крыху назад, бо пабачыў, як праз жытнёва-пшанічнае мора рухаюцца ледзь прыкметныя дзве чалавечыя постаці: наперадзе жаночая, а на некаторым аддаленні — мужчынская. Яны ішлі да вёскі, а праўдзівей сказаць, дык сцяжынка праз жыта вяла акурат ад чыгункі да царквы. Нехта першы пратаптаў тую сцежку яшчэ па свежаўзаранаму полю. Жыта расло, цягнулася да сонца, а людзі кожны дзень хадзілі па гэтай

сцежцы, як па сваёй хаце, несучы да царквы неўсвядомлены самімі грэх...

Неяк адразу прыпомнілася з дзяцінства: у пяці-шасцігадовым узросце з суседскай дзяўчынкай Анютаю бяжым праз жыта да бацькоў на сенакос. А тыя, замест таго, каб абрадавацца нам, пачынаюць ушчуваць, сур'ёзна, як дарослых.

У тым сонечным дзяцінстве мы беглі да поля, каб нарваць на мяжы сціплых, але вельмі прыгожых валошак і рамонкаў. Бывала, што гулялі ў хованкі, побач, у кустоўі. Але ў жыта — аніколі.

# Кныр

Віцёк — мой даўні знаёмы. Па адукацыі ён настаўнік, але апошнім часам працуе на механічным заводзе слесарам. Так склалася ў жыцці... Чалавек ён нядрэнны, але часам любіць і чарку ўзяць пад добры закусон, і палайдачыць.

Аднойчы асеннім вечарам ён няблага пасядзеў за вячэраю ў аднакласніка Мішы, які служыў афіцэрам у расейскай арміі. А зараз знаходзіўся на пабыўцы ў сваіх бацькоў, таму і запрасіў свайго сябра Віцька пабачыцца. Было што расказаць адзін другому. Было што і выпіць...

Ранкам на наступны дзень Віцька будзіў на працу бацька (маці зранку займалася па гаспадарцы). Іван Сцяпанавіч — спакойны сталы мужчына — не вельмі любіў, калі сын выпіваў. Ды тут яшчэ як на ліха вяпрук зламаў пярэднюю нагу. Мо таму так здарылася, што хлеўчык быў цеснаваты, ці яшчэ з якой прычыны... Але цяпер ён дзіка верашчаў, і выходзіла так, што трэба было яго дабіваць, каб не мучыўся...

— Віцёк, уставай, пара на працу збірацца, — тузаючы за плячо, Іван Сцяпанавіч будзіў сына. — Прыйдзеш на завод, адпрасіся ў свайго начальніка на сённяшні дзень. Скажы, што потым адробіш, калі патрэба такая будзе. Усё роўна сёння там з цябе толку мала. Будзеш думаць толькі, як і дзе падлекавацца. А тут вепрыка нашага трэба рэзаць. Кныраваў, кныраваў, пакуль нагу не зламаў. Каб яго ваўкі з'елі... — вылаяўся бацька і пайшоў на кухню, трымаючы правую руку на сэрцы, якое апошнія дні не давала спакою.

Віцёк чухаўся, чухаўся, пакуль пагаліўся-памыўся. Не еўшы, пакрочыў на завод, які быў недалёка ад хаты, праз дзве невялічкія вулкі на ўскрайку горада. З хворай галавою, з піўна-вінным перагарам падышоў Віцёк да свайго майстра Васіля Васільевіча — пяцідзесяцігадовага невысокага мужчыны, хударлявага, з вузкай бародкаю і тонкімі вусамі. Але погляд у

майстра быў суровы заўжды. Такім нарадзіўся. У рэдкіх выпадках ён скупа ўсміхаўся...

— Васіль Васільевіч, дазвольце сёння ўзяць адгул. Кныр наш нагу зламаў, раве на ўсю Кіеўку (раён горада). Трэба яго зарэзаць, абсмаліць... Бацька вельмі прасіў дапамагчы, бо няма болей каму ды і прыхварэў крыху, — слёзна папрасіў Віцёк, стараючыся не глядзець у вочы свайму «шэфу».

Майстар адразу не зразумеў — ці ягоны падначалены шуткуе, ці ўсур'ёз гаворыць. Зморшчыўся ад моцнага перагару Віцька, працадзіў скрозь зубы:

— Цябе самога зараз, як таго кныра, абсмаліць трэба...

Васіль Васільевіч махнуў рукою з выглядам безнадзейнасці і пакрочыў прэч ад пераляканага Віцька... Паўдня хадзіў за ім Віцёк, пакуль адпрасіўся. Але было позна: дома панылы бацька яшчэ ў парозе паказаў яму на дзверы — маўляў, ідзі гуляй, лайдак, вяпрук сам дайшоў...

# Жаўрук

Маленькі шэранькі камячок-жаўрук у маёй далоні. Птушаня, якое яшчэ не навучылася як след лётаць. Бездапаможны, безабаронны жаўручок заблудзіў на дзедавым полі ў бульбяных разорах.

А дарослы птах павіс над полем, рассякаючы паветра трывожным голасам, быццам б'е ў званы спалоханымі крыламі, просячы дапамогі для сваёй маленькай птушачкі.

Добрая рука чалавека кладзе птушаня на зямлю пад зялёнае бульбянішча. Жаўручок імкліва ўспырхвае, лапоча сваімі яшчэ нядужымі крылцамі.

Бяжы, хавайся, ратуйся, птушаня! Вырастай у вясёлага звонкагалосага птаха, ахвяруй для людзей жыццесцвярджальны свой голас кожным днём кароткага птушынага веку...

# Сад

Мы пад'язджаем на машыне да калгаснага саду. Вялікі прыгожы сад размясціўся злева ад дарогі, свабодна, нібы кінуты ў траву капялюш волата.

Саду дыхалася лёгка. І, падалося, шчадрыні яго не было мяжы. Думалася ў той момант, што ўсе свае набыткі ён, як добры чалавек, аддае людзям з прыемнаю ўсмешкаю на твары.

Справа ад дарогі на няўдала пераaранай зямлі, пакрытай зялёнай травою і кветкамі, невялічкімі купкамі раслі карчы бэзу і лазы. Дзе-нідзе ляжалі вялікія камяні-валуны, маўкліва стаялі некалькі пладовых дрэў...

— Што гэта? — спытаў я ў дзядзькі Валодзі, з якім ехаў побач у «ЗіЛКу».

— Раней тут была вёска. Немцы ў 1943 годзе спалілі яе... — адказаў сумна пажылы шафёр, насунуўшы сваю зашмальцаваную кепку ніжэй на вочы.

На імгненне стала невыносна ціха. Так, што хоць лопні. Цішыня нябачна сціснула з усіх бакоў мяне... Іншымі вачыма пачаў глядзець я на гэтыя раптам пацямнелыя травы і кветкі, на карчы, камяні і дрэвы...

І раптам у сонечнай вышыні зазвінеў голас жаўрука. З дзядзькам Валодзем адначасова паднялі вочы і прыціхлі, услухоўваючыся ў гэтую цішыню, у гэты голас маленькай птушкі, нашага мілага званочка, — птушкі мірнага летняга дня...

# Сусед

Летнім ранкам зайшоў да мяне сусед Іван, пяцідзесяцігадовы хударлявы мужчына, беспрацоўны ўжо не першы год. Асноўны яго занятак — збіранне парожніх бутэлек, рыбалка на навакольных вадаёмах. Ад пастаяннага п'янства і недаядання ён стаў падобны на высушанага шчупака. І толькі светлыя валасы на галаве і блакітныя вочы напаміналі пра былую мужчынскую прывабнасць...

Іван прысеў ля калодзежа на металічную трубу, закурыў. Пасля ўчарашняй моцнай выпіўкі яго мучыла смага. Івану хацелася пахмяліцца, але не было грошай. Я яму «лекарам» не стаў, прапанаваў вады.

Напіўшыся, сусед выцер рукавом кашулі вусны і зноў прысеў на трубу ля калодзежа. На некаторы час яму, відаць, стала лепей, бо ён кінуўся ва ўспаміны. Яму захацелася выгаварыцца, падняць хаця б размоваю свой дрэнны настрой. Іван апавядаў мне, як ягоная маці жыцця свайго не пашкадавала, каб нарадзіць яго. Яна ведала, што не будзе жыць пасля родаў, але пайшла на тое, каб нарадзіць дзіця...

— Ведала б яна, каго нарадзіла, — гаварыў Іван, выціраючы ўспацелы лоб, — п'янтоса і...

І я зразумеў, што мучыла суседа ўвесь час, як цяжка яму, невыносна ад думкі, што маці памерла дзеля яго, каб жыў ён, яе сын, яе дзіця...

Наступным разам ён зноў будзе гаварыць пра гэта, бо баліць.

# Гусі

Я брыў па палай лістоце, напаўняючы грудзі пахамі асенняга лесу, калі раптам пачуў угары знаёмыя журботныя гукі...

У іх адчувалася незразумелая жаночая трывога, хапатлівасць...

Я ўважліва ўзіраўся ў неба... Ляцелі гусі...

Зачараваны палётам птушак, я слухаў іх галасы і зусім забыўся пра грыбы. Сумны настрой гусей пачаў перадавацца і мне. Я спасцігаў іх птушыны настрой... Расставанне з роднымі мясцінамі... Расставанне, мажліва, для некаторых назаўжды...

Я пазіраў на гусей, якія аддаляліся ўсё больш і больш, і мне хацелася прыпыніць, затрымаць іх палёт, пакінуць птушак на роднай зямлі, у родным небе...

Без гусей будзе няўтульна і сіратліва рэчкам, лугам, балотам.

Галасы птушак сціхлі. Яны расталі ў нябесных прасторах...

Я ўтаропіўся ў зямлю, працягваў шукаць грыбы, а трывожныя па-жаночаму галасы гусей гучалі і гучалі ўва мне...

# Вось так і жывем

Завітала да цёткі Волькі землячка — пенсіянерка Сцеша, хударлявая высокая жанчына, якая жыве непадалёку. Яна заўсёды ў спрыяльнае надвор'е ездзіць на ровары. Так спраўней. За дзень шмат куды можна паспець. Звычка... Вось цяпер прыехала абгаварыць апошнія навіны раённага гарадка. Павіталася з Волькай, пачала казаць пра Ганну, якой учора прывезла з магазіна бохан хлеба. Ганна шукала, шукала грошы, каб разлічыцца за бохан, ды так і не знайшла. І, расчырванеўшыся ад пошукаў, пачала скардзіцца на дрэннае жыццё, на злодзеяў, якія яе абакралі:

— Вой, ніяк не нашкрабу! Усе грошы, мусіць, дачка з сынам пазабіралі. Як палучу пенсію, дык прыедуць, абяруць (абое жывуць у адным горадзе), нічога не застаецца, — жалілася Ганна, выцірала слёзы ражком хусткі пад вачыма, шморгала тонкім носам.

— А як жа ты жывеш?

— Ды вось так і жыву, як усе людзі...

— Ну дык і я жыву толькі на адну пенсію. Сын не хоча працаваць. Як я табе задарма хлеб магу прыносіць?

Сцеша ўсё ж не стала находзіць грошай. Паднялася і выйшла ў двор. Села на свой ровар і паехала дадому...

— А што ў яе ўзяць можна?!. — пытаецца Волька, калі Сцеша скончыла. — Яна мне гаварыла, што ўсё падзяліла паміж дзецьмі, пааддавала ўсе каштоўныя рэчы. Пакінула сабе толькі самае неабходнае. Што ў яе ўзяць цяпер? Быў адзіны канёк драўляны на страсе хаты, дык і той згніў і зваліўся ў гародчык... Вось так і жыве...



# Цыпрыян Каміль Норвід

**Восенню 2011 года мінула 190 год з дня нараджэння польскага класіка Цыпрыяна Каміля Норвіда (1821 — 1883), імя якога ўваходзіць у магутную тройку найбуйнейшых паэтаў Польшчы. Амаль усё сваё жыццё гэты выдатны паэт, драматург і мастак правёў у эміграцыі, да якой яго змусілі палітычныя абставіны акупаванай і падзеленай на часткі радзімы. Адзінокі, стомлены быццём паэт памёр ў жабрацкім прытулку для польскіх эмігрантаў на ўскраіне Парыжа. Праз усё жыццё Норвід заставаўся адданым патрыётам свайго краю, глыбокім болем і непакоем за лёс якога прасякнуты амаль кожны радок яго паэзіі. Нягледзячы на неадступныя цяжкасці лёсу, Норвід пранёс непахісную веру ў светлую будучыню свайго краю і чалавека. Творы Норвіда і зараз застаюцца надзвычай актуальнымі і папулярнымі. І, хутчэй за ўсё, ніколі не страцяць сваёй жыццяздольнасці: настолькі магутным, наватарскім і ўсеабдымным было слова паэта. У Беларусі Норвід перакладаўся толькі аднойчы, два дзесяцігоддзі таму, але імя і слова гэтага літаратурнага генія суседняй, некалі братэрскай дзяржавы, па розных прычынах застаецца амаль невядомым.**

# Усход і Захад

## Песня аб зямлі нашай

*Et aux horizons, l'on verra qui a meilleur droit* —
Jeanne d'Arc

1

Апошняй плахі дзе ўстае дзянніца,
Там сёння дом мой — там мая сталіца,
Там горад мой.

З усходу — ашуканства і цямнота,
Бізун ці пернік — так ці йнакш балота,
Мор, яд і гной.

На захад — цемрашальства і раскоша,
Фармальнасць праўды і адное — грошы,
А пыха пых!

На поўнач — Усход і Захад у злучэнні,
На поўдні — безнадзейнасць і сумненні
З-за злосці злых!

2

Таму я мушу ў глебу тварам пасці,
Каб праняслiся горычы й напасці
Па валасах.

Ці маю рукі дагары я ўзнесці
Да кожнай зоркі, што блукае дзесьці,
Нібы я сам.

Не чуць, якой ахвярай на вулкане
Зрабіўся я, што хутка ўжо не стане
Слёз і крыві!...

Ці ведаць, што агонь той мяне спаліць,
ці шлях асвеціць, ці памкнуся далей:
Дзе я — дзе вы...

3

Калі не згінеш сам, і я не згіну,
Мяне спаткаеш — дурня Славяніна —
Заходзе — ты!...

Табе ж, Усход, прызначу дзень-сустрэчы,
Калі ўжо цалкам розум твой знявечыць
Дыктат лухты.

А Поўдзень пляскаць мне ў далоні прагне;
Да Поўначы глухой увогуле не цягне.
І ўстану я.

Братэрства людзям дам, калі прасохнуць слёзы,
Бо ведае, што ёсць і што нясе пагрозу
Душа мая.

## Веліч

1

Ведаеш, хто ёсць в я л і к і м? — хвіліну,
Паслухай мяне,
Веліч не толькі між тых, хто загінуў,
Не толькі ў труне.

2

Вялікім ёсць той, каму дастаткова
Чало пахіліць,
Так, каб без дзіды й шчыта канчаткова
Бітву спыніць.

3

Не стаўшы ніжэйшым, ён Зайздрасць панізіў,
А Зайздрасць славай
Ляціць і спыняе яму знакі к р ы ж а —
Галосіць: «М а л а!»

4

І брэша сабе, як брахала спачатку,
Калі ён з уздыхам
Прыймае і славы й няславы п я ч а т к у
Сумленна і ціха.

**5**

Людзі таму ганарацца ад веды —
З простай прычыны,
Што не заўважаць у свеце іх следу
Аж да спачыну.

6

Гэтак мядзведзь, што закапвае мяса,
Каб вырыць потым.

Ды тое ў Сібіры, не разумней часам
Бывае ў Еўропе.

## Дух Адама і скандал

*Resurrexit, sicut dixit*

1

Вось ён, той самы, якога адна
Ў касцёла прадонні чарнела труна,
Уваскрэс у Слове...

2

І «кахаемся» крыкнуў пры смерці,
Ганьбу схаваўшы, паверце,
Глыбака ў сэрцы!

3

Але ж адкрыўся найперш Магдалене,
Богу падобны, падобны агменю
І багаверны.

4

І пілігрымам на Эмас ідучым
Ён запавет свой жыццёвы агучыў:
Лаўр — гэта церні...

## Восень

О — церні лепей зносіць — і з ахвотай
На дзіды йсці,
Чым у балоце тлець, к а л і  с а  с л ё з  б а л о т а,
І то ў жыцці...

Вясёлкай хай запаляць неба дзіўнай
Па лепшы свет.
Харугвамі хай вернуцца з навінай
На ўвесь партрэт.

Бо — церні лепей зносіць — і з ахвотай
На дзіды йсці,
Чым у балоце тлець, к а л і  с а  с л ё з  б а л о т а,
І то ў жыцці...

## Аўтар невядомы

Тры спевакі, што ўзрост і выгляд мелі розны,
Да вогнішча качэўнікаў прыйшлі рашуча
Спяваў пра славу першы — голас меў нягрозны —
І помсту прыгадаў, што ў позірку бліскучым,
Пра сілу пеў, што з духа глыбіні здабыта
І зброя можа быць той сілай нават збіта...

Ды песню абыякава прыняў адразу
За вогнішчам народ і потым моцна, хціва,
З запалам, мнагазначна, сказ да сказу,
Пачаў над ёй глуміцца — ці ж то дзіва? —
Што і спявак сам знік, бы здань якая.

Успомнілі калі, што ёсць другі, ды не ўцякае —
Адразу той спяваць пачаў; але па першым
Яшчэ гучала рэха тых нязграбных вершаў.
І рванымі радкамі зацягнуў, і ўбачыў,
Што прыйдзецца, падобна, ладзіць эстафету,
Па тым, што той не змог, ці не зазначыў;
Пра мэту, пра павіннасць спеў, пра лёс сусвету...

Павіннасць?... Мэты?... Надта зачапіла гэта,
Што слухачы аж затрасліся ад імпэту
І адхіснуліся; а той на іншай ноце
Пачаў мурчэць-бурчэць, як кот у слоце,
І сцішыў спеў свой так, што прыканцы
І ён і песня тая зніклі, як зайцы!...

Застаўся трэці, сведка двух абранцаў лёсу:
Настроіўшы паволі струны — выгнуў ліру
І ўзнёсся ў далеч, узвіўся да нябёсаў,
Дзе вольнасць...
...каб ужо не прылятаць з эфіру...

## Тры строфкі

Не зневажай, што раніў, ці параню,
Бо саступіў Табе на міляў мноства;
І пахаваў свае я слёзы ў Акіяне,
Зрабіў з іх востраў!...

І не  м я р к у й, як навучылі ў свеце
Святых пачуццяў с в е т л ы я  А т э л ы —
І не  к а ж ы, што не дасягнеш мэты —
Будзь на планеце!...

І  д у м а й — нават, як мяне не стане,
Труна прымае толькі прах, не болей —
Таму кажы... што выжыць быў не ў стане:
Так меней болю...

## На смерць паэзіі

*(Элегія)*

Яна памёрла!... ці ж цяжэй хаўтурам
Бываць? Як хаваць прыгажосць той асобы?
Памёрла яна ад жахлівай хваробы,
Г р а ш ы м а завецца, ш т о н е д з я ў б у ц ь і к у р ы.
Раз'ела ёй тая хвароба вантробы,
Ля ложка яе я стаю і па скуры
Паўзе халадок і сляза зноў зляцела,
Ці тое, што гасне, ёсць дух, альбо цела?

Паэзія ж, бледныя, кволыя рукі
Да шыбы падносячы, знак мне дала,
С в я т л о п р ы ц я м н і ц ь, б о в я с н ы з в а к н а г у к і
пякуць б ы х л у с н я, б ы н а с м е ш к а святла.
Я ўбачыў на ёй, ледзьве зносячы мукі,
Цень знаку, ці рану, пакуль не сышла...
І быў смутны я і смутней не бываю,
Бо могілкі маю, дзе кветку зрываю.

Памёрла (Паэзія), Веліч, Краса,
Непаяднаных двух сфераў жывіца,
Мора пачуццяў і кропля-раса,
Тая княгіня і працаўніца —
Цалкам выключная і наша ўся,
У небе галубка і ў ім бліскавіца...
Бо тыя, каму ямы рыць — рамяство,
Ідуць ужо нішчыць яе хараство!

З тых дзён у адвечным маўчання касцёле,
Засыпаным памяці зыбкім пяском,
Праходжу і нішчу дом тых, чыя роля
На могілках вечным служыць батраком.
П а к у л ь н е п а к л і ч у ц ь і х д у м к і з н я в о л і,
Я клічу гром з неба, каб біў у іх дом.
Калі ж няма ў сэрцах агню вашых, людзі,
Уверсе яго бліскавіца абудзіць.

*Іўры, 1877 [1870]*

**Пераклад з польскай мовы Паўла Надольскага**

# ВЕРАСЕНЬ

## КРЫТЫКА
## ПУБЛІЦЫСТЫКА
## Э С Э

алена свечнікава
святлана калядка
альдона мартыненка
ала петрушкевіч
уладзімір сіўчыкаў
наста грышчук
анатоль трафімчык
марына яўсейчык
таццяна мацюхіна
вітаўт мартыненка



# Алена Свечнікава

**культуролаг, паэтка, крытык, перакладчык, бард. Кандыдат культуралогіі. Аўтар кнігі вершаў «Слова»(2009). Удзельнік і лаўрэат шматлікіх фестываляў аўтарскай песні. Нарадзілася ў 1973 годзе ў Маскве. Жыве ў Мінску.**

# Чалавецтва на фоне вечнасці, або Архетыпічны пейзаж

З часоў баянаў і скальдаў паэт адчуваў сваю выбранасць: ён быў рупарам чароўнага слова, лоцманам у моры звышнатуральнага.

Яшчэ ў Старажытным Егіпце людзі ўшаноўвалі бога Птаха, які стварыў свет са свайго Слова: названыя богам-творцам жывёлы і людзі знаходзілі плоць, храмы і гарады матэрыялізоўваліся, рамёствы і мастацтвы з'яўляліся. Бог-дэміург, які стварае словам, асацыіраваўся з Ісцінай.

У еўрапейскай традыцыі паэт мог сумяшчаць функцыі чараўніка і спевака: так, паэт-песняпевец Вяйнямёйнен, герой фінскага эпасу «Калявала», па сутнасці з'яўляецца боскім героем (ён звышнатуральнага, боскага паходжання), і яго слова валодае магічнай сілай, мае ўладу над прыродай.

Паэзіі, песні — наогул рытмізаванаму тэксту — надавалася асаблівае значэнне: як стагоддзямі захоўвалася памяць пра здабыццё ўмення распальваць агонь і апрацоўваць збожжа (гэтыя навыкі лічыліся Божымі дарамі), так тысячагоддзямі (!) захоўвалася трапяткое стаўленне да паэтычнага слова. У міфах адлюстравана гэта пашана: біблейскі Давід мог супакойваць нават злых духаў, граючы на гуслях, спевы і дэкламацыя Арфея скаралі людскія сэрцы, зачароўвалі нават жывёл, дрэвы і скалы; гусляр Садко падпарадкаваў сабе марскога цара, а значыць, саму марскую стыхію. Паэту-прадракальніку-шаману, як лічылася, вядома мінулае і будучае, усё, што адбываецца ў свеце жывых і ў свеце мёртвых.

Гэта шматвяковая традыцыя разумення паэтычнага слова не спынілася і ў Новы час. У XIX—XX стст. агонь «Боскага слова» неслі рамантыкі, сімвалісты, акмеісты (не выпадкова Г. Ахматава называла паэзію «святым рамяствам»). Мастацкае слова ўяўлялася як прарыў у іншую рэальнасць, магчымасць дакранання да таямніц Сусвету. Паэт-сімваліст адчуваў сябе пасярэднікам, узнагароджаным прароцкім дарам: ён «чытаў» пасланне быцця і «перакладаў» яго на мову чалавечую. Свет як музыка, свет як верш... пра гэта пісаў сімваліст К. Бальмонт, папярэджваючы ідэю постмадэрністаў пра свет-тэкст.

Водгукі гэтага сімвалісцкага светаразумення і светаадчування захаваліся ў нашай тэкстацэнтрычнай культуры.

Чалавецтва на фоне вечнасці... Доля паэта — інтэрпрэтацыя гэтай сітуацыі. У рамках міфалагічнай свядомасці і міфапаэтычнай прасторы гэтая задача не старэе і застаецца канчаткова нявырашанай: у нас ёсць магчы-

масць азнаёміцца толькі з чарговай інтэрпрэтацыяй самых галоўных пытанняў — пра сэнс жыцця, пра чалавека і пра Бога. У дадзеным выпадку — паглядзець на рэальнасць скрозь прызму беларускага тэксту.

У новую кнігу Міколы Касцюкевіча «Колеры» ўвайшлі творы, напісаныя на працягу блізу дваццаці гадоў. Гэта празаічныя і паэтычныя тэксты, розныя і па аб'ёме, і па ўзроўні. Палітра аўтара разнастайная: у зборніку ёсць традыцыйныя вершы і верлібры, фантастычныя апавяданні і разважанні аўтара і нават фрагменты гутарак, мімаходзь пачутых на вуліцах.

Паколькі дэталёвы агляд усіх твораў аўтара прывёў бы да павелічэння артыкула да аб'ёма самой кнігі, нашай задачай стане аналіз абраных твораў, у прыватнасці, тых, чый мастацкі свет сутыкаецца са светам архетыпічнага, тых, у якіх закрануты экзістэнцыяльныя пытанні.

Празаічная паэма «Лагуна» — асаблівы твор, які мае адмысловую важнасць для самога аўтара: гэта сімбіёз аўтарскага крэда, творчага маніфеста і містычнага бачання.

Назва твора адсылае да вобраза воднай стыхіі, якая традыцыйна асацыіруецца з жыццём, жаночым пачаткам, адраджэннем. Вада — гэта і бязмежны Акіян «на краю зямлі», і воды вечнай ракі (Леты, Стыкса, Ахерона, вогненнай Смародзіны), якая аддзяляе свет жывых ад свету мёртвых, і шумерскае міфічнае мора смерці, на беразе якога сядзіць багіня Сідуры і тлумачыць Гільгамешу, у чым сэнс жыцця, і вада купелі ў Элеўсінскіх містэрыях, апусканне ў якую сімвалізавала новае нараджэнне. Водная роўнядзь як медыятар паміж жыццём і смерцю, паміж жывымі і памерлымі, міфалагема, частка найстаражытнай выявы свету, створанай задоўга да таго як шматвяковыя вандраванні і няўмольная логіка развіцця і ўскладнення формаў ператварылі адзінае чалавецтва ў раз'яднаныя плямёны і этнасы.

Такім чынам, Лагуна — гэта сонечная роўнядзь вады, якая падзяляе цудоўны свет дзяцінства і жорсткі свет сталых. У гэтым сімвалічным пейзажы ёсць тры найважнейшыя аб'екты: Дом, Дрэва, Вада. Дом (і наогул увесь локус вакол яго) — увасабленне ўтульнасці, матчынай любові, чароўнай гармоніі, аб якой сведчыць не толькі агульны тон апавядання, але і сімволіка: так, сонечны дыск адбіваецца ў вадзе, і бачна, як гуляюцца ў хованкі «два клубкі з залатога агню і з халоднага срэбра». Гэтая гармонія агню і вады, золата і срэбра — адзінства сімвалічных супрацьлегласцяў. Дрэва на беразе Лагуны — бар'ер, перагародка, якая адгароджвае ідылічны «вясковы» свет ад свету горада, небяспечнага, і нават смяротна небяспечнага: бо адтуль «ніхто не вяртаўся». Падобнай мяжой з'яўляюцца і воды Лагуны: яны адлучаюць жывых ад нябожчыкаў. Прычым гэты містычны вобраз мяжы пазбаўлена канкрэтнасці, іншы свет можна тлумачыць і як іншую паралельную рэальнасць, што, зрэшты, не адмяняе яго звышнатуральнасці.

На беразе Лагуны расце сасна, якая ўзносіць свае скаргі космасу, неахопная, «бясконца высокая», такая, што тым, якія залезлі на яе вяршыню, «забракне жыцця дый паветра». Касмічныя маштабы казачнага дрэва-волата паказваюць, што гэта хвоя — іпастась велічэзнага Сусветнага Дрэва, чыя функцыя — падтрымліваць сувязь паміж хтанічным, зямным/чалавечым і нябесным светам. Гэты старажытны паганскі вобраз атрымлівае спецыфічную афарбоўку ў паэме: «...дрэва гэтае, як існасць веры, як хрысціянства: яно трымае ветразі ў акіяне жыцця. Угору зірнеш — дастае да неба, прытулішся — адчуеш токі падземных сокаў... Можна! Можна-такі караскацца на неба, ці забіваючы крукі прафесіі ў скалу, ці абвязаўшыся вяроўкамі самаахвярнасці. Але да канца ісці і... знікнуць. Бо апусціцца няма як ужо». Як бачым, гэта вертыкаль «жыцця-смерці», шлях у неба (да Бога), дарога ў адзін канец.

Сасна — вертыкаль хранатопу паэмы (вось «зямля-неба», «чалавек-Бог»). Па гарызанталі размясцілася лагуна — па слоўнікавым вызначэнні, «заліў», «вадаём з марской вадой». Яе сімвалічнае значэнне адкрываецца адразу: Лагуна — «ускраек нябыту», «краіна сноў і памерлых». Яна, як Царства Нябеснае, увайсці ў якое могуць толькі дзеці: «Дарослым нельга нават цікавіцца і паглыбляцца, бо ўтопяцца. Адтуль ніхто не вяртаўся...». Гэты вобраз атрымлівае дадатковую афарбоўку, адлюстроўваючы беларускую нацыянальную спецыфіку, бо бераг Лагуны — гэта не толькі містычная мяжа іншасвету, гэта «родны бераг», «родная зямля», поўнай супрацьлегласцю якой становіцца... горад. У горадзе «...таксама было жыццё, але нейкае прыдуманае і няшчырае. Бо нельга адрывацца ад роднага берагу. Хто ўцёк туды, у горад — працуюць, мітусяцца, пасля вяртаюцца пастарэлымі, без сілаў. Усе, хто адыходзіць і страчвае бераг, старэюць. (...) Хто пакідае бераг — знікае без следу. І назаўжды».

Чаму горад асацыіруецца з няшчырым, несапраўдным жыццём? Справа ў тым, што ў беларускай культуры шмат стагоддзяў існуе спецыфічны вобраз горада: Горад як знак, этнакультурны архетып, заснаваны на бінарнай апазіцыі «прырода-культура» і адпаведных ёй паралелях «ірацыянальнае-рацыянальнае», «вера-атэізм», «няшчасце-шчасце». Гэта значыць, горад, гарадская культура, цывілізацыя разумеюцца менавіта ў негатыўным ключы, асацыіруюцца з бязвер'ем, гіпертрафіраванай рацыянальнасцю, небяспекай і смерцю.

Генетычна вобраз Горада ўзыходзіць да біблейскага «грэшнага горада» (першы горад на Зямлі, які, паводле Торы, пабудаваны братазабойцам Каінам, горад Вавілон, горад з Апакаліпсісу Св.Яна Багаслова); існуе і свецкая традыцыя асэнсавання горада. Last but not least рамантызм XIX ст. уносіць сваё ўкладанне ў разуменне ўрбанізму: у той час пошукаў «залатога стагоддзя» ва ўласным даурбаністычным мінулым асуджаюцца і рацыяналізм (асветніцкага тыпу), і горад, і тэхніка, у процівагу якім высоўваюцца як га-

лоўныя каштоўнасці пачуццё, прырода і просты лад жыцця. Горад становіцца знакам няволі, улады багацця і ненатуральнага, стандартызаванага, амаль аўтаматычнага жыцця. Гэта значыць, горад персаніфікуе механічную бяздушную цывілізацыю.

Прычынай негатыўнага стаўлення да горада становяцца працэсы дэхрысціянізацыі, якія ў свой час паскараліся і ўзмацняліся менавіта ў гарадах; пагрозы экалагічнай сістэме, якія неслі індустрыяльныя гарады, дэфармацыі традыцыйнага ўкладу жыцця, якія непазбежна адбываліся ў побыце ўчарашняга селяніна, цяперашняга пралетарыя-гараджаніна.

Калі на Захадзе адным з бачных антыўрбаністаў быў Ж.-Ж.Русо, то ў айчыннай культуры на антыурбаністычных пазіцыях стаяў філосаф-мараліст Ю. Даманеўскі (канец XVI — першая палова XVII ст.). Філосаф быў перакананы, што горад небяспечны і нагадвае Садом: там збіраюцца дзёрзкія прадпрымальныя людзі сумніўных паводзін, там раскоша і непрыстойныя забавы, там менш шануюць Бога, чым у вёсцы [1, с. 60]. Прайшло 400 гадоў з часоў, якія выклікалі нараканне Ю. Даманеўскага, а воз і цяпер там.

Неяк так павялося лічыць, што толькі ў вёсцы, у адрозненне ад «разбэшчанага» горада, магчымыя сапраўднае жыццё і шчырыя пачуцці (гэта думка перманентна рэпрадукуецца і набыла характар «адлітага ў бронзе» стэрэатыпу). Негатыўнае стаўленне да горада адлюстравана і ў беларускім фальклоры, і ў беларускай мастацкай літаратуры: на працягу XIX ст. і напачатку XX ст. селянін уяўляў сабою высокамаральнага і амаль адзіна нармальнага чалавека, прадстаўнікі іншых саслоўяў лічыліся адхіленнямі ад нормы; характэрна для фальклорнай свядомасці і перакананне ў адзінстве чалавека (селяніна) і прыроды (адзначым, ілюзорнае адзінства, таму што чалавек аграрнага грамадства заўсёды дзейнічае як спажывец прыродных рэсурсаў, і менавіта земляробства знішчала як урадлівы слой глебы, так і кіламетры лясоў на планеце). Горад, эканамічная няроўнасць, дзяржаўная ўлада ў шэрагу беларускіх казак тлумачацца як «псаванне» ўсталяванай Богам нормы [2, с. 192]. Вобраз селяніна як чалавека існага валодаў розумамі беларускіх дэмакратаў і дзеячаў культуры: Ф. Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа і інш. У XX ст. у СССР негатыўны вобраз горада фарміраваўся ў спецыфічных ідэалагічных рамках: урбанізм лічыўся ўпадніцкай культурай, існавала разуменне ўрбанізацыі як нястрымнага працэсу ператварэння гарадоў у пазбаўленыя чыстага паветра, зеляніны і сонца мегаполісы [3, с. 76]. Відавочна, ідэалізацыя сельскага жыцця адбывалася наўздагон знікомым рэаліям сельскага жыцця.

У беларускай антыўтопіі (гэта рэдкі для беларускай культуры жанр, чый росквіт прыйшоўся на апошнія тры дзесяцігоддзі; багацці беларускай антыўтопіі толькі пачынаюць адкрывацца) вылучаецца антыўрбаністычнае крыло (творы В.Гігевіча, Ю.Станкевіча і інш.). Прычым характэрны набор каштоў-

насцяў і контр-каштоўнасцяў антыўрбаністычных твораў супадае з аксіялагічным наборам у тэкстах пісьменнікаў-вяскоўцаў (прадстаўнікоў літаратурнай плыні савецкай прозы 60-х — 80-х гг. ХХ ст. «сялянскага рэалізму» ці «вясковай прозы»). Горад бездухоўны — вёска духоўная, «у ёй існіннае жыццё», а «селянін — адзіны існы прадстаўнік народа і носьбіт ідэалаў» [4, з. 417]. Гэтыя патрыярхальныя каштоўнасці, якія абараняюцца і прапагандуюцца пісьменнікамі-вяскоўцамі, былі падхоплены беларускімі антыўтапістамі. Адзначу малазаўважаны факт: М. Касцюкевіч уваходзіць у лік аўтараў антыўтопій, на яго антыўтапічнае апавяданне «Мегаполіс Бхагавад-гіта» (1993) мы таксама звернем увагу ў дадзеным артыкуле.

Такім чынам, вобраз горада ў паэме паэта арганічна ўбудоўваецца ў беларускую літаратурную традыцыю.

Паэма М. Касцюкевіча «Лагуна» грунтуецца на архетыпічных ключавых вобразах (Сусветнае Дрэва, вада/возера смерці), на архетыпічных бінарных апазіцыях (неба і зямля, жывыя і мёртвыя, горад як прастора смерці і родная зямля (хата, ідылічны хутар) як прастора жыцця). У паэме з'яўляецца яшчэ адзін важны беларускі этнакультурны архетып — Му́зыка.

На мой погляд, Музыка і Песня — этнакультурныя архетыпы, вобразы, якія ў беларускай літаратуры злучаюцца з тэмай лёсу героя і народа, які персаніфікуе герой. Так, напрыклад, у прыпавесці Васіля Быкава «Музыка» мелодыя гучыць як кліч продкаў, выяўляецца як нешта сакральнае, што злучае з Радзімай; гэта рэквіем па народзе, гнеў і гора Зямлі. Улічваючы коласаўскае разуменне музыкі (у паэме «Сымон-музыка»), можна прыйсці да высновы, што Музыка асацыіруецца з душой беларускага народа, гэта як бы персаніфікацыя народа, яго духоўная квінтэсенцыя. Музыка можа выступаць як муза, як аніма (напрыклад, такі вобраз Музыкі ў антыўтопіі-фантасмагорыі Ю. Фатнева «Ладдзя Харона» (1998)). Для беларускага этнакультурнага архетыпа Музыкі/Песні характэрная сувязь з душой і лёсам героя (у прыватнасці, гэта датычыцца антыўтапічных твораў В. Быкава, В. Гігевіча, Ю. Станкевіча).

У паэме М. Касцюкевіча песню спявае сама Лагуна. Гэта голас нязведанага, вабны голас лёсу. Гэта ўява, якая змяняе жыццё. «Музыка, што выварочвае душу, а сэрца прымушае знібець, знячэўку стала агнём, святлом...», герой ступіў у ваду лагуны, як ідуць на кліч сірэны, адарваўся ад берага, і забыўся на ўсё, што пакінуў за спіной, і «Жыццё перастала існаваць». Сон, ява, асалода, боль... Як усё архетыпічнае, гэтае апісанне пераходу з жыцця ў нейкі іншы таямнічы стан пакідае ўражанне праўдзівага, асабіста перажытага. «Лагуна» — гэта спроба пераказаць невымоўнае і неперакладальнае. Наперадзе, на лініі лёсу — песня маці, як ізноў магчымае шчасце, і выратавальная Альфа-Амега, якая дарує непазбежны пакутліва-складаны выбар кожнаму чалавеку.

Задоўга да з'яўлення паэмы «Лагуна» (2008 г.) М. Касцюкевіч напісаў антыўтопію «Мегаполіс Бхагавад-гіта», якая была апублікавана ў часопісе «Першацвет» у 1993 годзе. Ключавыя для творчасці аўтара тэмы прысутнічалі ўжо ў гэтым апавяданні: тэма адзіноты, тэма бязвер'я, бессэнсоўнасці жыцця, несустрэтага кахання. У новай кнізе аўтар дадаў некаторыя падрабязнасці ў апавяданне, і гэта не псуе твора, але можна сказаць, што ў першапачатковым варыянце антыўтопія паўстае асабліва лаканічнай, гэта датычыцца, галоўным чынам, сімволікі колеру (так коратка і ёміста можа пісаць толькі паэт!): у першым варыянце свет Мегаполіса ахраматычны, мёртвы, у ім ёсць толькі белы, шэры і чорны колеры. Гэта свет без колеру і без кахання. Тут «Ніхто нічым не цікавіцца, нікому ніхто і нішто не патрэбна». Антыўтапічны сусвет з багатай гамай негатыўных характарыстык канцэнтруецца ў горадзе, гэта значыць этнакультурны архетып Горада захоўвае сваю спецыфіку, пра якую гаварылася раней. У фантастычным апавяданні апісваецца будучыня, у якім пануе адна рэлігія — індуізм. «Вечная рэлігія», слова Крышны, і такая безабаронная постхрысціянская і постісламская Зямля пад астываючым Сонцам... Індуізм робіцца згубным для насельніцтва Мегаполіса, якое, у надзеі на здабыццё нірваны, рыхтуецца да смерці. Горад нагадвае ўвасабленне кашмарных сноў тэхнафоба: «Там, за трывалымі сценамі, на гэтак званай вуліцы, ані каліва не засталося жывога. Толькі поўзалі рэдчас пачварныя машыны-аўтаматы, ссоўваючы з дарогі ў разяўленыя пашчы рэчывавода ўсё, з чым не мог суладаць злосны і настырныя вецер. (...) І калі ты не хочаш стаць пажыўным рэчывам для такіх бедакоў, як і сам, дык сядзі і нікуды не высоўвайся...». Гэта горад-пастка, лабірынт вуліц без назваў і нумарацыі. Горад «жахліва-разумных машын» літаральна перамолвае людзей. Тыя забяспечаны ўніверсальным жыллём і ўніверсальнай ежай (як матэрыяльнай, так і духоўнай), але нуда па чымсьці назаўжды страчаным не адпускае... Жыццё як чаканне смерці, жыццё — немы крык. Ролю лёсу ўзялі на сябе механізмы, вызначаючы, каму давядзецца перажыць віртуальную сустрэчу (паразумецца вачыма) — сустрэчу праз непераадольную мяжу манітора. Архетыпічная пара — Ён і Яна — «Маладыя, яшчэ поўныя нерастрачанай сілы, з адчуваннем наканаванага канца і з бясконцай прагай жыцця, усепаглынальнай, нязнішчанай аніякімі, нават найпраўдзівейшымі, ідэямі...». У чарговы раз аўтар супрацьпастаўляе сэрца і розум, ідэю і жыццё. Ёсць і спецыфічная бінарная апазіцыя: «дабро» і «зло», якой адпавядае пара «мінулае» (хрысціянства) — «сучаснасць» (індуізм). Мінулае асацыіруецца з жыццём, сучаснае і будучыня — са смерцю. Натхняльніцай бунту героя супраць акалічнасцяў («бунт» — гэта абавязковы матыў антыўтопіі) выступае жанчына— таямнічая незнаёмка, аніма-душа, колеры-атрыбуты якой кажуць пра жыццё, прыроду і Бога (гэта зялёны і залаты). Герой выходзіць на пошукі каханай... але ўсё дарэмна.

Герой, які ледзь выратаваўся ад паглынальных механізмаў, разумее простую, але запозненую праўду: «...смерці хочацца толькі тады, калі ты адзін. Калі нікому, апроч сябе самога, ты не патрэбен. А калі любіш і цябе таксама любяць, калі да цябе цягнецца і чакае жывая цёплая душа, падобная да тваёй, дык за жыцце трэба змагацца. Да апошняга...». Каханне прыходзіць, як Праўда, і бессэнсоўныя мантры перасыхаюць у горле. Але гэтае каханне — сінонім страты. Апошні мужчына на Зямлі ёсць перапрацаваныя механізмамі рэшткі апошняй жанчыны. Антрапафагія. Безчалавечны свет.

Асноўныя праблемы, якія закранаюцца ў апавяданні, — воля і няволя, рэлігійная духоўнасць і сапраўдная чалавечая сутнасць. У антыўтопіі даведзены да крайнасці тэндэнцыі сучаснасці, паказаны: тэхнічны прагрэс, які вядзе да знішчэння прыроды, і прыроды чалавека ў тым ліку; дэгуманізацыя грамадства; рэлігійная ідэалогія, якая мае маніпулятыўны характар і забівае самую сутнасць чалавека. У антыўтапічным свеце цывілізацыя атрымала Піраву перамогу над прыродай і дыянісійскім пачаткам. Што гэта? Аўтарская футурафобія ці занадта праўдзівы футурапрагноз?

У гэтым апавяданні матыў золата як алхімічнага знака дасканаласці мае сувязь з ідэяй неабходнай трансфармацыі чалавечай душы, руху да цэласнасці, самасці — да самаактуалізацыі і самаажыццяўлення. Аднаўленне гармоніі павінна ўвасобіцца ў аб'яднанні супрацьлегласцяў: свядомасці/цывілізацыі/мужчынскага пачатку і несвядомага/прыроды/жаночага пачатку. Але для таго, каб гэта адбылося, трэба выйсці з «мёртвага лабірынта вуліц», выйсці з «замкнёнага кола». А міфапаэтычны тэкст будзе маяком, арыенцірам, бо «Прафесія паэта — не выдумляць, памнажаючы, сваё, а перадаваць адчутую іншарэальнасць» (© М. Касцюкевіч).

**Літаратура:**

1. Подокшин, С.А. Философ-гуманист Юзеф Доманевский / С.А. Подокшин // Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии : доокт. период / Акад. наук БССР, Ин-т философии и права ; редкол.: К.П. Буслов (гл. ред.) [и др.]. — Минск, 1977. — С. 51—74.

2. Конон, В.М. Социальная конкретизация народного гуманизма в белорусском фольклоре конца 19—начала 20 в. / В.М. Конон // Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии : доокт. период / Акад. наук БССР, Ин-т философии и права ; редкол.: К.П. Буслов (гл. ред.) [и др.]. — Минск, 1977. — С. 182—194.

3. Философский словарь / А.В. Адо [и др.] ; под ред. И.Т. Фролова. — 4-е изд. — М. : Политиздат, 1980. — 445 с.

4. Борев, Ю.Б. Крестьянский реализм: крестьянин — главный носитель нравственности и опора национальной жизни / Ю.Б. Борев // Эстетика / Ю.Б. Борев. — М., 2002. — С. 416—418.

5. Кажухоўская, Л.С. Станаўленне и карэляцыя базісных сімвалаў у нацыянальнай мастацкай карціне свету беларусаў : дыс. ... канд. культуралогіі : 24.00.01 / Л.С. Кажухоўская. — Мінск, 2003. — 121 с.



# Святлана Калядка

літаратуразнаўца, даследчыца сучаснай беларускай жаночай паэзіі, аўтар манаграфіі «Непрыручаная птушка Палесся: творчая індывідуальнасць Яўгеніі Янішчыц», навукова-тэарэтычных даследаванняў жаночай паэзіі, прадстаўленых у вялікіх раздзелах у двух калектыўных манаграфіях, займаецца падрыхтоўкай да выдання Збору твораў Максіма Танка. Нарадзілася ў 1971 годзе на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

# Шукайма сябе ў слове...

«Я кахала», «я кахаў» — толькі формы прошлага часу дапамагаюць нам вызначыць, што ў першым выказванні прызнанне выказана жанчынай, а ў другім — мужчынам. Але калі гэты выраз ужывем у цяперашнім часе — «я кахаю» — то ён пачынае губляць полавую прыналежнасць. Дадзены лінгвістычны аспект ужывання дзеяслова «кахаць» у розных формах часу ўспрымаецца шаблонным прыёмам размеркавання роляў у мастацкім тэксце, аднак, як мы ўжо заўважылі, і ён не з'яўляецца ўніверсальным. Тое ж можна сказаць і пра вобразнае выяўленне ў паэзіі. Сучасныя аўтары часта пазбягаюць першай асобы ў паэтычнай размове, умела абыходзячы выкарыстанне асабовых займеннікаў і звяртаючыся да іншых форм, напрыклад:

*Яна новы дзень падвойным пачне эспрэса:*
*усё як звычайна, ведаеш, без экстрыму.*
*Усё як звычайна: сціснуць душу пад прэсам,*
*пачуцці схаваць пад слоем таўшчэзным грыму*
*ды — «асталавіста» — гэта яе аўтобус,*
*там людзі з пустымі сэрцамі і вачыма...* [1]

«Яна» — займеннік трэцяй асобы жаночага роду, наяўнасць гэтага займенніка ў паэтычным тэксце не пакідае сумненняў у тым, аб кім ідзе размова, аднак сумненні заўсёды будуць заставацца адносна таго, хто напісаў гэтыя радкі — жанчына ці мужчына, асабліва ў тым выпадку, калі пад імі не падпісан аўтар. Нявытрыманая рыфма і рознаскладовая разбіўка радкоў не падказвае нам аўтарскую прыналежнасць — гэта ў цэлым «безасабовы» спосаб афармлення тэксту, ідэйная скіраванасць твора таксама не мае полавага прымацавання — пра душэўны стан «Яе» мог напісаць і мужчына. Такім чынам, у любым паэтычным творы знойдуцца фармальныя і нефармальныя паказчыкі аўтарскай асобы. У дадзеным урыўку позірк чытача спыніцца на радку «пачуцці схаваць пад слоем таўшчэзным грыму», які, сыходзячы з пункту гледжання псіхолагаў, наўрад ці можа належыць мужчыне (нават улічваючы нашу сучаснасць з прысутнасцю ў ёй геяў, бісэксуалаў і г.д), «пачуцці пад грымам» — гэта ўвасабленне траўміраванай жаночай свядомасці і жаночага самаўсведамлення, што карыстаецца атрыбутамі жаночага ... Верш Вольгі Гронскай «***Яна вечарамі крыжыкам вышывае...» перадае перажыванні маладой дзяўчыны, якая нібы збоку пазірае на ўласнае існаванне, а таму і з'яўляецца займеннік яна. У другім вершы «***Ты зноў ідзеш праз сны і міражы» гэта ж паэтка ўжывае займен-

[1] Гронская В. Гуляючы ў неверагоднасць: падборка вершаў / Маладосць. 2011. № 8.

нік ты, які зноў жа не мае полавай «акрэсленасці». На працягу ўсяго тэкста мы не знойдзем ні адной часціны мовы, якая б указвала на жаночы род. «Унісекс» кіруе не толькі сучаснымі тэндэнцыямі ў модзе, але і ў літаратуры. Маладыя аўтары часта не засяроджваюцца на выяўленні прыроднага пачатку, сваёй жаночай/мужчынскай існасці праз мастацкае слова — гэта мэта становіцца другараднай ці ўвогуле неістотнай у творчым самараскрыцці.

«Унісекс» — гэта самае дакладнае вызначэнне народжанага ў бясполым кругазвароце думак твора. Прычым вобразы тэкста губляюць не толькі прыродныя атрыбуты жаночага, але і сацыяльныя і культурныя канструкты асобы. На мой погляд, пазіцыянаванне сябе як бясполай істоты не надае дзяўчыне-празаіку дадатковага арэолу таямнічасці і гэтым не прыцягвае большай увагі да яе тэкстаў. Мне, як чытачу, хочацца ўбачыць не новую версію аўтарскага «я» (пры гэтым я абсалютна не супраць гэтага), а за вобразам любога літаратурнага твора асобу — адмоўную ці станоўчую — але доказную, абгрунтаваную ў сваіх паводзінах і настроях і, галоўнае, зразумелую мне ў сваіх памкненнях, жыццёвых тактыках і стратэгіях, нават калі яны не адпавядаюць агульнапрынятым нормам. Аднак як гэта здзейсніць аўтару, калі гэты аўтар яшчэ не вызначыўся ў полавай прыналежнасці. Аўтарскае «я» павінна несці на сабе асноўную нагрузку ў спосабе падачы думкі, эмоцыі, перажывання ў творы. Аднак «бясполы» аўтар трапляе ў пастку ўласных эксперыментаў, што ў выніку можа прывесці да крызісу ідэнтычнасці.

Часта верш, цікавы для самаго аўтара, бо выкліканы пэўнымі падзеямі ці ўражаннямі ў яго жыцці, з'яўляецца нецікавым для іншых чытачоў, хаця фармальна вытрыманы ўсе параметры формы. Форма — гэта базіс ментальнай сутнасці твора, а ўлічваючы тое, што ў сучаснай паэзіі форме надаецца вялікая ўвага, то і форма пачынае выконваць ролю самадастатковай інстанцыі .... Звернемся да верша Аксаны Спрынчан, актыўнага эксперыментатара з формай:

***

*ТУТ*
*злева направа*
*і справа налева*
*ТУТ*

*ТУТ*
*упершыню*
*і ўглыбіню*
*ТУТ*

*ТУТ*
*выюць па мне ваўкі*
*доўгім працяглым «У»*
*ТУТ*

*ТУТ*
*дзве літары «Т»*
*крыжам стануць маім*
*ТУТ*

*ТУТ*
*створаць*
*бясконцасць*
*ТУТ*

Паэтэса шукае адпаведнасці формы тэкста форме слова і наадварот. Спрынчан стварае не толькі стройную, прыгожую звонку канструкцыю верша, але і імкнецца пажангліраваць словам: углядваецца ў будову лексемы «тут», вышуквае арфаэпічныя тонкасці вымаўлення слова, будуе з літар крыжы і г.д. Аднак за гэтай працай са словам больш гульні, чым сэнсу. Спрынчан прадэманстравала філалагічную адукаванасць, лінгвістычную зоркасць, інтуітыўную праніклівасць, аднак не ўразіла, не кранула душу, не зачапіла думку. Усё яе эксперыменты вычарпаны ў межах інтэлектуальнага раскладання формы і зместу слова «тут», прастора верша абмежавана дадзенымі інтэлектуальнымі выкрутасамі, няма выхаду ў іншую прастору — прастору здагадак, эмацыянальнага перажывання і г.д. Зразумела, не кожны верш абавязаны хваляваць і ўзрушваць пачуцці, аднак роля верша не павінна зводзіцца да трэніроўкі думкі, праверкі логікі і ведаў, для гэтага існуюць іншыя дысцыпліны. Я не супраць эксперыментаў, пошукаў у форме верша, аднак яны павінны выконваць ролю сэнсавай арганізацыі твора.

У вершы Спрынчан кожны слупок самастойны і завершаны, паэтэса нібы імкнецца здзівіць чытача: паглядзі, а ў слове ёсць яшчэ адно прачытанне. Перад намі — вынік думкі аўтара без канатацый, якія ў выніку і ствараюць гісторыю верша, надаючы яму «цікавасць» і індывідуальную афарбоўку. «ТУТ» — гэта момант быцця, які асэнсоўваецца праз плынь свядомасці: усё, што трапляе ў дадзены момант у кругазварот думак, выносіцца ў твор. Толькі вось чамусьці ТУТ з крыжамі нагадвае ТАМ.

Чытаючы падобныя вершы з нестандартнымі формамі, увесь час задумваюся над тым, што імкнецца прадэманстраваць аўтар: што і са слоў можна канструяваць розныя геаметрычныя фігуры, што і слова — гэта будаўнічы матэрыял? У 1978 годзе Максім Танк пісаў у лісце да У. Калесніка пра А. Разанава: «...хоць на лішнюю ўскладнёнасць паэту варта было б

звярнуць большую ўвагу, бо ўсе тэктанічныя награмаджэнні і зрухі толькі тады маюць рацыю, калі новыя тэматычныя пласты нельга ўскрыць больш простым спосабам». Гісторыя форматворчасці павінна заклікаць да асэнсаванага эксперыментатарства, якое, гаворачы словамі Максіма Танка, уздымае «новыя тэматычныя пласты» на паверхню мастацкай свядомасці. Многія сучасныя паэты не маюць здольнасці актуалізаваць літаратурныя традыцыі дзеля тлумачэння ўласных пошукаў. І калі гаварыць пра сучасную інтэлектуальную паэзію, то «працягнутасць у будучыню не менш характэрна для свядомасці, чым прадаўжэнне ў мінулае»[2], і не менш важна для ўспрымання і ацэнкі твора. Гісторыя вершатворчасці захоўвае цікавыя факты ўздзеяння формы на змест твора, і тут варта звярнуцца да рускай класічнай паэзіі. Сёння не выклікае сумненняў сцверджанне, што форма і эксперыменты з формай верша набылі ролю фармальнай ідэнтычнасці, здольнай прадвызначаць рэальную ідэнтычнасць мастацкага твора.

І тут варта ўзняць яшчэ адно пытанне: наколькі форма верша можа стаць выразнікам «жаночага стылю» ў паэзіі. Звернемся да верша Т. Барысюк «Плынь свядомасці»:

*Каханне.*
*Фобія.*
*Манія.*
*Вар'яцтва.*
*Блуканне.*
*Люстэркаў галерэя.*
*Надзея*
*без надзеі — я.*
*Сама ў сабе,*
*як сэнс у форме.*
*У норме*
*і не ў норме.*
*Шукаю.*
*Філасофствую.*
*Баюся,*
*што некалі*
*ў люстэрку*
*не з'яўлюся*[3].

У пералічэннях зафіксаваны станы гераіні як ментальныя станы. Яна рухаецца ад мінулага да будучыні праз асэнсаванне душэўных ваганняў,

[2] Хёсле В. Кризис индивидуальной и коллективной идентичности // Вопросы философии. – 1994. -- № 10. – С.115.

[3] Барысюк Т. Аўтапартрэт: Вершы. – Мінск, 2002. – С. 107-108.

сардэчных перажыванняў, блуканняў думкі... На гэтай рэфлексіўнай здольнасці асобы ўслухоўвацца ў сябе і фіксаваць зменлівыя станы ўнутранага свету пабудаваны верш Т. Барысюк. Каханне выклікае ў арганізме «хімічную рэакцыю», якая спараджае «фобію», «манію», «вар'яцтва» і «блуканне». У падобнай паслядоўнасці «пабочных» эфектаў кахання бачыцца своеасаблівая дыялектыка пачуцця гераіні, якая і дазваляе нам гаварыць пра «жаночае» акрэсліванне ўласнай самасці. Прынцыпам індывідуацыі ў творы выступае раздвоеная асоба — «у норме і не ў норме». Увогуле «я» сучаснага аўтара навучылася назіраць за сваёй самасцю і пачуццямі, быццам тыя ў многім адрозныя ад праяўленняў гэтага «я» і з ім не атаясамліваюцца. Праблема ідэнтыфікацыі «я» і самасці гэтага «я» ў мастацкім творы вельмі ўмоўная і нядоказная, таму што ў любым выпадку выходзіць на атаясамліванне «я» аўтара і «я» лірычнага героя. А за гэтай звязкай — шмат праекцый, якія цяжка ўкласці ў адназначныя схемы. Развагі паэтэсы агучваюць нашу тэорыю: рух яе думак з'яўляецца ўвасабленнем універсальных, нарматыўных і індывідуальных спосабаў прэзентацыі самасці асобы. «Каханне» — з'ява ўніверсальная, яго спазнае ў жыцці вялікая колькасць людзей, а вось пражыванне кахання — з'ява індывідуальная, як вынікае з верша Т. Барысюк — з рознымі наступствамі. А заява лірычнай гераіні — «сама ў сабе, як сэнс у форме» — падкрэслівае ўнікальнасць яе самасці, непадобнасць на іншых. Яна не адчувае крызісу ідэнтычнасці, яна імкнецца адлюстраваць фарміраванне ўласнай ідэнтычнасці праз пераадоленне крызісаў.

Такім чынам, форма верша працуе на ідэю: у тэксце Барысюк радкі ўяўляюць з сябе асобнае слова, а за ім цэлая гісторыя, таму кропкі аддзяляюць нават не словы, а гісторыі ў лёсе гераіні. Быццам знаёмы і распаўсюджаны спосаб афармлення думкі — літаратурны штамп, аднак у кожным творы ён працуе на раскрыццё самасці аўтара і яго літаратурнага героя. Як, напрыклад, у вершы Аляксея Арцёмава «Развітанне»:

*Апошні позірк вокамгненны,*
*Вакзал, цягнік, узмах рукой,*
*Крывёй напоўненыя вены,*
*Твой пульс і страчаны спакой...*[4]

І ў Т. Барысюк, і ў А. Арцёмава ў аснове кампазіцыі верша — пералік падзей, станаў. Аднак у Барысюк яны падаюцца за кошт вынясення іх у асобны радок як розных, паслядоўных і хаатычных, эпізодаў жыцця, у Арцёмава за кошт таго, што яны аддзяляюцца коскамі і ўваходзяць у якасці аднародных членаў у адзін сказ, — успрымаюцца складнікамі аднаго моманту, эмацыйнага і вельмі напружанага. Безумоўна, нельга параўноўваць

[4] Арцёмаў А. Вершы / Беларус. – Нью-Ёрк. 2010. – С. 10.

без агаворак названыя творы, таму што яны розныя па ідэйна-тэматычным напаўненні, аднак дадзенае параўнанне дае нам магчымасць убачыць, як форма тэксту, размеркаванне ў ім сінтаксічных адзінак можа пашырыць ці звузіць змест твора, надаць яму рух, ці звесці ўсе намаганні аўтара да статычнага апісання. Арцёмаву дастаткова было чатырохрадкоўя, каб данесці да чытача трагедыю развітання закаханых.

У іншых выпадках менавіта думка ці эмацыйны стан аўтара кіруе афармленнем тэксту ў пэўнай форме ці нават патрабуе нестандартных падыходаў, напрыклад у вершы Уладзіміра Скарынкіна «Багаслаўляю і люблю»:

*Багаслаўляю і люблю*
*Я тое рэдкае імгненне,*
*Калі сыходзіць на зямлю*
*І на душу супакаенне,*
*Калі адолена бяда*
*І зноўку я аб шчасці мрою,*
*Калі былога не шкада —*
*Відаць, таму,*
*Што ты са мною.*

*Са светлым смуткам і тугой*

*Калі блакітнаю смугой*
*Лугі засцелюцца ля гаю,*
*Калі аціхнуць чараты*
*І пад развесістай вярбою*
*Нягучна заспяваеш ты —*
*Відаць, таму,*
*Што я з табою*[5]*.*

Першая страфа ўяўляе з сябе 9 радкоў, затым асобны радок без знаку прыпынку на канцы, наступная страфа складаецца з 7 радкоў. Здавалася б, алагічная форма твора, аднак і за такой знешняй адсутнасцю логікі глыбінны сэнс: у першай страфе аўтар спявае хвалебную оду ці нават гімн любімаму чалавеку, словы зліваюцца ў трапяткое прызнанне і, здаецца, спыніцца немагчыма. І тут прысутнічае літаратурны канон — мы даведваемся пра адрасата-аб'екта прызнання толькі ў канцы страфы. Але...у радасны настрой прасяквае «светлы смутак і туга». Радок «са светлым смуткам і тугой» — мае дачыненне як да аб'екта звароту, так і да самога лірычнага героя, ад імя якога будуецца маналог; ён разбівае тэкст на дзве самастойныя па часе і псіхаэмацыянальным настроі часткі. У першай част-

[5] Скарынкін У. “Багаслаўляю і люблю” / Дзень паэзіі-2005. – Мінск, “Маст.літ.”, 2005 – С. 187.

цы — канстатацыя спазнанага душой лірычнага героя «рэдкага імгнення», у другой частцы — жаданне далучыць да гэтага спазнання і каханага чалавека. «Светлы смутак і туга» — падсвечвае лірычную настроенасць закаханага героя, надаючы ёй меладраматычную танальнасць. Зыходзячы з падобнай канструкцыі верша, можна сцвярджаць, што гэта разбіўка апраўдана дынамікай эмоцыі і пачуцця ад узнёслага да лірычнага стану.

Такім чынам, форма не набывае пэўна акрэсленых рыс фемінінасці/маскулінасці ў паэтычным тэксце, аднак, калі б правесці статыстычны аналіз, упэўнена, што выявіліся б прыхільнасці жанчын-аўтараў і мужчын-аўтараў да тых або іншых форм тэксту. Эксперыментуюць паэты са словам і яго афармленнем у творы незалежна ад полавай прыналежнасці.

Аднак, у рускай і беларускай мове базавай ці першапачатковай з'яўляецца менавіта мужчынская слоўнікава-граматычная форма. Дамінанта мужчынскай формы слова над жаночай заўважана і асуджана феміністскай крытыкай. І калі феміністкі ваявалі з фешытызацыяй «фалічнай культуры», то сёння ўсё часцей крытыка скіроўвае свой гнеў на безаблічнасць мастацкага твора. Увогуле свет паэзіі рухаецца да ўніверсальнасці, нівеліроўкі, аднастайнасці ў мужчынскіх і жаночых формах і спосабах апісання сябе і свету. І не па той прычыне, што жанчыне надакучыла быць жанчынай, а мужчыне мужчынам. Усё меней застаецца недатыкальных літаратурных канонаў, традыцыйных клішэ і ўстаялых шаблонаў у паэтыцы. Сучасным аўтаркам становіцца цесна ў жаночай граматыцы, яны імкнуцца пашырыць поле прыкладання паэтычна-моўнай думкі. Усё часцей сустракаюцца вершы, у якіх жанчына-аўтар гаворыць ад імя мужчыны, напрыклад у вершы «***Што жыццё...» В. Куставай:

*Што жыццё?.. —*
*Без пачатку і скону...*
*Мною зроблены просты выбар:*
*Да цябе,*
*А не да іконаў*
*Я ўзляцеў — і праз тое выбыў!..—*
*Па-за межы наіўнае мроі!..*[6]

Абыгрываюцца ролі агульнавядомых літаратурных герояў (у дадзеным выпадку — Фаўста Ё.В. Гётэ), гістарычных дзеячоў, сусветнавядомых асоб і г.д. Таксама злучаецца мужчынскі і жаночы род, выкарыстоўваецца мужчынскі род замест жаночага ці ўвогуле абыходзяцца гендэрна-граматычныя маркіроўкі. Падобная змена масак дазваляе аўтару выходзіць за межы агульнапрынятых літаратурных шаблонаў і экстрапаліраваць на забароненыя некалі для жанчыны сферы мужчынскага. Але і ў такім да-

[6] Кустава В. Тамсама: Вершы. – Мінск, “Маст.літ.”, 2006. – С.17.

зволеным спосабе самараскрыцця сучасная аўтарка-жанчына адчувае адсутнасць свабоды — яна ці запазычвае ўжо гатовыя формулы стварэння мастацкага тэксту, ці іх імітуе, што прымушае яе шукаць новыя спосабы самапрэзентацыі, індывідуалізаваныя і непаўторныя. І ўсё часцей на старонках перыядычных выданняў сустракаем артыкулы, у якіх узнімаецца пытанне: ці існуе жаночае пісьмо і жаночы стыль пісьма, якія б сталі адкрыццём паэтэсы новага пакалення, вызваленай ад уціску маскуліннай традыцыі ў літаратуры?

«С. Вайгель лічыць, што жаночы стыль пісьма — небяспечнае паняцце і крытыкуе яго па дзвюх прычынах. Таму што, па-першае, «жаноцкі стыль звычайна вызначаюць фармальнымі рысамі, лічаць, напрыклад, што для яго з'яўляюцца тыповымі разрыўнасць, адступленні, непаслядоўнасць, суб'ектыўнасць і г.д. Гэтыя рысы даследчыцы-феміністкі лічаць станоўчымі і, адпаведна, іншыя рысы (лагічнасць, рэгулярнасць, аб'ектыўнасць) — адмоўнымі, г.зн. ствараюцца жорсткія вызначэнні «жаночага стылю» і мяркуецца, што гэтыя рысы ўніверсальныя. Па-другое, такое паняцце стварае дуалізм паміж маскулінным і фемінным, а такі дуалізм заўсёды ставіць жанчыну ў горшае становішча ў параўнанні з мужчынам».[7] Сапраўды, і ў звыклым разуменні доўгі час лічылася, што жаночыя вершы адрознівае большая мяккасць і лірычнасць (нават сентыментальнасць), а мужчынскія — большая цвёрдасць і жорсткасць. Аднак шматлікія паэтычныя зборнікі, якія з'явіліся ў апошнія дзесяцігоддзі, сцвярджаюць адваротнае: усе пералічаныя якасці не з'яўляюцца прывілеяй канкрэтнай гендэрнай групы, сёння жаноцкі мужчынскі і мужчынскі жаночы стылі — з'ява даволі распаўсюджаная і ў прозе, і ў паэзіі. Так, чытаючы верш Анатоля Шушко «Каханне», немагчыма не адчуць, колькі мяккасці, цяпла, святла, пяшчоты ўкладзена ў кожнае слова, — тых эмацыянальных якасцей, якія быццам бы характэрны жаночаму стылю:

*Гэтулькі ўва мне святла,*
*Любая,*
*Што забыў, як ты была*
*Згубаю.*
*Гэтулькі ўва мне вясны —*
*Крэўнасці, —*
*Што забыў пра гора-сны*
*Рэўнасці.*
*Гэтулькі ўва мне цяпла*
*Роднага,*

---

[7] Рюткёнен М. Гендер и литература: проблема «женского письма» и «женского чтения» // Рэсурсы Інтэрнета: http://www.a-z.ru/women_cd1/html/filologich_nauki_2.htm

*Што забыў, як ты знайшла*
*Роўнага.*
*Рознае у нас было,*
*Ветлая,*
*Каб аднойчы, ды знайшло —*
*Светлае*[8]*.*

Вынесеныя ў асобныя радкі словы бяруць на сябе ролю энергетычных носьбітаў твора — яны надаюць выказванням асаблівую мілагучную танальнасць, расстаўляюць лагічныя акцэнты, вызначаюць яго «сэксуальны» падтэкст. Не трэба тлумачыць, што сэксуальнасць верша звязваецца з характарам, тыпам, узроўнем разняволенасці мовы верша — і адпаведна, самога аўтара. У гісторыі літаратуразнаўства сэксуальнасць атаясамлівалася з цялеснасцю, атрыбутамі вонкавай прыгажосці асобы, адлюстраванымі ў тэксце. Варта дадаць, што сэксуальнасць твора ў многім залежыць і ад эмацыйных канатацый, укладзеных у кожнае слова паэтычнага прызнання. А ў дадзеным творы — сэксуальнасць не вычурная, не крыклівая, а спакойная, чыстая, збалелая. Пры прачытанні сэрца тахкае ва ўнісон з разбіўкай радкоў. У вершы Шушко з мужчынскім пачаткам звязана ідэя развіцця і руху думкі — у некалькіх радках аўтар змог зафіксаваць гісторыю кахання і расстання, з жаночым пачаткам — асаблівая мяккая танальнасць, зварот да фальклорных форм як да сродку апісання душэўнай траўмы і пакут разбітага сэрца. Для лірычнага героя і пасля расстання Яна засталася ўвасабленнем ідэальнай жаноцкасці — «любая» і «ветлая», таго святога месца, куды імкне памяць у пошуках прыстанішча. «Сэксуальнасць» мужчынскага лірычнага прызнання становіцца выяўленнем андрагіннай прыроды чалавека, якая ў кожным з нас, аднак далёка не кожны ўмее ўраўнаважыць у сабе гэтыя два дыхатамічныя полюсы і дазволіць гэтаму «выдрэсіраванаму зверу» кіраваць мастацкай свядомасцю. «Андрагінны тып» мастацкага мыслення аўтара ўсё болей раскрываецца ў празаічных творах, аднак не ў навіну гэта і ў паэзіі.

Увогуле рамантычныя дыхатоміі неба/зямлі, святога/прафаннага, духоўнага/цялеснага маюць вялікую ролю ў самаапісанні і самаідэнтыфікацыі сучасных аўтараў. Праз іх яны не толькі акрэсліваюць межы засваення асобай прасторы сучаснага свету, але і прасторы магчымага/немагчымага ў літаратурным дыскурсе. Напрыклад, верш «***Калі жанчына разнімае ногі...» Леры Сом пабудаваны на складаным сілагізме, пасылкі якога ўзыходзяць да супрацьдзеяння літаратурнаму канону — паэтэса не мае права гаварыць пра прыватнае, асабістае ў адкрытай і даверлівай форме без таго, каб не трапіць пад вызначэнне жанчыны лёгкіх паводзін. Тут

[8] Шушко А. Камяні: падборка вершаў / Маладосць. 2011. №8. – С.46.

сутыкаюцца ўніверсальны нарматыўны падыход да межаў дазволенага ў паэтычным тэксце, і ў прыватнасці — у жаночым тэксце, і індывідуальная апісальная трактоўка вобразу гераіні, якая займаецца самааналізам падчас сэксуальнага акта:

*Што думае яна у гэты момант?..*
*«Нішто памеры»,*
*«Прыкупіць бы бульбы»,*
*«Надвор'е — клас,*
*я файна загарэла»,*
*«Наступны раз*
*не забываць пракладку»,*
*«Я сыну*
*не сказала пра капусту»,*
*«Хачу на мора»,*
*«Хоць бы заплацілі»...*
*Ці думае яна:*
*«Ах, ён кахае, мяне кахае, я яго хачу,*
*хадзі хутчэй, хутчэй хадзі сюды...».*

*Я думала пра ўсё гэта з усімі.*
*Я ні пра што ня думаю з табой*[9]*.*

Першая частка як увасабленне рэальнай (індывідуальнай) ідэнтычнасці верша, што прапагандуе адсутнасць усякіх норм і стандартаў у раскрыцці пачуццяў; другая частка (са слоў: «Ці думае яна...») — фармальная ідэнтычнасць, што сілкуецца класічнымі формамі ў адлюстраванні палкасці і таму ўяўляе з сябе літаратурны шаблон. Фінальнае двухрадкоўе як перакрэсліванне гэтых дзвюх стыхій, што спаборнічалі паміж сабой за права быць прапаведнікамі ісціны ў мастацкім адлюстраванні асобы і яе перажыванняў. Інтэртэкстуальнасць прысутнічае на ўсіх узроўнях кампазіцыі верша, умоўна падзяляючы яго на некалькі частак. Верш «пра каханьне» Леры Сом не ўкладваецца ў статычныя формы, якія характэрны любоўнай лірыцы і якія належаць да так званай «калектыўнай ідэнтычнасці» падобнага кшталту твораў. Усё часцей аўтары свядома пазбягаюць нарматыўных вобразаў тэксту, заведама карыстаюцца антынарматыўным наборам прыёмаў дзеля разбурэння застаялых уяўленняў пра дазволенае/недазволенае ў літаратуры. Аднак падобныя свабоды ў аўтарскай самапрэзентацыі не заўсёды добра працуюць на змест твора, яго ідэйна-тэматычную скіраванасць і г.д. Калі звярнуцца да вершаў А. Шушко і Л. Сом, то, на мой

[9] Сом Л. Каралева прыйдзе ноччу: Вершы пра каханьне. – Мінск, Выдавец І.П. Логвінаў. – 2007. – С.70

погляд, «сэксуальнасцю» валодае менавіта верш Шушко — ён кранае душу, перажыванні чытача значна больш, чым рэфлексіі ў пасцелі гераіні Леры Сом, якія скіраваны больш на думку і эстэтычнае ўспрыняццe чытача. У тэксце Сом больш маскуліннага — мужчынскай жаноцкасці, чым у Шушко. Андрагінная сутнасць паэтэсы выявілася ў характары стварэння верша і надала яму пэўную адстароненасць ад узораў класічнай любоўнай лірыкі. Тут вельмі дарэчы будзе вызначэнне Э. Сіксу жаночай несвядомасці, якая часта і кіруе словам, што яна, «у адрозненне ад мужчынскай несвядомасці — у працэсе пісьма паглынаецца імкненнем пачаць, прыступіць з усіх бакоў адразу, абазначыць некалькі заходаў адначасова, не засяроджваючыся на адным фалічным парыванні пачаць і скончыць. Жаночае цялеснае пісьмо можа мець дваццаць ці трыццаць зачынаў, яно пачынаецца адусюль»[10].

Лера Сом з дапамогай іроніі дэманструе ўціск «рознага» жаночага на «абсалютнае» жаночае, што павінна ўкладвацца ў межы дазволенага. Іронія як спосаб абароны ад выпрацаваных гісторыяй паэзіі схем у стварэнні мастацкага твора. Іронія і як спосаб візуалізацыі праз стыль падаўлення агульнапрынятых уяўленняў пра жаночае. Іронія таксама можа браць на сябе ролю шырмы ў тэатральным дзеянні твора. І калі мы ставім пытанне пра тое, якія спосабы і мадэлі пісьма жанчына і мужчына ўжываюць і чаму, немагчыма абысці ўвагай назіранне за жаночым і мужчынскім суб'ектамі як аўтарамі сваёй самасці і самасці лірычнага героя, што не абышліся без іроніі (звернемся да твораў Леры Сом і Анатоля Сербантовіча):

*Каму з нас ведаць неахвота,*
*Што грудзі ля вясковых хат*
*Нальюцца хутка, быццам соты,*
*У падрастаючых дзяўчат.*

*Дзяўчаты пойдуць карагодам,*
*Тады і зблізку, і здаля*
*Здавацца будзе мне, што мёдам*
*Запахла ўся мая зямля*[11].

У А. Сербантовіча іронія задзейнічана ў якасці скрытага механізма прачытання тэксту: чытач інтэрпрэтуе ў працэсе ідэнтыфікацыі тое, як з дапамогай мяккай іроніі мужчынскі суб'ект «упісваецца» ў тэкст, якія выклікае эмоцыі і г.д. Іронія выконвае ролю шырмы, за якой адбываецца яркае эратычнае дзеянне — «грудзі ля вясковых хат» параўноўваюцца з налі-

---

[10] Сиксу Э. La sexe ou la tete? (Женщина — тело — текст) // Художественный журнал, №6, 1995. -- С.34-35.

[11] Сербантовіч А. Вершы / “Адсюль выток, адсюль натхненне…”: Паэзія, проза, публіцыстыка. – Мінск, Маст.літ., 2007. – С.152.

тымі грудзямі «падрастаючых дзяўчат». Быццам бы тут няма адкрытых эратычных вобразаў, як у Леры Сом — «сьцябла», які «знаходзіць кветку, пухнатую ці аголеную гладка» — аднак дадзенае параўнанне ў вершы Сербантовіча, не менш за асацыятыўныя вобразы Леры Сом, надае яму «сэксуальную» афарбоўку. Лера Сом праз коды і канцэпты сусветнай паэзіі выводзіць чытача на сугестыўнае ўспрыняцце эратычных вобразаў, Анатоль Сербантовіч рухаецца далей: ад канкрэтызацыі да абсалютызацыі з'явы — наяўную і таемную сэксуальнасць вылучае не толькі прыгожая маладая дзяўчына, яна ўсюды ў паветры. У вершы дамінуе ярка выражаная маскулінная самасць аўтара, суб'ект рэалізуе вынікі творчай працы ў формах, характэрных мужчынскай паэзіі, — найперш, па прычыне таго, што жанчына не стане ўжываць у сваім пісьме падобнае параўнанне. А гэта значыць, што мастацкія тропы таксама набываюць гендэрную афарбоўку, а некаторыя нават і гендэрныя маркіроўкі «жаночага» і «мужчынскага» тропа.

Такім чынам — перад намі тры спосабы перадачы любоўнага перажывання і тры розныя мадэлі верша пра каханне. Як вынікае з аналізу твораў, аўтары — суб'екты паэтычнага дыскурсу — выкарыстоўваюць у розных прапорцыях складнікі «фармальнай» і «рэальнай» ідэнтычнасці твора ў раскрыцці інтымных пачуццяў. А гэта ў выніку ўздзейнічае на пераразмеркаванне суб'ектна-аб'ектных адносін у тэксце і, адпаведна, на рэалізацыю ідэі верша. Калі А. Шушко імкнецца ўкласці змест у стройную класічную форму і гэтым дасягнуць найбольшай гармоніі ў суадносінах літаратурнай нормы і аўтарскіх пошукаў, то ў Леры Сом адзначаецца сканцэнтраванасць на прыватным моманце, фрагментарнасць і эпізоднасць і адсутнасць строгай кампазіцыі. А. Сербантовіч увогуле рухаецца па ўзрастаючай: свае інтымныя перажыванні імкнецца перадаць свету, нагадаць, што ў прыватным (налітых грудзях падрастаючых дзяўчат) тоіцца велізарная эратычная энергетыка, здольная ахапіць усю зямлю. Дзве страфы верша «***Каму з нас ведаць неахвотна» напоўнены цялеснай атрыбутыкай, якая працуе на «сэксуалізацыю» мастацкага слова. Сербантовіч яўна прэзентуе аўтарскі мужчынскі пачатак, Шушко карыстаецца «феміннымі» стылістычнымі сродкамі, а Лера Сом, наадварот, пазбягае яўнай жаночай ініцыятывы (нягледзячы на наяўнасць у тэксце набору чыста жаночых прадметаў, кшталту «забытых жаночых прыкладак», ці важнай у сферы псіхалогіі пола тэмы — «нішто памеры», якая якраз і актуалізуецца жанчынай), таму што сама падача ідэі твора нагадвае агрэсіўнае адстойванне ўласнай думкі на «цялесныя адносіны» мужчыны і жанчыны, а гэта ўжо перанятая ў мужчын прывілея. Дамінанта андрагіннага пачатку ў самасці паэтэсы якраз і прадвызначае прысутнасць у тэксце маскулінных інтэнцый.

Такім чынам, форма можа ўпарадкаваць рух думкі, надаваць ёй паступовую, без хістанняў і без адыходу ад тэмы, дынаміку. Калі аўтар выбірае форму абдумана і загадзя, ён імкнецца запоўніць прастору абранай формы самымі трапнымі і дакладнымі словамі, у якіх сканцэнтравана паўсталі б у адзінстве ідэя і аўтарскі стыль. Аднак залішне загружаны тэкст стылістычнымі выкрутасамі надае яму ўскладнёнасць, што мяжуе з адсутнасцю мастацкага густу. Яшчэ ў 80-я гады Максім Танк адзначыў: «Ды што да ўскладнёнасці, яна, як вядома, бывае розная: ускладнёнасць, выкліканая неабходнасцю выказаць новую думку, новыя пачуцці, якія яшчэ не мелі свайго адлюстравання, і ўскладнёнасць, выкліканая манернасцю, арыгінальнічаннем, бо ўжо вядомае і выказанае ў зразумелай форме, паўтараю — у ўскладнёнай, што нагадвае манернасць псеўдакласіцызму і не з'яўляецца ніякім наватарствам, а сведчыць аб дэзарыентацыі такой паэзіі і яе прыхільнікаў». Варта прыслухацца да слоў класіка. Такім чынам, маладыя і немаладыя аўтары, шукайце сябе ў слове і выкладанні слоў у пэўную форму, а мы будзем чытаць і атрымліваць ад гэтага эстэтычную асалоду ці не бачыць у гэтых пошуках ніякіх сэнсаў!



# Андрэй Курэйчык

драматург, кінасцэнарыст, актор. Аўтар шматлікіх сцэнарыяў для беларускіх тэатраў на беларускай і расейскай мовах. Друкаваў свае п'есы ў «Arche», «Полымі», «Нёмане», «Першацвеце», выдаў дзве кнігі. Movie Research прызнала Андрэя Курэйчыка самым паспяховым сцэнарыстам расейскага кіно 2006—2008 гадоў. У 2009 годзе працаваў у Галівудзе. Нарадзіўся ў 1980 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Знайсці герояў пакалення...

**Чамусьці, як я заўважаю па сваіх знаёмых, Андрэя Курэйчыка большасць ведае менавіта як драматурга. Шмат хто глядзеў яго «Исповедь Пилата», «Потерянный рай», «Пьемонтский зверь»... Але калі я кажу, што па яго сцэнарыі былі знятыя «Любовь-морковь» (першая і другая часткі), «Юленька», «Ёлки», усе здзіўлена лупаюць вачыма. Чаму? Можа таму, што знаходзіш цікавы расейскі фільм, і тут, на табе, — сцэнарый беларуса. А, можа, і таму, што, калі бачыш, што беларусы здымаюць разам з расейцамі добрыя фільмы, то адзінае пытанне, якое ўзнікае — «Чаму ж мы самі не можам?». Але ж атрымоўваецца, што можам! Андрэй Курэйчык зрабіў менавіта тое, чаго нам так не хапала: кіно, знятае беларусамі, з беларускімі акцёрамі сярод беларускіх пейзажаў. Ён паказаў жыццё, якім жыве сапраўдны беларус. Часам у некаторых дзеяннях герояў ты бачыш самога сябе. Мяркуючы па сабе, гэта было настолькі дзіўна, нязвыкла і адначас прыемна бачыць у фільме рэальнае жыццё, тое, з якім сутыкаешся кожны дзень. Андрэй Курэйчык падарыў нам надзею, што калі-небудзь і мы зробім нешта легендарнае, тое, што будуць памятаць нашыя наступнікі. І чым мы ўсе будзем ганарыцца.**

***— Андрэй, як да вас прыйшло жаданне зрабіць беларускае кіно на Беларусі?***

— Жаданне было даўно, магчымасці не было. На жаль, супрацоўніцтва з «Беларусьфільмам» пакуль не склалася. Прыватных прадзюсараў, якія б рабілі беларускае кіно, няма. Таму адзіны выхад, які заставаўся — гранты міжнародных арганізацый. «Вышэй за неба» прафінансаваў Глабальны фонд па барацьбе са СНІД, сухотамі і малярыяй.

***— Вы лічыце «Вышэй за неба» гісторыяй пра сапраўдную беларускую моладзь?***

— Канешне. Гэта беларуская гісторыя, у якой вельмі шмат рэальных біяграфічных фактаў. А герояў іграюць выключна беларусы, у першую чаргу маладыя беларусы. Мы імкнуліся быць максімальна сумленнымі ў адлюстраванні жыцця нашай моладзі, паказаць розныя яе тыпы. Знайсці герояў пакалення. Гэта вельмі важна, бо айчыннае кіно так і не стварыла яшчэ сапраўдных маладых герояў. А мы паспрабавалі гэта зрабіць.

***— Як працавалася з маладымі акцёрамі?***

— Мы правялі велізарны кастынг — некалькі тысяч маладых беларусаў спрабаваліся на галоўныя ролі. Мы шукалі не толькі людзей з акцёрскімі

дадзенымі, мы шукалі асоб. Лідараў пакалення. Таму працаваць з імі было вельмі цікава. І Алеся Грыбок, і Лёня Пашкоўскі, і Аксана Чывялёва праявілі сябе вельмі ярка. Хаця недахоп досведу ўсё ж такі бачны ў кадры.

***— «Вышэй за неба» — гэта хутчэй камерцыйны праект ці проста жаданне паказаць, што мы можам рабіць якаснае кіно?***

— Да камерцыі фільм не мае ніякага дачынення. Першапачаткова мы не разлічвалі атрымаць ад яго які-небудзь прыбытак. Таму мы былі вольныя ад камерцыйных клішэ, імкнуліся быць сумленнымі і стварыць фільм, які стане творам мастацтва. Арт-прадуктам, здольным дасягнуць як сацыяльных, так і мастацкіх мэтаў. І цяпер мы можам сказаць, што фільм трывала ўвайшоў у сэрцы беларускай моладзі... Але ж не айчыннага кінамастацтва. (смяецца)

***— Ці плануецца выхад «Вышэй за неба» на замежныя экраны?***

— «Вышэй за неба» — унікальны праект для айчыннага кінематографу. Першы незалежны фільм за многія гады. Першы сумленны фільм пра сучасную мінскую моладзь. Натуральна, інтарэс да яго і ўнутры Беларусі, і за мяжой — велізарны. Фільм ужо атрымаў прэстыжную ўзнагароду ў Маскве. Ёсць запрашэнні з Еўропы. Але пакуль над фільмам «вісіць» забарона праваўладальніка на «відэаматэрыял» — Офіса ПРААН у Мінску. Чыноўнікі не спяшаюцца адпусціць фільм да гледача. Гэта вельмі сумна.

***— Гэта кіно патрэбна беларусам?***

— Канешне. Мы атрымоўваем сотні лістоў з падзякамі з усёй краіны. Тысячы людзей пішуць пра яго ў водгуках, на блогах і форумах. У тым ліку прыходзяць лісты ад людзей, якія жывуць з ВІЧ, з іншымі захворваннямі — шмат хто кажа, што фільм перавярнуў іх жыццё. Гэта самы аб'ектыўны паказальнік. Лепшага доказу нам і не трэба.

***— Што глядач павінен асэнсаваць падчас прагляду «Вышэй за неба»?***

— Тое, што ты сам творца свайго лёсу. І што свабода, творчая свабода, унутранная свабода — гэта адзіны шлях да гармоніі.

***— Вы не лічыце, што ўсе гэтыя забароны «Вышэй за неба» толькі больш яго «раскруцілі»?***

— Верагодна. Але радасці ў гэтым няма. Забарона мастацкага фільма па творчых прычынах у 21 стагоддзі — гэта варварства. Гэта выклікае толькі сум. У лічбавую эпоху ўсе гэтыя забароны — рэч умоўная, інтэрнэт не прызнае такія забароны альбо цэнзуру. Але сам факт вельмі негатыўна адлюстраваўся як на сацыяльна-прафілактычнай місіі праекта, так і на рэпутацыі самой Праграмы развіцця ААН. Шкада, што яны выбралі вектар цэнзуры і канфрантацыі. Але хваляваацца не трэба, «Вышэй за неба» іх усіх перажыве. І, напэўна, такія забароны не могуць быць вечнымі.

***— Як вы лічыце, у чым прычына забароны фільма?***

— На жаль, псіхалогія чыноўнікаў невылечная. Яна не змянілася з XVI стагоддзя, калі забаранялі кнігі Скарыны, з 30-х, калі забаранялі Аляхновіча і Купалу, ну і цяпер, калі не ўсе музычныя калектывы могуць выступаць у сваёй краіне. Забарона «Вышэй за неба» ў гэтым жа шэрагу. Падстава фармальная — «правы на відэаматэрыял», а сутнасць тая ж самая — мастак, і не так, як хацелі чыноўнікі, адлюстравалі рэальнасць, дазволілі сабе «творчую свабоду». Ну, прабачце, спадары чыноўнікі. Увогуле любое мас-

*Трыумфатар*



тацтва — гэта выключна прадукт творчай свабоды і таленту. Па-іншаму сапраўдныя мастакі не ўмеюць. Кажучы словамі Грыбаедава: «Служыць бы рады, прыслугоўваць моташна»...

***— Як адбываецца працэс стварэння фільма?***

— Кіно — гэта складанейшы механізм. Карціну малюе адзін мастак. Музыку грае невялікі калектыў. Фільм — гэта сотня людзей, кожны з якіх вельмі важны для канчатковага выніку. Але ўсё пачынаецца са сцэнарыя. Прадзюсары з досведам кажуць: «Нельга зняць фільм лепей, чым ён напісаны». Сцэнарый — краевугольны камень любога кіно. Далей — выбар акцёраў, рэжысура сцэн, мантаж і агучванне... Працэс можа працягвацца некалькі гадоў.

***— Што натхняе на новыя сюжэты?***

— Жыццё. Я з тых аўтараў, чыя фантазія падпітваецца фактамі з рэальнага жыцця.

***— У беларускага кіно ёсць будучыня?***

— Гэта тое самае, што запытаць, ці ёсць будучыня ў беларускай мовы? Ці беларускай літаратуры? Ці нават нацыі. Канешне, ёсць. І гэтую будучыню мы ствараем ужо зараз тымі фільмамі, якія задумваем і здымаем. Проста трэба правільна выбраць накірунак. Мне здаецца, трэба адмовіцца ад арыентацыі на ваенныя тэмы ці блокбастары і імкнуцца знайсці сучасны нерв кінематографа.

***— У чым «фішка» беларускага кіно? Ці ёсць у яго нешта такое, чым яно адрозніваецца ад замежнага?***

— Не, такую «фішку» мы яшчэ не знайшлі. Яна ўзнікае, калі ўзнікаюць вялікія фільмы. Для рускага кіно такія «фішкі» стварылі Гайдай, Разанаў, Таркоўскі, Данэлія... Для італьянскага — Феліні, для французскага — Годар і Лелуш. Нас гэта толькі чакае ў будучыні.

***— Ці дапускаеце вы, што кіно калі-небудзь поўнасцю заменіць тэатр?***

— Не. Гэта занадта розныя бакі мастацтва.

***— Ці плануеце вы ў будучыні яшчэ рабіць такія праекты на Беларусі, з беларускімі акцёрамі?***

— Так. Гэта мая мара.

***— Што вы адчуваеце, калі глядзіце свае фільмы, п'есы?***

— Я стараюся не глядзець свае творы. Ніколі.

***— У вас ёсць нейкія асаблівыя задумкі наконт кіно альбо тэатра?***

— Канешне. Але расказваць пра іх яшчэ рана.

***— Вы марылі ў дзяцінстве аб такім жыцці і дзейнасці як зараз?***

— Не. Дзіцячыя мары змяняліся ў адпаведнасці з кнігамі, якія захаплялі мяне ў тым ці іншым узросце. Жуль Верн, Дзюма, Дастаеўскі, Чэхаў, Моэм —



*З сынам Глебам.*

кожны ствараў унутры мяне мару, якая затым сыходзіла, саступаючы месца наступнай...

***— Калі і як вы асэнсавалі, што менавіта гэта ваш лёс?***

— Мяркую на другім курсе ўніверсітэта, калі задумаў напісаць сваю першую п'есу — «Исповедь Пилата». Драматург — для асобы, рэдкі шлях. І тут незразумела, ці то ты яго выбіраеш, ці то ён выбірае цябе.

***— Што вам усё ж такі бліжэй: кіно ці тэатр?***

— Зараз мне бліжэй кіно, хаця сэрца маё вельмі сумуе па тэатры. Па яго жывой, сапраўднай атмасферы, па жывому голасу... Я спадзяюся вярнуцца ў тэатр ужо ў гэтым годзе.

***—Вы задаволены тым, чаго дасягнулі ў жыцці? Не ўзнікае часам жаданне нешта змяніць, зрабіць па-іншаму?***

— Дасягненні ёсць, але я толькі на пачатку сваёй кар'еры. Мне ўсяго толькі 32 гады і я ўвесь час думаю пра змены ў жыцці. Не хочацца, каб гэтыя змены былі звязаны з эміграцыяй — хочацца, каб гэта было звязана менавіта з беларускім мастацтвам. Шмат думаю пра рэжысуру, пра прадзюсіраванне, пра стварэнне вялікіх фестывальных праектаў. Не люблю займацца адным і тым жа. У жыцці трэба паспрабаваць калі не ўсё, то многае.

***— А чым вы больш за ўсё ганарыцеся?***

— На дадзены момант маімі дзецьмі — Глебам і Мартай, фільмам «Вышэй за неба» і тым, што мне ўдалося захаваць унутраную свабоду ў няпростых умовах, у якіх мы жывем.

***— Ці з'яўляецца мастацтва для вас галоўным у жыцці?***

— Так, бо гэта тое, што я магу пакінуць пасля сябе. Гэта мой унёсак у гісторыю краіны. Сціплы, але спадзяюся, не самы горшы.

***— Ці займаліся вы якой-небудзь дзейнасцю акрамя мастацтва?***

— Я выкладаў, пісаў артыкулы і арганізоўваў фестывалі.

***— Вы адчуваеце сябе ў Беларусі дома?***

— Прынамсі, адзінае месца ў свеце, дзе я адчуваю сябе дома — гэта Мінск.

*Галівуд. Алея Зорак. 2009*



***— Што лепш (альбо горш) у Беларусі ў параўнанні з іншымі краінамі, дзе вы бывалі?***

— Я выдатна разумею, на якім гістарычным этапе зараз знаходзіцца Беларусь. Краіна маладая, відавочна, цяжкія праблемы сталення нацыі. Беларусы яшчэ ў пошуку свайго асабістага «я» і свайго сапраўднага шляху. Гэта адчуваецца. Відавочна і беднасць у параўнанні з развітымі краінамі Еўропы. Вельмі шкада, што ў Беларусі войнамі была знішчана гістарычная архітэктура. Мяне вельмі прыгнятаюць усе гэтыя бязлікія тыповыя мікраёны, якімі забудаваныя нашыя гарады. Прыгажосці і гісторыі тут вельмі не хапае. Але ж людзі — гэта галоўная каштоўнасць краіны.

***— Якое месца ў свеце больш за ўсё запомнілася? Чаму?***

— Я люблю гарады каля мора: Лос-Анжэлес, Ялта, Нью-Йорк, Пецярбург. Мора беларусам адчайна не хапае.

***— Як вы лічыце, беларусы шануюць тое, што маюць: мову, гісторыю, традыцыі, мастацтва?***

— Тут складана казаць за ўсіх. Ёсць адукаваныя беларусы, якія выдатна ведаюць мову, гісторыю, літаратуру сваёй краіны. На жаль, іх няшмат. Большасць жа — гэта людзі без сапраўднага нацыянальнага стрыжня, без нацыянальнага гонару. Гэта віна адукацыі, выхавання, палітычных катастроф, страху... Гістарычна — беларусы адна з самых пацярпелых нацый на тэрыторыі былога СССР. Нам трэба вельмі шмат чаго зрабіць, каб адрадзіць нацыянальную культуру і традыцыі.

***— Што вы імкнецеся данесці гледачу сваёй творчасцю?***

— Што чалавек, яго жыццё, годнасць і свабода — з'яўляюцца самымі важнымі рэчамі ў свеце.

***— Напрыканцы асабіста хачу ўсім чытачам «Верасня» парэкамендаваць да прагляду фільм «Вышэй за неба». Дзякуй вам, што з дапамогай мастацтва адкрываеце людзям вочы на жыццё, звяртаеце ўвагу на тое, што ўсё на самай справе нам па сілах і ўсяго можна дасягнуць. Дзякуй, за размову.***

— Рады, калі гэта сапраўды так. І вам, дзякуй.

**Альдона Мартыненка.**



# Ала Петрушкевіч

паэтка, крытык, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычнага зборніка «Пярсцёнак». Апублікавала звыш 200 навуковых працаў, сярод якіх кнігі: «Іду па слядах: Літаратуразнаўчыя артыкулы, эсэ» ( 1997), «Пра творы і творцаў: літаратурна-крытычныя артыкулы» ( 2002), «Некаторыя старонкі беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя» (2010) і інш. Нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Шчонава на Гродзеншчыне. Жыве ў Гародні.

# Белавежцы ізноў разам...

Сябры літаратурнага аб'яднання беларускіх пісьменнікаў Польшчы, якое існуе ўжо больш чым паўстагоддзя, ізноў сабраліся разам, пад адной вокладкай.

Калі ў 1959 годзе выйшаў першы калектыўны зборнік белавежцаў «Рунь», гэта стала сапраўднай падзеяй. Адбыўся сход аб'яднання, на якім прысутнічалі навукоўцы з Беларусі. Рэцэнзіі з'явіліся не толькі ў Польшчы (Беласток, Варшава, Лодзь), але і ў Украіне («Наша культура»), Расіі («Литературная газета»). Думаецца ўсё ж, што найперш водгук чакаўся з Беларусі. Таму невыпадкова рэдактар «Нівы» Георгій Валкавыцкі не без прыемнасці зазначыў у сваіх «Вірах»: «У «Літаратуры і мастацтве» (13 мая) з вялікім артыкулам аб «Руні» выступіў галоўны рэдактар тыднёвіка Янка Шарахоўскі» [1, с. 14].

Нядаўна выйшаў новы калектыўны зборнік пісьменнікаў «Белавежы», рэдактар якога, сённяшні кіраўнік аб'яднання прафесар Ян Чыквін прапанаваў чытачам самае цікавае з набытку белавежцаў, што хораша прэзентуе і творчасць кожнага з іх і пацвярджае сказанае раней, у аглядзе 50-гадовага шляху: «Пісьменнікі «Белавежы», сапраўды, шчыльна запоўнілі сваю этнічную прастору культурна-эстэтычным зместам. З поўным правам можна сказаць, што другая палова XX стагоддзя належыць у беластоцкім краі найперш «белавежцам» [2, с. 317].

Першаму слова дадзена Георгію Валкавыцкаму, аднаму з пачынальнікаў адноўленага на Беласточчыне ў новым часе беларускага літаратурнага руху, заснавальніку, шматгадоваму рэдактару тыднёвіка «Ніва». Сапраўды, дадзена, бо ўкладзены альманах строга ў адпаведнасці з узростам творцаў. Для пачынальніка зроблена выключэнне. І гэта зразумела. Бо і сапраўды, «цяжка пераацаніць намаганні, што пакладзены Г. Валкавыцкім дзеля справы ўмацавання правоў і развіцця культуры беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Па сутнасці, усё яго творчае жыццё было паслядоўным супрацьстаяннем экспансіі больш моцнай і больш абароненай суседняй культуры, да якой рэдактар «Нівы» ставіўся з нязменнай і справядлівай павагай, але мужна і бескампрамісна адстойваў сваё, бацькоўскае, беларускае» [2, с. 229].

Адкрывае кнігу ягонае апавяданне «Калыска», у якім выразны біяграфічны матэрыял абагульняецца, паўстаюць вобразы роднага гнязда, хаты і, зразумела, першага асабістага прытулку маленькага чалавечка — калыскі. Бо гэты твор пра выток зямной сцяжыны. Пачынаецца апавяданне нязвычна — з аднаслоўнага пытання: «А мама?» І такі зразумелы адказ, які, аднак, у кожнага гучыць па-свойму, бо пазначаны і толькі ягоным ча-

сам, і толькі ягонай, адзінай такой у свеце, мамай: «Была самым надзейным апірышчам нашай сям'і. І нарадзіла мяне пад шчаслівай зоркай, хоць і ў нядобры час, недзе на другі год пасля вяртання з бежанства» [1, с. 7].

Матыў бацькоўскай, мацярынскай абароны, ратавальных крылаў, якімі мама засланяе сваіх дзяцей ад хваробаў-няшчасцяў, галоўны ў творы. Фінал апавядання на першы погляд пакідае ўражанне незавершанасці, абарванасці, калі малюецца чарговы матчын клопат, прыстасаванае да ўмоваў сялянскага побыту лекаванне: «Распарвала мяне мама ў вялікай бочцы. Да паловы напаўняла яе вадою, разагравала ў печы вялікі камень, укідала яго ў бочку, туды ўпіхала і мяне, накрывала прасцінай, і я там даспяваў да кампрэснай працэдуры» [1, с. 9]. А гэта ж і ёсць дасляванне да тых жыццёвых працэдураў, якіх будзе вельмі многа. Але пра гэта ўжо будуць іншыя творы.

Адна з самых вядомых кнігаў Георгія Валкавыцкага мастацка-дакументальная аповесць «Віры», што падзагалоўкам мае «Нататкі рэдактара», прадстаўлена ў альманаху кароткімі, зразумела, самымі значнымі, фрагментамі. Прапанаваныя чытачам вельмі дарэчы, бо для тых, хто знаёміцца з «Белавежай» упершыню, тут на некалькіх старонках — бадай, усе вяршынныя падзеі аб'яднання. З гумарам, а гэта адметная рыса мастацкага почырку пісьменніка — пра вельмі сур'ёзныя рэчы: імпэтны старт у літаратуру тады яшчэ зусім маладых творцаў, першая літаратурная вечарына, «зашыфраваныя» праз нечытэльны почырк і таямнічы псеўданім вершы «няўпэўненага» Алеся Барскага, першыя кнігі: калектыўная «Рунь», «Загоны» Сакрата Яновіча, паэтычныя зборнікі Яна Чыквіна «Іду» і «Святая студня» і цікавая, не без гумару пераказаная, гісторыя пра тое, чаму адразу два. Таму ніяк нельга пагадзіцца, што гэтыя «аўтабіяграфічныя запісы Г. Валкавыцкага вытрыманы ў строгай аб'ектыўна-дакументальнай манеры» [2, с. 230].

Аўтар слушна, па-майстэрску выкарыстоўвае вобразнасць з працэсаў, што адбываюцца ў свеце прыродным. Бо — «Белавежа»! Усё тут прабівалася, расло, дарастала да — годдзяў, так і «прабіваецца» — голляў, юбілеяў — алеяў. І цудоўная фраза, якою рэдактар альманаха завяршае прэзентацыю «Віроў»: «У гэтым тэатры акцёры самі выбіраюць ролі» [1, с. 9]. Так было заўсёды. І так сёння. Асабовасць, асаблівасць, адметнасць кожнага пісьменніка, які творыць і свой шлях таксама. І тых, хто пісаць перастаў, але ўсё адно застаўся белавежцам, і тых, каго ўжо няма, бо яны ж былі — белавежцы, а напісанае — застанецца. Таму і ўключаны ў альманах творы Янкі Жамойціна (1922—2003), Міколы Гайдука (1933—1998) і тых, што пайшлі так рана: Юркі Геніюша (1935—1985) і Міколы Шаховіча (1953—2000). Замыкае гэты сумны шэраг Уладзімір Гайдук (1941—2012).

І тых, каго назавем паважанымі старажыламі: Віктар Швед, Васіль Петручук, Дзмітры Шатыловіч, Алена Анішэўская, Яша Бурш.

І тых, што варты называцца класікамі «Белавежы»: Сакрат Яновіч, Ян Чыквін, Алесь Барскі.

І самых юных, між якіх найсталейшы — аўтар двух паэтычных кнігаў Юрка Буйнюк (1981 г.н.). І мілыя дзяўчынкі: Юстына Каролька, Віялета Нікіцюк, Кацярына Сянкевіч. Яны толькі ступаюць на белавежскія сцежкі, але ўжо цудоўна разумеюць, куды прыйшлі і хто тут ёсць, і што тут, у гэтай «малой вялікай айчыне», для сябе шукаюць і чаго жадаюць. Як выказала тое за ўсіх маладых, звяртаючыся да старэйшых, Віялета Нікіцюк:

*Вы,*
*Вялікія неацэненыя,*
*Паэты малой вялікай айчыны,*
*Забытыя светам,*
*Невядомыя людзям —*

*Хачу ісці з Вамі той самай,*
*але іншай дарогай* [1, с. 183].

А між імі цэлая плеяда: Надзея Артымовіч, Янка Целушэцкі, Віктар Стахвюк, Уладзімір Саўчук, Жэня Мартынюк, Юрый Баена, Міра Лукша, Міхась Андрасюк, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Яўген Вапа, Лідзія Маліноўская. І, безумоўна, Галіна Тварановіч, чые лілёва-сінія «Верасы Дараганава» гэтак натуральна, арганічна далучыліся да квецені Белавежы, што ўжо ў спелай восеньскай пары. І няхай яны заўсёды красуюць у душы паэткі, якую, спадзяюся, шчаслівы лёс прывёў да «Белавежы», а для многіх з беларускіх літаратараў, па гэты бок мяжы, яна выснавала надзейную повязь з беларускай Беласточчынай, якая — няхай жа! — не рвецца ніколі. Як ніколі не парвецца яе лёсавае, што гэтак хораша сышлося ў адно вялікае пачуццё:

*Цеханавецкі збанок,*
*бельская хата,*
*а верасы — з Дараганава,*
*што ў Пцічы на плячы*
*хваёвае прымасцілася* [1, с. 124].

Але глянем на іх бліжэй. Вось Віктар Швед, паэт-традыцыяналіст, чыя творчасць у абсягу тых нацыянальных духоўных каштоўнасцяў, якія трацяцца, знішчаюцца праз незваротныя працэсы. А гэта занядбанне вясковага ладу, сялянскага роду, знікненне вёсак, адрачэнне ад мовы. Усе гэтыя матывы знаходзім у «вектарным» вершы паэта «Наш лёс». Беларускі вясковы лёс гэткі ж па абодва бакі мяжы. Паўторы гучаць тут смутным рэхам, наводзяць на няспешны роздум пра незваротнае:

*Адыходзяць сяляне няспынна,*
*Старыя, старыя.*
*Сумуюць па іх труны-хаціны,*
*Пустыя, пустыя* [1, с. 31].

У спадчыне Васіля Петручука галоўны твор — аповесць «Пожня». Тое нешматлікае, што напісана ім яшчэ, таксама ўспрымаецца пад знакам «Пожні». Так і ў невялікім апавяданні «Чым я цешыўся», прапанаваным для альманаха. Болева-трагедыйны матыў сіроцтва ўвесь час праступае скрозь канву аповеду. Але тут ён не такі злавесны, як у «Пожні», бо злагоджваецца светлым гумарам, бо з вышыні часу боль гоіцца. Герой шчаслівы шчасцем сваіх дзяцей, якіх, як умее, атуляе шчырым бацькоўскім клопатам. Параўнанне з сваім галодным сіроцтвам увесь час праступае ў свядомасці, вярэдзіць душу. І тут аўтар не мінае свой улюбёны вобраз — пожню: «І супраць мяне былі ўсе пожні, асаты, палкі, пянькі, ядлоўцы, цвікі і ўсё, што толькі магло дзіцяці дарэшты збрыдзіць жыццё...» [1, с. 39]. Усё, што магло раніць, раны наносіла, бо абараніць не было каму. Такі новы Аліндарка дваццатага стагоддзя, з якога «здзекаваліся Бог і людзі».

Дзмітрый Шатыловіч — паэт шматслоўны. Ягоныя вершы поўняцца настальгіяй і па прамінулай маладосці, і па тых сустрэчах, і па тых людзях, што засталіся ў дні ўчарашнім. А пра гэта гаварыць хочацца бясконца, паўтараць тое ж, хай нават іншымі словамі. Таму і паэтычных зборнікаў у архіве паэта вельмі многа, асабліва, калі ўлічыць, што першы датуецца 1992-м годам. Спробы ж стварыць пейзажны малюнак не надта плённыя, яны характарызуюцца штучнасцю. Дзмітрыя Шатыловіча можна паставіць поруч з паэтам Яшам Буршам. Каб супрацьпаставіць. Як паэт, Яша Бурш, аўтар адзінай кнігі «Прамень думкі», застаўся ў мінулым, але тыя два прапанаваныя ўкладальнікамі вершы сведчаць пра адметны талент, дакладна характарызуюць яго мастакоўскі почырк. Вершы ягоныя нерыфмаваныя, астрафічныя, дзе сінтаксічныя пары, распадаючыся, вольна спалучаюцца з іншымі радкамі. Вось як малюецца паэтам шчаслівы, бо бесклапотны (як тое звычайна бачыцца з вышыні гадоў) час дзяцінства:

*пурпураю*
*у памяці гароды*
*як певень*
*мак*
*над калонамі сартоў...*
*сакатаннем смеху*
*бесклапоцце* [1, с. 58].

У апавяданні Алены Анішэўскай «Мама» ўзнята балючая праблема: мяжа, што раздзяліла не толькі спрадвеку адзіную зямлю, адзіны Край, але

сем'і, людскія лёсы. Чэрствасць, бяздушнасць чыноўнікаў, якія вырашаюць, ці даць дазвод на выезд за мяжу, іх уседазволенасць, бескантрольная ўлада з аднаго боку і няшчасныя, бяспраўныя просьбіты, што абіваюць парогі, каб мець магчымасць пабачыць родных. Але штосьці ў тых бяздушных машынах часам спрацоўвае, калі людскае ў іх раптам праступае, калі яны згадваюць, што і ў іх таксама ж была мама.

Якімі б рознымі ні былі творцы, усё ж тая магутная повязь, Беласточчына, а найперш — покліч Белавежы, аб'яднала іх назаўсёды. Зразумела, белавежскія матывы сустракаем у гэтай кнізе неаднойчы. Старонку Алеся Барскага, знанага паэта, літаратуразнаўцы, публіцыста, фалькларыста, перакладчыка, упрыгожвае верш «Белавежскія хлопцы» — узор выкарыстання аплікацыі — паэтычнага накаплення:

*А калі загуляць — ва ўсю волечку,*
*Ну, а выпіць калі, дык — глыбокую!*
*А калі цалаваць —*
*сінявокую,*
*шэравокую,*
*цёмнавокую,*
*нізкарослую*
*ці высокую,*
*чарнабровую*
*або русую —*
*белавежскую,*
*беларускую* [1, с. 63].

У гэтым вершы дасканала адлюстравана тое спалучэнне «дзвюх магістральных тэм яго творчасці» [2, с. 132], у аснову якога пакладзены паняцці прырода і каханне. А гэта «традыцыйныя аб'екты літаратуры сентыменталізму», што ў першую чаргу і дае мажлівасць даследчыцы творчасці паэта Але Брадзіхінай аднесці яе да новага сентыменталізму. Ды і іншыя прапанаваныя тут вершы пейзажна-інтымнага плана.

Прыхільнікам даўніны, захавальнікам старажытных скарбаў Беласточчыны быў пісьменнік Мікола Гайдук. Бадай, адно з лепшых ягоных апавяданняў «Нектарый», у цэнтры якога вобраз мастака, што аздобіў храм Благавешчання ў Супрасльскай абіцелі. У выявах святых аўтар найперш вылучае вочы. І гэта зразумела. «Нектарый — значыць: салодкі, прыемны. У выяўленай яго пэндзлем бяздоннай глыбіні вачэй таілася тая бязмежная слодыч вечнасці, пра якую ў самым патайным куточку кожнай душы хаваецца трапяткая надзея, спадзяванне кволенькае, але такое прыемнае, захапляючае, святое» [1, с. 74]. Напэўна, менавіта так: «з дакорам і ласкава, асуджалі і заклікалі», глядзелі вочы святых на тое, што адбывалася ў храме ў 1944 годзе. Неба прыносіла ў ахвяру яшчэ адну сваю велічную,

дасканала прыгожую святыню. Навошта? Каб чарговы раз дараваць тым, хто не ведае, што творыць.

Творчасць Юркі Генюша прадстаўлена лірычнай прозай. Згадаем верш «Да свету». У ім яшчэ адна магістральная тэма альманаха — творчасць, што не адпускае, што прыцягвае, як святло. Недарэмна аўтар выкарыстоўвае сінтаксічны паралелізм: п'яны, апантаны авадзень, што б'ецца аб святло лямпы — крыніцы святла і красы, які не ў стане адляцець ад яе. Так і чысты ліст паперы на стале вабіць творцу:

*Аб шкло лямпы п'яны-п'яны б'ецца авадзень.*
*Алавік сам лезе ў руку*
*Ціха, як зладзей* [1, с. 78].

Выразна пазнавальны тут Багдановічаў матыў: матылёк і свечка бліскучая. І гэта невыпадкова, бо шлях пошуку мастаком красы і светласці, прапанаваны гэтым нашаніўскім класікам, надзвычай адпаведны для многіх белавежцаў.

Творчасць Сакрата Яновіча прадстаўлена ягонымі мініяцюрамі. І не толькі таму, што ў калектыўны зборнік праблематычна ўвесці творы шырокіх эпічных маштабаў, якія належаць пяру празаіка: «Сярэбраны яздок», «Самасей», «Сцяна» і інш., але і з іншай прычыны. Як адзначыў даследчык беларускай літаратуры з Вялікабрытаніі Арнольд Макмілін, «няма сумневу, што яго празаічныя мініяцюры прагучалі як новая нота ў беларускай літаратуры 1960-х гадоў, і жанр «верш у прозе» так і застаўся найбольш удалым у творчасці гэтага арыгінальнага і незвычайнага пісьменніка» [3].

Глыбокім лірызмам кранаюць версэты Сакрата Яновіча «Валошка», «Сны», «Вяртанне ў Крынкі». «Адрачэнне» і «Сын», што напісаныя на самым пачатку творчага шляху, адлюстроўваюць працэсы, якія ўжо выразна выявіліся па гэты і той бок мяжы: сыход маладога пакалення з вёсак. Уцёкі ад долі — так пазначыў празаік гэтую з'яву. Але не ўсё ў жыцці можна вымераць гарадскімі выгодамі. Бываюць часіны, калі толькі роднае здольна залячыць нанесеныя лёсам раны. Таму і дае пісьменнік наказ сынам гэтай зямлі: «А калі слязамі боль пакоціцца, калыханку матчыну ўспомні» [1, с. 84]. Перачытваючы гэтыя мініяцюры, згаджаешся: відавочна, «пошук шырокіх кантэкстаў для яго творчасці дарэмны, таму што Сакрат Яновіч — пісьменнік надзвычай адметнага і арыгінальнага дару» [3].

Апошні версэт «Вера» па змесце — своеасаблівы сімвал веры чалавека-творцы, што гучыць яркай, аптымістычнай, вітальнай нотай. Нельга ўявіць больш удала падабранага для прэзентацыі творчасці Сакрата Яновіча фінальнага твора:

*«Веру ў жыццё, смерць яго і ўваскрашэнне.*
*І ў вечнае, бо бязмежнае.*

*І ў чалавека.*
*І ў свет —*
*Веру!»* [1, с. 86]

Вершы Яна Чыквіна не проста чытаю, слухаю. Мяркую, хто меў магчымасць чуць аўтарскае чытанне, не мог не запомніць ягоную адметную манеру: няспешную, выразную інтанацыю, калі дакладна расстаўляюцца акцэнты, калі паўзы гавораць гэтак жа многа, як і словы. Бо надта вялікае і значнае за слоўнай абалонкай, што не змяшчаецца ў ёй. Паэт філасофскага складу, што ўжо звычна падкрэсліваецца даследчыкамі ягонай творчасці, дзе «імгненнасць жыцця і бясконцасць свету — антыноміі, якія, бадай, кожнаму яго вершу надаюць адценне ўзвышанага смутку» [4, с. 137]:

Наводдаль спеўна змяркаецца вечнасць.
А я — аскепкі цяпла да цяпла,
А я — агніцы святла да святла [1, с. 92].

Адметная постаць між белавежцаў Уладзімір Гайдук, якога стала называюць селянінам-мастаком, паэтам-земляробам. Бо застаўся на сваёй зямлі працаваць і жыць. Нагадваў тых нашаніўскіх творцаў, якіх Максім Гарэцкі назваў паэтамі з мазольнымі рукамі. Як заходнебеларускія паэты Міхась Васілёк і Алесь Мілюць. Уладзімір Гайдук з іх кагорты. Але хіба што гэты шэраг ён і замыкае. Паэт успрымаў своеасаблівае раздваенне не як праблему, а як дадзенасць, як два бакі аднаго гарманічнага цэлага, якія дапаўняюць адзін другога, але кожнаму дакладна вызначаны свой час і свая прастора:

*Гэта ёсць мой агульны вобраз,*
*Бо папраўдзе нас двух у целе:*
*Адзін — гэта сялянскі, будзённы,*
*А другі — той паэт нядзельны* [1, с. 97].

Праблемы ў іншым, у незадаволенасці зробленым, дасягнутым: «няўдачаў узвеі», «мала зроблена, час толькі страчан», у няпэўнасці. Але прыходзіць выратавальны, па-беларуску дакладны прагноз, які заўсёды спраўджваецца: неяк будзе. У паэта ён інтэрпрэтаваны наступным чынам: «Будзе так або цалкам іначай».

Старонкі Уладзіміра Гайдука таксама распачынае белавежскі матыў, верш «У Белавежскай пушчы». Галіна Твардовіч называе гэты твор невялікай паэмай. Для лірычнага героя, чыя душа поўніцца каханнем, ягонае «я» перастворана ў напоўненае шчасцем «мы». Таму пушча ўспрымаецца як цэлая краіна, што нагадвае праўдзівы рай. Шмат тут ад Купалавага раю для яго і яе з паэмы «Яна і я». І гэта невыпадкова ў паэта з Беласточчыны, бо «ўвядзенне ў мастацкую тканіну архетыповых культурных вобразаў падрыхтавана ўсім цягам твору» [2, с. 172]. І не толькі гэтага. Вобразнасць белавежскага аўтара не замыкаецца на родных беластоцкіх краявідах:

*Я чуў душою, што ў гэтае краіне*
*Будзем з табою параю шчаслівай.*
*А дрэвы рэчку лісцем усцілалі.*
*Лісцё, як матылькі асеннія, ляцела.*
*Пушча здалася першабытным раем,*
*А ў ёй былі мы — як Адам і Ева* [1, с. 95].

Прапанаваныя вершы Уладзіміра Гайдука ўтвараюць цэласную, па-мастацку завершаную нізку. Змест яе наступны: каханне, якое было шчасцем ды абарвалася развітаннем і ўрэшце сталася недасяжнай марай, сном. Апошні верш так і называецца «Сон». Лірычнае дзеянне перанесена ў ірэальны стан, калі мажлівыя часавыя зрухі, калі закаханыя ізноў побач. Тым самым усё пачынаецца спачатку. На іншым узроўні. Таму аўтар і выкарыстоўвае кальцавую кампазіцыю:

*Сустрэліся ў сне нерэальна жывым —*
*Ты маладая і я малады,*
*Ты ў белай сукенцы, без вэлюма толькі,*
*А я — у святочнай кашуліне жоўтай* [1, с. 98].

Злавіць, зафіксаваць тое, што адно і дадзена чалавеку, — імгненне, крупінку вечнасці імкнецца Янка Целушэцкі, аўтар адной кнігі. Зразумела, што назва яе — «Імгенні». Напоўніць іх сваім, ім убачаным, пеpажытым. Многія мініяцюры ўяўляюць сабою версэты. Як, да прыкладу, «Адзінота», якую лірычны герой умее засланіць імгненнем, калі ён адзінокім не быў, калі свет вакол поўніўся гукамі, колерамі, бо быў асвечаны каханнем. Прабачаюся перад аўтарам, але чытаецца мне ягоны версэт так:

*Сню я цябе і бачу,*
*калі з думкамі адзін.*
*Не слухаючы,*
*чую твой голас.*
*Са мной ты ў думках*
*і ў ліпнёвую спёку,*
*і ў люты мароз,*
*і калі зязюляй*
*заходзіцца*
*ранне...*[1, с. 98].

Надзея Артымовіч — адна з вядомых у метраполіі паэтаў Беласточчыны. Яе імя звычайна згадваецца ў кантэксце тврчасці Алеся Разанава. Найперш дзякуючы сумеснаму паэтычнаму праекту — кнізе «Дзверы» (Беласток, 1994). Прапанаваныя вершы паэткі з пазнейшага, «посткатастрафічнага» перыяду яе творчасці, дзе ў цэнтры топас Бельск — родны горад, места вяртання, адхлання, калі шчасліва адноўлены душэўны спакой праз

адчуванне роднасці, еднасці і з гэтым местам, і з гэтым людам, які ўспрымаецца не як чужы, абыякавы натоўп, а як людская супольнасць:

*Горад мой*
*твае вузкія вуліцы*
*поўныя людзей*
*людзей старых і дзяцей*
*як добра ўліцца ў раку*
*старых людзей і дзяцей*
*удыхаць паветра* [1, с. 104].

Бельскае мінулае, якое пераносіцца і на цяперашняе, бачыцца лірычнай гераіні Надзеі Артымовіч шчаслівай казкай, у якой заўсёды мае месца ідэалізацыя:

*свет укінуты ў бельскую казку*
*дзяцінства ў зялёных лугах*
*панадворак брукаваны шчаслівымі зоркамі*
*размаляваная бацькоўская цеплыня*
*у мінулых днях* [1, с. 104].

Гэты працэс вяртання лірычнай гераіні (і ў Бельск, і да сябе, і да прыхільнага людства, і да гарманічнага суіснавання са светам) дакладна праналізаваў Ян Чыквін, які зазначыў, што паэтка «перамагае ў сабе экзістэнцыяльны катастрафізм шляхам эстэтызацыі і нават сакралізацыі бельскай рэчаіснасці... Яна знайшла ў сабе шмат сіл, каб адкрыць для сябе новую творчую перспектыву і заставацца надалей адной з арыгінальнейшых беларускіх паэтэс нашага часу» [5, с. 164—165].

Наогул, вяртанне на Радзіму, якая не бывае малой, даволі характэрная з'ява між беларускіх творцаў Польшчы. У кароткіх звестках пра аўтараў, што пададзены ў альманаху, звычайная фраза: жыве ў роднай вёсцы. Гэта і пра Янку Целушэцкага, і пра Віктара Стахвюка, і пра Сакрата Яновіча. Ды і Ян Чыквін таксама жыве ў бацькоўскай хаце.

Разумею, чаму зроблена выключэнне для Віктара Стахвюка, чаму ўслед за кароткімі звесткамі пра аўтара змешчаны ягоны жыццяпіс. Бо гэта нешта незвычайнае! Такіх рэзкіх паваротаў, такіх зігзагаў не рабіў лёс ні аднаго з белавежцаў: настаўнік, выкладчык ВНУ, мастак, інструктар-вадалаз, грамадскі дзеяч, бізнэсмен, тэхнічны дырэктар радыё Рацыя, фермер... І заўсёды паспяховы. Праз прызму ўсяго гэтага інакш успрымаецца ягоная паэзія. Адчуваеш, што не голай дыдактыкай павявае ад высноваў, зробленых з нагоды ўсіх навалаў чорнага дня, якія выпадаюць ці ж рэдка, а як пражытае, выпакутаванае, каб здолець штораз ўздымацца на новы віток і штораз годна выстаяць. Зразумець сваё месца, здавалася б, зусім нязначнае, у параўнанні з бясконцасцю прасторы і часу:

*затрымайся*
*прысядзь*
*глянь на свет*
*што быў ужо да цябе*
*і не знікне разам з табою* [1, с. 112].

Але гэта тваё, адзінае, табе дадзенае, таму ад цябе залежыць, ці здолееш афарбаваць свой свет не толькі ў колеры чорна-белыя. А вось тут ужо на пярэдні план выходзіць мастак. Як і ў вершы «Промністай прабоінай у небасхіле...»

На старонках Міхася Шаховіча самы балючы верш «Шкада, не паеду ў Сахачаў», які ўспрыняць і зразумець зможа толькі той, хто развітаўся з каханай. Паэт трагічнага светаўспрыняцця, які ставіў пытанні і не меў адказаў. Таму стан нявызначанасці, памежнасці, пачуццё непрытульнасці, адзіноты — галоўнае ў вершах:

*Чаму на бяскрэссі прастораў*
*У хаце маёй аж цесна ад гора?*
*Скажы,*
*Дарагая, скажы*
*Ці доўга мне жыць на мяжы?* [1, с. 118].

А вось Жэню Мартынюк, як і Галіну Тварановіч, немажліва ўявіць без усмешкі. І не таму, што яе абмінулі нягоды. Яна заўсёды поўніцца святлом, нават калі з вачэй высвечваецца смутак. І гэткія ж яе вершы: шчырыя і добрыя, далікатныя і пяшчотныя. Самы яскравы вобраз, створаны паэткай, — белы гарлачык. Так называецца адзін з трох яе зборнікаў, так называецца верш, з гэтай пяшчотнай кветкай асацыюецца воблік яе лірычнай гераіні.

Хоць і надышоў ужо ў зямным лёсе восеньскі час, але паэтка пэўная: і ў ім можна знайсці залацінкі красы і светласці:

*Мне запляла ўжо валасы восень.*
*Позіркам шукаю маўклівым*
*Раннюю залацістую просінь* [1, с. 132].

Такая ж «свядомасць пражытых гадоў» і ў паэзіі Уладзіміра Саўчука. Ды толькі ў часавым вымярэнні, бо эмацыйнае яе напаўненне цалкам іншае: больш стрыманае, асэнсаванае, калі няшчасці ўспрымаюцца як заслужаныя, калі на ўсё чалавек здольны глядзець быццам збоку. Але душа ўсё яшчэ здольна захапляцца маляўнічым краявідам. Слёзы адзіноты, голас журбы, мары — гэта таксама складнікі смаку жыцця.

Паэт з Бельску Юрый Баена стрымана, але годна і ўпэўнена-перакакальна сцвярджае беларускую прысутнасць у гэтым Краі. Трагізм паступовага вымірання — працэс незваротны, ды ёсць непадуладныя знішчэнню з'явы, якія ратавальным промнем асвятляюць цемень нябыту:

*Тут мы,*
*жывыя і мёртвыя,*
*ахінутыя памяццю*
*і лісцем бяспамяцця.*
*На камені кірыліца —*
*Бессмяротная* [1, с. 134].

Творам Міры Лукшы характэрна нешматслоўнасць. І зусім не таму, што калісьці мела наказ пра гэта ад старэйшага калегі, аб чым яна з гумарам расказвае на сустрэчах з чытачамі. Такая, нешматслоўная, яе проза і яе паэзія. Бо чытаць трэба між словамі, між радкамі. У празаічных творах кідаецца ў вочы адметны, часцей сцішаны, прыхаваны гумар, гэткі мудры погляд жанчыны з вышыні, збоку, які паўстае з разумення, што нічога не перайначыш, як ні імкнешся рабіць з тых «мужыкоў чалавекаў». Недарэмна адну з кнігаў прозы Міра Лукша назвала «Бабскія гісторыі». Вершы ж зазвычай вытрыманы ў стрымана-строгай стылёвай манеры:

*Шматслоўе забівае.*
*Паэзію.*
*І прозу таксама.*
*Як і людзей,*
*пачуцці, жэсты, абяцанні* [1, с. 142].

Свой літаратурны талент Ганна Кандрацюк-Свярубская дзеліць між паэзіяй і журналістыкай. Гэтага вымагае яе сталая праца ў «Ніве». Асабліва цікавыя падарожныя эсэ пісьменніцы, адно з якіх «Скандаліст ашалее ад гневу» і прэзентуе ў альманаху яе творчасць.

Міхась Андрасюк надзвычай арыгінальны празаік, аўтар кнігаў «Фірма», «Мясцовая гравітацыя», «Белы конь», «Вуліца добрай надзеі» (апошняя выйшла ў Мінску), здзівіў прыхільнікаў сваёй творчасці цікавай знаходкай: «Знайшоўся верш». Так называецца ягоны паэтычны зборнік (Беласток, 2009). Звычайна бывае наадварот: паэты пачынаюць пісаць прозу.

Шмат што ўражвае ў вершах Міхася Андрасюка. Незвычайнасць метафорыкі, каляровай гамы, нечаканасць параўнанняў. Зрэшты, гэта і ёсць паэзія:

*... дзе бяроза глядзіць у аконца,*
*дзе кроў сінюю з неба п'е лён,*
*дзе стаіць маліновае сонца,*
*дзе гарыць маліновае сонца*
*васільковым агнём* [1, с. 145].

Твор Яўгена Вапы «У родным горадзе — чужынцам» асабліва балюча ўспрымаецца гарадзенцамі. Гэта вельмі ўдалая спроба стварэння псіха-

лагічнага партрэта чалавека на фоне часу, а яшчэ і места, якія не супалі, каб суіснаваць гарманічна. І імкненне адказаць на пытанне, чаму. Адзінае, што насцярожвае: аўтар лічыць, што ён ведае адказ. Адказу тут быць, як мне здаецца, і не можа. Бо ж і напісаны твор, каб памяталі пра таго, хто памяці варты. А герой і сапраўды варты. Заслуга аўтара ў тым, што ён не ідэалізуе Дзімы Кісяля.

Шмат святла, сонца ў вершах Лідзіі Маліноўскай, гераіня якой спрабуе тварыць і свет вакол, і сябе наноў, апранаючыся ў лістоту, у залатыя промні, пазбягаючы мітуслівага, штодзённага, не пазбаўляючыся, аднак, спрадвечнай праблемы беларускай душы — раздваення. Бо сэрца ж — з дзвюх палавінак:

*Адна палавінка трымціць*
*І разгараецца,*
*А другая — ледзяная —*
*Лёгка з рук выслізгваецца* [1, с. 145].

Альманах яшчэ раз сведчыць, якія цікавыя таленты ўзгадаваныя па той бок мяжы. «Белавежа» — гэта цэлы мацярык. Амаль не адкрыты ў Беларусі. Да гэтага часу. Хоць руплівасці і стараннасці тых, хто апякуецца і маладымі талентамі, і выступае ў якасці рэдактараў творчасці старэйшых паэтаў, можна пазайздросціць: кнігаў беластоцкіх беларускіх аўтараў выдаецца многа, значна больш, чым у нашай беларускай Гародні. Ды і якасць выданняў непараўнальная. Але затое ў Беларусі яны апошнім часам амаль не выходзяць. Найбольш у гэтым плане пашанцавала калісьці Міколу Гайдуку: у Мінску выдадзены пяць ягоных кнігаў. Праўда, тое было раней.

Учарашняя «Белавежа» — яна і сённяшняя, дзе арганічна суіснуюць розныя пакаленні. Але, на жаль, няма пэўнасці і надзеі, ці будзе шумець гэтая літаратурная пушча заўтра. Такія рэдкія сёння на Беласточчыне маладыя беларускія таленты. Ды і рэй у гэтай суполцы вядуць не яны.

Мажліва, кніга трапіць у рукі да чытача, які сустрэнецца з «Белавежай» упершыню, то няхай убачыць, пачуе тых, хто трымае на Беласточчыне беларускі дух, хто жыве беларускім словам. Не мусяць быць белавежцы «забытыя светам, невядомыя людзям».

**Літаратура:**

1. Белавежа. Літаратурны альманах. — Беласток: ББЛА «Белавежа». — 2011. — 96 с.

2. Шлях па прамой часу. Да гісторыі беларускай літаратуры Польшчы 1958—2008 гг. — Беласток: ББЛА «Белавежа», 2007. — 322 с.

3. Макмиллин, А. Стихотворения в прозе Сократа Яновича 60-х годов: текст и контекст // Зборнік артыкулаў (матэрыялы з канферэнцыі, прысвечанай творчасці Сакрата Яновіча, Беласток, 8 чэрвеня 1996 года). — Беласток ББЛА: «Белавежа», 1996. — 48 с.

4. Literatury wschodnioslowianksie. Z najnowscych badan. Pod redakcja Haliny Twaranowicz. — Bialystok: Wydawnictwo uniwersitetu w Bialymstoku, 2010. — ss. 562.

5. Чыквін, Я. Далёкія і блізкія: Беларускія пісьменнікі замежжа / Я. Чыквін. — Беласток: ББЛА «Белавежа», 1997. — 201 с.



# Уладзімір Сіўчыкаў

**пісьменнік, мастак, выдавец. Аўтар кнігі апавяданняў і п'ес «Гульня ў тастамант» (1992), кніг прозы «Лісты да брата» (1998), «Бювар» (2009), кнігі паэзіі «Высакосны год» (2004), слоўніка-даведніка «2000 русских, 2000 белорусских идиом...» (сумесна з А. Баярынай, 2006). Укладальнік (разам з А. Марачкіным) і адзін з аўтараў альбомаў «Жодзінцы. Жывапіс. Графіка. Мастацкае слова» (2008), «Рыцары Пагоні і Арла» (2010). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў горадзе Жодзіна. Жыве ў Мінску.**

# Вісбійскія[1] нататкі

## Хваласпеў,

## або Колькі словаў на прэзентацыі

У «Кнізе для спадарыні Эл» Леаніда Дранько-Майсюка багата вершаў, у назвах якіх задзейнічана сталічная тапаніміка. Прычым назвы пададзены не савецкія, а даўнія, натуральныя, і праз гэта вельмі прыгожыя, мілагучныя — вуліцы Феліцыянаўская, Францысканская, Ракаўская, Ратамская, Кальварыйская, Койданаўская, Гандлёвая, Ерусалімская, Нямецкая, Няміга, Раманаўская Слабада, завулкі Паўночны, Музычны, Снежны...

Але сам паэт жыве сёння на адной з цэнтральных вуліц, якая носіць імя чалавека, што аніразу не ступіў на беларускую зямлю. Леанід прапаноўвае лічыць, што завецца вуліца ў гонар Лены, але не удакладняе, што гэта за міфічная асоба. А я сам сабе даўно імяную тую вуліцу не Ленінай, а Лёнінай.

Падымаўся аднаго дня лесвічнымі пралётамі ў Лёневу кватэру, каб абмеркаваць рэдактуру і прадмову да свайго паэтычнага зборніка. Пралёты там доўгія, а столь у Дранько-Майсюка адпаведна (ва ўсіх сэнсах!) высокая. Дый кватэра ў яго пад нумарам 10, а гэта наводзіла на думку, што па жыцці цаляе ён у «дзясятку», пачынаючы з таго, што нарадзіўся 10—га числа дзесятага месяца года.

Аказалася, пісаў паэт эсэ пра Янку Брыля ў часопіс «Крыніца» і не знаходзіў ключавога слова, слова для назвы, а таму ужо на парозе запытаўся, як найлепш вызначыць Івана Антонавіча адным словам.

«Мэтр», — вырвалася тады ў мяне, і Леанід радасна пагадзіўся, удзячна падхапіў лапідарнае азначэнне.

Сёння без усялякіх нацяжак і агаворак дапасоўваю гэтае слова да самога Леаніда Дранько-Майсюка, знанага творцы і аўтара паўтара дзясятка кніжак.

Гэта бліскучы вершатворца з непаўторнай інтанацыяй і адметным стылем.

Бездакорнае адчуванне рытму ўласціва і ягонай прозе.

Леанід — чуйны і абачлівы крытык, пераканаўчы і натхнёны публіцыст, фенаменальнага таленту рэдактар.

---

[1] Радкі, якія прыйшлі, надыктаваліся ці зняліся з дыктафона, напісаліся, адрэдагаваліся ў Вісбі, што на шведскай выспе Готланд на Балтыцы.

Ён неверагодна прагны чытач — ягонай абазнанасці ў літаратуры, а ў тым ліку і найноўшай, прыемна дзівуешся. Дзівуешся і таму, што паспявае ён прачытваць і сучаснікаў. Больш за тое, знаходзіць ёмістыя, важкія, натхняльныя словы ўхвалы.

Ён яшчэ і таленавіты слухач дый, пакарыстаюся рызыкоўным неалагізмам, нястомны «штурхач». Не раз бывала, што раскажаш яму гісторыю, а ён тут жа падхопіць дый падштурхне: «Валодзя, а ты пра гэта напісаў? Не?! Чаму? Напішы абавязкова!»

У Леаніда выдатная памяць на паэтычныя радкі. Паўсюль і нястомна дэкламуе, цытуе, арганічна ўплятае ў размовы і прамовы высокія ўзоры прыгожага пісьменства, прычым, пераважна не свае, а братоў па паэтычным цэху.

Як нястомны прапагандыст заўсёды і паўсюль — у гарадской бібліятэцы майго роднага Жодзіна, у музеі Кузьмы Чорнага ў Цімкавічах, ад рампы Дома літаратара, перад мікрафонам у Музеі гісторыі беларускай літаратуры — цвердзіць, агалошвае ён зачараванай аўдыторыі адну тэзу, адну святую яму канстанту: «Беларуская мова — самая прыгожая мова ў свеце!» І сцвярджае, даводзіць гэта ўсім сваім жыццём, грамадскай дзейнасцю і літаратурнай творчасцю.

Мабыць, сотні, калі не тысячы спадарынь — дам, кабет і дзяўчатак — з замілаваннем і тахканнем у грудзёх згадваюць кампліменты, якія пачулі ад кавалера і рыцара Леаніда Дранько-Майсюка.

Але, пэўна ж, ёсць адна пані, якой паэт-менезінгер служыў, служыць і служыцьме аддана, самаахвярна і верна. Імя гэтай пані — Беларусь, і на алтар ёй кладзецца пятнаццатая паэтава кніга. Кладзецца як плён натхнёнай працы і як нагода для свята.

Выхад у свет добрай беларускай кніжкі — гэта заўсёды свята. А Леанід, як кажа наш класік, мае толькі адзін недахоп — не ўмее пісаць кепска! Таму і прэзентацыю ладзіць ён таленавіта. Ладзіць найперш як свята сваім — свята сваім сябрам, паплечнікам, аднадумцам.

Як маршалак, артыстычны вядоўца кожнаму знаходзіць ён не толькі добрыя словы, але і віртуозна складае прысвячэнні, дарчыя надпісы дый мадрыгалы. Не магу ўстрымацца, каб не працытаваць адзін з прысвечаных сабе, любімаму:

*Анёл Скарынавай крыві*
*І князь Купалавай лагоды,*
*Валодзя Сіўчыкаў, жыві*
*І будзь шчаслівы назаўсёды!*

То дзякуй Табе вялікі, дарагі Лёнечка, і са святам! Са святам новай кнігі і святам прызнання таленту!

І дазволь зрабіць Табе невялічкі прэзент — альбом з выявамі найвыдатнейшых постацяў Вялікага Княства і Рэчы Паспалітай пад назваю «Рыцары Пагоні і Арла», які надарыўся, пабачыў свет у маім суаўтарстве з Аляксеем Марачкіным. Дазволь падараваць яго Табе як рыцару Пагоні, а калі ўлічыць Твае бліскучыя пераклады з польскай паэзіі, і найперш наследванні з Канстанты Ільдэфанса Галчыньскага, дык і рыцару Арла!

*5 верасня 2012*

## «Назаву сябе Гантэнбайн»

На Балтыцы сёлета ўдалося ўжо пабываць тыдзень у чэрвені. Там, у літоўскае Паланзе, трэба было б называцца паланжанінам, як па аналогіі з Прагай пражанінам. Куды цяжэй было б самавызначацца, скажам, у недалёкім Ёдкрантэ.

Летась задаваўся аналагічным пытаннем у чэшскім Брно: называцца брнянінам, брнянцам ці па-тамтэйшаму — брнякам?

Можна задацца на самоце і тут, на выспе Готланд, гарэзлівым і самаіранічным пытаннем: як іменавацца, бо няхай сабе і на некалькі тыдняў, але ж даводзіцца пачувацца жыхаром горада Вісбі — вісбійцам, вісбіянінам ці вісбеем?!

А калежанкі-пісьменніцы, якія працуюць у суседніх пакоях-атэлье Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў, павінны іменавацца вісбіянкамі!?

*12 верасня 2012*

## Сэнсавызначальны націск

На каменнай, з сілурыйскага вапняку рэльефнай шыльдзе Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў дэкаратыўнай аздобаю служаць графічныя фрагменты з летапісаў і паасобныя словы з розных моў балтыйскага рэгіёна.

Задзейнічаў скульптар між іншымі і рускае слова «писать».

Але, мабыць, не дужа знаўся ён на мове вялікай і магутнай, а ўвішныя дасціпнікі патлумачылі яму, што набывае той дзеяслоў кардынальна розныя сэнсы ў залежнасці ад таго, на якім складзе пастаўлены націск.

Каб выратаваць становішча, выдзеўб скульптар дыякрытычны знак — знак націску, але ўцісնуць, укампанаваць тую рысачку па-над літарай «а»

было ўжо цяжка, і атрымалася, што прыпадае яна практычна на папярэднюю літару, на зычную «с»!

А гэта толькі падкрэслівае недарэчнасць і камізм вымушанай праўкі-дапаўнення.

*13 верасня 2012*

## Віртуальныя масты

Беларуская дзяўчына Алеся, якая жыве і працуе цяпер за акіянам, у Злучаных Штатах, нават не ўяўляла, што пасярод Балтыкі, на шведскай выспе Готланд, за яе здароўе і поспехі падымалі келіхі з італьянскім шампанскім «Asti Martini» пісьменнік і выдавец, бацька-беларус, гаспадыня і добрая чараўніца Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў, руская Лена Пастарнак, яе памочнік і менеджар, швед Патрык Мускас (Patryk Muskos), а таксама пісьменніца-празаік і каардынатар Тбіліскага кінафестывалю, грузінка Ніна Сурамелашвілі.

Дазналася пра гэта імянінніца праз некалькі гадзін, калі яе малодшая сястра Хрысціна наладзіла і віртуозна правяла skype-канферэнцыю з роднымі і сябрамі, як своеасаблівы віртуальны мост паміж беларускім Менскам, шведскім Вісбі, польскай Варшавай і амерыканскім Нью-Йоркам!

*24 верасня 2012*

## Карэ — празаік дацкі, або Карыкатурны скандал

Мабыць, падчас маёй кадэнцыі ў Балтыйскім цэнтры пісьменнікаў і перакладчыкаў самы знаны ў свеце сярод калег-літаратараў быў дацкі празаік Карэ Блюйтген (Kare Bluitgen).

Паспяховы і заможны, празаік нават абвясціў быў конкурс на афармленне сваёй папулярызатарскай кніжкі для дзяцей. У кніжцы той расказвалася пра іслам, але аніводзін мастак-суайчыннік не пагадзіўся намаляваць да яе ілюстрацыі, калі не будзе захаваная ананімнасць! Як прычыну тае ўмовы называлі нібыта існую ў ісламе забарону на выявы жывёлаў і людзей, а тым болей прарока Мухамеда.

Але некаторыя мастакі, прэтэндэнты аздобіць кніжку Блюйтгена, рызыкнулі. У верасні 2005 года ў дацкай газеце «Jullands-Posten» у якасці ілюстрацый да артыкула, у якім ішла гаворка пра самацэнзуру і свабоду слова,

былі апублікаваныя дванаццаць карыкатурных выяваў прарока. Аддзел культуры выдання настояў на тым, што Данія — вольная краіна, у якой мастакі не павіны баяцца маляваць.

Сярод мусульман няма адзінства адносна таго, ці можна маляваць Мухамеда. Шыіты ставяцца да гэтага досыць памяркоўна, а ў такіх плынях як вахабізм катэгарычна забараняецца маляваць жывёл і людзей, нягледзячы на тое, што існуе багатая і даўняя традыцыя выяваў Мухамеда.

Галоўны рэдактар дацкай газеты Ёрн Мікельсен сцвярджаў, што апублікаваныя малюнкі Крыстофера Цылера толькі дэманструюць на практыцы свабоду слова, але многія мусульмане як у самой Даніі, так і па-за яе межамі ўспрынялі публікацыю як абразу іхніх рэлігійных пачуццяў і як свядомую правакацыю.

А паспрыялі таму ачольнік Ісламскага таварыства Даніі імам Ахмад Абу Лабан і прэс-сакратар арганізацыі Ахмед Акары, якія пайшлі на свядомую фальсіфікацыю, — дадалі ў свой даклад мусульманскім краінам яшчэ тры, куды больш абразлівыя малюнкі.

На ўвесь свет грымнуў так званы карыкатурны скандал — міжкультурны канфлікт паміж мусульманамі найперш арабскага свету і прыхільнікамі сучаснай заходняй культурнай традыцыі.

Чаго толькі ні было!

Мусульманскія краіны байкатавалі дацкія тавары, выказвалі пратэсты праз Лігу арабскіх дзяржаў, дэманстратыўна зачынялі свае амбасады ў еўрапейскіх краінах, арганізоўвалі масавыя агрэсіўныя пратэстныя акцыі, падчас якіх грамілі амерыканскія і заходнееўрапейскія фірмы, установы і дыпламатычныя прадстаўніцтвы, нападалі на іхніх грамадзян. Зацятыя ісламісты правялі шматлікія забастоўкі ў Пакістане, а ў Нігерыі падпалілі дзесяць хрысціянскіх храмаў, дзе загінула шаснаццаць чалавек. Падчас беспарадкаў у Лівіі паліцэйскія застрэлілі адзінаццаць дэманстрантаў і паранілі пяцьдзясят!

Дайшло да неверагоднага ў дваццаць першым стагоддзі дзікунства — афганскі рух «Талібан» абвясціў узнагароду ў сто кілаграмаў золата таму, хто заб'е аўтараў крамольных карыкатур! (Цікава толькі, у якасці доказу кілеру трэба было б прад'явіць скальпы альбо відэазапісы?!)

Прэм'ер-міністр Даніі Андэрс Фог Расмусен (Anders Fogh Rasmussen) вымушаны быў сустрэцца з пасламі сямідзесяці шасці краін, каб патлумачыць сваю пазіцыю.

Міністр замежных спраў Швецыі Лайла Фрэйвальдс (Laila Freivalds) сышла ў адстаўку, бо фактычна зачыніла сайт партыі «Шведскія дэмакраты», якія таксама абнародвалі сатырычныя малюнкі.

Трэба заўважыць, што на знак салідарнасці з датчанамі і нарвежцамі скандальныя малюнкі апублікавалі французскія газеты «France Soir», «Liberation» і «Le Monde», нямецкая «Die Welt», іспанская «El Pais», італьянская «La Stampa», бельгійская «De Standaard», новазеландская «The Dominion Post», польская «Rzeczpospolita», а таксама іншыя выданні ў Вялікабрытаніі, Ісландыі, Нідэрландах, Швейцарыі.

Еўразвяз заявіў, што байкот дацкіх тавараў парушае міжнародныя нормы. Выступілі ў падтрымку дацкага прэм'ера Глава Еўракамісіі Хасэ Мануэль Барозу (Jose Manuel Durao Barroso) і амерыканскі прэзідэнт Джордж Буш-малодшы.

Але канфлікт працягваўся.

У жніўні 2007 года шведская газета «Nerikes Allehanda» надрукавала карыкатуры Ларса Вілкса (Lars Endel Roger Vilks), а ў адказ адна з тэрарыстычных груповак дакляравала сто тысяч даляраў за ліквідацыю мастака і чамусьці ўдвая меней — за забойства галоўнага рэдактара выдання.



У наступным годзе пяць дацкіх газет змясцілі новыя карыкатуры, калі дазналіся пра замах на 73-гадовага графіка Курта Вестаргаарда (Kurt Westergaard) і неаднаразовыя спробы ўварвацца ў ягоны дом у горадзе Аархус. Падтрымкай творцу сталіся таксама Патсдамская прэмія сродкаў масавай інфармацыі і Лейпцыгская прэмія СМІ.

Здавалася б, усе гэтыя падзеі адбываліся далёка, але закранулі яны і Беларусь.

Апазіцыйная газета «Згода» апублікавала ў лютым 2006 года артыкул «Палітычны крэатыў» і праілюстравала яго знакамітымі карыкатурамі. Газету тую ўлады прынагодна зачынілі, а галоўнаму рэдактару Аляксандру Сдвіжкову Мінскі гарадскі суд уплішчыў аж тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму за нібыта распаўсюд расавай, нацыянальнай або рэлігійнай варажнечы. Гэты прысуд аказаўся самым жорсткім ва ўсім свеце для ўдзельнікаў карыкатурнага скандалу! Дзякаваць Богу, што Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь разгледзеў касацыйную скаргу і вызваліў асуджанага з-пад варты!

Некалькі дзён перад сваім ад'ездам Карэ Блюйтген, як любяць казаць цяперашнія маладзёны, тусаваўся тут, у Балтыйскім цэнтры, з іншым, блізкім яму па ўзросце датчанінам.

Цяпер шкадую, што пасаромеўся тады спытацца, ці не мастак гэта Ларс Вілкс, якому таксама трэба было б пацiснуць руку на знак падзякі і салідарнасці.

Далучаюся да меркавання, што агрэсіўныя імамы здрадзілі краіне, якая іх прытуліла. Яны жывуць у Даніі і не працуюць, затое атрымліваюць добрую сацыяльную дапамогу і могуць свабодна спавядаць іслам.

За апошнія дзесяцігоддзі мусульмане перасяліліся ў Заходнюю Еўропу ў такой колькасці, што прымушаюць задумвацца, хрысціянская гэта ці ісламская тэрыторыя. Мусульмане тут бяднейшыя, горш адукаваныя, больш крыміналізаваныя і абсалютна не жадаюць асімілявацца.

Дацкая нацыя — гаспадар у сваёй краіне, дзе паводле Канстытуцыі захоўвае дзяржаўны статус нацыянальнай, лютэранцкай царквы.

Карыкатурны скандал прымусіў не толькі датчан, але і іх суседзяў узгадаць пра хрысціянскія карані еўрапейскай цывілізацыі. Быць хрысціянінам — істотны складнік скандынаўскай ідэнтычнасці. Нездарма і на дацкім, і на нарвежскім, і на фінскім, і на шведскім сцягах выяўляюцца крыжы.

А што тычыць беларусаў, дык застаюся пры даўнім перакананні, што надзвычай моцныя ў нас не толькі хрысціянскія, але і язычніцкія традыцыі.

*25 верасня 2012*

## Балтыйская палонніца

У літаральным перакладзе з грузінскае мовы прозвішча Ніны Сурамелашвілі гучыць дзіўнавата — «дзіця збана і лісіцы»!

Яна — з «фазанаў». Так імянуюць у грузінскае сталіцы не прыезджых, а даўніх, карэнных яе жыхароў. Звязаная такая пачэсная мянушка з легендаю пра заснаванне Тбілісі.

Цар гісторыка-этнаграфічнае вобласці Картлі Вахтанг І Гаргасал падстрэліў на паляванні фазана, але той усё адлятаў, покуль не патрапіў у цёплую і гаючую крыніцу, дзе і акрыяў. Цар палічыў гэта за добры знак і загадаў заснаваць на тым месцы новую сталіцу з назваю Тбілісі (ад грузінскага слова «тбілі», якое азначае «цёплы»).

***

У кухні-сталоўцы Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў кухарыў я з Нінаю ў чатыры рукі, а як папраўдзе, дык толькі дапамагаў ёй гатаваць армянскі суп з мацоні, а таксама французскі пірог-шарлотку з садавіною, какавай і карыцаю.

Мацоні, своеасаблівага роду кісламалочнага закаўказскага прадукту кшталту сыраквашы ці кефіру, у шведскім Вісбі, натуральна, не знайшлі, а таму давялося замяніць яго тутэйшай смятанаю.

Сямідзесяцігадовая дацкая пісьменніца Эльсэ Лідэгаард доўга цікавала за нашымі зладжанымі дзеяннямі і ажыўленымі рэплікамі, а потым усё ж не ўстрывала і спыталася:

— А што, вы даўно знаёмыя?! Яшчэ з Грузіі?

Мабыць, заінтрыгавала, збянтэжыла яе наша разняволенасць і непасрэднасць.

Як правіла, скандынаўскія літаратары трымаюць тут дыстанцыю, гатуюць паасобку — кожны самому сабе, а калі сілкуюцца, дык неадменна ўнурваюцца ў свежыя газеты.

***

Па тэлебачанні і з інтэрнэту, а ў тым ліку і праз беларускіх блогераў, дазналіся пра трагічныя падзеі ў Грузіі. Там абнародаваныя відэаролікі вычварэнцкіх катаванняў у турмах, і тысячы людзей выйшлі на пратэстныя акцыі на вуліцы спачатку ў Тбілісі, а потым і ў іншых гарадах.

Але замест таго, каб судзіць і пакараць міністра ўнутраных спраў, які трымаў копіі відэазапісаў у сваім сейфе, а таксама ягоных падручных-садыстаў, спецслужбы прэзідэнта Міхаіла Саакашвілі арыштоўваюць арганізатараў вулічных шэсцяў!

Думалася, што, можа, усё гэта ёсць маштабнай, спланаванай правакацыяй цяперашняга закаўказскага дыктатара напярэдадні парламенцкіх выбараў, якія маюць адбыцца ў першы дзень кастрычніка!?

Ніна вельмі турбуецца за сваіх родных і блізкіх, анічога не можа рабіць і нават поначы сядзіць у skype і ў Facebook.

Намервалася ад'ехаць адсюль дадому датэрмінова, але авіякампанія «Estonian Air» запатрабавала 255 еўра, калі перанясе дату вылету і абмяняе білет!

Вар'яцтва нейкае! За такія грошы павінны былі б завезці з Прыбалтыкі ў Закаўказзе па новым білеце!

*25 верасня 2012*

## Прафесійныя святы

Сусветны дзень пісьменніка — гэта свята, якое адзначаецца 3 сакавіка і заклікае «чацвертую ўладу» выступаць за свабоду слова ў любых яе праявах дый супраць негатыўных аспектаў і ў дэмакратычным друку.

У 1921 годзе ў Лондане стварылі ПЭН-клуб. Назва арганізацыі — гэта абрэвіятура, утвораная першымі літарамі слоў ***паэты, драматургі*** (анг. poets, playwriters), ***нарысісты, рэдактары*** (анг. essayists, editors) і ***навелісты, раманісты*** (анг. novelists). У сукупнасці літары гэтыя складаюць слова ***асадка*** (анг. pen).

Ідэю стварыць Міжнародны ПЭН-клуб (International PEN Club) згенерыравала брытанская пісьменніца Кэтрын Эмі Доўсан-Скот (Mrs. C. A. Dawson Scott), а яго першым прэзідэнтам стаўся Джон Галсуорсі (John Galsworthy).

У студзені 1986 года праходзіў ужо 48 міжнародны кангрэс ПЭН-клуба, і менавіта ягоныя дэлегаты абвясцілі 3 сакавіка «Сусветным днём міру для пісьменнікаў».

Ля вытокаў Беларускага ПЭН-цэнтра ў лістападзе 1989 года стаялі дваццаць літаратараў, сярод якіх былі такія знаныя майстры пяра як Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Янка Брыль, Уладзімір Арлоў, Адам Мальдзіс, Анатоль Вярцінскі, Васіль Зуёнак, Уладзімір Някляеў, Міхась Тычына, Карлас Шэрман і іншыя.

Сёння падобныя цэнтры дзейнічаюць у 130 краінах.

Пісьмовыя творы людзі ствараюць на ста пяцідзесяці мовах. Паводле адных дадзеных пісьменнікаў у свеце сто тысяч, а паводле іншых — каля двухсот тысяч. Нібыта і шмат, але калі прыняць да ведама, што на зямной кулі жыве сем мільярдаў чалавек, дык выходзіць, што зусім і нямнога!

А вось пра другое прафесійнае свята нагадалі сёння літоўскія перакладчыцы Ёне Рамунітэ (Ione Ramunyte) і Рута Ёнінайтэ (Ruta Joninaite), якія жывуць і працуюць у суседніх з маім пакоях у Балтыйскім цэнтры пісьменнікаў і перакладчыкаў.

Свята гэтае куды маладзейшае, бо прыдумалі яго толькі ў 1991 годзе. Менавіта тады Міжнародная федэрацыя перакладчыкаў (International Federation Internationale des Traducteurs, FIT) абвясціла 30 верасня Міжнародным днём перакладчыкаў (International Translation Day).

Дзень гэты абралі невыпадкова — 30 верасня 419 (або 420) года пайшоў у лепшы свет Еранім Стрыдонскі (Sant Jerome of Stridonium), адзін з чатырох лацінскіх айцоў Царквы, пісьменнік, гісторык і перакладчык.

Якраз Ераніма Стрыдонскага лічаць апекуном перакладчыкаў. Паводле сведчанняў храністаў быў ён магутным інтэлектуалам, шмат падарожнічаў, а ў тым ліку і ў Святую зямлю. У Халкідскай пустэльні, дзе вывучаў габрэйскую ды халдзейскую мовы, пражыў ён аскетам чатыры гады. Пазней перасяліўся ў Бэтлем, дзе перакладаў на лаціну Стары і Новы запаветы.

Праз адзінаццаць стагоддзяў Трыдэнцкі сабор абвясціў ягоную версію афіцыйным лацінскім тэкстам Святога пісання (Вульгатаю).

Паводле папулярнае прыпавесці, Еранім выцягнуў з лапы ў ільва вярэдлівую стрэмку. Таму мастакі найчасцей паказвалі яго вучоным, які шчыруе ў келлі над рукапісам, а поруч з ім ляжыць удзячны і аддадзены сябарлеў.

Сёлета Дзень перакладчыка адзначаўся ў свеце пад дэвізам «Пераклад як міжкультурная сувязь».

Хацелі былі і мае суседкі-літоўкі адзначыць прафесійнае свята невялічкім міжнацыянальным фуршэтам, ды аказалася, што заседзеліся яны ў сваіх келлях ды схамянуліся надта позна.

Урачыстая дата прыпала на нядзелю, а ў нядзелю ў 22-тысячным Вісбі нават шампанскага не купіш! Адзіная спецыялізаваная крама алкагольнай прадукцыі «SystemBolaget» нават у суботу працуе толькі да 15-й гадзіны. Вісбійцы добра ведаюць пра гэта, а таму закупляюцца на выходныя загадзя.

Хаця нашым суседзям мы мусім і пазайздросціць.

У 2004 годзе створаны ў іх Літоўскі саюз літаратурных перакладчыкаў, а ў апошні вераснёўскі дзень ці напачатку кастрычніка ўручаюцца дзьве прэміі — найлепшаму перакладчыку на літоўскую мову і найлепшаму перастваральніку з літоўскае мовы.

*30 верасня 2012*

**Фотаздымкі латышскай пісьменніцы Крысціне Улберга**



# Анатоль Вярцінскі

**паэт, драматург, журналіст, крытык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя П. Ляпяшынскага (1988). Аўтар кніг: «Песня пра хлеб» (1962), «Тры цішыні» (1966), «Чалавечы знак» (1968), «З'яўленне» (1975), «Ветрана» (1979), «Нью — Йорская сірэна» (1987), «Хлопчык глядзіць» (1992) і інш. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Дзямешкава на Лепельшчыне. Жыве ў Мінску.**

# «Сёння каштоўнасць творчай працы абясцэньваецца...»

**Вялікі шлях пачынаецца з першага кроку.**

**Пісьменнікі, якіх сёння называюць Майстрамі, Класікамі, а літаратурная моладзь — Настаўнікамі, некалі былі сарамлівымі, няўпэўненымі ў сваіх сілах юнакамі ці дзяўчатамі. Яны, як і сённяшнія пачаткоўцы, пісалі і сумняваліся ў вартасці напісанага. Яны таксама вучыліся, і вучыліся ў тых, хто цяпер стаў гісторыяй беларускай літаратуры. Яны ўпершыню, з хваляваннем, прыходзілі ў рэдакцыю часопіса ці газеты, прыносілі рукапісы і чакалі першай публікацыі. Яны таксама шукалі новыя шляхі і імкнуліся да наватарства — наватарства, якое сёння ўжо лічыцца літаратурнай традыцыяй. Яны рабілі першыя крокі на сваім вялікім літаратурным шляху.**

**Пра тое, як пачынаўся гэты шлях, мы будзем расказваць у новай рубрыцы «Выток».**

**Наш першы герой — паэт Анатоль Вярцінскі.**

*«Анатоль Вярцінскі пісаць пачаў даўно, яшчэ са школьнай парты. Спачатку гэта было звычайнае для пачынаючых перайманне лепшых узораў рускай і беларускай класікі. Але паступова, асабліва ў апошнія гады, вершы Вярцінскага пачалі набываць свой каларыт, сваю індывідуальную афарбоўку...»*

— Нядрэнна я пачынаў, — іранічна дадае Анатоль Ільіч.

*«...Аўтарскае Я пачало ўваходзіць у кожны твор. Што ж характэрна для вершаў маладога паэта? Перш за ўсё, насычанасць кожнага верша глыбокімі думкамі...»*

— Ну, гэта ўжо задужа. Хоць бы там спроба думкі была ў кожным вершы...

*«...Ёсць у Вярцінскага другое, не менш неабходнае паэту, — задушэўнасць. Вершы яго гучаць лірычна і праўдзіва. Разнастайная тэматыка вершаў, але ўсім уласціва адно, — уменне аўтара зазірнуць у чалавечае сэрца. Аб гэтым можна меркаваць па вершах «Ноч непакоіцца» , «Адыход лета», «Беражыце першую любоў», «Узнагароды»... Пажадаем маладому паэту плённай працы і вялікіх поспехаў на яго творчым шляху.»*

Радкі 1956 года, надрукаваныя ў літаратурнай старонцы газеты «Беларускі ўніверсітэт». Хто іх аўтар, невядома. Але пажаданні, выказаныя маладому Анатолю Вярцінскаму, спраўдзіліся напоўніцу.

А тады, — 56 гадоў назад! — Анатоль заканчваў навучанне ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, дакладней — аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта. У студэнцкія гады ён пазнаёміўся з Нілам Гілевічам, Алегам Лойкам, Міколам Арочкам, Янкам Сіпаковым, Кастусём Цвіркам, Сцяпанам Гаўрусёвым... Дарэчы, з Гілевічам жылі ў адным студэнцкім пакоі. Дзялілі на дваіх нешматлікія квадратныя метры спачатку на Бабруйскай, потым — на Свярдлова.

Сёння маладыя творцы сустракаюцца на паседжаннях літсуполак: эксперыментатары — у «Вобле», прыхільнікі класічнай паэзіі — на « Літаратурным прадмесці», але гэты падзел даволі ўмоўны. Вершы і прозу друкуюць у дзяржаўнай «Маладосці» (рускамоўныя — у «Нёмане», але й тое рэдка) або незалежных «Дзеяслове» ды «Верасні». А які было літаратурнае жыццё моладзі пяцідзясятых? Па-першае, іх ахвотна друкавалі ўніверсітэцкія выданні. Да таго ж, у сценах ВНУ ладзіліся паэтычныя вечары. Па-другое, ледзь не ўсе хадзілі ў літаб'яднанне пры газеце «Чырвоная змена», якая адыгрывала значную ролю ў выхаванні творчай моладзі. Дарэчы, у ёй Анатоль Вярцінскі адначасова выступаў не толькі як паэт, але і як празаік, і як журналіст (напрыклад, надрукаваў апавяданне «Дар'іна маладосць»).

*Старонка з газеты «Беларускі ўніверсітэт». 1956*



НЯХАЙ РАСТУЦЬ ТАЛЕНТЫ НАШЫХ ПАЭТАЎ!

Акрамя «Чырвонай змены», моладзь друкавалася ў газеце «Работніца і сялянка», а таксама ва ўніверсітэцкім выданні, час ад часу — універсітэцкіх калектыўных зборніках. Сярод іх — кніга 1958 года «Падарунак», дзе змешчаны «маладыя» вершы Анатоля Вярцінскага «У дарозе», «На



*За працай над першай кнігай.*

Усход», «Узнагароды». Праўда, зараз аўтар не ўключае іх у кнігі: «Яны ў нейкім сэнсе даніна часу, пэўным рэаліям — асваенне цаліны, напрыклад. Так бы мовіць, вершы на злобу дня. Але ж тады і не ўяўлялася другой паэзіі».

А ў 1953 годзе з'явіўся літаратурна-мастацкі часопіс «Маладосць», які даў маладым пісьменнікам новую магчымасць заяўляць пра сябе.

«У рэдакцыі нас сустракалі ветліва, дапамагалі, раілі. Светла ўзгадваюцца размовы з Міколам Аўрамчыкам, загадчыкам аддзела паэзіі. Яны былі добрыя не толькі ў творчым сэнсе, але і ў чалавечым плане. Мог спытацца: «А ці даўно вы атрымлівалі стыпендыю? Як жывеце?» Першы рэдактар «Маладосці» Аляксей Кулакоўскі паціскаў руку, цікавіўся, запрашаў прыходзіць з новымі вершамі».

Упершыню імя Анатоля Вярцінскага з'явілася ў «Маладосці» ў лістападаўскім нумары за 1954 год, дзе быў надрукаваны верш «Узнагароды». Верш, прысвечаны тэме сямейнай пераемнасці, сямейнаму гонару.

...Разгорнуты прад імі атэстат.
— Адны пяцёркі... Залаты, вядома, —
Прамовіў бацька, і за сына рад,
За лёс яго, за славу свайго дома.
На сына неяк паглядзеў інакш:

Не школьнік, не хлапчук белагаловы
Прыйшоў дамоў сягоння, а юнак,
Удумлівы, сямнаццацігадовы...

***— Тагачасныя ганарары былі падтрымкай пачынаючаму аўтару?***

— Яны былі не вельмі вялікія, але ў параўнанні з матэрыяльным становішчам студэнтаў, нават тых, хто атрымліваў стыпендыю, рэальна памагалі. І больш за тое: кожны раз, калі нешта тваё друкавалася, ты ведаў, што ў пэўны час ганарар знойдзе цябе, нават калі ты паехаў у вёску на канікулы. Памятаю, што першы ў жыцці свой касцюм набыў за ганарар, які атрымаў за апавяданне.

***— А калі параўноўваць з сённяшняй сітуацыяй?***

— Сумнае параўнанне. Груба парушаецца аўтарскае права, права на так званую інтэлектуальную ўласнасць. У гэтым сэнсе абясцэньваюцца каштоўнасць творчай працы, духоўны прадукт. А помніцца ж, падзеяй была публікацыя ў «Маладосці», а тым больш — у «Літаратуры і мастацтве». Калі нехта там друкаваўся, то мы дакладна ведалі, што калектыўна зладзім паўнавартасную вячэру. Нават з келіхам добрага віна... Часцей гэта адбывалася ў прывакзальным рэстаране «Радуга», які быў побач з інтэрнатам.

***— Што яшчэ згадваецца з тых часоў?***

— Памятаю, упершыню, на пачатку вучобы, зайшоў у рэдакцыю газеты «Літаратура і мастацтва». Яна размяшчалася там, дзе цяпер знаходзіцца Галоўпаштамт, на рагу праспекта і вуліцы Свярдлова, у невялікім аднапа-

*Стаяць: В. Тарас, Б. Сачанка, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, Ул. Адамчык*
*Сядзяць: І. Пташнікаў, В. Вярба, Я. Сіпакоў.*





*Са старэйшынамі літаратуры.*

вярховым будынку. Мяне цёпла сустрэлі, цікавіліся, дзе вучуся, ці даўно пішу. Дарэчы, тады ж упершыню сустрэў Янку Брыля. Пазнаёміліся. Ён загаварыў пра Чэхава, якога чытаў на той час. Атмасфера ў рэдакцыі была сяброўская, нязмушаная. Вярнуўся ў інтэрнат у добрым, прыўзнятым настроі.

***— Сёння пачатковец можа выдаць кнігу альбо на ўласныя сродкі, альбо з дапамогай пэўнай літсуполкі, у якую ўваходзіць. А якая гісторыя выдання вашай першай кнігі? Той самай, якая пабачыла свет у 1962 годзе пад назвай «Песня пра хлеб».***

— Мушу сказаць, кніга выйшла без асаблівых маіх намаганняў. Я працаваў тады ў Рагачоўскай раённай газеце, і на той час надрукаваў у «Маладосці» паэму, назва якой — «Песня пра хлеб» — і сталася назвай кнігі...

***— Пісалі, відаць, у прамежках паміж працай над газетнымі нататкамі і навінамі?***

— Так, гэтая самая раёнка забірала шмат часу і энергіі. Мы былі, так бы мовіць, на самай перадавой. Змагаліся за ўраджай... Нехта нават склаў такія радкі:

Сябры мае, раённыя газетчыкі,
Пасаду вашу лічуць радавой.
А я скажу, што вы — жыцця разведчыкі
На самай што ні ёсць перадавой.

Ну вось. А пасля публікацыі паэмы прыйшоў да думкі, ці не варта выдаць кнігу. Падрыхтаваў рукапіс і звярнуўся ў выдавецтва. Здаецца, доўга чакаць не давялося. Можа, нават, па той простай прычыне, што нас, маладых паэтаў і паэтак, было менш, чым цяпер. Дарэчы, вокладка зборніка, — на што сёння звяртаеш увагу — бел-чырвона-белая. Так атрымалася ў мастацкіх рэдактараў А. Прагіна і М. Шырокава.



*У вобразе Жыценя. 2012*

***— А хто рэдагаваў Вашу першую кнігу?***

— Хведар Жычка — пільны, вельмі пільны, у тым ліку ідэалагічна, рэдактар. Праз яго цэнзуру праходзілі многія кнігі маладых паэтаў. Вось прыклад звязаны з першым паэтычным зборнікам Ніны Мацяш. Зборнік той называўся спачатку «Агонь уначы», як і знакавы верш у кнізе. Аднак Жычка абурыўся: чаму гэта «ўначы»? Як можа пісаць савецкі паэт пра нейкую там ноч? У выніку назва змянілася на «Агонь», раам з тым згубіўшы першапачатковы, укладзены аўтарам, сэнс.

***— Анатоль Ільіч, мы пагаварылі пра першыя публікацыі, пра першую кнігу. А як увогуле вы пачалі пісаць вершы? Што вас падштурхнула да гэтага?***

— Вайна. Уражанні, звязаныя з вайной. А калі згадваць першую спробу «друкавання», гэта быў верш, змешчаны ў школьнай насценнай газеце, рэдактарам якой, дарэчы, я сам і быў.

У прадмове да кнігі выбраных твораў Анатоля Вярцінскага Вольга Русілка зазначыла, што «наймацнейшая дамінанта ўспамінаў пра маленства (*пісьменніка* — **Н.Г.**) — ваенныя ўражанні, непазбыўнае адчуванне вялікай народнай бяды». Падчас нашай размовы Анатоль Ільіч падзяліўся адным з такіх успамінаў. Аднойчы ноччу каля хаты Вярцінскіх забілі партызана. Партызана гэтага малы Анатоль ведаў асабіста. Уражлівы хлопчык некалькі сутак баяўся цемры: яму ўсё бачыўся чорны труп на белым снезе. Пазней, пасля вайны, школьнікам, нават узяўся, забраўшыся на гарышча, напісаць пра гэта паэму... Не напісаў. Засталіся толькі ў памяці дзве першыя страфы:

Дарога — снег,
І неба — снег,
І з вышыні марознай
Ў бары спыняе вецер бег
Сурова і пагрозна.
І шэпча:
«Не ідзі, Іван,
Да бацькі і матулі.
Загінеш ноччу, партызан,
Ад злой, варожай кулі...

Пазней у Анатоля Вярцінскага з'явяцца і творы на ваенную тэму («Рэквіем па кожным чацвёртым», «Дынамік», «Два полі»), і паэмы («Песня пра хлеб», «Гомельскі накцюрн», «Даруйце!»), але пачалося ўсё з той адчайнай спробы напісаць пра адно з самых жахлівых дзіцячых уражанняў — забойства аднавяскоўца-партызана ў некалькіх кроках ад роднай хаты.

**Наста Грышчук**

*Родная хата*





# Анатоль Трафімчык

**літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт. Кандыдат гістарычных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы. Жыве ў Мінску.**

# Зняволенне і «разлука з краем» як галоўны фактар у станаўленні Якуба Коласа ў якасці класіка літаратуры

Кожны геній фарміруецца, дзякуючы як агульным чыннікам, так і індывідуальным. Да агульных, бясспрэчна, належыць ірацыянальны. Бо ці здолее чалавецтва разгадаць калі-небудзь, чаму некаторыя чалавечыя індывіды нараджаюцца надзвычай адоранымі. «Бог ля Нёмна ішоў і пачуў немаўля...»[1] — сказала В. Іпатава пра Якуба Коласа — і мела рацыю.

Аднак у выпадку кожнага з геніяў можна казаць і пра тыя крыніцы, якія наталілі патэнцыял таленту сваёй жыватворнай сілаю — і стварылі ўмовы для раскрыцця ірацыянальнай творчай эвентуальнасці. І крыніцы гэтыя ў сваім комплексе не будуць паўтарацца, максімум — паасобку пераклікацца, сінанімізавацца.

Да самых распаўсюджаных адносіцца хіба родны кут. Ён падпітвае ці не кожнага творцу. Аднак у кожнага ён свой, нават калі гэта будзе той самы кавалак зямлі. Для беларускага Песняра «сонцам свяціла Наднямонне».

Якасці маці — чалавека, з якога пачынаецца адкрыццё сусвету, — таксама прыпадабняюць прычыннасць фарміравання любога індывіда, і не толькі па-боску адоранага. Геній Якуба Коласа ўвабраў па-максімуму мудрасць і дабрыню сваёй маці, непісьменнай сялянкі.

Сустракаюцца і выключныя фактары, супадзенне якіх у лёсах творцаў з'яўляецца малаверагодным. Да такіх у выпадку з Якубам Коласам залічым:

— унёсак у выхаванне малога Костуся дзядзькі Антося — кнігалюба і цудоўнага апавядальніка, рысы дзядзькі перадаліся нябогу — пляменніку;

— перасячэнне лёсу семінарыста К. Міцкевіча з педагагічным талентам Фядота Кудрынскага, які падштурхнуў свайго вучня да беларускамоўнай стыхіі.

Апошнім і найбольш дзейсным чыннікам фарміравання вялікага паэта стала яго туга па волі і радзіме. Драматычныя акалічнасці лёсу К. Міцкевіча — турэмнае зняволенне, вайсковая служба і жыццё на чужыне, урэшце неадпаведнасць развіцця Беларусі таму ідэалу, якім тады мроілі апосталы нацыі, — нарадзілі літаратурнага класіка, Якуба Коласа — такім, якім сёння мы яго ведаем. Слушнасць гэтага тэзісу пастараемся давесці ў наступным артыкуле.

---

[1] Іпатава В. Задарожжа. Лірычныя, гістарычныя, грамадска-публіцыстычныя вершы апошніх гадоў. Менск, 2004. С. 64.

## 1. У турме: «я маўчу, маўчу, трываю, але скора загукаю»

Самыя славутыя радкі беларускай літаратуры — пачатак паэмы «Новая зямля» — хіба маглі ўзнікнуць на волі? «Мой родны кут, як ты мне мілы!..» — простыя і да шчымлівасці глыбокія словы ўзніклі менавіта ў адарванасці ад месца, да якога, як заўважыў Ф. Скарына, «люди... великую ласку имають», а менавіта — за кратамі, у зняволенні.

«Працяглае знаходжанне за астрожнымі кратамі паўплывала на творчую дзейнасць, светаадчуванне Коласа, на пафас ягоных вершаў. <...> Астрожная паўсядзённасць, змрочная атмасфера паднявольнага жыцця наглядна высвеціла сутнасныя рысы характару беларускага песняра. За час, калі пісьменнік адбываў несправядлівае пакаранне, ён не ачарсцвеў душой, не расчараваўся ў тых высокіх гуманістычных ідэалах, якія сцвярджаў у ранейшых творах. Якуб Колас здолеў узняцца над асабістай крыўдай, бо пры самых неспрыяльных жыццёвых умовах адчуваў непарыўнае адзінства з роднай

*Якуб Колас у турме. Мастак Уладзімір Сулкоўскі.*



глебай і за аснову твораў нязменна браў маральна-этычныя ўяўленні, выпрацаваныя народам», — піша выбітны коласазнавец М. Мушынскі[2].

Паэт з турэмнага акна бачыў вясновае неба, пэўна, удыхаў жыватворнае красавіцкае паветра, нутром адчуваў бруенне жыцця па ўсім свеце і... не мог задаволіцца гэтым жыццём, бо ён, малады, дужы, поўны жаданняў, кінуты ў вязніцу, жорстка абмежаваны як у вясновых перажываннях, так і па жыцці ўвогуле. «Вясна, вясна, не для мяне ты...» — шэпча паэт, пераплаўляючы тым самым свой невымерны патэнцыял генія ў радкі гімна. Турма, аднак, абмежавала чалавека фізічна. А яго дух затое гэтым абмежаваннем быў каталізаваны — і вырваўся на волю. Нястрымны, ён падаўся ў краіну, у якую ніхто і ніколі з людзей не вяртаўся фізічна, — у пару свайго дзяцінства:

*Вось як цяпер, перада мною*
*Ўстае куточак той прыгожа...* [Т. 8, с.6][3]

«Паэма «Новая зямля»... была задумана ў Мінскім астрозе як вершаваная аповесць аб жыцці і клопатах лесніковай сям'і...

«Турэмныя» раздзелы сведчаць, што пісьменнік задумаў шырокі твор аб жыцці простага чалавека, звычайнага лесніка, маючы на мэце ўзвялічыць, апаэтызаваць свайго героя, паказаць яго ва ўсіх умовах, праявах жыццядзейнасці, у тыповых абставінах яго бытавання»[4].

За кратамі напісалася нямала — 10 раздзелаў (I—II, IV—VIII, XXVII—XXIX); плюс да іх прымыкае яшчэ адзін — III, верагодна, распачаты ў турме [Т. 8, с.326-327]. Творчая праца дапамагла паэту спраўляцца з упадкам духу, з цяжкасцямі турэмнага жыцця: «Узяўся Кастусь і так уцягнуўся ў работу, што зноў, як апантаныя, пабеглі дні. Гэта цешыла аўтара, і ён не здаваў тэмпу. Даўно Кастусь заўважыў, калі творча працуецца, то і на сэрцы весялей, і час ідзе хутчэй. <...> Лежачы на турэмным сенніку, ён у думках пераносіўся ў далёкае мінулае, і ўсё перажытае паўставала перад яго вачыма нанова, у паэтычным святле і прыгажосці. Было тады ўсё: і голад, і холад, але цяпер успаміналася толькі радасныя і вясёлыя падзеі. Памяць быццам адсейвала ўсё кепскае і захоўвала толькі добрае і прыемнае», — аднаўляе тыя змрочныя дні Песняра С. Александровіч[5].

---

2 Мушынскі М. Свайму часу і вечнасці // Колас Я. Збор твораў. У 20 т. Т. 1. Вершы (1908 — 1910) / рэд. тома М. і. Мушынскі ; падрыхт. тэкстаў і камент. К.А. Казыра, Т. Р. Строевай ; прадм. М. і. Мушынскага ; Нац. акад. навук Беларусі, ін-т літ. імя Я. Купалы. Мінск : Беларус. навука, 2007. С. 17.

3 Колас Я. Збор твораў : у 20 т. / Нац. акад. навук Беларусі, ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы. — Мінск : Беларус. навука, 2007 — 2012. У далейшым спасылкі на творы Якуба Коласа робяцца па гэтым выданні (за выключэннем асобна ўказаных выпадкаў) у квадратных дужках з пазначэннем тома і старонкі.

4 Навуменка і. Якуб Колас: Нарыс жыцця і творчасці. [Для сярэд. і ст. школ. узросту]. Мінск : Нар. асвета, 1982. С. 66-67

5 Александровіч С. На шырокі прастор: Аповесць пра Якуба Коласа. [Для ст. школ. узросту / Маст. М. М. Купава]. Мінск: Маст. літ., 1979. С. 312-313.

Многія даследчыкі, кіруючыся паметамі датаў паслятурэмнага часу, кажуць, што яшчэ адна Коласава паэма — «Сымон-музыка» — паўстае па выхадзе паэта на волю. Тым не менш карані яе ў кантэксце тых жа турэмных перажыванняў:

«Пісалася гэтая рэч («Сымон-музыка» — **А. Т.**) не сказаць каб марудна, але з вялікімі перапынкамі, і шмат перараблялася. Ёй не шанцавала ў сэнсе завяршэння. *А падаваць голас аб сабе пачала яна бадай што раней за «Новую зямлю»*. Я зрабіў асобныя запісы, *як толькі наладзіў турэмны побыт*: раздабыў аловак і навучыўся хаваць паперы (курсіў наш — **А. Т**.). <...>

Перада мною стаяў уласны лёс. Рупіла расказаць, што вось і мае чалавек за душою, а ніяк не выплыве напаверх у гэтым свеце.

Калі замкнулася астрожная брама, я сказаў сам сабе: трымайся, Костусь, ты трапіў у новае кола. І ўсё пражытае ўявілася чаргаваннем колаў: час, што звязаны з жыццём у аколіцах Мікалаўшчыны; юнацтва — навучанне ў семінарыі; потым — настаўніцтва, пераезды са школы ў школу; далей — бадзянне з месца на месца ў пошуках заробку і нарэшце — турма.

Не раўнуючы, як у «Бажэсцвеннай камедыі», толькі ў мяне налічылася ўсяго пяць колаў. Дый пекла стала ў канец, *а хлапечая пара здавалася з-за крат сапраўдным раем* (курсіў наш — **А. Т.**).

У апошняе кола я прыйшоў з тым жа настроем, які насіў і ў першым: працаваць словам. Я ледзь пачаў выбівацца ў друк, а тут — за шкірку ды ў каталажку! Вырвацца надзея была, а пісаць, тым больш друкавацца — наўрад. Адседка ў крэпасці вяла за сабою паліцэйскі нагляд, яўны або патайны. Вольна дыхнуць не спадзявайся!

З гэтых усіх развагаў і вынікла задума: напісаць твор з пяці частак, адпаведна ліку абведзеных у мыслях наўкруга сябе колаў»[6].

Па развіцці мастацкай ідэі, як бачым «Сымон-музыка» падчас зняволення нават «абагнаў» «Новую зямлю», якая хоць і завяршылася раней (калі мець на ўвазе трэцюю, канчатковую рэдакцыю «Сымона-музыкі» 1925 г.), але на той час узнікала толькі асобнымі раздзеламі. Больш таго, для долі самога аўтара «Сымон-музыка» адыграў важную, канструктыўную ролю і пасля вызвалення з-за кратаў. Потым Якуб Колас успамінаў, што з ім рабілася пасля турмы:

«Што сутыкненне процілеглага можа быць мастацкім сродкам, я ўжо дайшоў у мыслях раней. У турме толькі ўсё больш пераконваўся, як гэта ў адных раскатурхвае, а ў другіх абвастрае свядомасць.

У такім сэнсе я ўскладаў немалыя надзеі на свайго «Сымона», чакаў выпадку вярнуцца да яго. Вярнуўся так. Пабыўшы пасля вызвалення ў Вільні, 19 верасня я падаўся ў Смольню з пачуццём выкінутага з жыцця чалавека.

---

6 Лужанін М. Колас расказвае пра сябе: Аповесць-эсэ. Мінск : Маст. літ., 1982. С. 119-120.

Дзверы на работу замкнуты, падтрымкі няма, кожны ababягае пры сустрэчы, каб і самому не падпасці пад падазрэнне. Тут я пачуў, нібыта трапіў у новае кола, нічым не лепшае за астрог.

Тады канчаткова ўжо абдумаў «Сымона». Уявіў усе колы пакут, праз якія ён павінен прайсці, каб духоўна спачыць у апошнім, зрабіцца звычайным хлебаедам з дарэмна змарнаванымі здольнасцямі»[7].

Турэмнае зняволенне спарадзіла дзве геніяльныя паэмы. А затым самі паэмы зацягнулі аўтара, не далі яму збочыць з абранага шляху. Вось што паэт піша, успамінаючы свае крызісныя, дэпрэсіўныя перажыванні адразу па выхадзе з турмы, усё пра таго ж «Сымона-музыку» — «найболей дакладную кардыяграму душы паэта і найбольш выдатнае дасягненне беларускага нацыянальнага мастацтва»[8], дзе, па слушных словах А. Каўкі, «глыбока асэнсавана і выкладзена з надзвычайнай мастацка-філасофскай лапідарнасцю кардынальная праблема гісторыі, нацыянальнай выжывальнасці беларусаў як супольнасці на драматычным скрыжаванні паміж Усходам і Захадам, Расіяй і Польшчай, дзеля самасцвярджэння свайго беларускага — самабытнага й незалежнага — «Я» пры зацятым каланізацыйна-асімілятарскім націску з абодвух бакоў»[9]: «Накідаўшы збольшага запеўку, зразумеў, што гэтая работа цяпер будзе для мяне стрыжнем. Утрымаюся за яго, — значыць, не звар'яцею, не сап'юся, наогул, не пайду наніз, у падонкі, у паслугачы»[10]. Такім чынам, нават калі Якуб Колас пасля турмы знаходзіўся дома, у Смольні, пасля паехаў у Лунінец і там падпрацоўваў прыватным настаўнічаннем, на ім было таўро нядаўняга вязня — і яно прыўносіла свае, супярэчлівыя перажыванні, кардынальна ўплываючы на плён творчасці.

Акрамя зачыну дзвюх вялікіх паэм, у вязніцы былі створаны сотні вершаў — гучных, пранізлівых, шчырых... «Праблемна-тэматычны дыяпазон астрожных вершаў Якуба Коласа, можа, і не вызначыўся асаблівай шырынёй, але нельга лічыць яго і празмерна вузкім, а матывы — аднастайнымі. <...> І хоць яны («вершы выразна палітычнага гучання» — устаўка ўдакладняльнай цытаты М. Мушынскага наша — **А. Т.**) не аказвалі непасрэднага ўплыву на развіццё беларускай літаратуры і фарміраванне гра-

---

7 Лужанін М. Колас расказвае пра сябе: Аповесць-эсэ. Мінск : Маст. літ., 1982. С. 122-123.

8 Мушынскі М. і. Якуб Колас і рэвалюцыя (сацыяльна-палітычны, нацыянальны і гуманістычны аспекты праблемы) // Каласавіны. Тэзісы дакладаў і паведамленняў навуковай канферэнцыі, прысвечанай 110-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа. Мінск: Літаратурны музей Якуба Коласа, 1992. С. 6/

9 Каўка А.К. Паміж Богам і кесарам (Да пытання аб перапрацоўцы Якубам Коласам паэмы «Сымон-музыка») // Каласавіны. Тэзісы дакладаў і паведамленняў навуковай канферэнцыі, прысвечанай 110-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа. Мінск: Літаратурны музей Якуба Коласа, 1992. С. 15-16.

10 Лужанін М. Колас расказвае пра сябе: Аповесць-эсэ. Мінск : Маст. літ., 1982. С. 123.

мадскай думкі дарэвалюцыйнага перыяду, *іх трэба разглядаць як факт ідэйна-творчай, светапогляднай эвалюцыі Коласа-паэта»* (курсіў наш — **А. Т.)**, — лічыць М. Мушынскі[11], тым самым падкрэсліваючы ролю, якую адыграла турма ў духоўным станаўленні будучага класіка. Дый уплыў, пра які тут мяркуе вядомы літаратуразнаўца, быў. Прычым уплыў значны. Чаго варты толькі верш «Мужык» («Я — мужык, бядак пахілы...», 1909)?! Гэты твор стаў хрэстаматыйным, а заключныя радкі — крылатымі, шырока цытуемымі паспалітым людам:

*Я маўчу, маўчу, трываю,*
*Але скора загукаю:*
«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!» [Т. 1, с.275]

За савецкім часам гэтыя радкі аналізаваліся ад вуглом марксізму-ленінізму, партыйнасці. Сёння не ў модзе марксісцкая метадалогія. Аднак, па-першае, і такі падыход мае рацыянальнае зерне, якое нельга ігнараваць, да таго ж пры разглядзе тых твораў, якія ўзнікаюць падчас папулярнасці ў соцыуме марксісцкай дактрыны. Па-другое, верш «Мужык» варты ўвагі і праз прызму іншых ідэй, у тым ліку нацыянальна-дэмакратычных, перадусім тых, якія пераважалі ў нашаніўскім асяродку. Тым больш што і першапублікацыя твора адбылася толькі 21 снежня 1917 г. (па старым стылі) у выразна нацыянал-дэмакратычнай газеце «Вольная Беларусь» [Т. 1, с.553] (NB тры дні таму быў разагнаны Усебеларускі з'езд, на якім ледзь не нарадзілася — прынамсі фармальна — незалежнасць ці хаця б аўтаномія Беларусі). Прычым апошні радок спачатку выглядаў інакш: «Бомы, хлопчыкі, бяры!»[12]. Такое назіранне зрабіў яшчэ ў савецкі час У. Казбярук[13], але даследчык (відавочна, з прычын сацыяльна-палітычнай кан'юнктуры) не пайшоў далей канстатацыі, да высноў, якія вынікаюць з заўважанага факта. А гэтае нязначнае адрозненне прынцыпова перайначвае ідэйнае гучанне твора, яго лейтматыў. Таму што бомы служаць абуджэнню. Яны — сімвал абуджэння. У дадзеным выпадку (з улікам акрэсленага тут кантэксту) — нацыянальнага. А замена бомаў на стрэльбу надавала вершу рэвалюцыйны пафас і рабіла лірычнага героя твора перш за ўсё прыхільнікам сацыяльных трансфармацый, выключаючы выразны нацыянальна-адраджэнскі момант.

Працытаваную трохі вышэй тэзу паважанага прафесара М. Мушынскага нельга не падвергнуць пэўнай рэвізіі яшчэ і таму, што сярод дзясяткаў тых вершаў знаходзяцца і такія, якія былі ацэнены часам у якасці класічных.

---

11 Мушынскі М. Свайму часу і вечнасці // Колас Я. Збор твораў. У 20 т. Т. 1. Вершы (1908 — 1910) / рэд. тома М. І. Мушынскі ; падрыхт. тэкстаў і камент. К.А. Казыра, Т. Р. Строевай ; прадм. М. І. Мушынскага ; Нац. акад. навук Беларусі, ін-т літ. імя Я. Купалы. Мінск : Беларус. навука, 2007. -С. 17-19.

12 З нідалекой прошласьці // Вольная Беларусь, 1917, 21 сьнежня. С. 4.

13 Казбярук У.М. Якуб Колас у школе. Дапаможнік для выкладчыкаў беларускай літаратуры. Выд. 2-е, дапрац. Мінск: «Нар. асвета», 1975. С. 26.

Галоўным тут назавём, канешне, верш «Родныя вобразы» (1908), упершыню апублікаваны ў раздзеле «З турмы» першага паэтычнага зборніка паэта «Песні жальбы» [Т. 1, с.539]. Вядомасць твора настолькі шырокая і значная, што ці не абсалютная большасць свядомых беларусаў змаглі б яго працытаваць хаця б часткова. Седзячы ў турме, Якуб Колас «бачыў і чуў» «вобразы мілыя роднага краю», «смутак і радасць» лірычнага героя, і змог трансліраваць тое «бачанне і чуццё» настолькі па-мастацку ярка і кангеніяльна, што рэцэпцыя паэта перадалася многім і многім яго сучаснікам, упэўнена працерабіўшы шлях у гісторыю праз гады, дзесяцігоддзі, а сёння, мінуўшы векавы юбілей «Песень жальбы», можна казаць і праз стагоддзі — да наступных пакаленняў беларусаў, у тым ліку да нас з вамі.

Вобразы мілыя, вобразы смутныя,
Родныя вёскі і люд,
Песні цягучыя, песні пакутныя!..
Бачу і чую вас тут. [Т. 1, с.224]

У сувязі з апошняй страфой у кнізе У. Казберука знаходзім назіранне, якое падмацоўвае сказанае намі: «Сапраўднае значэнне неакрэсленага «тут» стане зразумелым толькі тады, калі ўспомнім, што паэт з 15 верасня 1908 г. знаходзіўся ў мінскім астрозе, дзе і быў напісаны верш «Родныя вобразы»»[14].

Дзяцінства не адной генерацыі беларусаў, асабліва — так склалася — вяскоўцаў, праходзіла пад «акампанемент» верша «На рэчцы зімою» (1910), пачатак з якога пэўна незабыўны:

Не сядзіцца ў хаце
Хлопчыку малому:
Кліча яго рэчка,
Цягнуць санкі з дому... [Т. 1, с.348]

Прынамсі цяжка знайсці ў беларускай дзіцячай літаратуры больш вядомыя радкі.

Такім чынам, нават без паэм праблемна-тэматычны дыяпазон Коласавай творчасці турэмнага перыяду, як дазваляе меркаваць шэраг прыведзеных прыкладаў (якія сталі айчыннай класікай!), даволі шырокі. Актуальнае становішча паэта, што расцягнулася на тры гады — з 1908 па 1911, фактычна высвеціла для яго самога ўсе колеры вясёлкі «жыцця на волі», якія ён пераклаў на мастацкую мову паэтычных твораў. З улікам глыбіні перажыванняў і ўзроўню літаратурнага майстэрства многія радкі Якуба Коласа турэмнага перыяду даўно прызнаны шэдэўральнымі.

Звярніце ўвагу: менавіта з твораў турэмнага тагачасся Якуб Колас пачынаецца як хрэстаматыйны класік; да таго біяграфічнага і — не будзе на-

---

14 Казбярук У.М. Якуб Колас у школе. Дапаможнік для выкладчыкаў беларускай літаратуры. Выд. 2-е, дапрац. Мінск: «Нар. асвета», 1975. С. 37.

цяжкі сказаць — гістарычнага моманту такой шырыні і — самае галоўнае — глыбіні творчага патоку не было, знакавых, этапных (прычым не толькі для самога аўтара, а перадусім для ўсёй беларускай нацыянальнай літаратуры) твораў нараджалася вобмель, нават лепшае з напісанага тады надта не выбівалася з агульнанашаніўскага літаратурнага працэсу, не становячыся ў ім знамянальным феноменам. Што й казаць, першы паэтычны зборнік — «Песні жальбы» (1910), прычым — што важна — папоўнены ў значнай меры створанай за кратамі лірыкай, — выходзіць менавіта падчас зняволення аўтара. Сімвалічна! Гэты факт сваёй важнасцю — для літаратурнага працэсу — і знакавасцю — для аўтара — сам па сабе нівелюе заўважаную крытыкамі аднастайнасць кніжкі і іншыя яе недахопы.

Па свежых слядах літаратурнага працэсу М. Багдановіч на самым пачатку 1911 г. з адносна шырокіх ужо на той гістарычны момант шэрагаў беларускіх пісьменнікаў вылучаў толькі Янку Купалу: «Гэта бадай адзіны наш пісьменнік, каторы ідзе ўперад, вядзе нейкую ўнутраную працу, і, зрабіўшы ці мала, не супыняецца аж да гэтага часу»[15]. І хаця ў творчасці Якуба Коласа, маючы на ўвазе ў прыватнасці першы зборнік «Песні жальбы», М. Багдановіч бачыць «якуюсь акамянеласць», адсутнасць развіцця («на працягу аж 4-х гадоў Колас не зрабіў значнага кроку ўперад і ў самых апошніх вершах пяе аб тым жа і так жа, як і ў пачатку сваёй працы»)[16], не варта перабольшваць гэтае абагульненне, зробленае на аснове лаканічнага аналізу, таму што насамрэч (і час гэта даказаў) у Якуба Коласа якраз тады пачалі «здарацца» вершы, якія ўвайшлі ў залаты фонд беларускай літаратуры, сталі яе класікай. Дый сучасная крытыка адзначае пэўны суб'ектывізм у той ацэнцы «Песень жальбы», падкрэсліваючы пашырэнне творчага дыяпазону і павышэнне мастацкага ўзроўню (пазней і М. Багдановіч падкарэкціраваў сваю ацэнку)[17].

Пагодзімся з У. Казберуком, які кажа: «Прыблізна з 1910 г. у творчасці Якуба Коласа ўсё больш прыкметна выяўляецца тэндэнцыя да шырокіх сацыяльна-грамадскіх і філасофскіх абагульненняў і вывадаў, да паглыбленага псіхалагічнага аналізу, а ў сувязі з гэтым — і да стварэння значных эпічных палотнаў. Усё больш глыбокім становіцца роздум пісьменніка, больш шырокім — кола праблем, якія прыцягваюць яго ўвагу, больш настойлівым — імкненне знайсці ў жыцці адказы на балючыя пытанні часу, больш сталым — майстэрства»[18].

---

[15] Багдановіч М. Поўны збор твораў : у 3 т. Мінск : Навука і тэхніка, 1993. Т. 2: Маст. проза, пераклады, літаратурныя артыкулы, рэцэнзіі і нататкі, чарнавыя накіды. С. 186.

[16] Багдановіч М. Поўны збор твораў : у 3 т. Мінск : Навука і тэхніка, 1993. Т. 2: Маст. проза, пераклады, літаратурныя артыкулы, рэцэнзіі і нататкі, чарнавыя накіды. С. 189.

17 Багдановіч М. Поўны збор твораў : у 3 т. Мінск : Навука і тэхніка, 1993. Т. 2: Маст. проза, пераклады, літаратурныя артыкулы, рэцэнзіі і нататкі, чарнавыя накіды. С. 514, 224.

18 Казбярук У.М. Якуб Колас у школе. Дапаможнік для выкладчыкаў беларускай літаратуры. Выд. 2-е, дапрац. Мінск: «Нар. асвета», 1975. С. 53.

У такім святле можна меркаваць, што эвалюцыя Песняра дасягнула вышэйшай ступені мастацтва менавіта дзякуючы турэмным калізіям, якія сталі своеасаблівым генератарам крэатыўнасці. У іх кантэксце творца быў абмежаваны фізічна, але яго дух, нібы ў якасці кампенсацыі гэтага абмежавання, сублімацыйна разняволіўся, перажыванне мараў-мрой сацыяльнага плану, нацыянальнага зместу, урэшце агульначалавечага кірунку «з коптурам», да мяжы нарыву, да напружанага нервова-душэўнага напяцця назапасілася і абвастрылася, выспела і *закаласілася* — ды знайшло адпаведнае выйсцерэалізацыю ў эстэтыцы слова — адзіным мастацтве, якім яшчэ ўперад выдатна авалодаў К. Міцкевіч, заявіўшы пра свой талент са старонак «Нашай долі» і «Нашай нівы». Пачаўся найбольш плённы адрэзак творчасці велічынёй у добры тузін — ад сілы паўтара дзясятка гадоў, на які прыйшліся практычна ўсе найлепшыя творы Якуба Коласа. (У нечым тут бачыцца аналогія з земляком і цёзкам па прозвішчы беларускага Песняра Адамам Міцкевічам, у якога асноўны плён літаратурнай творчасці прыпаў таксама на акрэслены адрэзак часу ў тузін гадоў, але апошні па сканчэнні маладога веку займацца літаратурна-мастацкай творчасцю, бадай, перастаў).

## 2. На Маскоўшчыне: «сярод чужаніц, неўспагадных дурніц»

Лёс не песціў паэта. І неўзабаве распачатая сусветная вайна спрычынілася да чарговага расстання з беларускім раздоллем — прыродным і культурным. Пакінуўшы Беларусь, мабілізаваны ў расійскую армію Якуб Колас праходзіць падрыхтоўку на прапаршчыка ў гарадах Масковіі і затым трапляе на Румынскі фронт. Цяжкія хваробы становяцца прычынай адсылання К. Міцкевіча з арміі ў тыл. Ён едзе да сям'і, якая асела ў г. Абаянь Курскай губерні. Ваенны і курскі перыяд Якуб Колас праз гадоў колькі назаве «паднявольным блуканнем», напісаўшы ў апошнім раздзеле «Новай зямлі»:

*...А там дарога, зноў дарога,*
*Разлука з краем і трывога*
*І паднявольнае блуканне*
*І гэта нуднае змаганне*
*За інтарэсы жывата*
*Ды зноў варожая пята...* [Т. 8, с.281-282]

Аднак нярэдка бывае, **што** кепска для чалавека, **тое** добра для творцы, — як крыніца натхнення. Так і вымушаная эміграцыя з роднага кута каталізавала настальгію, падобную да пачуццяў турэмнага перыяду. І хоць пісалася адносна няшмат (аўтарская ацэнка), нам важная не колькасць, а якасць (дый пяць створаных раздзелаў на дзве паэмы — таксама важкі творчы здабытак):



*Якуб Колас з жонкай і сынам Данілам. Перм, 1917.*

«За часы вайны і прабывання ў Расіі пісаў мала, урыўкамі. У Куршчыне скончыў «Сымона-музыку» і напісаў адзін ці два раздзелы з «Новай зямлі». Сувязь з Беларуссю была выпадковая з прычыны падзей ваенна-палітычнага характару. Моцна смуціўся па Беларусі», — успамінаў пасля, у 1926 г. паэт у аўтабіяграфіі[19].

Сапраўды,аднаўляе працу над «Сымонам-музыкам» у лістападзе 1917 г. паэт менавіта з радкоў, пранікнёных і шчымлівых ад «разлукі з краем»:

*О, край родны, край прыгожы!*
*Мілы кут маіх дзядоў!*
*Што мілей ёсць ў свеце Божым*
*Гэтых светлых берагоў,*

---

19 Якуб Колас : Да 100-годдзя з дня нараджэння. Біябібліягр. паказ. / Склад.: Н.Б. Ватацы, М.і. Пратасевіч, Н.А. Адамовіч, А.Б. Дунаеўская; Рэд. В.П. Рагойша. Мінск, 1983. С. 28.

*Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,*
*Дзе лясы-бары гудуць,*
*Дзе мядамі пахнуць грэчкі,*
*Нівы гутаркі вядуць?* [Т. 9, с.268]

Ант. Адамовіч адзначае «раптоўны на той час выбух нацыяналізму ў Якуба Коласа, у дарэвалюцыйнай паэзіі якога блізу поўнасьцю адсутнічала нацыянальная ідэялёгія»[20]. На гэты конт можна дадаць меркаванне прафесара М. Мушынскага: «...Сутнасць мастацкага наватарства ў тым, што сваімі творамі — паэмамі «Новая зямля», «Сымон-музыка», многімі вершамі і апавяданням<і> — Колас здолеў узняць тэму *жыцця* беларускага працоўнага *селяніна* на ўзровень *нацыянальнага быцця*, і яго герой выступае як паўнапраўны прадстаўнік народа, духоўна багатая асоба, якая ў сваіх памкненнях выказвае агульначалавечыя ідэалы — прагу свабоды, волі, незалежнасці, пратэст супраць уціску, сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, жаданне жыць на ўласнай зямлі, быць яе сапраўдным гаспадаром. <...> У пераканальнай мастацкай распрацоўцы, непаўторна-адметным вобразным увасабленні канцэпцыі нацыянальнага быцця і трэба бачыць вялізную заслугу Коласа перад беларускім прыгожым пісьменствам і ўсёй айчыннай культурай»[21].

Верагодна, на светапогляд сялянскага паэта (так часцей за ўсё ўспрымаўся Якуб Колас) паўплывала менавіта сноўданне па свеце. У Курскай губерні яго адольваюць глыбокія настальгічныя перажыванні. Да беларуса прыходзіць яснае ўсведамленне адсутнасці роднасці з расійскім народам. Вось што піша ён сябру Янку Купалу (арыгінал ліста на беларускай мове не выяўлены):

«С позиций пришел в Обоянь, где жила моя семья, больным человеком. Брат[о]к мой милый! Случалось тебе когда-нибудь застрять где-нибудь на железнодорожной станции, ждать поезда? Вот в таком положении чувствую я себя теперь, где бы я не находился. Все жду, когда же наступит возможность оставить эту Московщину и вновь очутиться среди своих людей. Скажу тебе, друже, татарский здесь народ. Болит моя душа по Белоруссии. Чувствуешь ли, братец, как тяжко жить на чужбине? ... Чувствую я, однако, одно: бедный, бедный наш народ! Как несправедлива его доля! И когда только дождется он просветления? Много встречал я наших виленцев, минчан, которые склоняются от востока к западу, ждут избавления ныне от Германии. Я, однако, остаюсь при своем мнении до гроба: немцы не дадут нам счастья. Немцы знают, что делают: им нужно утопить великий народ в братской крови, обессилить и обездолить его. Что же нам

---

20 Адамовіч, А. Да гісторыі беларускае літаратуры. Мінск : Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005. С. 757.

21 Мушынскі М. Мае каласавіны : з вопыту вывучэння літаратурнай і грамадска-культурнай дзейнасці Якуба Коласа / навук. рэд. М.А. Тычына. Мінск : Беларус. навука, 2010. С. 10.

делать? Пробуждать в народе самосознание, ориентация должна быть на самого себя»[22].

Гэтыя перажыванні трохі пазней, у 1919 г., Якуб Колас занатоўвае ў XVIII раздзеле «Новай зямлі» «Зіма ў Парэччы»:

*Далёка я ад межаў родных*
*Сярод людзей, душой халодных*
*І сэрцам чэрствых. Я гадаю,*
*Я родны край успамінаю,*
*Я ім жыву, я ў ім душою*
*І сэрцам кожнаю парою,*
*Як той нявольнік прагне волі,*
*Так прагну я ступіць на ролі*
*Сваіх палеткаў, ніў благенькіх,*
*Дарог і сцежачак крывенькіх,*
*Што гожа ўюцца спомеж жыта*
*Або срэдзь лесу самавіта.*
*І ўстануць з'явы, як жывыя,*
*Малюнкі сэрцу дарагія,*
*І моцна душу парываюць.*
*«Ідзі да нас! ідзі», — гукаюць.*
*Благаславёны час той будзе,*
*Калі я ў родным сваім людзе*
*Куточак бацькаў прывітаю*
*І радасць жыцця там пазнаю.*

*О родны край! О край пакуты,*
*Нягодай цяжкаю прыгнуты!*
*Калі ж ты збудзеш тое гора,*
*Што і цяпер там, як і ўчора,*
*Як і даўней, цябе знішчае*
*І горкім смуткам авявае?*
<...>
*О край мой мілы! Ўсёй душою*
*Хачу злучыцца я з табою...* [Т. 8, с.159-160]

Радкі, цытаванне якіх у сувязі з абазначаным аспектам можна працягваць, даволі паказальныя, каб зразумець, наколькі разлука з Беларуссю сказалася на мастацкім творы.

Ант. Адамовіч слушна заўважае, што пачатак гэтага раздзела дае нам «паэтаву ацэну самое перажыванае ім (Якубам Коласам — **А. Т**.) тады

22 Купала і Колас, вы нас гадавалі : дакументы і матэрыялы : у 2 кн. Кн. 1. 1909 — 2009 / уклад. В.Дз. Селяменеў, В.У. Скалабан ; рэд. калегія : М.І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. С. 19.

савецка-польскае акупацыі Беларусі як «нягоды цяжкае», «гора, што і сягоньня, як і ўчора, як і даўней яе зьнішчае», «часу вялікага разбурэньня», «зьдзеку, што чалавек — зьвер чалавеку так чыніць злосна, неўспагадна» — безь якога-небудзь вырозьнення ўва ўсім гэтым акупантаў польскіх ад савецкіх ды абодвух — ад іхных папярэднікаў гістарычных з «учора» й нат аж з «даўней» (калі каго крыху й выдзяляецца, дык якраз людзей савецка-расейскага ізаляцыйнага навакольля аўтара, і гэта — як «людзей, душой халодных і сэрцам чэрствых»...)»[23].

Якраз недзе тады, у 1918 — 1919 гг., (трохі пазней за Янку Купалу, верагодна пад яго ўздзеяннем) у паэтычнай лексіцы Якуба Коласа паяўляецца онім «чужынец» — перадусім адносна «маскалёў». Ён кажа пра «ярэм'і», «што ім («нашаму люду», «дабрэйшаму ў свеце» — **А. Т.**) чужынцы з сваякамі / Уздзець маніліся даўно, / І засланялі ім вякамі / Ад свету белага вакно...» («Я кожан год свой дзень радзінаў...», 22.10.1918) [Т. 2, с.82]; разважае пра тое, што «час праходзіць, жыццё гіне / Ў талачэчы на чужыне / За кавалак хлеба...» («На чужыне», 22.10.1919) [Т. 2, с.84]; задаецца пытаннем, «ці мы будзем ці не будзем / Пад чужынцам шыі гнуць» (У імгле», 1919) [Т. 2, с.86]. Роўна праз год у роздумах на тую ж тэматыку (традыцыйна для таго дня — завяршыўся яшчэ адзін год зямнога шляху чалавека) паэт працягвае метадычна прамаўляць, шчыра да слёз выражаючы найвастрэйшую тугу па абяздоленай (тым больш!) радзіме:

*Бо сярод чужаніц,*
*Неўспагадных дурніц,*
*Сілу марне трачу,*

*І аб родных кутках,*
*Хай ацаліць іх Бог,*
*Часта ў думках плачу.*
(«Ну, якіх жа прыгод...», 22.10.1920) [Т. 2, с.87]

У кантэксце такіх перажыванняў, такога ўспрымання рэчаіснасці ўзмацненне грамадзянскіх, нават яскрава палітычных матываў у творчасці Якуба Коласа выглядае арганічным. Найбольш экспрэсіўна яны выплеснуліся ва ўступе да III раздзела паэмы «Сымон-музыка» (канец 1917 г.). Пачынае паэт з экскурсу ў мінулае:

*З двух бакоў айцы дубінай*
*Заганялі нас у рай.*
*Кроў лілася ручаямі,*
*Здрада чорная расла,*
*Што папамі і ксяндзамі*
*Ў сэрцы кінута была.*

23 Адамовіч, А. Да гісторыі беларускае літаратуры. Мінск : Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005. С. 590.

*І адразу пераходзіць да паралелей з сучаснасцю:*
*І цяпер над вамі, брацце,*
*Яшчэ ў сіле той раздор:*
*І папоўскае закляцце*
*І ксяндзоўскі нагавор.* [Т. 9, с.269]

Напамінаючы, што «тут схадзіліcь ўсе плямёны / спорку сілаю канчаць», згадваючы шведа, які «набытак наш паліў», прайшоўшыся па панска-каталіцкай польскай экспансіі, паэт галоўныя эмоцыі адрасуе ў бок усходняга суседа: «маскаль тут самачынна / гвалт над намі ўтварыў, / і без жалю капытамі / конь казацкі тут ступаў». Ад імя народа паэт заяўляе:

*Толькі ж, брацце, край не згінуў,*
*Не пагнуўся яго стан.*
*І із нас душы не вынуў*
*Ні маскаль, ні польскі пан.* [Т. 9, с.270]

Прычым аўтар з самасцвярджэннем народа звяртаецца да канкрэтных аб'ектаў:

Гэй, суседзі, нашы брацце! (На той час гэта адзін з рэдкіх выпадкаў для падобных Коласавых кантэкстаў, калі суседзі называюцца не чужакамі ці чужынцамі, а брацця̀мі.)

*Не згубілі мы свой шлях,*
*Не ўламала нас няшчасце,*
*Не сагнуў нас жыцця гмах.*
*Дык хіба ж мы праў не маем,*
*Сілы — шлях свой адзначаць?*
*І сваім уласным краем*
*Родны край свой называць?..* [Т. 9, с.270]

Такім рытарычным пытаннем, звернутым ужо да свайго народа, яго нацыянальнай годнасці, заканчвае паэт уступ да трэцяй часткі, яшчэ раз падкрэсліваючы нязгоду з існым становішчам Беларусі. М. Мушынскі лічыць, што «погляды Сымона-музыкі — гэта суб'ектывізаванае выяўленне поглядаў, светаўспрыманне асабіста Якуба Коласа, адбіццё ягонай грамадзянскай, мастакоўскай пазіцыі»[24].

На гэты конт У. Конан піша: «Настаўнік Кастусь Міцкевіч жыў далёка ад роднай Беларусі. Але здалёк бачыў яе драматычнае ўзыходжанне да дзяржаўнай незалежнасці. Беларусь 25 сакавіка 1918 года абвясціла сваю незалежнасць. Пасля перажыла нямецкую, польскую, урэшце — бальшавіцкую акупацыю. Падзеі гэтыя леглі ў аснову сюжэтаў трагікамедыі Янкі

---

24 Мушынскі М. І. Якуб Колас і рэвалюцыя (сацыяльна-палітычны, нацыянальны і гуманістычны аспекты праблемы) // Каласавіны. Тэзісы дакладаў і паведамленняў навуковай канферэнцыі, прысвечанай 110-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа. Мінск: Літаратурны музей Якуба Коласа, 1992. С. 7.

Купалы «Тутэйшыя». Заключныя раздзелы першай рэдакцыі паэмы «Сымон Музыка» — гэта рамантычнае, мастацкае ўвасабленне трагічнай незавершанасці дзяржаўнага адраджэння Бацькаўшчыны ад нанесеных ёй цяжкіх ранаў, сімвалічна пазначаных непрытомнасцю і смерцю Ганны, кашмарным сном і адчаем Сымона. Але паэт дае ім шанец на ўваскрэсенне і чарговае прабуджэнне для новага, свабоднага і творчага жыцця»[25].

М. Мушынскі пры некаторых адрозненнях у інтэрпрэтацыі таксама падкрэслівае ўзмацненне патрыятызму аўтара «Сымона-музыкі»:

«Калі Якуб Колас заканчваў паэму, родны край быў разбураны, зруйнаваны. Невядома, што чакала Беларусь у будучым. Вось і герою паэмы не суджана было пасля доўгай разлукі сустрэць Ганну, якая ўспрымалася ім як сімвал Беларусі, у росквіце і прыгажосці. Музыка пачуў горкую праўду пра тое, што любай яго сэрцу дзяўчыны няма ў жывых. Смерць Ганны і яе з'яўленне ў выглядзе Ценю на могілках — і ёсць алегарычнае выяўленне трагічнага лёсу Беларусі. А тое, што Сымон-музыка засынае сімвалічным сном на могілках, дзе пахавана Ганна, якраз і было рэакцыяй аўтара паэмы на падзеі, якія ён як мастак-гуманіст, пісьменнік-патрыёт не мог прыняць, не мог даць мастакоўскага блаславення тым, хто нёс разбурэнне, сеяў хаос, абуджаў нізкія інстынкты.

Убачыўшы Цень Ганны, Сымон зразумеў, што яго думы-мары не спраўдзіліся і не могуць спраўдзіцца, бо Беларусь загублена, ідэалы страчаны, людзі сталі горшыя за драпежнікаў. <...>

Калі ацэньваць паэму, маючы на ўвазе нават толькі яе фінальныя раздзелы, дык можна зрабіць вывад, што перад намі глыбока праўдзівы твор, у якім сродкамі паэтычнай мовы, у сімволіка-іншасказальнай форме ўзноўлена рэчаіснасць перыяду рэвалюцыі, выказаны адносіны паэта-гуманіста да падзей, якія тады адбываліся ў беларускім краі»[26].

А яшчэ ў ранейшай рабоце гэты ж літаратуразнаўца заўважае: «Даследчыкі з беларускага замежжа (пэўна маецца на ўвазе перадусім Ант. Адамовіч — **А. Т.**) імя Дамянік адкрыта звязваюць са словам бальшавік і ўскладаюць на апошняга віну ў смерці Ганны-Беларусі. Разважанні ў гэтым кірунку істотна паглыбляюць нацыянальны аспект праблемы, якая тут разглядаецца»[27].

---

25 Конан У. Першае і савецкае выданне паэмы «Сымон Музыка»: параўнальны аналіз // Тэрмапілы, 2008, №12. С. 336.

26 Мушынскі М. Свайму часу і вечнасці // Колас Я. Збор твораў. У 20 т. Т. 1. Вершы (1908 — 1910) / рэд. тома М. І. Мушынскі ; падрыхт. тэкстаў і камент. К.А. Казыра, Т. Р. Строевай ; прадм. М. І. Мушынскага ; Нац. акад. навук Беларусі, ін-т літ. імя Я. Купалы. Мінск : Беларус. навука, 2007. -С. 34-35.

27 Мушынскі М. І. Якуб Колас і рэвалюцыя (сацыяльна-палітычны, нацыянальны і гуманістычны аспекты праблемы) // Каласавіны. Тэзісы дакладаў і паведамленняў навуковай канферэнцыі, прысвечанай 110-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа. Мінск: Літаратурны музей Якуба Коласа, 1992. С. 7.

«Увесь гэты згустак квінтэсенцыі нацыянальнага адраджэнства, пададзены на працягу няпоўнае сотні вершаваных радкоў (уступу да III раздзела паэмы «Сымон-музыка» — **А. Т.**), у высокім і моцным тоне небывалага лірычнага патасу запраўды ўнікальны ў Коласа, дый наагул няшмат роўнага сабе мае ў цэлай адраджэнскай паэзіі»[28]. Згаджаючыся з гэтай цытатай Ант. Адамовіча, мусім аспрэчыць меркаванне названага крытыка, што быццам для нацыянальна-адраджэнскага пасажу Якуба Коласа не было матывацыі, бо, як адзначалася вышэй, папярэднія перажыванні паэта, адкрыццё Расіі як чужыны, а расіян як татараў, маскалёў (але ніяк не братоў-славян), а ў сувязі з гэтым таксама надзвычайнай моцы настальгія, сум па родных краях (гл. вершы «Гусі» (22.09.1916), «Палессе» (1916), «Ой, скажы мне, вецер вольны...» (1917), «Год за годам уцякае...» (22.10.1919) [Т. 2, с. 67, 73-74, 77, 82, 85] і інш.) спрычыніліся да выспявання Коласа-нацыяналіста, зварот якога да мінулага ў той час не мог не азначаць і надзённай пазіцыі паэта, пазіцыі, што была скіравана супраць гаспадарання суседзяў, чужынцаў на Беларусі. Радзіму хацеў паэт бачыць вольнай. Савецкая цэнзура сталінскіх, сацыялагізатарскіх часоў мела тоеснае разуменне яго творчых і грамадзянскіх інтэнцый, таму, як паведамляецца ў каментарыях сучаснага Збору твораў народнага паэта да большасці з названых тут Коласавых вершаў, яны, як правіла, былі апублікаваныя ў нацыянальнай, небальшавіцкай прэсе, а таксама ў зборніку «Водгулле» (1922), за рэдкім выключэннем у прыжыццёвыя выданні не ўваходзілі і зноў пачалі друкавацца толькі падчас «хрушчоўскай адлігі» [Т. 2, с.370-374].

Такім чынам, чужына не толькі паглыбіла настальгію, сум па родным куточку паэта, але і развіла яго грамадзянскую свядомасць у нацыянальны (часам нацыяналістычны) бок, што ў значнай меры адбілася на творчасці ў цэлым і на знакавых творах у прыватнасці.

## 3. Дома — у Менску: «кавалі другія, а ланцуг той самы»

Прыезд на Беларусь у 1921 г. не прынёс чаканай радасці. Па-першае, родны кут заставаўся па заходні бок мяжы, якая падзяліла Беларусь. Па-другое, за часы ваеннага «блукання» і пражывання на Куршчыне — «рыжа-бародым краі» (такі вобраз прыменены ў вершы «Я кожан год свой дзень радзінаў...», 1918 [Т. 2, с.82]) Якуб Колас сфарміраваўся ў непахіснага патрыёта і грамадзяніна Беларусі, яе дзяржаўніка, а іншы раз нават нацыяналіста. Арганізаваная бальшавікамі дзяржаўнасць Беларусі на савецкай

28 Адамовіч, А. Да гісторыі беларускае літаратуры. Мінск : Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005. С. 572.

аснове не апраўдала надзей паэта. Таму яго настальгія развілася ў смутак па няздзейсненай мары, узведзены ў квадрат адлегласцевай блізкасцю і разам з тым такой палітычнай далёкасцю ад апетага роднага кута: паэт быў ад малой радзімы як рукою падаць, але наведаць родны кут, які знаходзіўся за мяжой — у складзе ІІ Рэчы Паспалітай Польшчы, тады не меў аніякай магчымасці. Абвастрыліся і сыноўскія перажыванні (на Стаўпеччыне засталася маці, якой паэту ўжо не наканавана было пабачыць). Між тым, знакаміты коласазнавец М. Мушынскі звяртаецца да меркавання слыннага пісьменніка і даследчыка літаратуры першай паловы ХХ ст. М. Гарэцкага, які быў упэўнены ў тым, што Колас знаходзіцца напярэдадні стварэння выдатных твораў (у прыватнасці эпічнага)[29]. «Пясьняр падыйшоў цяпер к вышэйшаму пункту свае творчасьці», — пісаў М. Гарэцкі ў «Гісторыі беларускай літаратуры» (Менск, 1921)[30].

Мінулае не мае ўмоўнага ладу. Немагчыма сказаць, як добра пісаў бы Якуб Колас пры жыццёва камфортных умовах — лепш ці горш. Пэўна адно: 13 неспакойных гадоў (1908 — 1921) так удобрылі глебу для ўзгадавання літаратурнага таленту, што ён сапраўды ў пачатку 1920-х гг. выйшаў на пік майстэрства і натхнення.

Усё гэта адпаведна і вылілася ў цэлыя раздзелы кангеніяльнай паэмы «Новая зямля». Пры іншых абставінах (без зняволення, вайсковых бадзянняў, *доўгай дарогі дадому* і душэўнага драматызму па вяртанні на раздзертую радзіму) твора або не было б зусім, або ён быў бы кардынальна іншым. Прафесар М. Мушынскі кажа, што «Колас на пачатку 20-х гг. узыходзіў на якасна новы светапоглядна-творчы ўзровень дзейнасці»[31]. Але гэта не значыць, што творца кардынальна змяніўся. «Звычайна гэты зварот («Якуба Коласа на радзіму з Куршчыны ў маі 1921 года» — устаўка ўдакладняльнай цытаты М. Мушынскага наша — **А. Т.**) ацэньваўся як пераломны момант у светаадчуванні паэта. Але такі вывад быў заўчасны... <...> Пералом у ягоным светапоглядзе адбыўся не адразу,» — некалі справядліва адзначыў той жа М. Мушынскі[32]. Галоўнае, чаму не здраджваў і ў першыя гады

29 Мушынскі М. Мае каласавіны : з вопыту вывучэння літаратурнай і грамадска-культурнай дзейнасці Якуба Коласа / М. Мушынскі ; навук. рэд. М.А. Тычына. — Мінск : Беларус. навука, 2010. — С. 355.

30 Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літэратуры. Выданьне другое (папраўленае). — Вільня: Выданьне «Віленскага выдавецтва» Б. Клецкіна, 1921. — С. 162.

31 Мушынскі М. Свайму часу і вечнасці // Колас Я. Збор твораў. У 20 т. Т. 1. Вершы (1908 — 1910) / рэд. тома М. І. Мушынскі ; падрыхт. тэкстаў і камент. К.А. Казыра, Т. Р. Строевай ; прадм. М. І. Мушынскага ; Нац. акад. навук Беларусі, ін-т літ. імя Я. Купалы. Мінск : Беларус. навука, 2007. С. 37.

32 Мушынскі М. І. Якуб Колас і рэвалюцыя (сацыяльна-палітычны, нацыянальны і гуманістычны аспекты праблемы) // Каласавіны. Тэзісы дакладаў і паведамленняў навуковай канферэнцыі, прысвечанай 110-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа. Мінск: Літаратурны музей Якуба Коласа, 1992. С. 8.



*Якуб Колас у 1921 г. па прыездзе ў Менск*

па вяртанні на радзіму Якуб Колас, — мастацкая і жыццёвая праўда (гэты момант заўважыў яшчэ У. Казбярук[33]):

*А праўда мне ўсяго дарожай,*
*І бацька праўдзе вучыў змаля,*
*Ды з гэтай праўдай ступім далей.* [Т. 8, с.49]

У перыяд 1921 — 1923 гг. былі створаны 17 (з усіх 30) раздзелаў «энцыклапедыі беларускага сялянства» (Алесь Адамовіч). Па назіраннях Ант. Адамовіча ў гэтых раздзелах, напісаных ужо ў Савецкай Беларусі, выпады супраць сучаснасці асабліва вострыя (трэба разумець, у параўнанні з ранейшымі, нават астрожнымі, раздзеламі): «Гэтак, у разьдзеле XVI (1922) знаходзім абураную філіпіку супраць спраўцаў Рыскага падзелу Беларусі, бяз вырозьненьня сярод іх бальшавікоў ды палякаў, праўда, толькі з крыху меншай вайстрынёй і выразнасьцяй, чымся ў крыху ранейшым лірычным вершы таго-ж Коласа «Беларускаму люду»»[34]. Паэт, які адчувае сваё перабыванне пад Саветамі, як пад «варожай пятою» (выраз з апошняга раздзела «Новай зямлі», датуемага 1922 — пачаткам 1923 гг.) [Т. 8, с.282, 328], дэкларуе, што «нявіднымі ніцямі» «моцна-моцна звязан» з «малюнкамі роднае краіны», хоць і зараслі «пуцявіны / У гэты мілы мой куточак»:

*І зараслі не палынамі,*
*Не крапівой, не драсянамі,*

---

33 Казбярук У. «А праўда мне ўсяго дарожай...»: Перачытваючы «Новую змлю» // Роднае слова, 1995, №8. С. 93.

34 Адамовіч, А. Да гісторыі беларускае літаратуры. Мінск : Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005. С. 374.

*Не чаратом, не лебядою —*
*А беларускаю бядою.*
*Ды покі будзе сэрца біцца,*
*Яно не зможа пагадзіцца*
*Ні з гэтым гвалтам, ні з бядою*
*Над нашай роднаю зямлёю...* [Т. 8, с.142]

Паэт праклінае «вусны, рукі», якія на «мілы край адвечнай мукі» «ланцуг кавалі / І ў твар зняважліва плявалі!» [Т. 8, с.142] (у чым бачыцца пераклічка з кавалямі верша «Родныя малюнкі»), разам з тым выражаючы надзею,

*Што хоць не мы, дык нашы дзеці*
*Убачаць цэльным цябе ў свеце!* [Т. 8, с.143]

У гэтых словах бачыцца і страчванне надзеі — на тое, што сам аўтар некалі ўбачыць «цэльным» родны край, вольным ад вышэй згаданых чужаніцаў-кавалёў. Аднак, як відаць, ступень рэзкасці ў раздзелах, створаных Якубам Коласам апошнімі, ніжэйшая. Верагодна, тут сказаўся і той фактар, што пасля лета 1922 г. у СССР друкаванае слова становіцца падцэнзурным [Т. 9, с.412].

Галоўнае, аб чым сведчаць многія радкі «Новай зямлі», напісаныя ў Савецкай Беларусі, што аўтар не пазбавіўся настальгіі і што гэта па-ранейшаму клалася адбіткам на творчасці:

*Малюнкі родныя і з'явы!*
*Як вы мне любы, як цікавы!*
*Як часта мілай чарадою*
*Вы ўстаяце перада мною!* [Т. 8, с.141]

У літаральным сэнсе гэту настальгію можна прачытаць як сум па родным куце маленства, бо куток той апынуўся за мяжой. Але такі погляд быў бы спрошчаны. Насамрэч аўтар тужыць усё па той жа новай зямлі, якой так і не стала Бацькаўшчына ў дзяржаўным сэнсе.

Адметна, што жыццёвыя акалічнасці Якуба Коласа, якія сталі крыніцай натхнення яго лепшых твораў, уплывалі і на мастацкія дэталі іх стварэння, далейшага аўтарскага рэдагавання. Паколькі гэты аспект адносіцца хутчэй да гісторыі напісання твораў, то ў яго заглыбляцца не будзем, тым больш маючы прыклады, прыведзеныя М. Мушынскім[35] і М. Лужанінам[36].

Раздрай у краіне, прапушчаны праз душу паэта, перажываецца ім як у яго творах аб'ёмных жанраў (аповесці, паэмы), так і ў вершах. Тым больш што кароткая паэтычная форма дазваляла аператыўна рэагаваць на з'явы

35 Гл., напрыклад: Мушынскі М. Ад задумы да здзяйснення. Творчая гісторыя «Новай зямлі» і «Сымона-музыкі». Мінск: Навука і тэхніка, 1965. С. 23.

36 Гл., напрыклад: Лужанін М. Колас расказвае пра сябе: Аповесць-эсэ. Мінск : Маст. літ., 1982. С. 123-124.

рэчаіснасці. Сярод такіх вершаў нямала тых, якія прагучалі рэзанансам, сталі праграмнымі для творчага шляху Якуба Коласа і ўсёй беларускай літаратуры і нават класічнымі, хрэстаматыйнымі.

Яшчэ да пераезду на радзіму, адразу па падпісанні Рыжскага мірнага дагавора, — 23 сакавіка 1921 г. Якуб Колас піша глыбока алегарычны верш «Дубы», дзе коратка ў традыцыйным для сябе іншасказальным ключы апісвае, што сталася з дубамі — сімвалам беларускага краю:

*Наляцелі ж буры злыя,*
*Толькі ўжо не з неба:*
*Дзеі, засевы ліхія*
*Ўзгадавала глеба,*

*Глеба цёмная, сляпая,*
*Глеба злосці, гневу...*
<...>
*Эх, дубы, дубы! вякамі*
*Вы збіралі сілы,*
*Не звалодаў віхар з вамі,*
*Вас здалелі пілы.*

*Ашальмованы вам чолы,*
*Ссечаны кароны,*
*І, пасеўшы на верх голы,*
*Там крычаць вароны.* [Т. 2, с.89]

Вобраз акупаваўшых дубы варон рэмінісцыруе ранейшых Купалавых груганоў, што прыляцелі з усходу і захаду «на сяло, на чужую шкоду»[37]. Аднак такая цьмяная вобразнасць робіць складанай расшыфроўку твора (у ім тым не менш сацыялагізатарская цэнзура ўбачыла пэўную непрымальнасць, таму пасля «Водгулля» пры жыцці аўтара твор быў апублікаваны толькі адзін раз і то з купюрамі найбольш вострых момантаў [Т. 2, с.375]).

У гэтым тэматычным рэчышчы Якуб Колас неўзабаве (20.08.1921) стварае больш ясны верш, твор з грамадзянскім пафасам — «Родныя малюнкі», у якім матыў шкадавання, эмпатыі, які пераважае ў вершы «Дубы», набывае ноты абурэння. Акрамя таго, аўтар выяўляе тых, супраць каго тое абурэнне скіравана. Працытуем найбольш яскравыя моманты верша:

*Ды ляглі над краем*
*Хмары-навальніцы,*
*Рубяжоў няма ім,*
*Ім няма граніцы!*

---

37 Купала Я. Поўны збор твораў. У 9 т. Т 3. Вершы, пераклады 1911 — 1914 / АН Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы. Мн.: Маст. літ., 1997. С. 220.

<...>
*Ты ідзеш, бажаеш,*
*Повен ты надзеі,*
*Ды не прачуваеш,*
*Дзе твае зладзеі.*

*Наплывуць туманы*
*Горкае нядолі,*
*І куюць кайданы*
*Цяжкае няволі.*
<...>
*Кавалі другія,*
*А ланцуг той самы —*
*Песні ўсе старыя*
*Неаджытай гамы.* [Т. 2, с.95-96][38]

«Гэтыя апошнія Коласавы радкі пра «кавалёў другіх» бальшавіцкая крытыка сваім часам асабліва вытыкала як адно з найбольш антысавецкіх выказваньняў у цэлай беларускай літаратуры. Адылі, Колас не абмежыўся адно на гэткім мэлянхалічным агульным канстатаваньні сумнага фактычнага стану рэчаў на сваёй бацькаўшчыне па тым «устанаўленьні пралетарскай дыктатуры» (цытата з работы Л. Бэндэ — **А. Т.**) над ёй. Ад гэтай мэлянхоліі паэтавай не застаецца й знаку, калі паэта яшчэ ўніклівей углядаецца, учуваецца ды ўдумваецца ў той стан роднага краю, што вытварыўся там у выніку незадоўга перад ягоным зваротам туды праведзенага тымі-ж «кавалямі другімі» Рыскага падзелу Беларусі між Польшчай і Саветамі, які адорваў непраходнай мяжой двух сьветаў самыя родныя Коласавы мясьціны, так мілыя сэрцу ягонаму куткі маленства і юнацтва, бацькаўшчыны ў вузейшым сэньсе, дзе жылі яшчэ бліжэйшыя родзічы, у тым ліку і сама маці паэтава, ды даўныя сябры, паплечнікі й настаўнікі-правадыры ў беларушчыне, зь якімі з усімі цяпер нельга было нат пабачыцца. І тут паэта выбухае вялікім гнеўным абурэньнем ... вершу «Беларускаму люду» (1921 — **А. Т.**). ...Ізноў, як раней у «Сымону-музыку», прыгадвае ён свайму народу пра ягоных гістарычных прыгнятальнікаў, абазначаных тутака, ізноў-ткі, у тых-жа нацыяналістычных тэрмінах, каб за гэтым, заклейнаваўшы новаўчынены імі акт гвалту падзелам, узьняць клічам і ўвесь народ на іх»[39].

---

38 У апошняй страфе пасля другога радка намі дастаўлены неабходны працяжнік. Гл.: Колас Я. Водгульле. Менск: Беларускае коопэрацыйна-выдавецкае таварыства «Адраджэньне», 1922. С. 101.

39 Адамовіч, А. Да гісторыі беларускае літаратуры. Мінск : Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005. С. 595.

Сёння некаторыя радкі верша ўжо шырока вядомы нават масаваму чытачу. У сваім творы паэт мінімізаваў вобразнасць, але экспрэсіўнасць толькі павялічыў: за кошт клічных і рытарычных зваротаў, адпаведнага сінтаксісу, эмацыйна афарбаванай лексікі, — сродкаў, якія і раней выкарыстоўваліся Якубам Коласам, а ў гэтым творы набылі найбольшую канцэнтрацыю.

*Хіба забудзем мы тыя межы,*
*Што правадзілі без нас?*
*Раны глыбокі, ох, яшчэ свежы!*
*Помсты агонь не пагас.*

*Нас падзялілі — хто? Чужаніцы,*
*Цёмных дарог махляры.*
*К чорту іх межы! К д'яблу граніцы!..*
*Нашы тут гоні, бары!*
<...>
*Родны вы сэрцу нашаму, гмахі*
*Лесу, лугоў і палёў!*
*Досыць ўшчувалі нас паны-ляхі,*
*Ведаем ціск маскалёў...* [Т. 2, с.104-105]

Фактычна ў гэтым творы Якуб Колас як грамадзянін выяўляе сябе напоўніцу, не хаваючыся за далікатна лірычнымі інтанацыямі алегорый. Прычым тут паэт не абмяжоўваецца, як гэта рабіў уперад, канстатацыяй і ўздыханнямі-нараканнямі на долю беларускага народа, а адкрыта заклікае:

*Люд! Праканайся: толькі мы самі —*
*Долі сваёй кавалі!*
*Годзі жа, досыць панукаць намі,*
*Гнаць з нашай роднай зямлі!* [Т. 2, с.104]

Гучным заклікам распачынаецца лірычная кампазіцыя верша, ім жа і заканчваецца, што сведчыць пра ідэйную канцэптуальнасць Коласавага заkліка, першачарговае акцэнтаванне менавіта на ім, а не на перажываннях за гаротнае жыццё беларусаў:

*Люд! Вызваляйся, рві свае путы,*
*Новыя песні спявай!* [Т. 2, с.104]

Паэт пасля сам прызнаў, што «адна ж страфа, нягледзячы на тое, што вастрыё яе накіроўвалася аўтарам у бок белапольскіх бандытаў, гучыць выразна контррэвалюцыйна» (далей цытуюцца радкі «Нас падзялілі...») [Т. 17, с.159]. З чаго вынікае, што і «спавядаючыся» перад ДПУ, Якуб Колас не хаваў сваю антысавецкасць пры напісанні гэтага верша, а таксама іншых, пералічаных у заяве твораў. Не хаваў, як думаецца, з прычыны адсутнасці магчымасці іншых інтэрпрэтацый — такіх, якія б дазволілі тую

контррэвалюцыйнасць бачыць вынікам сэнсавай полівалентнасці паэтычных радкоў, што ў цэлым характэрна для паэзіі.

Савецкая ўлада доўга яшчэ будзе прыгадваць гэтыя радкі. «В 1922 году в сборнике стихотворений, изданных белорусским нацфашистким товариществом «Адраджэнне», поместил стихотворение «Белорусскому народу» в виде воззвания погромного характера. В этом стихотворении говорит о страданиях Белоруссии под московским гнетом, а в конце прямо призывает к свержению Сов. власти», — гаворыцца ў некалі зусім сакрэтным дакумеце — своеасаблівай даведцы на беларускіх пісьменнікаў нейкага малодшага лейтэнанта дзяржбяспекі Завадскага (жнівень 1937 г.), што не так даўно знайшоў вядомы беларускі гісторык І. Іофе[40].

Нешта дадаваць да наступнай аналітыкі гэтага аспекту верша Ант. Адамовіча, бадай, няма неабходнасці: «Гэтак паэта не прызнае й кліча свой народ не прызнаваць сувэрэнітэту над Беларусяй спраўцаў Рыскага падзелу яе, г. зн. бальшавікоў і Палякоў, ня робячы, як і раней, ніякага вырозьненьня між гэтымі акупантамі, што для яго аднолькава «чужаніцы, цёмных дарог махляры». Мала таго, ён кліча народ у вабедзьвюх частках падзеленага краю да адкрытага паўстаньня супраць акупантаў за вызваленьне бацькаўшчыны, задзіночаньне яе ды ўстанаўленьне поўнае незалежнасьці, «самастойнага гаспадараньня» на роду на сваёй зямлі. «Доля не прыйдзе сама... Люд, праканайся: толькі мы самі долі свае кавалі», — выясьняе паэта ўжо не адным толькі «добрым дзецям» народу, а цэламу «люду», — «люд, вызваляйся, рві свае путы!» — яшчэ раз падчырквае ён асноўны рэвалюцыйны мамэнт свайго заклiку на канчатку. Больш зыркага й адкрытага нацыянальна-рэвалюцыйнага й нацыяналістычна-незалежніцкага, а тым-жа часам і антысавецкага ды антыбальшавіцкага выступу годзе шукаць ува ўсёй нашай літаратуры на ўсім папярэднім адрэзку ейнага разьвіцьця»[41].

І. Багдановіч верш «Беларускаму люду» лічыць «коласаўскім тагачасным паэтычным маніфестам, дзе ён даў сваё разуменне Беларускага Шляху. Побач з матывам вызвалення ад сацыяльнага ўціску гучыць там матыў геапалітычнай незалежнасці Беларусі як ад Захаду, так і ад Усходу»[42].

«Вядома, вярнуўшыся на радзіму, Якуб Колас вітаў «прасторы вольныя зямлі» («У палях Беларусі»), звяртаўся да «чулых сэрцаў» і «душ жывых» з заклікам сказаць народу «горкую праўду», «чаго ён гаруе», церпіць паку-

40 Іофе І. «Старый и хитрый враг советской власти», альбо Як палявалі на Якуба Коласа // Роднае слова, 2007, №12. С. 74.

41 Адамовіч, А. Да гісторыі беларускае літаратуры. Мінск : Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005. С. 596.

42 Багдановіч і. Э. Паэзія 20-х гадоў // Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя: у 4 т. Т. 2 / НАН Беларусі, Аддз-не гуманітар. навук. і мастацтваў, ін-т літ. імя Я. Купалы ; навук. рэд. У.В. Гніладмёдаў, В.А. Каваленка. Мінск: Бел. навука, 1999. С. 17.

ту («Покліч»). Але адначасна пясняр лічыў сваім грамадзянскім абавязкам гаварыць і пра суровую рэальнасць.

Вось гэтую выразнасць грамадзянскай пазіцыі Коласа мы павінны прымаць пад увагу, каб сталі больш зразумелымі вытокі той актыўнасці і крыніцы натхнення, з якімі пісьменнік ажыццяўляў смелыя мастацкія задумы, маштабныя творчыя планы. І ў першую чаргу гэта датычыла завяршэння манументальна-эпічнай «Новай зямлі», напісання «палескіх аповесцей» і перагляду першай рэдакцыі паэмы пра Сымона-музыку»[43], — заключае М. Мушынскі.

З улікам стварэння ў гэты ж час першай (і лепшай!) аповесці з будучай трылогіі «На ростанях» — «У палескай глушы» (1921 — 1922) можна сабе ўявіць, якім прадуктыўным атрымаўся адрэзак адразу па прыездзе Якуба Коласа на Беларусь! Канешне, таму спрыяла афіцыйнае прызнанне творцы (пік якога адбыўся ў 1926 г. з нададзеннем Якубу Коласу звання народнага паэта), паляпшэнне матэрыяльных умоў, праца па душы, роднасны інтэлектуальны асяродак, а таксама — напачатку — адсутнасць татальнай цэнзуры (друкаванае слова ў Савецкім Саюзе становіцца падцэнзурным пасля лета 1922 г. [Т. 9, с.412]). Аднак, як аказалася, Савецкая Беларусь усё ж была далёкай ад Коласавых ідэалаў! Пагэтаму яшчэ доўгі час захоўваліся, не згладжваліся нядаўнія перажыванні з часу чужыны і бадзянняў, на што наслаілася горыч ад актуальнага становішча і краіны, і народа, і інтэлігенцыі, і сябе самога. Калейдаскоп жыцця роднай краіны як на ўзроўні сацыяльным, так і індывідуальным відавочна не адпавядаў чаканням і спадзяванням паэта, што, як у люстэрку, адбілася на творах.

* * *

У сувязі з вышэй сказаным варта меркаваць, што не менш як эпахальныя паэмы «Новая зямля» і «Сымон-музыка» былі ўзгадаваны на глебе расстання аўтара з родным куточкам. Зарадзіліся яны ў астрозе. Турма абудзіла і запачаткавала гэтыя дзве найвыбітнейшыя паэмы. Менавіта за кратамі і ўзніклі пранізлівыя, праніклівыя, глыбока лірычныя радкі, з якіх пачынаецца першы з названых твораў. Мелі працяг паэмы на Куршчыне. «Разлука з краем» — ваенныя бадзянні, жыццё «сярод чужаніц» «рыжабародага краю» — развілі, разгарнулі напісанне паэм. Фактычна іх стварэнне адбылося пад знакам настальгіі і было завершана ўжо па вяртанні на Беларусь, калі пачуццё адараванасці ад роднай зямлі нібыта адхлынула. Але не зусім. Добрая палова пярліны беларускага мастацтва слова — «Новай зямлі» — паўстала ў Савецкай Беларусі, калі гэтак блізкі родны кут —

---

43 Мушынскі М. Свайму часу і вечнасці // Колас Я. Збор твораў. У 20 т. Т. 1. Вершы (1908 — 1910) / рэд. тома М. І. Мушынскі ; падрыхт. тэкстаў і камент. К.А. Казыра, Т. Р. Строевай ; прадм. М. і. Мушынскага ; Нац. акад. навук Беларусі, ін-т літ. імя Я. Купалы. Мінск : Беларус. навука, 2007. С. 38.

Мікалаеўшчына — працягваў заставацца недасягальным, што вярнула, праявіла ранейшыя перажыванні. Калі ўспомніць рытарычнае пытанне Г. Ахматавай пра смецце, з якога растуць вершы, то для Якуба Коласа такім смеццем стала турэмнае зняволенне, рыхтык валацужны вобраз жыцця на чужыне, настальгія па родным наднямонскім куточку і па той Беларусі, якую ўбачылі ў бліжэйшай перспектыве адраджэнцы.

Пачуцці лірыка ў «разлуцы з краем» абвастраліся, выразна адбіўшыся на яго самых выдатных творах, у тым ліку на вершах з кола публіцыстычнай лірыкі, найгучнейшым з якіх стаў заклік да «беларускага люду»: яго гучанне, заглушаемае доўгі час магутнай савецкай цэнзурай, тым не менш, не сціхае і сёння, часта здзіўляючы іншым разам нават абазнанага чытача яшчэ адной бліскучай гранню Коласавай творчай велічы — грамадзянскай.

Турэмнае зняволенне і жыццё на чужыне сталі завяршальным і галоўным чыннікам творчай эвалюцыі Якуба Коласа, складаным, шматслойным. Без яго іншыя крыніцы станаўлення Якуба Коласа як беларускага класіка маглі пакінуць яго адной з красак, верагодна, даволі яркай, нашаніўскага суквецця, але не літаратурным калосам. Турэмнае зняволенне настаўніка і бунтаўшчыка (1908 — 1911 гг.), шматгадовая (1915 — 1921 гг.) адарванасць ад Беларусі ў сукупнасці (разлука з воляй і роднай зямлёй) абвастрылі любоў да радзімы, каталізавалі натхненне і выяўленне творчага патэнцыялу, акрэслілі нават найбольш плённы перыяд у творчасці Якуба Коласа, у выніку чаго нарадзіліся такія гранічна высокамастацкія паэмы, як «Новая зямля» і «Сымон-музыка». Моцна паўплывала на творчасць Песняра таксама драматычнае становішча Бацькаўшчыны, якую рвалі на часткі розныя палітычныя сілы і ў выніку падзялілі, прычым такім чынам, што «родны кут» паэта (разам з маці) заставаўся два з паловай дзясяткі гадоў (1915 — 1939 гг.) для яго недаступны, дый на той частцы краіны, на якую вярнуўся пісьменнік пасля ваеннага ліхалецця, — у Савецкай Беларусі выглядала ўсё не так, як гэта ўяўлялася, жадалася генію.



# Любоў Уладыкоўская

культуролаг, публіцыст. Генеральны дырэктар Цэнтра міжкультурнага дыялога, намеснік дырэктара міжнароднага фонду «Залатая спадчына Віцебска», загадчык сектара Інстытута сацыялогіі НАН РБ. Працавала ў Міністэрстве адукацыі і навукі РБ, узначальвала Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны. Нарадзілася ў 1967 годзе на Случчыне. Жыве ў Мінску.

# Беларусь існуе там, дзе жыве беларуская мова

**«Сваю прывязанасць да краіны, у якой нарадзілася і жыву, адданасць нацыянальнай культуры адчула менавіта ў Амерыцы, а не ў якой-небудзь іншай краіне. Там спазнала, наколькі трымаюць чалавека родныя карані». Значыць, каб дайсці да гэтай ісціны, беларусу трэба ехаць у ЗША? Магу прапанаваць іншы варыянт: прачытаць новую кнігу Любові Уладыкоўскай «Адкрыццё маёй Амерыкі, або Навошта беларусам ЗША», у якой аўтарка расказваючы пра невядомую для многіх Амерыку, сама адкрываецца чытачу... Тым, хто хоць раз быў у ЗША, заўжды знойдуцца агульныя тэмы для размовы. Так, са спадарыняй Любоўю мы гутарылі больш за дзве гадзіны. І аб чым, як вы думаеце? Пра міжкультурны дыялог...і зялёную сукенку, любімы колер спадарыні Любові, якую яна абавязкова набудзе падчас чарговай паездкі ў ЗША.**

***— Цалкам шчаслівым можна быць толькі на зямлі, якая дала нам жыццё. Спадарыня Любоў, Вы былі ў ЗША не адзін раз. Чым Вас уразіла, здзівіла гэтая краіна?***

— Да паездкі ў Амерыку была ўва многіх краінах Еўропы, шмат чытала пра Злучаныя Штаты Амерыкі. Да таго ж, маю там калег, партнёраў. Таму ЗША для мяне не ўяўляюцца як невядомая краіна. Што было прыемна ўсведамляць, дык гэта тое, што роўнасць, свабода, чалавечая годнасць — пануюць у ЗША паўсюль. Там існуе прыватная дыстанцыя, права чалавека на свабоду выяўлення, свабоду рэалізацыі. А знакамітыя ветлівасць, амерыканская ўсмешлівасць — яны выяўляюць імкненне да павагі кожнага чалавека. Раз ёсць асоба, якую стварыў Бог, значыць, яна мае права выявіцца, і гэта натуральна. Чарнаскурыя, індзейцы, лацінасы — усе маюць права на роўнасць. І гэтым правам карыстаюцца. Канешне, не ўсім падабаецца, што ў некаторых раёнах Штатаў вельмі шчыльнае насельніцтва чарнаскурых. Да гэтага факту ставяцца па-рознаму, часам адмоўна. Асабліва такая рэакцыя назіраецца ў людзей, якія прыязджаюць пазнаёміцца з краінай. З іншага боку, у амерыканцаў назіраецца моцны комплекс віны, які прыводзіць часам да прывеліяванага становішча нябелых людзей. Мела магчымасць сустрэцца з прадстаўнікамі розных этнічных плыняў. Было прыемна пераканацца ў тым, што яны існуюць ва ўзаемадапаўненні. Роўнасць у разнароднасці — менавіта тое, пра што я пішу, — гэта адна з формаў праявы свабоды, што вельмі падабаецца.

***— Вашыя паездкі былі мэтавымі?***

— Так. Яны былі звязаная з вывучэннем культурнай спадчыны. ЗША сур'ёзна ставяцца да яе захавання і развіцця. Існуе неадпаведнасць паміж стэрыятыпамі, якія, напрыклад, пануюць у сучаснай Беларусі, і амерыканскімі рэаліямі. Лічыцца, што амерыканцам, у культурным плане, няма чаго захоўваць. Яны не могуць так сур'ёзна, як еўрапейцы, разглядаць пытанні культурнай спадчыны. Але гэта не так. Амерыканцы вельмі ашчадна ставяцца да ўсяго, што выяўляе творчы патэнцыял, творчы падыход, таму што кожная творчая праява — носьбіт пэўнай культурнай традыцыі. Там надвычай развітая сістэма мецэнацтва (*падрабязна пра гэта можна прачытаць у кнізе Любові Уладыкоўскай «Як захаваць культурную самабытнасць?», што выйшла ў 2010 г*. — **заўвага аўтара**).

***— Беларуская моладзь актыўна з'язджае з краіны, часта — менавіта ў ЗША. Што Вы думаеце пра гэтыя працэсы?***

— Праблема выезду беларускай моладзі за мяжу шырока абмяркоўваецца ў прэсе. Асабліва актуальнай яна становіцца летам, калі студэнты на вакацыях і стараюцца вандраваць і па Еўропе, і па Амерыцы. Я лічу, што студэнтам, маладым спецыялістам, ды і людзям сталага веку вельмі важна выязджаць за мяжу для таго, каб прывозіць адтуль досвед, каб у Беларусь быў свежы прыток інфармацыі, каб адбываўся міжкультурны дыялог у самым шырокім яго сэнсе. Павінна праходзіць засваенне сусветных напрацовак у розных галінах: гэта можа быць бізнэс, культура, навука... Без гэтага няма развіцця. Адна рэч — засвойваць інфармацыю праз розныя медыйныя

*Падчас прэзентацыі кнігі «Захаванне нацыянальнай самабытнасці ў кантэксце развіцця міжкультурнага дыялога», арганізаванай Цэнтрам міжкультурнага дыялога і Амбасадай Украіны ў Рэспубліцы Беларусь 19 студзеня 2011*



сродкі, інтэрнэт, і зусім іншая — адчуць працэсы пабудовы жыцця ў замежных краінах, убачыць іх на свае вочы. Вельмі небяспечна самазамыканне, тым больш у нашу глабальную эру.Трэба ўлічваць, што з кожным годам у Беларусі звужаецца магчымасць наладжвання міжнародных, міжкультурных кантактаў, грамадства закрываецца. Ператвараць Беларусь у правінцыйнае балота вельмі небяспечна. Для Беларусі і для беларусаў, калі казаць шчыра, гэта вялікая трагедыя. Бо цалкам рэалізавацца як асоба і адчуваць сябе шчаслівым можна толькі на Бацькаўшчыне, сярод свайго народа, дзе кожны з нас — яго часцінка. На зямлі, якая нас нарадзіла і ў якую мы паклалі продкаў. На зямлі, у якую ўпіраемся, узіраючыся ў неба.

А пакуль што з'язджаюць ад галечы, бяспраўя, песімізму. Па прычыне таго, што не бачаць тут перспектыў. З-за таго, што ў Беларусі надзвычай цяжка, а часам і немагчыма пабудаваць сумленнае заможнае жыццё, рэалізавацца прафесійна, моладзь шукае ўладкавання за мяжой — гэта права кожнага чалавека, і мы не можам асуджаць яго.

***— Падаецца, многія з'язджаюць з Беларусі, каб адчуць сябе асобай...***

— Думаю, што так. У ЗША, напрыклад, мяне вельмі прываблівае тое, што якраз ёсць магчымасць рэалізаваць сябе як асобу. І не толькі таму, што гэта нацыя эмігрантаў. Кожны чалавек, як толькі нараджаецца, ужо адчувае сябе грамадзянінам Злучаных Штатаў Амерыкі. У Амерыцы і Еўропе ёсць велізарны імпульс грамадскай салідарнасці, аб'яднання пэўных ідэй, у тым ліку агульнанацыянальных. Але на першым месцы стаіць чалавек, асоба — гэта самае важнае. Каб гэта належна ацаніць, павінна быць унутраная чалавечая інтэнцыя, унутранае імкненне да свабоды, што ўжо ёсць прыкметай самастойнай, самадастатковай асобы. У мяне шмат знаёмых, якія былі ў ЗША і не адчувалі сябе там цалкам добра і ўтульна. Як правіла, гэта людзі савецкага тыпу, рускамоўныя, з адпаведным менталітэтам. Чалавеку ж, які жыве ў сістэме каардынат беларускай культуры, добра і вальготна пачуваецца і ў Еўропе, і ў ЗША. Гістарычна традыцыя тая ж — вяршынства права, вяршынства асобы чалавека, каштоўнасць яго творчасці, павага да таленту і яго падтрымка. Нядаўна прачытала ў беларускамоўнай газеце пра тое, што моладзь з'язджае з Беларусі па той прычыне, што беларуская культура не ўпісваецца ў сучаснасць і не мае перспектывы. Гэта такое глупства і шкодніцтва! Усё якраз наадварот: у якой ступені няма беларускага нацыянальна-культурнага кантэксту, у такой ступені тут няўтульна і хочацца з'ехаць. Якраз антыбеларускасць не ўпісваецца ў сучаснасць. Наколькі сучасная Беларусь не беларуская, настолькі яна не еўрапейская, і, як вынік — настолькі яна неперспектыўная. І ўвогуле — гэта прыкмета і прычына дэградацыі, прычым не толькі культурнай, эканамічнай, сацыяльнай, а дэградацыі маральнай. Народ — гэта цэласны арганізм. Не жывем у нацыянальным культурным кантэксце — значыць, губляем жыццёвыя шансы, чалавечую годнасць, са-

цыяльную мараль, перспектывы, прафесіяналізм, увогуле становімся аўтсайдэрамі. І так ужо ёсць, бачым шматлікія праявы гэтага.

***— Напэўна, не кожны, хто абірае лёс на чужыне, зможа там рэалізавацца?***

— Часцей за ўсё, выязджаючы на Усход ці Захад, беларусы ўладкоўваюцца ў якасці парабкаў, наймітаў, абслугі. Яно і зразумела: гаспадаром можна быць толькі на сваёй Бацькаўшчыне. Чужына ёсць чужына. У цэлым беларусы значна горш за суседзяў валодаюць замежнымі мовамі: у нас яны мала запатрабаваныя. Калі ж чалавек, які трапляе за мяжу, упісваецца ў кантэкст цывілізаванага жыцця і вырашае застацца ў замежнай краіне, то я магу толькі пажадаць шчасця і плёну гэтаму чалавеку. Але важна, каб моладзь мела магчымасць і хацела вяртацца і рэалізоўваць свае ідэі і ідэалы на Радзіме, каб прывозіла сюды свой талент, свае веды, сваю энергію, каб тут будавала сваё жыццё. На жаль, магчымасць вярнуцца на Радзіму і рэалізавацца залежыць не ад кожнага канкрэтна, хто выязджае...

З аднаго боку, калі пачынаецца адток маладых, адукаваных, актыўных людзей — наносіцца шкода грамадству, бо яно губляе лепшых. З іншага боку, гэта аб'ектыўны працэс, які немагчыма спыніць, бо міграцыя адбываецца па ўсім свеце, звычайна па руху сонца — з усходу на захад. Проста мы не прывыклі да такога.

***— Але ж ці можна напоўніцу адчуваць сябе беларусам за мяжой?***

Тут пытанне ў тым, каб увогуле беларусам быць. Яно не менш важнае і для тых, хто жыве ў Беларусі. У іншых еўрапейскіх краінах працэсы развіцця, умацавання нацыянальнай ідэнтычнасці праходзяць натуральна. У нас жа сітуацыя такая, што беларусы, асабліва якія ніколі не выязджалі за межы краіны (бо замежжа прымушае задумацца, а адкуль жа ты і хто), незаўсёды адчуваюць сябе беларусамі (у сэнсе прыналежнасці да пэўнай культурнай традыцыі), не маюць належнай ідэнтычнасці, не размаўляюць на беларускай мове, здараецца, нават не разумеюць яе (або робяць такі выгляд), дэманструючы неразумныя, прымітыўныя, спажывецкія падыходы да жыцця. Беларусы ж, якія жывуць за мяжой, але размаўляюць па-беларуску, ствараюць разнастайныя культурныя і грамадскія суполкі, маюць магчымасць зрабіць больш для Бацькаўшчыны, чым некаторыя жыхары Беларусі. Таму лічу, што праца на карысць нацыі не зусім залежыць ад месца жыхарства. Я не ведаю, дзе існуе Беларусь... Відаць там, дзе жыве беларуская мова. Дзе за Беларусь адчуваецца адказнасць. Таму, калі ёсць гэтая нацыянальная адказнасць, можна жыць дзе заўгодна. А калі ты можаш толькі спажываць, браць, а не даваць, не ўзбагачаць сваю краіну, калі няма нацыянальнай годнасці — то якая з цябе карысць, дзе б ты ні жыў?!

Мне часта даводзіцца сустракацца з «беларускімі» дэлегацыямі, якія выязджаюць і рэпрэзентуюць наш народ за мяжой. Сорам, ды і толькі. Не



*Разам з дырэктарам Міжнароднага фонду «Залатая спадчына Віцебска» Аляксандрам Гілем і генеральным дырэктарам «Аляксандрава Пасажа» Алегам Дзенісюком.*

карыстаюцца нацыянальнай мовай, нічога ці амаль нічога не ведаюць пра беларускую гісторыю і культуру. Пры гэтым хочуць і чакаюць, што іх (і нас) будуць паважаць. Дык гэта ў прынцыпе немагчыма — паважаць таго, хто не паважае сам сябе. Самае прыкрае, што па такіх вось «прадстаўніках», якія часта не маюць ні беларускіх каранёў, ні беларускай свядомасці, таму выглядаюць бязроднымі пігмеямі, а то і адкрыта называюць сябе «рускімі», адпаведна сябе паводзячы, мяркуюць пра ўвесь наш народ. Які, скажыце, дыялог з бамжамі, якое партнёрства?

***— На Вашу думку, Беларусь становіцца краінай без душы?***

А што гэта такое — без душы? Душа, безумоўна, жывая. І яна загартоўваецца ў выпрабаваннях і пакутах. Беларусь — гэта не зусім тое, што мы бачым у сённяшняй Беларусі. Беларусь — гэта Божая задумка, таму што народ створаны Богам, лёсам, гісторыяй. І кожны народ мае пэўную місію, а таксама спецыфіку і самабытнасць, якія выяўляюцца найперш у культуры як сістэме каштоўнасцей, а таксама ў мове.Таму народная, а пазней і нацыянальная культура, цяжэй паддаецца ўплывам і мае менш агульных стандартаў, у параўнанні, напрыклад, з палітыкай ці эканомікай. Мяне вельмі турбуе, што перарываецца беларуская культурная традыцыя,

у тым ліку і праз слабую пераемнасць пакаленняў. Беларускія школы ў розных галінах ведаў не развіваюцца, або развіваюцца зусім слаба. Святой памяці Уладзімір Конан памёр год таму, засталіся напрацоўкі, кнігі, але хто з яго вучняў актыўна працягвае яго манеру пісьма і думання, яго традыцыі? Хто вучыцца і будзе пераемнікам такіх волатаў як Мікола Крукоўскі, Анатоль Грыцкевіч, Адам Мальдзіс? Гэта людзі, якія працавалі і працуюць не дзеля грошай ці кар'еры, а дзеля Яе Вялікасці Беларусі, і сталіся магутнымі асобамі, сапраўднымі тытанамі, не выязджаючы на сталае жыхарства за мяжу.

Не скажу нічога новага, але азбучную ісціну: душа беларуская — у мове. І пакуль ёсць хоць адна беларуская сям'я, душа жывая.

Вялікае значэнне ў захаванні беларускай душы мае адказнасць не толькі дзяржавы, але грамадскага сектара і кожнага чалавека ў прыватнасці. Не трэба ўсё спісваць на дзяржаву, бо ёсць таксама персанальная адказнасць — і не толькі перад сваёй сям'ёю, сваімі калегамі, сваім народам. Ёсць адказнасць перад Вечнасцю, перад Богам. Ведаю людзей, якія прэтэндуюць на тое, каб быць публічнымі асобамі і нават прадстаўнікамі эліты, але яны цяпер рэдка карыстаюцца беларускай мовай. Чаму так адбываецца? Хіба са сцэны размаўляць на роднай мове цяжэй, чым у вузкім коле паплечнікаў?

***— Можа, ім не зручна размаўляць па-беларуску ў дадзены момант?***

А дыхаць, хадзіць, жыць ім зручна? Гэта здрада! Не проста няспеласць, хіба адказнасці, нацыянальнага, стратэгічнага мыслення, а самая сапраўдная здрада. І такім прадстаўнікам так званага «грамадскага сектара» трэба сядзець дома, а не ганьбіць свой народ. Ад такіх больш шкоды, чым карысці. Успамінаюцца словы Абраама Лінкольна: «Прыйшоў час выказаць свае пачуцці, і, калі я палячу галавой уніз на зямлю з-за гэтай прамовы, тады, прынамсі, я буду падаць з тым, што справядлівае і праўдзівае». Была б амерыканская нацыя такой магутнай, калі б не гэтакі гераізм многіх яе людзей ва ўсе часы? А дзе ваш гераізм, панове? Дзе ваша мужнасць, прыстойнасць, годнасць, гонар?»

Зручнасць — гэта вельмі ўмоўна і адносна. Нязручнае ўсё, што ўздымае чалавека над жывёльным станам, што дае яму магчымасць расці, развівацца, будаваць, ствараць. Нязручна падымацца ўгару. Затое як лёгка адтуль каціцца! Нязручна мець сумленне, бо яно да нечага вымагае. Адным словам, і каб быць чалавекам, і каб быць нацыяй, першапачаткова патрэбна мець волю.

Асабіста мне вельмі зручна карыстацца беларускай мовай. І я адчуваю сябе спакойнай. Я думаю па-беларуску, таму і лёгка размаўляю на роднай мове, якая ёсць асновай нацыянальнай свабоды. Я сваю персанальную адказнасць нясу. І мая сям'я таксама.

**Звычайна жанчыну параўноўваюць з кветкай. Вяргіня. Дакладна, гэта спадарыня Любоў. Толькі ўспомніла сваю суразмоўцу, як у садзе, пры царкве, убачыла высокія, з буйнымі кучаравымі галоўкамі, вяргіні. Яны шчодра аддавалі прасторы свой водар, прываблівалі чмелікаў. Някідкая кветка, якая зачароўвае. Расказала пра гэта спадарыні Любові — яна лагодна заўсміхалася. Жанчына з моцным характарам. Жанчына, цвёрдасці якой пабоймаюцца некаторыя мужчыны...**

***— Спадарыня Любоў, Вы актыўна займаецеся грамадскімі справамі, бярэце на сябе адказнасць у вырашэнні важных пытанняў, але, нейперш, Вы — жанчына, якая мае абавязкі і перад сям'ёй...***

— Безумоўна, прырода так заклала, што мужчына і жанчына маюць свае асаблівасці светаўспрымання. Разам яны ствараюць адно цэлае, гармонію, паўнату. Калі гаворка ідзе пра асобу, то там полавая розніца непрынцыповая. Перш за ўсё я адчуваю сябе асобай — гэта іншы ўзровень светаадчування. У кожнага чалавека ёсць мужчынскі і жаночы пачаткі, толькі яны выяўляюцца ў розных прапорцыях.

Як жанчына-асоба я бачу сваю перавагу ў тым, што накіравана на супрацоўніцтва, камандны спосаб працы. У мяне не дамінуе ген канкурэнтнасці, спаборніцтва, першынства, падаўлення, што характэрна для многіх мужчын, якія любяць цешыць сваё «я». Жаночы пачатак не схільны да дамінавання, да сілавога, гвалтоўнага вырашэння пытанняў, а, хутчэй, да неваяўнічага, мірнага спосабу вырашэння праблем. І гэта якраз сучасны падыход.

Калі казаць зусім шчыра, то мне падабаецца, калі кіруюць мужчыны. Калі яны дастаткова кампетэнтныя і думаюць у першую чаргу пра справу, а не пра сваю ўладу ці пасаду, без якіх, мусіць, не бачаць сваёй каштоўнасці. Калі яны паводзяць сябе мужна, годна, па-рыцарску, прынцыпова, адказна.

***— У грамадстве многія мужчынскія функцыі бяруць на сябе жанчыны.***

— Адбываецца гэта з-за таго, што многія нашыя мужчыны нейкія недамужчынскія. Яны ўсё больш страчваюць унутраны стрыжань, які выяўляецца ў духоўнасці, моцнай волі, адданасці перакананням і ідэалам, высакароднасці, чалавечай міласэрнасці і звычайнай дабрыні.

Мне вельмі не падабаецца абыякавасць, бясконцае прыстасавальніцтва, беспрынцыповасць, бесхрыбетнасць. Трэба быць больш упэўненымі ў сабе, настойлівымі, мець пачуццё элементарнай чалавечай годнасці. Не сакрэт, што беларускі народ — не толькі сялянскі, але і шляхецкі. Трэба адраджаць і прапагандаваць шляхецкія традыцыі. І шляхетнасць як рысу характару. Глядзіш, тады і беларускай салідарнасці, без якой нічога вартага нельга пабудаваць, будзе больш.

***— У жанчыны жыццядайная сіла?***

— Так. У яе моцны інстынкт самазахавання. Менавіта таму жанчына больш схільная да супрацоўніцтва, улагоджвання канфліктных бакоў. Яна адказвае за выхаванне дзяцей і захаванне роду. Я таксама маці, маю двух дзяцей: сына і дачку. Яны выхаваны на хрысціянскіх, беларускіх каштоўнасцях. Але ж ім не так проста сярод пагодкаў знайсці людзей, з якімі было б прыемна і карысна мець стасункі. Гэта праблема. Таму адной з прычын, па якой я займаюся грамадскай дзейнасцю — жаданне, каб мае дзеці жылі ў нармальным грамадстве.

***— У сучаснай беларускай літаратуры, як і ў сапраўдным жыцці, адбываецца падмена характараў: мужчыны набываюць жаночыя ры-***

*У Кракаве. 2012.*



***сы характару, а жанчыны — мужчынскія... А літаратура, як вядома, люстэрка грамадства.***

— Гэта тычыцца не толькі беларускага грамадства, але і еўрапейскага, дзе навідавоку крызіс хрысціянскіх каштоўнасцей, які набывае розныя формы, аж да самых агідных і непрымальных, як легалізацыя аднаполых шлюбаў, напрыклад. На маю думку, гэта заганны шлях, у гэтым пытанні павінен быць разумны кансерватызм. Падмена характараў і роляў у грамадстве — гэта не ёсць добра. (*Любоў Уладыкоўская шмат пісала пра гэта ў кнізе «Духоўныя ідэалы ў сучаснай культуры Беларусі і каштоўнасці глабалізму» (Мінск: БДУ, 2009)* — **заўвага аўтара**).

***— Вашы творчыя планы.***

— Працягваць рабіць тое, чым я займаюся ўсё жыццё: даследаваць беларускую культуру ў самым шырокім яе сэнсе, распаўсюджваць пра яе веды, у тым ліку і за мяжой, наладжваць міжкультурны дыялог. Дзеля гэтага і быў створаны наш Цэнтр міжкультурнага дыялога, а цяпер яшчэ — і ўстанова «Міжкультурны дыялог». Нам патрэбны валанцёры. Запрашаю да супрацоўніцтва.

**Марына Яўсейчык.**



# Таццяна Мацюхіна

крытык, паэтка. Аспірантка Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Вершы друкаваліся ў «ЛІМе», «Маладосці», «Верасні», «Скрыпторыі-4» ; навуковыя артыкулы — у «Родным слове», «Полымі», «Народнай асвеце». Нарадзілася ў 1984 годзе ў Барысаве. Жыве ў Мінску.

# На шляху жыццёвых падарожжаў

***Філон, Н. М. Кроплі святла / Надзея Філон; пад рэд. Р. Ю. Малахоўскага. — Мінск, 2012. — 64 с. — (Маладая паэзія Беларусі).***

Сярод дасведчаных літаратуразнаўцаў існуе меркаванне: кніга любога пісьменніка здольная раскрыць аўтарскія таямніцы не толькі ў мастацка-эстэтычным, але і ў падсвядомым рэлігійна-культуралагічным плане. Тым больш што сучасная паэзія змяшчае ў сабе разнапланавыя паняцці (гендэр, нацыянальнае, інтэрнацыянальнае, агульначалавечае і інш.) і катэгорыі (час, прастора), а вершы нярэдка выстройваюцца ў сюжэтапабудове ў адзін рад па прынцыпу «спіралі», вынайдзенага У. Эка. Вось і прачытанне паэтычнага зборніка «Кроплі святла» Надзеі Філон дае магчымасць адчуць духоўныя арыенціры грамадства з вышыні тэалогіі, веравызнання ў паступовым, нетаропкім раскрыцці фабулы вершаў, а таксама пры вызначэнні своеасаблівасцей вобразаў і матываў аўтара: *Калі ўзыходзіць сонца над зямлёй // І бачу ў небе* ***светлае праменне****, // Імкнуся да Цябе я, Божа мой, //* ***Дзень новы*** *сустракаю на каленях* [с. 43].

Асноўны матыў у лірыцы Надзеі Філон — шляхі спасціжэння Боскага запавету, духоўных законаў на Зямлі (вершы «Калі, Хрыстос, сустрэлася з Табою...», «Калі ўзыходзіць сонца над зямлёй...»). Паэзія гэтага аўтара раскрывае характэрныя для экзістэнцыялістаў праблемы — вызваленне ад смерці і звязаных з ёю ўмоўнасцей (вершы «Хвіліны дня не затрымаю...», «Не паміраюць людзі — пераходзяць...»), абсурд чалавечага існавання без мэты жыцця (верш «Белы снег у паветры — смугою...»), ісціна і выбар (верш «Кожны дзень — маленькае жыццё...»), вызваленне ад пакутаў (верш «Белая сняжынка на далоні...»). Аднак, экзістэнцыйныя матывы ў лірыцы Н. Філон гучаць як заклік радавацца жыццю, шанаваць кожны момант шчасліва пражытага дня: *З Табой* [Хрыстос. — Т. М.] *заўсёды ў сэрцы радасць маю, // Хоць на шляху ёсць цяжкасцей нямала, // Але мяне Ты за руку трымаеш, // Каб я не спатыкнулася, не ўпала* [с. 53].

Калі чытаеш паэзію Надзеі Філон, узнікаюць вечныя пытанні: ці свабодны чалавек ад законаў і нормаў, прынятых грамадствам? Што рухае асобай у хвіліны выбару?Адказаць на іх можна, звярнуўшыся да зместу кнігі аўтара. У паэтычным зборніку «Кроплі святла» Н. Філон тэматычна закранае філасофскую праблематыку (вершы «Глебы вага і глыбы...», «На абсягах вечнасці», «Так ярка і пяшчотна сонца свеціць...») і актуалізуе пытанне смяротнасці і вечнага жыцця (верш «Не паміраюць людзі — пераходзяць...»). Тут сустракаюцца і пейзажныя вершы («Восень сустракае пазалотай...», «Зімовы лес. Прыроды таямніца...», «Я прашу абдымі мяне,

восень...») і вершы прыватнага, асабістага характару («Ляжаць лілеі сціпла на руках...», «Імклівы позірк выпадкова кінуў...», «Я вельмі рада нашае сустрэчы...»). Але ўсе яны — да аднаго — пранізаныя святлом Боскіх адкрыццяў: *У позірку Тваім ласкавым,* ***Божа,*** *//* ***Тваіх занепакоеных вачэй*** *// Я прабачэнне і любоў знаходжу // У шумным дні і цішыні начэй* [с. 49].

Зборнік вершаў «Кроплі святла» Н. Філон, маладой беларускай паэтэсы, вызначаецца малітоўнасцю, верай у наканаванасць жыццёвага шляху, асветленага Боскім дабраслаўленнем (вершы «Прысутнасць», «Прастора, ісціна і вера...», «Калі ўзыходзіць сонца над зямлёй...»). Сапраўды, паэтычны зборнік мае не толькі адметную назву, — ён нібы «сатканы», сплецены з размаітых духоўных вершаў, пейзажных замалёвак, інтымных прызнанняў у каханні. «Кроплі святла» ў разуменні Н. Філон — гэта і пяшчота («Кожны дзень — маленькае жыццё...»), і падтрымка сябра («Не бывае дарэмных сяброў...»), і прабачэнне («Сэрца часам б'ецца, як крышталь...»), і шчырая сардэчнасць з душэўнай чысцінёй («Белая сняжынка на далоні...», «Водгук развітання»), і, безумоўна, любоў і прысутнасць Бога ў кожным імгненні і кожнай з'яве жыцця («Ты па коле замкнёным ідзеш і ідзеш...», «Калі, Хрыстос, сустрэлася з Табою...», «Калі ўзыходзіць сонца над зямлёй...»).

Усёпаглынаючае пачуццё любові, якое пануе ў свеце маладой паэткі, перадаецца чытачу праз кожнае яе слова, сказанае ў руху ці нерухомасці, у цішыні ці шуме, у эмоцыі ці лагічным довадзе: *Люблю пад вечар слухаць цішыню, // Ёй прыхавана веліч і магутнасць... // Як слова ёсць падобнае агню, // Так у цішы спакою ёсць прысутнасць* [с. 26].

Творчая манера пісьма Н. Філон уражвае тым, што яна вядзе «жывы» дыялог — ці нават палілог — з рэальным, а не ўяўным чытачом. Кожны новы верш аўтара так ці інакш звязаны з папярэднім вершам па сэнсе, таму ў градацыі вобразаў узмацняюцца пачуцці паэткі, ім надаюцца новыя адценні. Н. Філон сцвярджае: ***Прастора, ісціна і вера*** *— // Тры складнікі душы маёй* [с. 38]. Менавіта «спалучэнне неспалучальнага» надае вершам аўтара прыкмету ўнікальнай індывідуальнасці, што мае пэўнае дачыненне да з'яднанасці эмоцый і лагічных гіпотэз у яе паэтычным свеце («Прастора, ісціна і вера...», «Трыялет»). Н. Філон разумее прыгажосць у тых праявах быцця, на якія звычайны чалавек у паўсядзённай мітусні не зверне ўвагі: *Праз пальцы прапускаю я пясок, //* ***Пясчаны колер мне казыча рук****і, // І чуюцца, як быццам незнарок, // Яго* ***сыпучыя, як шэпт празрысты, гукі****...*[с. 16]. Відавочна, «сыпучыя, як шэпт празрысты, гукі», гучаць у душы аўтара ў хвіліны выбару, калі асобе неабходная цвёрдая глеба пад нагамі, а душа імкнецца ў неба...

Тонкае адчуванне рэчаіснасці знаходзіць сваё ўвасабленне ў вобразах, пазначаных дынамічнай рэлігійнай скіраванасцю аўтарскага «Я» на сусвет і на статычна-метафізічнае ўяўленне аб прадметах, рэчах, з'явах фізічнага

свету («ліхтар» і «адбіткі снежныя» — у вершы «Пад ліхтаром блішчаць адбіткі снежныя...»; «Віфліема агні», «Віфліемская зорачка» — у вершы «Агні мінуўшчыны»; «Галгофа» — у вершы «Ты ведаў, Божа, сэрца майго боль...»).

Яшчэ адна важная ўласцівасць лірыкі гомельскай паэткі датычыцца значнай сканцэнтраванасці ў вершах дэталей (вершы «Па стомленай ад сонейка зямлі...», «Маё жыццё — сукупнасць кропель дробных...»), элементаў пейзажу ці партрэта (вершы «У роздуме глыбокім ты стаіш...», «Шчаслівая», — мне кажуць людзі ўслед...», «Так ярка і пяшчотна сонца свеціць...» ). З аднаго боку, прадметна-рэчыўны свет паэткі фарміруе адметнае ўяўленне пра розныя часіны года (зіму — у вершы «Пад ліхтаром блішчаць адбіткі снежныя...», восень — «Восень сустракае пазалотай...», вясну — «Па стомленай ад сонейка зямлі...»), стыхіі (паветра — у вершы «Белы снег у паветры — смугою...», зямлі — «Па стомленай ад сонейка зямлі...», агню — у вершы «Агні мінуўшчыны», вады — «Моцны вецер прынёс прахалоду...»), прасторава-часавыя характарыстыкі (слова, прыпадобненае да агню, — у вершы «Звычайная змена»). А з другога боку, у гэтым свеце кожнага з нас *«чакае міласэрны Бог»* [с. 51]. У вершы-медытацыі «Сустрэча з небам» аўтар прыпыняе час, калі звяртаецца да Хрыста, і заклікае сузіраць хараство не толькі ў прызме ўбачанага, але і скрытага, схаванага ад сотняў вачэй: *Глядзі часцей на неба прыгажосць, // Глядзі ты ўвышыню вачамі сэрца. // На гэтым свеце безліч сцежак ёсць, // Што дапамогуць нам з Хрыстом сустрэцца!* [с. 51]. Дзякуючы рэтардацыі, ці запаволенню дзеяння, у памяці стагоддзяў «занатоўваецца» і момант, і месца, дзе становіцца магчымым дзеянне, і існуючыя, рэальныя суразмоўцы. Акрамя трох названых складнікаў, неабходных для дыялога, у паэтычным свеце Н. Філон з'яўляецца відавочца — асоба, якая гарманічна сузірае і ўспрымае свет, даючы пры гэтым чытачу свабоду ў выяўленні пачуццяў, і якая паспяхова пераадольвае адчуванне глабальнага духоўнага крызісу. Чытач, да якога звяртаецца Н. Філон, не раўнадушны (!) да людзей і гарманічны па сваёй сутнасці, але знаходзіцца ў вечным пошуку адказаў на свае пытанні, як і аўтар (вершы «Дабраславенняў зычу Вам з нябёс...», «Вабіць неба начнога прастор...»).

У паэтычным зборніку «Кроплі святла» Н. Філон дае філасофскую па сваім змесце характарыстыку сцежкам-пуцявінам, па якіх ходзіць большасць людзей: *З Тваёй падтрымкай існую на свеце, // Хоць часам з болем мне даюцца крокі. // Я без Цябе, Хрыстос, блукала б недзе // Па сцежках грэшных, брудных і шырокіх* [с. 52]. Але яе лірыка вызначаецца яшчэ і аналітычным пачаткам, рацыянальным падыходам пры ацэнцы станоўчых і адмоўных якасцей асобы (верш «Чыгуначнаю стужкай шлях віецца...»). Паэтэса адчувае сябе часцінкаю сусветнага працэсу пры паяднанасці лю-

дзей у хрысціянскай веры і ўзгадвае другое імя Бога — Эмануэль: *Цікавае у імені значэнне: // «Эмануэль» — заўсёды «з намі Бог». // Бо з моманту Хрыстова Нараджэння // Надзея ёсць сярод людскіх дарог* [с. 32].

Н. Філон сузірае свет з пазіцыі апавядальніка-назіральніка і дае параду незнаёмаму ёй у поўнай меры чалавеку, як знайсці выйсце, дарогу да Бога (вершы «Ты па коле замкнёным ідзеш і ідзеш...», «У роздуме глыбокім ты стаіш...»). У яе разуменні «зіма», «нябёсы зімовыя» (верш «Пад ліхтаром блішчаць адбіткі снежныя...»), «белыя ласкавыя сняжынкі» (верш «Зімовы лес. Прыроды таямніца...») сімвалізуюць сакральнае ачышчэнне душы ад бруду, крыўдаў, злых учынкаў. Зіме як часіне года надаецца здольнасць з расталым снегам змываць з сэрца, душы ўсе крыўды, загойваць раны, суцішваць боль...

Калі чытаеш вершы Н. Філон, з'яўляецца адчуванне таго, што пах, эфір — адзнака абавязковай прысутнасці чытача ў прасторы аўтара: *Ляжаць лілеі сціпла на руках, // Як сімвал **вернасці**. // <u>Салодкі крыху, лёгкі кветак пах</u>, // Як <u>водар</u> **рэўнасці*** [с. 41]. Увогуле рэўнасць не проста адмоўнае пачуццё, але і жаданне кантраляваць другога чалавека, пазбавіўшы яго свабоды выбару. Таму «вернасць» і «рэўнасць» выступаюць у лірыцы Н. Філон у якасці антыподаў (верш «Ляжаць лілеі сціпла на руках...»).

Н. Філон проціпастаўляе ў сваёй лірыцы і іншыя ўласцівасці, маральныя якасці, характэрныя для пэўнай асобы: шчырасць, надзея, чысціня, узаемнасць, адданасць (вершы «Пад ліхтаром блішчаць адбіткі снежныя...», «Сняжынкі, нібы зорачкі крыштальныя...», «Сустрэча з небам» і інш.) — з аднаго боку, і крыўда, асуджэнне, рэўнасць, незразумеласць, абыякавасць (вершы «Ляжаць лілеі сціпла на руках...», «Пакрыўдзіў, асудзіў і праміnуў...» і інш.) — з другога, утвараюць семантычныя рады антонімаў у іх градацыйным характары. Так, [*шчырасць-адданасць*], а таксама [*крыўда-абыякавасць*] з'яўляюцца сінонімамі, але між сабой выступаюць як сэнсавыя «антаганісты» ў вершы «Адрынуты»: *Дзіця заснула на маіх руках... // Яно ляжыць маленькае такое, // Але ужо адчуць паспела жах, // Адрынутасці боль і сэрца злое* [с. 11].

Далягляд, у бязмежнасць якога ўзіраецца паэтка, вабіць сваёй невядомасцю, неадназначнасцю ва ўспрыманні (верш «Хвіліны дня не затрымаю...»), і яна, разам з імклівым ранкам, радасна «*вітае сонечнай усмешкай бясконцасць зменлівых шляхоў*» [с. 24]. Надзея Філон звяртаецца да ўспамінаў пра дзяцінства і юнацтва (верш «Успаміны дзяцінства, як сонечны дзень...»), каб суаднесці свае думкі, намеры, мары ў розныя перыяды жыцця, у працэсе свайго сталення. Яе радуюць станоўчыя, пазітыўныя змены і ў жыццёвым кругазвароце, і ў прыродзе, і ў сваім духоўным свеце (вершы «Углядаюся ў жыццё праз прызму вечнага...», «Прысутнасць»).

Н. Філон адчувае прысутнасць Бога ў любых праявах свету: *Люблю я ўдзень за рухам назіраць, // Пчалой руплівай, працай чалавека. // Адны працуюць, як на іх глядзяць, // Адданы справам іншыя спрадвеку* [с. 26]. Аўтар вершаў верыць у вечнасць жыцця (верш «Не паміраюць людзі — пераходзяць...»). Яна звязвае ў адно і думку, і слова, і ўчынкі людзей.

Зноў і зноў хочацца вяртацца ў гэты маленькі Рай, створаны маладой паэткай. Уседаравальная ўсмешка ці стрыманае ў хвіліне маўчанне, слова, выказанае з пяшчотай, ці выпадкова сустрэты чалавекам добразычлівы позірк — усе гэтыя «драбніцы» надаюць чалавеку духоўную моц, упэўніваюць у тым, што існуе Боскае дабраслаўленне. Але кожны чалавек самастойна робіць выбар. І на які бок схіляцца шалі — дабра ці зла, — залежыць толькі ад самой асобы, якая жыве, расце і развіваецца ў кожным імгненні свайго жыцця.



# Вітаўт Мартыненка

публіцыст, паэт, перакладчык, музычны крытык. Працаваў у моладзевай прэсе 80—90-х гадоў, на «Радыё Свабода». Аўтар кніг «Праз рок-прызму» (сумесна з А. Мяльгуем), «Свой сярод чужых», «222 альбомы беларускага року і ня толькі» (сумесна з А. Мяльгуем), «Rock on-line». Падрыхтаваў і выдаў поўны беларускі тэкст рамана Генрыха Сянкевіча «Quo Vadis». Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Дыскаграфія

## Каляды з Данчыкам праз 15 гадоў

*Данчык «Калядныя песні», Мн., 2012, «БМAgroup» паводле ліцэнзіі «RL/RFE», 1998.*

У раздзел лёгкай музыкі ўжо неаднаразова перавыдаванай кнігі «222 альбомы беларускага року» ажно шэсць альбомаў прадставіў знакаміты спявак з Амерыкі, залаты беларускі голас — Данчык, а нашыя меламаны так і не вераць таму факту. Бо нават не ў кожнага з сусветных славутасцяў столькі набярэцца (напрыклад, калі адкінуць розныя складанкі й самвыдаты, 3LP каралёў амерыканскага арт-року «Pavlov's dog», пяток кружэлак ад французскага электроншчыка Jean Michel Jarre, 4 CD легендарнага Марка Болана з ягоным «T.Rex»). А пакуль Хама-недаверак сумняваецца, сапраўдныя калекцыянеры шукаюць абяцаную «БМAgroup» серыю 6CD-перавыданняў, ды ажно з бонусамі. Шукаюць і знаходзяць, бо ўжо выйшлі ды паспелі парадаваць тысячы калекцыянераў беларускай фанаграфіі пяць якасных вытвораў амерыканскіх студыяў (альбомы Данчыка «Беларусачка», 1978; «Я ад вас далёка», 1985; «Мы адной табе належым», 1989; «Ровесники», 1991; «Мы яшчэ сустрэнемся», 1992). А пра шосты дыск насамрэч не ведаў нават Данчык, бо запісвала яго з падачы Змітра Марчука (старшыні фан-клуба «Данчык-forever») адна мюнхенская студыя з мінскага канцэрта артыста ў вялікай зале Белдзяржфілармоніі. Альбом мае назву «Калядныя песні».

Калі нехта сумняваецца, што канцэртны альбом можа мець нейкую самастойную каштоўнасць (маўляў, заўсёды знойдзецца месца для розных паўтораў з канцэптуальных рэлізаў), дык адразу мушу засведчыць, што тыя 19 песень вы не знойдзеце больш нідзе. Ну хіба што ў беларускай песні «Крывічаначка» можна пазнаць украінскую «Галічаначка» 1991, але ж пераклад Сяржука Сокалава-Воюша таксама чагосьці варты:

*Ці Днярпо віруе сіні між палёў-лугоў,*
*Ці Дзвіна цалуе плынню стромы берагоў,*
*З даўніх дзён у неспакоі ясна паннчка —*
*У чаканні слаўных вояў крывічаначка.*

Total свяжак падорыць і нямала іншых перакладаў, але хто з вас чуў на роднай мове знакамітыя колісь хіты «Milisse mou» Наны Мускуры, «Les Feuilles Mortes» Эдзіт Піяф ды іншыя? А некаторыя сусветныя песенныя шэдэўры гучаць і без перакладу: «The Boxer» амерыканскага дуэ-

та 60-х Simon/Garfunkel, «Yesterday» ад вялікіх брытанскіх бітлоў Lennon/McCartney, габрэйскі танец «Hava Nagila!», іспанскі «Gracias a la vida» ад Віялеты Парра. Данчык выконвае іх бездакорна, захоўваючы пры тым сваю адметную манеру й шарм.

Варта дадаць таксама, што акрамя С. Сокалава-Воюша над беларусізацыяй сусветных шлягераў для Данчыка працавалі й іншыя знакамітасці — даследчык французскай паэзіі Мацвей Смаршчок з Амерыкі, геніяльная паэтка Наталля Арсеннева адтуль жа. Гучаць і ніколі тут нячутыя песні на вершы Максіма Багдановіча («Не кувай ты, шэрая зязюля» — mega-hit), Уладзіміра Дубоўкі («О Беларусь, мая шыпшына!»), напісаныя таленавітымі кампазітарамі-эмігрантамі Міколам Куліковічам, Міколам Равенскім.




Ёсць у альбоме і творы сучасных талентаў на метраполіі. Як, напрыклад, улюбёны турыстычны хіт «Забыты дом» наваполацкага барда Алега Паўлёнка, «Крыніцы» ягонага земляка Сокалава-Воюша, ананімна распаўсюджаны тут за савецкім часам нацыянальны вайсковы гімн «У гушчарах», які напісаў, аказваецца, усё той жа М. Куліковіч на вершы Н. Арсенневай.

А як жа Каляды? — спытаеце вы. Але Данчык не толькі сам тлумачыць на тым канцэрце (снежань, 1996) прыналежнасць кожнай песні да тэмы свята, а і выконвае сапраўдную класіку жанра: фальклорныя «Учора з вячора», «Свецяць зорачкі», «Саўка ды Грышка»), міжнародныя ў беларускіх перакладах «Ціхая ноч» (з нямецкай), «Святая ноч» (з французскай). Прычым, калі папярэдні мюнхенскі рэліз прэзентаваў толькі аудыётрэкі, дык на CD-перавыданне трапілі й жывыя відэазапісы наўпрост з нью-йоркскай кватэры Данчыка ажно сямі твораў — «Неба й зямля», «У свеце нам» і некаторыя з пералічаных.

Лічбавы рэмайстарынг канцэртных запісаў Змітра Новіка зрабіў Андрэй Плясанаў (студыя «P.L.A.N.»), а мантаж амерыканскіх відэазапісаў належыць Андрэю Старавойтаву з студыі «Ravenlord». Дзякуючы ім, наколькі мы памятаем, быў насамрэч уратаваны ад забыцця не толькі альбом «Калядныя песні», але й прыгаданы тут «Ровесники», на якія не захавалася лічбавых зыходнікаў. І вось поўная дыскаграфія Данчыка — усе шэсць альбомаў, каля 100 песень, унікальныя інтэрв'ю, відэазапісы, дакументальныя фільмы, рэдкія фоткі — даступны беларускім меламанам, якія збяруць поўную калекцыю дыскаў нашай амерыканскай зоркі ад «БМАgroup».

## Усё яшчэ не «завялі панкі»...

*«Monkey Bite», Мн., 2011, «Osmos-studio».*

Яшчэ ў 1983-м газета «Знамя юности» аж двойчы выдала сваім чытачам сакраментальную сентэнцыю: «Адгрымеў хард-рок, завялі панкі, на музычным рынку запанавала стылістычнае безчасоўе, якое хутка запоўніла disco-музыка». Дзе падзелася тое напаўненне, ніхто цяпер не скажа, але найпапулярнейшым у моладзевым асяродку стылі стаў neo-punk.

У афішы цырымоніі «UltraMusicAwards'2011», што праходзіла ў сакавіку 2012-га ў сталічнаым клубе «Re:Public», побач з ужо культавымі выканаўцамі кшталту Аляксандра Памідорава, гуртоў «Troitsa», «IQ48», былі сярод намінантаў і нейкія навічкі, якія выдалі свае першыя сінглы або стварылі першы кліп. Гэта хоць не было яшчэ нейкай таямнічай заманухай, але прыемным чаканням не замінала. Сярод першых падняўся тады на сцэну малады панк-гурт «Monkey Bite» і... ўжо пасля выступу пра іх загаварылі: «О, ля развалінаў гурта «N.R.M.» з'явілася замена». Нехта нават пацягнуўся да музычнага шапіку пацікавіцца тым дэбютным сінглам гэтых сваякоў з чужынскім імем. І вось ён у маіх руках таксама, бо хлопцы, аказваецца, не спяваюць на незразумелай нават ім мове, гуляючы ў малпаванне сусветных куміраў, а цвяроза аналізуюць навакольнае жыццё ў беларускім кантэксце.

Першыя згадкі на пераемнасць з «N.R.M.», скажу шчыра, падаліся мне хуткаспелымі, нават калі меркаваць толькі паводле стылістыкі. Музыка «Monkey Bite» выразна больш пазначана ўплывамі сучаснага аблегчанага нэа-панку, у той час як «N.R.M.» яшчэ «ў мройны перыяд» самастойна рабіў татальна авангардныя кактэйлі, змешваючы злосны олдскульны панк з хэві-метал-рокам, папярэджваючы тым і пазнейшае ўзнікненне стылю grunge. Ну, а што пра тэксты песень, дык да змястоўнасці «N.R.M.» тут нават без маладняка не ўсе прызнаныя зоркі дацягнуцца, бо невыпадкова ж тыя песні расцягалі на цытаты: «Мы жывем някепска, мы жывем няблага, Кожны вечар брага, а шторанак смага», «Маё пакаленне ў цемры расло, цяпер яму цемра таксама святло», «Лепей не будзе, будзе толькі горш».

Стартавая песня новага рэлізу «Monkey Bite» (а яны, аказваецца, вядуць сваю гісторыю яшчэ з пачатку стагоддзя, калі выступалі на розных «Вольных танцах» побач, як напісана ва ўступным артыкуле, «з нашымі сябрамі «Цмокамі» і нашымі кумірамі «Zet»...») ледзь не расчаравала і ў сэнсавым параўнанні з «N.R.M.», бо змест гэтага, прызнаю, энергетычнага трэка апынуўся надта аморфным і невыразным: «Час праз пальцы цячэ, / Можа будзе яшчэ. /У наступным жыцці. /Ніколі. /Мы зноў крочым туды, /Дзе плывуць караблі /Між аблокаў і хмар /Над намі». Сэнсава, але невыразна.

І раптам наступны «Вася» спыніў расчараванні, падарыўшы нават нечаканыя адкрыцці. Па-першае, віртуозны прыпеў «Азі-гунга-рунге! Азі-гунга-рунга!» у тэкставым файле кружэлкі адкрыў мне чарговых паслядоўнікаў нашай з Анатолем Мяльгуем акцыі вяртання скрадзенай бальшавікамі з нашага алфавіта літары Ѓ, якую з 1999 года мы ўпершыню выкарысталі ў сваёй кнізе «222 альбомы беларускага року». І вось цяпер яна й на гэтым CD. Дый сацыяльная вастрыня ды выразнасць тэксту на ўзроўні:




*Пашу я на заводзе*
*З дзявятай да шасці.*
*Мы з ім жывем у згодзе.*
*Гадзіннік мой: «цік-цік...»*

Што да дзіўнага прыпеву, дык сэнс ягоны падказаў нядаўні канцэрт гурта «P.L.A.N.» у палацы культуры МТЗ, калі на разагрэве нейкі Сяргей Занямонец выконваў пад гітару гэткія ж варыяцыі на тэму песень колісь папулярнага бразільскага серыяла «Рабыня Ізаўра»: «Азі-гунга-рунге! Азі-гунга-рунга!». А каб я не быў аўтарам многіх тэкстаў гурта «P.L.A.N.», наўрад ці б зразумеў і сэнс таго прыпеву «Monkey Bite». Аказваецца, пра задаволеных рабоў песня.

Завяршаючы тэму паслядоўнікаў, мімаволі прыгадваю й сваё апавяданне «Вася», якое друкавалася ў моладзевай прэсе 80-х, пра такога ж, з усім згоднага, Васю. А мо гэта выпадковасць?

Гэтак званая (у іхнім уступным слове) умоўна-моўная песня «Гарбаты!» імпэтна разгортвае перад слухачом парадаксальнасць сітуацыі, калі так і не даведзенае да раўнапраўя дзвюхмоўе робіць з свядомых грамадзян краіны нейкіх гарбылёў (на погляд недаразвітых у роднай мове суграмадзян): «— Гарбаты! — Што? — Гарбаты! — Хто? /— Гарбаты. — Я! Я сказаў, гарбаты!». І твор на кружэлцы, дарэчы, засвяціўся ў дзвюх версіях — панкаўскай і джазавай. Апошняя, праўда, не пазначана ў трэк-спісе (бо жартоўная), але гучыць шостым трэкам гэтага сінгла.

Але перад шостым трэба не забыць гераічна-бясстрашную песню «Камяні» ды эпічна-развітальную «Бывай». Не буду руйнаваць інтрыгу слухача пераказам зместу, бо кожны, бадай, адшукае тут свой сэнс. Лепш вярнуцца да старонак біяграфіі калектыву, які пры сваім немалым досведзе ўсё ж трапіў на прэстыжнае мерапрыемства ў рангу дэбютанта. Дзе яны гулялі тыя сем год?

Мінскі панк-рок-гурт «Monkey Bite», як напісана ў іхнім прэс-рэлізе, з часу свайго заснавання змяніў шэраг назваў («Лакаліці», «Блазны», «Zloma») і

некалькі музыкаў, былі развясёлыя рэпетыцыі, першыя выступы для «мясцовых», канцэрты ў «Графіці» й «Рэактары», а потым, пасля перапынку, сабраўся наноў увосень 2010 года.

«Мы нікуды не знікалі, — тлумачаць яны далей, — мы проста выходзілі па піва. І вось мы вярнуліся! З адноўленым складам, драпежнай назвай, і вірам новых ідэй!»

Адноўлены склад (чысцейшы бітлаўскі мінімалізм) цяпер такі: вакаліст Яўген Доўнар, а з ім — Сяржук Лапуць (гітара, спеў, аўтар песень), Іван Салдаценка (бас), Андрэй Карпук (бубны).

Пасля некалькіх удалых жывых сэйшнаў, яны вырашылі запісаць ЕР ў студыі «ОСМОС», дзе над гукам працаваў вядомы гукарэжысёр Гарык Плевін. «Нам хацелася захаваць канцэртную энергетыку, таму запісвалася ўсё на тры-чатыры разам у лінію, а потым тое-сёе даараблялася, — кажа Сяржук Лапуць. — Як і мае быць для ЕРшніка, гучанне атрымалася ЕРічнае. Нейкай агульнай канцэпцыі няма, бо ў кружэлку ўвайшлі абсалютна розныя песні: і паводле драйву, і паводле атмасферы. Але гэта ўсё тое, што не дае нам спакою, што жыве ў нашых галовах і сэрцах».

Яны ўжо наладзілі сталую прысутнасць у сеціве (у «Кантакце» http://www.vkontakte.ru/monkey_bite; на «MySpace» http://www.myspace.com/monkey-bite; на «ЛастФМ» http://www.last.fm/music/monkey+bite) і плануюць далейшыя сцэнічныя заваёвы. Бадай, гэта ўдасца, калі за 2011 год змаглі ўціснуцца ў імпрэзы побач з такімі брэндамі, як «Палац», «Re1ikt» ды іншыя. І, нягледзячы на банальную чужацкую назву, мы зможам дачакацца ад іх спраўдных беларускіх адкрыццяў. Тым больш, што абраны стыль (нэа-панк) цяпер сапраўды найбольш актуальная музычная замануха ў моладзі.

## Рамантыка паганскіх фантазій

*«Znich» — «Мроя», Мн./Москва, 2011, «БМAgroup»/»Coyote records»*

Калі рэцэнзуеш альбом нейкага навічка, дык ёсць шанц, прынамсі, здзівіць чытача той самай навізной, а што новага скажаш пра, напрыклад, пяты альбом мегасуперзоркі? Аж вось кароль беларускага экстрыму «Znich» не проста ўражвае сваім пятым паўнафарматнікам («Мроя», 2011), а рэальна дзівіць, дзівіць і дзівіць на кожным кроку, падкідваючы і захапляючыя эмоцыі ад наватарскіх рыфаў, і заслужаную павагу да ўзрослага прафесіяналізму, і нават нейкія новыя аспекты філасофскіх разважанняў.

Пачнем з банальнага, каб адразу не замінала: па-першае, цалкам новую канцэптуальную праграму кружэлкі не назавеш кароткай (больш за 48 хвілінаў), хоць выдаўцы (як нашы — «БМAgroup», гэтак і расійскія — «Coyote

records») вырашылі пакінуць тут і пару бонусаў у выглядзе фірменных «знічоўскіх» тотал-топаў: 4 хвіліны «Крыжы-абярэгі» і 3 хвіліны «Крыва-крывейта». Але хто ж, частуючыся смачным баршчом, адмовіцца ад лішняй лыжкі смятаны ў ім?

Па-другое, шчодрыя славянскія «варнерброзы» дадалі яшчэ ў дыск чатыры шыкоўныя фоткі гурта «Znich» і ўжо нашумелы відэакліп «Мроя» з загалоўнай песняй гэтага альбома:

*Мая Мроя з табой, агонь віруе змрокам ды болем,*
*Мая Мроя з табой, я адчуваю гэтую моц — Сваю,*
*Мая Мроя з табой, я адчуваю гэтую моц — Тваю.*




Вам цікава, пра каго гэта? Ну, ясна ж, відаць, пра Зямлю родную, пра Неба, пра Сонца, традыцыйна. А слухач, дарэчы, які чуў пра вяселле Алеся Таболіча, лідара і вакаліста гурта, мімаволі заўважае ПАРУ ў гэтым філасофскім вобразе: Ты і Я, Тваё і Маё. І, пэўна ж, невыпадкова, што Алеся Гурская-Таболіч стала цэнтральным вобразам кліпа, як князёўна гуляючы ў славутым Гальшанскім замку, апяяным вялікім Караткевічам. Уражвае ў кліпе і велічнасць старажытных муроў, зруйнаваных няўдзячнымі нашчадкамі ды хцівымі захопнікамі з «братняй» славянізаванай Залатой Арды, і ўдала разыграныя музыкамі характары роляў. Але найярчэйшым упрыгажэннем экспрэсіўнай музыкі кліпа стала акурат тая князёўна Алеся Таболіч, сапраўдны эталон не чужынскай, а менавіта крывіцкай прыгажосці, пра тыпажы якой я калісьці слухаў лекцыі фотамастака Алеся Крыштаповіча. У ейным вобразе — ні схематызаваных жэстаў, ні нейкіх стандартных клішэ, а аднекуль вынайдзеная й захаваная рамантыка белых русаў, якія вечна змагаліся за сваё права захаваць уласны вобраз этнічнай ці расавай чысціні.

Дарэчы, дух Алесі ў новых творах Алеся адчуваецца паўсюдна, напаўняючы дадатковым аптымізмам выніковы вытвор: «Сярод пустэчы на Зямлі агмень у сэрцы запалі»... Тут, як бачым, не губляецца і ваяўнічы запал ягонай творчасці: «Ты абуджана крывёй, твая постаць прада мной», «Гэй, Ярыла, ты жыццё дарыў нам, нашую моц ты блаславіў», «Маланка б'е ў аблокі стрэламі сваімі,/ Бог вайны ўздымае дзіды і вострыя мячы», «Ушануй сваіх герояў, дай нам моцы ў гэтай барацьбе».

А што ж Алеся? Алеся падтрымлівае Алеся ў ягоных памкненнях, напісаўшы нават не менш ваяўнічы тэкст песні «Гэты лёс» у дадзеным альбоме:

*Белае неба ў крыві — гэта сцяг нашай вайны,*
*Скрозь туман станем гарой*
*Бараніць край родны свой.*

Цікава, што Алесь і Алеся Таболічы не толькі фармальна спяваюць «мы ідзем з табою разам», не толькі разам пішуць такія песні, але й проста заўсёды разам. Не верыце? Завітайце на любы канцэрт гурта «Znich». Я нават неяк быў сведкам, як яны пасварыліся ў клубе, але, дзякаваць Богу, ненадоўга. У любой здаровай краіне, яны б заўжды сядзелі ў тэлерадыёэфіры не толькі ў музычных перадачах як стваральнікі культавых нацыянальных песень, але й у сямейных talk-show як узорная беларуская пара.

Зрэшты, «Znich» — гэта ж не толькі Алесь і Алеся Таболічы. Усе мы цудоўна ведаем за дзесяцігоддзі плённай творчасці й такія культавыя персанажы, як клавішнік Аляксандр Беленькі, бубнар Аляксандр Гарох (абодва яшчэ з дэбютнага альбому «Язычнік я...»), пазней далучаныя гітарыст Сяргей Стэц, дудар Кастусь Трамбіцкі, басіст Цімур Ганбараў. На большай палове альбомаў гурта сустракаем і імя дызайнера Змітра Траяновіча — то як аўтара мастацкай аздобы, то нават як аўтара тэкстаў, то проста як аб'екта ўдзячнасці музыкаў. Вось і ў «Мроі» ён разам з Таболічам рабіў канцэптуальную мастацкую аздобу альбома, пільна датрыманую і ў расійскім, і ў беларускім выданнях.

Па-за стабільнымі метал-фанаўскімі ўражаннямі напрошваецца тут на ўвагу і сур'ёзная культуралогія. Ці задумваліся вы аб невыпадковасці назвы «Мроя» ў гэтым альбоме. На адным з метал-канцэртаў я й запытаў Алеся Таболіча гэтак наўпрост, ці мае ён CD-перавыданне культавага альбома беларускага року 80-х «28-я зорка» гурта «Мроя»? Адказ быў чаканы: «Безумоўна!» А ў буклеце таго перавыдання я пісаў пра складаныя шляхі піянераў нацыянальнага маскульта, пра якіх дзёўбаная партакратыя варганіла змрочныя й бязглуздыя пасквілі накшталт «Выкананне гуртом МРОЯ каляднай песні ў стылі рок можна назваць поўнай прафанацыяй музыкі». І вось «Znich» у сваёй «Мроі» бярэ тую ж калядную песню, каб выканаць яе ў стылі metal. Маўляў, вось вам, партыйныя аўтарытэты эхSperty.bы, якія дасёння ў справе.

Па шчырасці, гэты прэцэдэнт нагадвае толькі віртуозны рок-класічны цытатнік гурта «Mauzer» у альбоме «Porna» (памятаеце, «калі раптам адчуеш камунальныя пахі, усміхайся» з таго ж «N.R.M.»). А культура, нават маскультура, яна ж акурат і моцная здольнасцю пераемнасці пакаленняў.

І хоць я спыніўся на асобных уражаннях ад новага альбома гурта «Znich», мушу адзначыць і ягоную агульную канцэптуальную цэльнасць, падкрэсленую бліскучымі пралогам і эпілогам. Гэта рэальна маштабнае палатно пра нашае сучаснае жыццё ў стылістыцы фэнтэзі. Толькі гэта нашыя беларускія фантазіі, але ўжо ў насамрэч фірменнай якасці запісу гука.




Да ведама аўтараў: рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца
Рэдакцыя не нясе адказнасці за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты